ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ





Выдавецтва ЦК КП Беларусі

Заснаваны ў 1953 годзе








3

САКАВІК

Мінск, 1973

Вокладка **Л. Шукалюкава.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **К. Якубовіча** (стар. 107).

Галоўны рэдактар **Генадзь БУРАЎКІН.**



# ПАЭЗІЯ

- Барыс БЕЛІЖЭНКА
- Любоў ТАРАСЮК
- Сяргей ГРАХОЎСКІ
- Алег ЛОЙКА
- Вольга ІПАТАВА
- Юрка ГОЛУБ



- Мікола КОЎЗЕЛЕЎ
- Анатоль ГРАЧАНІКАЎ
- Аляксей ЗАРЫЦКІ
- Рыгор СЕМАШКЕВІЧ
- Іосіф СКУРКО
- Яўген ГУЦАЛА

# ПРОЗА





***барыс беліжэнка***



ПАЭЗІЯ



## Ля партрэта Леніна

Я з праўдай праз гады жыцця імчу,
Сумненнямі сябе не дакараю,—
Адзінай праўдзе толькі давяраю,
Той, што належыць вечна Ільічу.
І ён (у сціплай рамцы на сцяне)
Чытае «Праўду», а здаецца часам,
Што з Леніным і я чытаю разам,
Бо даў ён праўду назаўсёды мне.

## Крыгалом

Завочніца чытае за сталом.
На вуліцы — вясновае разводдзе...
Красавік на рацэ масты разводзіць,
Апошні лёд ламае крыгалом.
І ахапіў дзяўчыну неспакой,
Вясна папераблытала жаданні.
Не будзе ім, здаецца, ўтаймавання,
Душа не знае, што патрэбна ёй.
Напэўна, так заўжды пасля зімы,
Калі вясна бярэцца за работу,
Бушуюць у душы пераваропы
І крыгалом перажываем мы.

## Белая зямля

Спрадвечны пошук «белых плям»
На школьных глобусах і картах!
Звычайна, так здаецца нам,
Да «белых плям» імчаць на нартах.
Гралёва, Руба — родны край,
Даўно адкрыты і абжыты.
У белым свеце не шукай —
Тут залягаюць даламіты.
Тут белы пыл ад вапнякоў
Ляжыць на нівах і на соснах.
Шукаў я доўга. І так проста
Таемную зямлю знайшоў!

## Сустрэча з бацькамі Юрыя Гагарына

Пытанні і пытанні пры сустрэчы:
Якім ён рос і што любіў чытаць?
А мне здаецца, больш за ўсё дарэчы
Без шэрых слоў тут проста памаўчаць.
Я ведаю: журба ім дапякае,
І думкі неадступныя — адны,
Што слава — рэч жывучая такая,
А сына вось перажылі яны.
Ды што там слава! Толькі лішні клопат.
А вось вясна нахлыне зноў на Гжаць, —
Сын не пачуе больш бусліны клёкат
І жураваў не выйдзе сустракаць.
Трывожны успамін застаўся толькі
Пра тое, як вучыўся ён і рос...
І ледзь трывае сэрца ціск высокі...
Хаваю вочы, каб не выдаць слёз.





*любоў тарасюк*

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Адкуль нашых сэрцаў вытокі,
Якія нам рады сосны?..
Пад небам адным
высокім
Безліч
нябёсаў розных.

Шукаем заўжды асновы
І верым сваім Палессям.
І там, дзе канчаецца слова,
Ў душы пачынаецца песня...

Не высахнуць тым вытокам,
Што поўны жыцця бясконца.
Ды толькі ці кожны —
глыбокі,
Ці кожны —
святло і сонца?..

■

А у мяне з вайны прыйшлі усе.
Дзядулі на дачок пашчасціў лёс,
А сын у партызаны не дарос.
І выжылі ў нягоду пакрысе.

Не сто дарог іх праз вайну вяло.
Магчыма, як другія, не дайшлі б.
Ў нас полымем суседняе сяло
Малюнкі выела замерзлых шыб.

Але агонь не бегаў па страсе.
У нас з вайны вярнуліся усе.

Ці хто, скажыце, ў гэтым вінават?..
А мне баліць, за ўсіх баліць даўно —
І хто прыйшоў і не прыйшоў назад,
За ўсіх жывых і нежывых салдат...
Чаму іх у дзядулі не было?..

■

Не кукуй, зязюленька, так рана.
Не будзі ты, шэранькая, ранак.
Ночка летняя такая мала,
І яшчэ не выспалася мама.

Цэлы дзень учора ўсё хадзіла,
Быстры ножкі моцна натаміла,
Белы ручкі склаўшы не сядзела,
Свае вочкі ўвечар праглядзела —
У акно дачушку выглядала.

Вельмі ж лета ўжо васількавала...
Хай зара агонь запаліць ў печы,
Каб па дровы маме ў двор не бегчы,
Хай рупліва маладзенькі месяц
Поўна-поўненька дзяжу замесіць,
Няхай вецер прынясе вадзіцы...
На дасвецці добра
й маме спіцца...

Ў мамы дзеці ўжо вышэй за маму.
Хай устануць, прыбяруцца самі...
Не бяда, што ранне ўжо саткана.
Не кукуй, зязюленька, так рана.

■

Мне б у хату тваю — парогам,
Каб штодзень ты прыходзіць мог...
Мне спявалі твае дарогі
Пад вятрамі маіх трывог.

Мне свяцілі твае бярозы
У зялёных маіх гаях,
Дзе журылася песня позна
Непадгледжаная мая.

Да нявызначанай сустрэчы,
Як да колішняе мяжы...
Падкажы толькі мне, падкажы,
Як пражыць кожны дзень і вечар...

## Разводдзе

Высініла разводдзе
Бераг на дзве вярсты.
Восень ізноў разводзіць
Нашы з табой масты.

Дзе пакасілі некась —
Сінія паплавы.
Не даплысці, не даехаць
І не згубіць галавы...

Позна дакор прыходзіць,
Як я сюды — не ў пару.
Бярозы плывуць у разводдзе
Белым разводдзем рук.



*сяргей грахоўскі*

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА

## АПОВЕСЦЬ

Мал. І. Немагая

7

Ноччу раздажджылася. Неба перакрыжоўвалі блакітныя бліскавіцы, разразалі нагрувашчаныя адна на адну злавесныя хмары, як калёсы па мосце, грукатаў гром, накочваўся, мацнеў, разрываўся страшэнным стрэлам над галавою і глуха з'язджаў за небасхіл. Пад бляскам маланак зіхацелі вялізныя лужы, з бурбалкамі і крапінамі буйных дажджын, потым зноў усё патанала ў цемры, толькі хлюпатала і барабаніла па даху, па сценах, па лісці ў гародчыку вада.

Я ад страху курчыўся пад коўдраю з каляровых акраўкаў, заплюшчваўся ад зыркіх выблісқаў за акном. Маці хрысцілася, хрысціла мяне і супакойвала, як толькі магла.

— Бог, няйначай, гневаецца. Няможна нябожчыка без малітвы аддаваць зямлі. От божанька і карае. Не бойся, дзіцятка, можа, і злітуецца над намі, гаротнымі.

А сама калацілася і аж прысядала ад грукату і бляску.

— І трэба было табе ўпісвацца ў гэтыя нячысцікі! Папрашу, каб выпісалі, а ў нядзелю да споведзі сходзім. Пакаешся. Можа, і памілуе.

— Не трэба выпісваць. Хачу быць з хлопцамі.

— Лукер'іны рыштанты да дабра не давядуць. Онь якія вырвы — ні страху перад богам, ні сораму перад людзьмі. Растуць на лес гледзячы.

Чуваць было, як за сцяною варочаецца і стогне Кудрашоў. Відаць, ныла папаненая рука, а можа, і яму не давала заснуць навальніца.

— Дасць бог, хоць сёння нікога не падпаляць: у такую макрэчу і салому не ўпаліць, каб яго гарачка паліла,— шаптала маці і пазірала ў залітае дажджом акно. Па цёмных шыбах плылі пакручастыя ручаінкі вады.

Над матчыным тапчаном глуха закапала. На коўдру са столі падалі буйныя кроплі. Мама падставіла вялікую паліваную міску. Кроплі скочваліся часцей і звонка плюхалі ў пасудзіну.

— От і страха, як рэшата, платы асунуліся, гвазда няма каму забіць. А таткі ні слыху, ні духу. Можа і яго дзе, як сягонняшніх, закапалі пасярод базару,— усхліпвала маці.

Гром адкочваўся далей і далей, радзей бліскала, а дождж барабаніў спарней і спарней.

— Я заўтра ўсе дзіркі ў плоце пазабіваю, дах залатаю, толькі не выпісвай з атрада.

— Не ўздумай, барані божа, на дах лезці. Як гарбуз скоцішся, і костачак не збяруць. Можа як сама ўздзяруся ды пазатыкаю збольшага.

А пра атрад так нічога і не сказала. Я ж думаў, як мы будзем хадзіць з песнямі па мястэчку, ставіць «ціятры», можа і мнеададуць на шыю чырвоную хустачку. Гэта ўжо была не гульня — дарослыя браліся камандаваць намі і сам Кудрашоў. Столькі ў гэтым было невядомага, заманлівага і загадкавага. Пад шум дажджу і бульканне ў лісці зліпаліся вочы, закружылася хата, я высока-высока плыў, як на арэлях, потым ляцеў уніз, аж займала духі. Хутка ўжо не чуў ні шуму дажджу, ні бульканне, ні далёкага грому.

Раніцай разбудзіла сонца. Прыгрэла твар, асляпіла вочы, як толькі расплюшчыў павекі. У акно глядзела сіняе-сіняе, без адзінай аблачынкі, неба і ружовыя мальвы ў буйных пацерках дажджу. Пад страхою пырхалі і цінькалі ластаўкі, на вуліцы грукаталі калёсы, даляталі галасы. На пацямнелай ад дажджу столі яшчэ віселі вялікія кроплі, час ад часу зрываліся і глуха шлёпалі ў поўную міску на матчынай пасцелі.

Я спалохаўся, што праспаў, што ўжо з хаты пайшоў Кудрашоў і я не паспею разам з ім схадзіць у ксяндзоўскі дом, які цяпер лічылі нашым клубам.

Мама заграбала ў ямку жар, грукаючы па прыпечку закуранаю качаргою.

— А Кудрашова даўно няма?

— Уга-а! Толькі развіднела, як ён паляцеў. Пакуль мы спалі, злавілі ж таго падпальшчыка.

— Дзе, як? — усхапіўся я.

— Ужо ўсё мястэчка гудзе, і з нашай вуліцы пабеглі ў міліцыю глядзець. А яго, ірада, схавалі, каб не разарвалі часам. Я гаду сама качаргою зіркалы павыпякала б.

— Хто ж ён такі, мама, га?

— Ніколі б ніхто і не падумаў. Гамзаты ды слюнявы Іван Глінь, што ў Свіной вулачцы жыве ды лапікі на чобаты ставіць.

Я на хаду пахапаў бульбы з тоўчаным канапляным семем, выпіў кубачак малака, крыкнуў маме «я зараз» і паляцеў на валасны двор. Забег у баковачку да цёткі Лукер'і. Яна працірала шкляныя лямпы.

— Няма, няма тваёй хэўры. Хоць ты ланцугом іх прыкоўвай. Ні свет ні зара Васіль з Іванам паперліся таго Гліня глядзець. Не бачылі шалудзівага дурня. А Лаўрэн, праўда, на выгане салдацкіх коней глядзіць. А ты ж туды ляціш? Скажы ім, Алёшачка, каб не бавіліся. Вады няма каму насіць і зборню падмятаць трэба. А то, скажы, качалкаю прыганю.

Заканчэнне. Пачатак гл. «Маладосць» № 2 г.г.

Я ляпнуў дзвярыма і паляцеў да міліцыі. Яна была далёка ад нас, на другім канцы мястэчка, у вялікім доме з высокім ганкам.

Бег, як на пажар. Хацеў сустрэць каго з нашых, каб паздароўкацца, як вучылі,— салютам. Але ніхто не трапляўся. На вуліцы спыняліся жанкі і мужчыны, голасна пыталіся: «Ці праўда, галубка, што таго злыдня спаймалі?» «І каго? Хто б падумаў!» — адказвала жанчына.

Я хваляваўся яшчэ больш, хацелася хутчэй самому ўсё пабачыць і пачуць. З аптэкі выскачыў Захарка. Я памкнуўся яму салютнуць, але ўспомніў, што ён не пісаўся ў піянеры, а толькі здалёк пазіраў на нас. Захарка гукнуў мяне і заспяшаўся насустрач.

— Пабеглі хутчэй! — махнуў яму рукою.

— Не, мне няможна. Пані зусім кепска, мікстуру трэба барзджэй несці,— і ён паказаў жоўтую пляшачку з папяровым фартушком.— Ледзьве хаўкае. Каб толькі, даў бог, не памерла. Куды я тады дзенуся?

— Да маткі паедзеш і болей не будзеш папіхачом.

— Яна сама па людзях служыць. А тут яшчэ ў нас нешта нядобрае.— Захарка трывожна азірнуўся і зашаптаў: — Пад раніцу фацыранты нашы ўсхадзіліся. Яна плача, а ён усё нешта бубніць-бубніць, грукае дзвярыма, бегае ўзад-уперад. Яшчэ не развіднела, з мяшэчкам за плячыма ўхапіў лісапед, нечага заскочыў у вал і выганам некуды паехаў. Можа ўпрочкі. Бо яна да дня ўсё плакала і чайную пазней адамкнула. От пані і пералякалася, усё за грудзі хапаецца. Мікстуру трэба хутчэй. Пакуль ляжыць, прыходзь праз дзірку ў сад,— прашаптаў і пабег, як спуджаны. Відна была ўвагнутая Захаркава спіна, дзіравы саламяны капялюш ды матляліся шырокія штаны на тоненькіх ножках.

Каля міліцыі таўклося душ з дваццаць мястачкоўцаў — жанкі, мужчыны, амаль усе нашы хлопцы. Прыджгаў з выгану і Лаўрэн. Я сказаў Лукер'іным хлопцам, каб ішлі дадому.

— Няхай ён ідзе,— кіўнуў Васіль на меншага брата.

— Сам ідзі. Я ўчора нацягаўся.

— Ідзі, табе кажу,— Васіль сунуў кухталя Івану пад бок. Паагрызаліся яшчэ, але так ніводзін і не пайшоў.

Людзі трохі сцішыліся, ужо ніхто крыкма не крычаў, толькі войкалі і клялі Гліня пагарэльцы. Яны тут стаялі ўсе, з жонкамі і дзецьмі. Круціўся і Грыша Сюська і нібы разважаў сам з сабою:

— От выскрабак, паліў, як наняты, ноч у ноч. На пажарах больш за ўсіх глотку драў. І завіхаўся, транты з агню выносіў і ваду падбежкам цягаў.

— А што ты думаеш, браце, можа і праўда, наняты? У самога макаўка не зварыла б стольку бяды нарабіць. Ці не бандыты яго застрашылі, а можа і золатам падкупілі? — гаварыў Юстын Брэус.

— І праўда, кожны божы дзень у чайной руску-горкую смактаў. А за што? Ён жа на лапіках і падносках і на хлеб не зарабляў.

Мужчыны апанавалі худога, зарослага рудою шчэццю Моўшу. Ён у сваім хляве вырабляў аўчыны і сырамяціну. Моўшавы рукі заўсёды былі жоўтыя, а пазногці ад дубовай кары і скуранога расолу — як пераспелыя каштаны. Ён увесь прапах мяздрою, і нават у шабас, калі скідаў свае зашмальцаваныя лахманы, прыбіраўся ў манішку і хромавыя гамашы, усе адварочваліся ад яго.

Цяпер, развявіўшы раты, слухалі Моўшу і пазіралі, нібыта бачылі ўпершыню. А ён ужо каторы раз расказваў, як спаймаў падпальшчыка.



— Я ж і кажу, шануючы вас, ноччу выскачыў на двор да ветру. Ха, жывы ж чалавек! Чаго ты выскаляешся, Грыша?.. Стаю сабе, а на небе ані зорачкі — цёмна, як у Нохіма пад капелюшом. Аж чыркнуў нехта пад хлявом. А ў мяне ў чане шаснаццаць аўчын замочана. Гэта табе не хаханькі. Не тут казана, увесь стаў праўцом — ногі прыраслі і язык адняло. А маланка, як блі-і-і-сне, я і аджыў; бачу — пад сцяною нехта ўвагнуўся і сярнікі паліць. «Гвалт! Ратуйце! Пажар!» — раву нема. І бачу, от як цябе, бачу. І хто б, вы думалі? А? Просьчын шыбенік, крывароты Іван. Яго хоць аблупі, дык пазнаю. Ага. Як сігане ды праз плот у Янкелевы грады. А ў таго гарбузнік увесь плот заплёў, націнне таўсцей за канат. Зачапіўся, зладзюга, як шчыгол у сіле, чую — лясь на зямлю. А трасца тваёй матары, думаю.

— Чаму ж ты яго не абсядлаў у градах? — пытае нехта з мужчын.

— Ты б абсядлаў, такі разумнік. Можа ў яго наган ці абрэз? А? Я ж у адных споднiках і босы, лёг пад плотам і крычу. Дзякаваць богу, выскачыла Алта. А хто не ведае, які галасок у мае Алты? На тым канцы Слабады чуваць. Як зараве з перапуду, і я ўскочыў. Чую, па вуліцы нехта тупаціць і — бах! бах! З леварвера. Я зноў — пад плот. Аж хто б, вы думалі? Амелька з камсамольцамі ўжо і даганяюць. Я ім крычу, што ў вулачку пабег. А жонцы — «Алта, нясі штаны!» Сяк-так заплікнуў — і следам. Падбягаю. Ну, канешна, хто б, вы думалі? Іван. Дурны, дурны, а хітры — уцякае і сам крычыць: «Лавіце яго!» А Амелька — гала-ва-а! За каўнер яго — і ні з месца. А той адбрэхваецца: «Я, кажа, падпальшчыка лаўлю, вунь туды пабег»,— і паказвае ў папоўскі сад. Тут я падбег. Кажу: «Іван, будзь чалавекам, не дуры галаву. Ты мяне бачыў і я цябе». Аж якраз ізноў бліснула маланка, а ў яго чобаты па самыя гармонікі белыя. Э-э-э, стой, думаю, папаўся. А ў мяне за хлявом вапна высыпана, ён і ўцерабіўся. «Чаму ж у цябе,— пытаюся,— чобаты белыя, а? Дурны, дурны, а змікіціў, кажа: «Хату бяліў». «Хадзем, паглядзім, дзе ты бяліў. Вядзіце, хлопцы, яго за мой хлеў». Амелька яму рукі папругаю скруціў, і прывялі. Што б вы думалі? Паставілі бот — рыхтык, як уліты. Ён добра ўцерабіўся — галоўкі па самыя халявы пагарэлі. «Што, папаўся?» Пад сцяною і пляшка з газаю валяецца! Ах, каб ты на стале ляжаў з пятакамі на вочках, разбойнік! Гарбарня і шаснаццаць аўчын ляснулі б. Тут я, шануючы вас, трахнуў яму ў вуха. І хлопцы трохі пад бакі надавалі. Цяпер няхай сядзіць, катаржнік! А што, каб не я? — пахваліўся Моўша.

— Добра, што з вечара вады напу́гаўся,— засмяяўся Грыша.

— А што ты думаеш! Селядца з'еў і чаю цэлы гляк выпіў,— прызнаўся Моўша.

На ганак з начальнікам міліцыі выйшаў Кудрашоў.

— Таварышы, ідзіце дадому,— спакойна загаварыў начальнік,— пара гарачая, а вы тут дарэмна таўчэцеся. Злачынца злоўлены з палічным. Следства і суд спакойна разбяруцца і пакараюць па закону. Разыходзьцеся, таварышы!

— Дай ты нам, начальнік, з ім пагаварыць, хай усё як на духу выкладвае. За што ён столькі бяды нарабіў, га? — крычаў і трос кулаком Юстын.— Гэты ж крывароцька на нашых вачах выкідаўся. Можа, хто наняў ці загадаў паліць, каб яго гарачка паліла. Сам бы наўрад надумаўся. Яму ж ніхто і вока не запарушыў.

— Кожны божы дзень як гразь п'яны соваўся,— крычала рудая сухенькая жанчына з пагарэльцаў і стукала кулаком па далоні.— Ня-

хай ірад скажа, хто яго паіў, каб з яго п'яўкі сукравіцу пілі,— сыпаліся праклёны.

Кляцьба ў нашым мястэчку, як соль у крупніку, была неабходнаю прыправаю ў кожнай гаворцы. Любая сварка пачыналася і канчалася праклёнамі. Ды якімі! Фантазія не ведала межаў. Ад адных слоў рабілася страшна.

Калі загаварылі, што Глінь піў, дык і я не раз бачыў яго каля чайной на карачках. Успомнілася, што раніцаю сказаў Захарка пра свайго кватаранта. Можа ён не ўпрочкі пайшоў, а ўцёк? I рука ў яго зусім не перабітая. Але кажуць жа, што ён заслужаны матроскі камісар, а я раптам ляпну пра яго ліха ведае што. Можа і праўда пасварыўся з жонкаю і паехаў па сёлах скупляць парсюкоў і яйкі для сваёй чайной. А што перабітаю рукою зганяў муху, Захарку магло здацца. Але Хадароўскі не выходзіў з галавы.

Уздоўж вуліцы цягнуліся канавы, поўныя каламутнай дажджавой вады. Зводдаль пазіралі Гога, Лёлік і здаравенны Толік Ледвіч у беленькай расшпіленай касаваротцы. Іржавыя валасы звісалі на круты лоб. Ён прыязджаў на лета да адзінокай цёткі. Высокая сухарлявая жанчына жыла ў вялікім доме з бляшаным зялёным дахам і зашклёным ганкам, густа заплеценым дзікім вінаградам. Вечарамі з адчыненага акна сіпеў, свістаў, а потым пачынаў спяваць грамафон, над лямпаю вісеў зубчасты абажур з нізачак дробных зялёных караляў. Там быў не вядомы нам, зусім іншы свет, прыгожы і ўтульны.

Трое хлопцаў глядзелі на ўгневаных пагарэльцаў, часам перашэптваліся і зіркалі на нас. Лаўрэн стаў на беражок канавы, пагразіў кулаком, цыркнуў праз зубы:

— Пабедаваць прыбеглі, га? Што, шкода?

— Не брашы, Лаўрэн, абы-чаго. Цяпер хоць спакойна спаць будзем.

— Ты ж з ім і ў варту разам хадзіў. Можа пільнаваў, пакуль падпаліць?

Гога замахаў рукамі:

— Здурнеў, здурнеў зусім. Я толькі звечара разы два і хадзіў.

Лаўрэн плюнуў і адышоўся ўбок. Я вагаўся, гаварыць Лаўрэну ці не пра Хадароўскага, патаптаўся і таропка зашаптаў на вуха ўсё, што чуў ад Захаркі.

— У-у, ёлапень! Чаму ж адразу не сказаў? — прасіпеў Лаўрэн і пабег у міліцыю.

Туды ён часта насіў пакеты, ведаў усіх, і ведалі яго. Неўзабаве выйшлі худы доўгі міліцыянер у абвіслым галіфэ, не надта белай кашулі, перакрыжаванай рамянямі, і наш Кудрашоў. Ён убачыў мяне, паманіў пальцам здаровай рукі. Я ішоў побач пасярод вуліцы, ледзьве паспяваючы за імі, а Кудрашоў усё выпытваў, пра што мне расказваў Захарка.

— Эх, дзівак-чалавек ты, Алёшка. Трэба было адразу сказаць. Ну, вось што, збегай да Захаркі, паглядзі, ці не вярнуўся часам гэты тып, і адразу чашы ў чайную. Там я цябе пачакаю. Толькі ж не баўся. Гэта табе піянерскае заданне.

— Дзядзька Кудрашоў,— пачаў я нерашуча.— Яшчэ Захарка казаў, што іхны фацэрант заскокваў у вал...

— Ну і што?

— А там пад ксяндзовым домам стрэльбы з наганамі схаваныя.

— Адкуль ты ведаеш?

— Мы з Лаўрэнам ход адтуль шукалі і адкапалі іх. Паглядзелі, загарнулі назад у тлустую анучу і пяском прыгрэблі. Дык можа ён пазабіраў іх.

— Эх ты, галава садовая! Дзе ж ты быў раней? Ладна, праверым. Бяжы! — ён мяне лёгенька падштурхнуў у плячо.

У Лабацэвічышын сад я праціснуўся праз дзірку.

Даспявалі яблыкі і вялікія жоўтыя дулі, саладкавата пахлі настурцыі. Над альтанкаю з пазелянелым ад моху дахам на шпяньку тырчаў вялікі люстраны шар. У ім відно было чыстае неба з лёгкімі аблачынкамі, верхавіны дрэў, светла-шэрая ашалёўка на доме і кляпа пустой галубятні. Я азірнуўся, але ўспомніў, што пані ляжыць зусім нямоглая, і паціху свіснуў. Счакаў трохі і свіснуў мацней. Са свіронка з дзеркачом у руцэ выскачыў Захарка, убачыў і падбег да мяне, пад яблыняю падняў чырванабокую падалку, сунуў мне ў руку.

— Хадзем у альтанку,— зашаптаў ён, азіраючыся.

— Не-е-е, няма калі,—унурыўся я.— **Фацэрант не вярнуўся твой?**

— Няма. А нашто ён табе?

— Та-ак, ні на што,— зачыркаў я нагою па зацвярдзелай сцежцы.

— Ну, у міліцыі быў? — спытаў Захарка.

— Быў, але Гліня ад пагарэльцаў схавалі, бо забіць хацелі. Відаць, у горад павязуць і ў цюрму пасадзяць, каб, чаго добрага, не ўцёк.

— Ну, а табе хустачку дадуць на шыю?

— Можа і дадуць,— адказаў я і палез назад у дзірку.

— Куды ты? Пагуляй, Алёшка.

— Другім разам.

Кусаючы на хаду спелы яблык, як падмецены, я паляцеў у чайную. Насустрач па вулачцы з дубцом у руках, мабыць, да сваіх гусей, чыкільгаў дзядзька Яўхім.

— Ах ты, абармот, ужо яблыкаў налаташыў. Уцякай, бо дагоняць,— і ён свістануў дубцом каля самага вуха. Я спыніўся, каб апраўдацца.

— Што вы, дзядзечка. Гэта мне Захарка падалку даў.

— Чаго ж уцякаеш, калі даў?

— Я не ўцякаю, а бягу ў чайную.

Дзядзька Яўхім зарагатаў.

— Можа, сотачку надумаў выпіць у гэтага касарукага?

Я пакруціў галавою, азірнуўся і зашаптаў:

— Уцёк некуды касарукі. Хоць і няпраўда, што ён касарукі. Міліцыя паслала паглядзець, ці не вярнуўся. А яго і след прастыў.

— Нашто ён той міліцыі?

— Шукаюць.

— У-у-га! Шукай ветру ў полі. Досвіткам па мелкаводдзі ён перабег на той бераг і круцёлку сваю на куп'і павалок. Так ірвануў у Дубень, аж гусі з перапуду па ўсім выгане загергеталі.

— Кажаце, у Дубень? — перапытаў я.

— Ага,— кіўнуў дзядзька Яўхім.

Я шпурнуў агрызак і паляцеў да Кудрашова.

За прычыненымі дзвярыма ў чайной чуліся галасы Кудрашова і міліцыянера. Я патаптаўся на ганку, але ніхто майго босага тупання не пачуў. Кашлянуў, прыслухаўся і паціху адчыніў дзверы. За столікам сядзела прыгожая жонка Хадароўскага. На ёй была ружовая кофтачка і белы фартушок, цьмяныя кучаравыя валасы выбіліся з-пад хусцінкі. Яна шморгала пачырванелым востранькім носікам і выцірала слёзы. Апрача Кудрашова з міліцыянерам, нікога не было.

— Ну? — зірнуў на мяне Кудрашоў.

— Няма,— паціснуў я плячыма і кіўнуў, каб падышоў да мяне.
— Гавары, не бойся,— загадаў ён.
Спяшаючыся, я пераказаў усё, што пачуў ад дзядзькі Яўхіма.
— Ясна. Дубень — гэта адразу за ракою? — спытаў у міліцыянера Кудрашоў.
— Ён цягнецца аж да Балашэвіцкай дарогі, а там, браце, пушча: канца-краю няма.
— Вось што, дамачка,— жорстка сказаў Кудрашоў,— замыкайце свой шынок і прайдзіцеся з гэтым маладым чалавекам,— кіўнуў ён на міліцыянера.
— У цёмную пасадзіце? — паднялася яна, выціраючы скамечанай хустачкай шчокі і кончык носа.
— Хто вам сказаў? — развёў рукамі Кудрашоў.— За што вас саджаць? Вы толькі павінны памагчы знайсці сапраўднага злачынцу. Гэтаму, як яго там, што падпальваў...
— Гліню,— падказаў міліцыянер.
— Страшна аднаму адказваць за ўсё. Вось нарэшце і прызнаўся, нібыта ваш муж падбіваў яго на злачынства. Ніхто не паверыў — заслужаны рэвалюцыйны матрос не можа пайсці на такое. А калі дазналіся, што ён знік... самі разумееце... Хто ён, ваш муж? Я з вамі шчыры, будзьце шчырая і вы.
— Я і сама не ведаю, хто ён. То ласкавы, то дзікі, як звер,— усхліпнула жанчына.— Мы з ім толькі паўгода разам. Адкуль ён, дзе яго радня — нічога не ведаю. Забраў да капеечкі ўсё, што было, сказаў, праз тыдзень забярэ і мяне. Выскачыў з веласіпедам, і след прастыў... Хочаце верце, хочаце не.
Яна паправіла хустачку, развязала фартушок, гатовая ісці. Кудрашоў памаўчаў, падумаў і загаварыў лагодней:
— Вось што, наліце нам па шклянцы чаю, а хлопцу,— ён кіўнуў на мяне,— дайце які-небудзь пернік і нікуды не хадзіце. Калі хто спытае, скажыце, што заходзілі снедаць, а муж... Муж паехаў па сёлах купляць прадукты. Добра?
Яна кіўнула галавою, зноў завязала фартушок і ўсміхнулася куточкамі вуснаў. З чырвоным пернікам у руцэ я выскачыў на вуліцу, узрушаны і здзіўлены пачутым у чайной. Кудрашоў загадаў мне маўчаць.
Праз паўгадзіны па вуліцы зацокалі капыты — атрад спяшаўся некуды з мястэчка.
На валасным двары я знайшоў Лаўрэна і па сакрэту ўсё расказаў яму. Ён моўчкі выслухаў і загадаў: «Хадзем!». Мы прыбеглі ў ксяндзову хату, ускочылі ў склеп. У разгрэбленай ямцы не было ні вінтовак, ні пісталетаў. Лаўрэн па-даросламу вылаяўся:
— І дурні ж мы з табою, Алёшка. Хоць бы перахавалі куды, а то касарукі забраў. От чаму ён забягаў у вал.

## 8

— Анучнік Тэйхехе купіў аўтабус!
— Чулі, каравачнік Тэйхехе на аўтабусе прыехаў?
— А дзе яго сляпая падла?
— Нашто тая падла, калі ёсць хата на калёсах! — перагукаліся местачкоўцы і беглі, абмінаючы лужыны, у канец доўгай вуліцы да вялікай, недагледжанай, скасавуранай на адзін бок хаты.



Пасярод закіданага прэлым рыззём, касцямі, бляшанкамі, іржавым жалеззем двара стаяў аўтобус, памаляваны светла-жоўтаю фарбаю. Людзей было поўна у двары і на вуліцы. Усе ахалі і цмокалі, гледзячы на такое дзіва. Нічога падобнага ў мястэчку яшчэ не было. Казалі, ёсць такія машыны, што без коней ездзяць. Верылася і не верылася. А тут на табе! Паблісквае ў двары, з губатымі чорнымі коламі, з фіраначкамі на вокнах. І чый? Хто б даў веры, каб сам не ўбачыў?
— Ну, што ты скажаш, га? — пыталіся мужчыны.
— Хопіць, братачка, у гнаі калупацца, едзь па караўкі, можа забагацееш,— пад'юджвалі адзін аднаго.
— От табе і Тэйхехе!
— Саламонава галава!
— Можа караўкі на ім збіраць будзе?
— Начорта яму тыя караўкі? У Бабруйск ездзіць будзе. Жых — і там. Сам траяка, а то і пяцёрку дасі, каб на балаголе не трэсціся.
— Каб ён на жываце ездзіў,— абурыўся местачковы балагол Шолам Гіцька.— Хто ў чалавека скарынку адбірае, сам з голаду апухне. От пабачыш.
У аўтобусе поўна было дзяцей і пляменнікаў гаспадара. Расхлістаныя, мурзатыя, лезлі ў вокны, высалопвалі языкі, рагаталі і махалі рукамі.
З хаты выйшаў сам Тэйхехе, невысокі, увагнуты, як крук, даўно не голены мужчына ў доўгім зашмальцаваным лапсердаку, нейкіх сухіх, з белымі драпінамі, ботах. Ён прасіў, каб ачысцілі двор, а хто хоча ехаць, няхай прыходзіць заўтра рана — і к абеду будзе ў горадзе.
Але ніхто не паварушыўся. Наадварот, напіралі з вуліцы, каб не толькі на аўтобус, а паглядзець на самаго Тэйхехе. Хоць да таго ніхто на яго не звяртаў увагі. Ездзіў сабе па сёлах на доўгіх драбінах, запрэжаных аднавокаю клячаю. Садзіўся ў перадку на куфэрачак, напакаваны парцяною фарбаю, грабянцамі, іголкамі, доўгімі мятнымі цукеркамі. Спыняўся каля кожнай хаты і крычаў: «Бабы! Караўкі, караўкі! Косці, старыя засланкі, бляхі! Фарба ёсць і грабянцы, брошкі, голкі, ледзянцы!»
Так і ездзіў з сяла ў сяло, зіму і лета, вясну і восень. Ніхто пэўна не ведаў яго прозвішча — Тэйхехе і Тэйхехе. Казалі, мянушку гэтую прыдбаў яшчэ яго бацька за тое, што вельмі любіў чай. Як толькі ўбачыць гарачы самавар, пацірае ад радасці рукі і крычыць: «Тэй, хехе! Тэй, хе-хе!» — і не адыдзецца, пакуль не выжлукціць да апошняй кроплі.
— От табе і Тэйхене! На караўках забагацеў! Купіць такую машыну, трэба мех грошай. А ён купіў, яшчэ і шофера наняў,— дзівіліся мужчыны.
Мабыць, убачыўшы, што гаспадар ніяк не дасць рады, выйшаў невысокі плячысты чалавек з чорнымі закручанымі вусамі наваспаватым твары. Ікры абцягвалі жоўтыя, як бутэлькі, халяўкі, на патыліцу з'ехала скураная шапка.
— Ну, ну, разыдзіцеся! Прыдушу каторага, не жальцеся,— неахвотна загаварыў шафёр, пастаяў, заклаў жалезную ручку, тузаў яе, пакуль у аўтобусе не зафыркала і не загуло. Ускочыў у машыну, нешта стрэліла, паваліў смярдзючы дым, аўтобус завіляў збоку ўбок. Людзі выскоквалі з двара, але не разыходзіліся.
— Бабы, караўкі! Караўкі! — нехта дражніў Тэйхехе.
— Яшчэ наездзішся на сваёй падле і накрычышся! Мы з цябе, фулігана, шкуру на караўкі спусцім! Нас не пракаўтнеш! Лопнеш, га-

нэф! * — трос кулаком завадатар местачковых балаголаў Шолам.
Тэйхехе прыкінуўся, што не чуе. Ён пнуўся зачыніць старыя, высока зарослыя дзікім рамонкам вароты, якія ледзьве ліпелі на ржавых завесах.
Аўтобус пахроп і змоўк. Людзі стаялі, дзівіліся, дзе каравачнік узяў столькі грошай.
— Ну, каб скажам, аптэкар купіў ці які лавачнік, дык у іх, можа, золата прыхавана. А то хто-о-о? Тэйхехе, ха-ха-ха! — рагаталі мужчыны.
— От табе і караўкі!
— Трасцу за караўкі купіш. Кажуць, недзе поўны гляк чырвонцаў мікалаеўскай чаканкі выкалупаў.
— Цяпер балаголам канцы. А ў Тэйхехе адбою не будзе. Хто не захоча панам хоць раз праехаць?
— А ты паедзеш?
— Паеду.
— Глядзі, браце. Боязна!
— Чаго?
— Як перакуліцца такая гаргара,— і костачак не збяруць,— пацяшаліся, прыдумлялі, дзівіліся мужчыны і пачыналі патроху разыходзіцца.
Што прыйдзецца калі-небудзь ехаць у такой машыне, і не думалася, хоць бы на месцы ўсярэдзіне пасядзець ды разгледзець усё, марыў я і зайздросціў тым, хто паедзе першы.
А першымі павезлі шасцёх бандытаў, што сядзелі ў валасці, і Івана Гліня. Усіх з пазвязванымі рукамі ўпхнулі ўсярэдзіну, спераду, ззаду і па баках паселі міліцыянеры з чырвонаармейцамі і на досвітку павезлі ў бабруйскую турму, каб не гнаць пеша. Ды і боязна было весці ў такую далёкую дарогу, каб часам не напалі рэшткі Падаляковай банды і не адбілі сваіх.
Тут, як на тое, Тэйхехе аўтобус прыгнаў. Казалі, спярша ўпінаўся: «Я ж для добрых людзей стараўся. А бандзіты мне ўсё запаскудзяць. Пасля ніхто ехаць не захоча».
Але такі ўламалі: нідзе не дзеўся, павёз.
Адразу пацішэла ў мястэчку. Больш па начах не гулі пажары, не блямкалі трывожныя званы, але яшчэ не адмянілі варту: звечара лена па вуліцах сланяліся хлопцы з кіямі, барабанілі па платах, перагукаліся з вуліцы ў вуліцу, сядзелі на лавачках, курылі і строілі адзін з аднаго кепікі. Камсамольцы з наганамі ў кішэнях дзяжурылі на ўсіх дарогах, што вялі ў мястэчка, двое наглядалі за Лабацэвічышыным садам,— ці не прывалачэцца часам Хадароўскі па сваю кралю. Яна даглядала нядужую гаспадыню, хадзіла, апусціўшы галаву, змарнелая і ціхая. Местачкоўцы амаль не заходзілі ў чайную. Толькі часам селавыя дзядзькі займалі сталы, развязвалі торбы з хлебам і салам, закусвалі, пілі падсалоджаную цыкорыю, а часам бралі пляшку «рускай горкай».
Захарка мне расказваў, што кватарантка часта плача і ўздыхае, што хацела ехаць да маці некуды аж пад Рэчыцу, ды яе міліцыя не пускае, пакуль не зловяць Хадароўскага. Чаго ён уцёк і за што яго ловяць, ніхто не ведаў. А калі не ведалі, дык і прыдумлялі абы-што. Казалі, што ён і быў найпершы бандыт, што па яго загаду выразала бальшавіцкія сем'і Падалякова банда, а Глінь паліў мястэчка, што ён зусім не Хадароўскі, а царскі афіцэр. Чаго толькі не гаварылі! Мы слухалі, і аж духі займала ад усяго, што рабілася ў мястэчку за гэтае лета. А пераказваючы чутае адзін аднаму, яшчэ ад сябе прыбаўлялі неверагодныя і страшныя падрабязнасці.

* Ганэф (яўр.) — злодзей.



Кудрашоў мне загадаў пасля абеду сабраць у ксяндзовым доме ўсіх запісаных у спартакаўцы.
— Каб табе аднаму не бегаць, скажы двайм, двое скажуць чатыром, а тыя — астатнім, так хутка ўсе і збяруцца. Трэба пагаварыць з вамі, а то ўсё не было калі.
Я забег у валасць. Лаўрэн панёс пакеты, Васіль цягаў ваду, а Іван з маткаю пілаваў на дровы старыя жэрдкі.
— Бяжы адсюль, Алёшка, і не зводзь. Маім хлопцам некалі лынды біць, і так ледзьве загнала ў двор,— накінулася на мяне цётка Лукер'я.
Я пакруціўся трохі, шапнуў Васілю, каб прыходзілі па абедзе, выбег за вароты і задумаўся, да каго ісці яшчэ. Успомніў, што недалёка жыве тая наезджая латышачка. З дзяўчынкамі гуляць было сорамна — хлопцы задражняць, але ж я не гуляць, а па загаду самога Кудрашова, апраўдваўся сам сабе. І так закарцела пабачыць яе, паглядзець, як яны жывуць, што ў іх у хаце. Нашых местачковых я ведаў усіх, а Оля была з нейкіх іншых людзей, з нейкага другога свету. Дзе тыя латышы жывуць, я не ведаў, і гавораць жа яны, відаць, не па-нашаму, бо і Оля неяк дзіўна расцягвае словы, нібы спявае іх.
Я хутка дабег да вялікага Кветнаярышынага дома, дзе жыла Оля з сястрою і маці, а каля форткі спыніўся ў нерашучасці — хацелася зайсці, і нешта не пускала, чамусьці затахкала сэрца і запякло ў шчокі. Патаптаўся трохі, паглядзеў у шчыліну ў фортцы. На вяроўку, напнутую цераз двор, невысокая жанчына ў акулярах вешала бялізну. Акуляры ў мястэчку насілі толькі два чалавекі — аптэкар і ўсімі паважаны белабароды фельчар Нохім. Таму чалавек у акулярах лічыўся самым вучаным і разумным. Таму здавалася, акуляры носяць не каб лепей бачыць, а як пасведчанне адукацыі. Яшчэ большая нерашучасць апанавала, але і вяртацца не хацелася. Я націснуў клямку і ўвайшоў у двор. Жанчына азірнулася, а калі спыніўся, сказала:
— Страствуй... Зашем ты, мальшик?
Я толькі кіўнуў галавою і ўнурыўся.
— Хто табе, мальшик нужный?
— Оля тут жыве?
— Зашем тебя Оля?
— Загадалі ўсім спартакам сабрацца... Дык я па яе.
— Оля там, за дом играется,— і паказала рукою, куды ісці.
Паміж сцяною і плотам расла старая дзічка, усыпаная дробненькімі грушкамі. Пад ёю гулялі ў класы Оля і чорненькая, як цыганя, гаспадыніна дачка Эйдля. Абедзве расчырванелыя і вясёлыя, па чарзе скакалі па клетках на зямлі, носцам пераганяючы беленькі чарапок. Убачыўшы мяне, Оля спынілася і аддала салют. Я трошкі разгубіўся, але таксама прыклаў руку да галавы.
— Кудрашоў загадаў па абедзе ўсіх сабраць у ксяндзовым доме. А цяпер трэба абабегчы ўсіх хлопцаў,— я патаптаўся на месцы і сказаў, што кожны павінен паклікаць яшчэ двух.
— Я ж не ведаю, хто дзе жыве. Хадзем разам. А другім разам сама аббягу.
— Калі хочаш, хадзем,— прамармытаў я і засаромеўся, пазіраючы на свае абдрыпаныя штонікі і кароткія рукавы даўно не мытай кашулі. На Олі — хоць і зацыраваная, у клетку спаднічка, белая з сінім каўнерыкам матроска, на нагах перакрыжоўваліся раменьчыкі ад сандалікаў з асінавымі падэшвамі. Такія сандалі з дошчачак і рамень-

чыкаў насілі многія дарослыя і дзеці. Падэшвы звонка цокалі па бруку і па дарозе, у іх не страшна было наступіць на бітае шкло, на іржавы цвік або гарачы вугаль.

— Пачакай,— сказала Оля і заляскала сандалямі па туга ўтоптаным двары. Ёй нешта ўслед па-свойму гаварыла маці, Оля спынілася і адказала на незразумелай мове. Я ўпершыню чуў, што гавораць не па-нашаму, і дзівіўся, як яны адна адну разумеюць. Праз хвіліну Оля збегла з ганку з чырвонаю хусцінкаю на шыі. Як я тады зайздросціў ёй! Уся яна была чысценькая, лёгкая і простая. Светлыя валасы, заплеценыя ў дзве кароценькія коскі, трошкі кучаравіліся над пукатым ілбом, шэрыя вочкі над прыпухлымі павекамі глядзелі адкрыта і трошачкі дзёрзка, на кірпатым носіку і над верхняю губою паблісквалі кропелькі дробных вяснушак. Яна яшчэ нешта сказала маме, тузанула мяне за руку, і мы выскачылі за фортку.

Ніхто з нас ніколі з дзяўчынкамі не гуляў і не хадзіў. Я і цяпер баяўся, што хлопчыкі ўбачаць і пачнуць дражніць «дзяўчуром», могуць нават не прыняць у сваю кампанію, але Оля была з намі ў атрадзе. Значыць, усе будуць гуляць з ёю, апраўдваў я сябе. Мне хацелася быць уважлівым і добрым, нешта цікавае расказваць. Але што я мог? Што я ведаў? Далей ваколіцы мястэчка нідзе не быў, нават ніколі не бачыў цягніка. Хоць яны мне сніліся часта па расказах тых, каму хоць раз пашчасціла праехаць па чыгунцы. А Оля бачыла, ездзіла, жыла недзе ў вялікім горадзе. Хай бы хоць.што расказала. І нечакана спытаўся:

— Дзе ты жыла раней?

— О-о, мы шмат дзе жылі! Больш ездзілі. Тата быў чырвоным камандзірам. Куды яго пераводзілі — і мы за ім, як цыганы, следам. Забілі яго каля Кранштата. Тут, у Булкаве, маміна сястра даўно жыве. Напісала, каб прыязджалі, што тут пражыць лягчэй. І праўда лягчэй пракарміцца. Сястра мая, Лайма, у валкоме камсамола служыць. А дома бывае рэдка, усё ў Булкоў ездзіць. Там латышоў многа, дык яна работу наладжвае. А мы з мамаю ўсё баімся, каб на яе бандыты не напалі.

— І ў вагонах ездзіла?

— Можа сто разоў,— абыякава адказала Оля.— Цесна ў іх, брудна, да акна не падступіцца. На кані лепей: бачыш неба і сонца, лес пахне смалою, птушкі свішчуць, а спыніцца — ягад пазбіраць можна. А ты дзе быў?

— Нідзе.

Мы зайшлі ў вузкую пясчаную вулачку. Пасярод дарогі грэбліся і кудахкалі куры, на прызбе спаў вялікі руды кот. Тут стаялі нізкія старыя хаты з пазелянелымі ад моху дахамі, з-за парканаў звісала вецце, усыпанае яблыкамі, часам яны зрываліся і глуха падалі на зямлю. Оля разглядала і ўсяму дзівілася.

— Што гэта грукае? — спыталася Оля, калі мы падышлі да доўгай, як свіран, хаты.

— Андрэеў бацька тчэ кросны,— сказаў я, прасунуў руку ў дзірку ў веснічках, адкінуў зашчапку, і мы ўвайшлі ў маленькі, зарослы травою дворык. На ганку ў вялікіх начоўках Андрэева сястра Груня мыла бялізну. Побач у высокім жлукце булькала ад гарачых каменняў вада і ішла пара. Оля спынілася ў нерашучасці, а калі да нас павярнулася Груня — аддала ёй салют. Груня выцерла фартухом правую руку, падняла яе да лба і спыталася:

— Вы не па мяне?



— Андрэя шукаем. Кудрашоў загадаў усім па абедзе сабрацца ў ксяндзовым доме.

— Трэба, Аляксей, гаварыць не Кудрашоў, а таварыш Кудрашоў.

— Мне Андрэй таварыш, а Кудрашоў — вялікі. Хіба ён таварыш? — нясмела запярэчыў я.

— Усіх трэба называць — таварыш, асабліва партыйных і камсамольцаў. Нічога, навучышся. Андрэй паляцеў зранку ў рыбу. Казаў, на Абалонне, а, можа, дзе на Прудцы. Калі не знойдзеце, дык я яго прывяду.

Оля выцягвала шыю, каб зазірнуць у акно, якое ўздрыгвала і дзынкала ад удараў кроснаў.

— Гэта наш тата тчэ,— усміхнулася Груня.

— Можна паглядзець?

Груня павяла нас праз цёмныя сенцы ў хату. Я стаў на парозе і прыпёрся да вушака. Каля дзвярэй пры акне стаялі доўгія кросны, за імі сядзеў у расшпіленай кашулі і ў белых палатняных майтках Грунін і Андрэеў бацька, на галаве калмаціліся сіваватыя валасы, рэдзенькая бародка закруцілася наперад, на кончык носа спаўзалі бляшаныя акуляры, замест дужкі прывязаныя за вуха зрэбнаю ніткаю, над імі сінелі чыстыя, як у дзіцяці, вочы. У руцэ мільгаў слізкі, нібыта з воску, чаўнок, босыя ногі націскалі панажы, і на шараватым палатняным полі з'яўляліся светлыя квадрацікі, а ў кожным — пукатая зорачка. Грунін бацька быў у ткацтве мастак. З восені ў яго заўсёды было завозна, як у млыне: прыязджалі з вёсак і далёкіх засценкаў заказваць абрусы і ручнікі, посцілкі і коўдры ў пасаг маладухам. Якія ўзоры толькі ні прыдумлялі, а ў яго яны выходзілі яшчэ мудрэй. Ткаў ён з найтанчэйшага кужалю і воўны, ткаў шарачкі — аснова парцяная, уток суконны, ткаў такія андаракі, што сляпіла вочы. Кросны грукалі ад відна да цямна зіму і лета. Уся сям'я памагала сукаць цэўкі і навіваць навоі. Ён вельмі хацеў і Андрэя прывучыць да рамяства, але адступіўся. Часам з крыўдаю казаў пра сына: «Яго, шэльму, хоць на ланцуг пасадзі — сарвецца. А добрай рабоце трэба вучыцца змалку».

Оля застыла ў здзіўленні, сачыла за кожным рухам ног і рук, а ткач задаволена ўсміхнуўся, што так глядзяць на яго работу. Спыніўся і спытаўся:

— Чыя ж ты такая зіркатая?

— Вы не ведаеце, тата. Наезджыя яны,— адказала Груня.

— А гэта Ганнін бэйбус выцягнуўся такі? — кіўнуў ён на мяне. Я засароміўся і пачаў чухаць нагу аб нагу.— Наш пустадом недзе з вудамі лятае. Можа, рыбу купляць прыйшлі? Дык наўрад дастанецца. Кот да-а-ўно-о ўжо на сцежцы чакае,— засмяяўся дзядзька Васіль і зноў заляскаў бёрдамі.

На ганку Груня сказала, што Андрэй пайшоў з хлопцамі, дык мы іх усіх знойдзем. Параіла ісці на рэчку праз гарод і поплаў.

У канцы град на пажоўклым дзяцельніку расцягнуўся пярэсты кот з белымі, як акуляры, плямамі вакол вачэй. Мы ўбачылі яго і засмяяліся. Я разбегся, ухапіўся рукамі за жэрдку і пераскочыў невысокае прасла. Оля палезла па плоце, як па драбінах, а калі скочыла ўніз, з-пад сукенкі мільганулі беленькія зубочкі спаднічкі. Я засароміўся і адвярнуўся.

На выгане буйна цвіла лотаць і дробненькія блакітныя незабудкі.

— Не тапчы! — крыкнула на мяне Оля і пачала падымаць прытаптаныя кветкі, нарвала невялічкі букецік і загадала ісці следам за

ёю.— Першы раз бачу, каб ткаў мужчына і так хораша. У нас, у Латгаліі, ткалі толькі жанкі, і мама ўмее, але не так.

— Яны ткачы спрадвеку,— адказаў я.

— Што такое — спрадвеку?

— І бацька і дзед яго ткалі... Ну-у... спрадвеку былі ткачы.

— А-а! — кіўнула Оля, і мы пабеглі да рэчкі.

Узбярэжжы выгаралі і парудзелі ад спёкі, пасівелі кусты ракітніку, а далёка на тым беразе жаўцелі пясчаныя выдмы — за імі пачынаўся густы і цёмны лес, той самы Дубень, у якім знік Хадароўскі. Таму і здалёк ён здаваўся таямнічым і небяспечным, як цяпер здаваўся таямнічым Хадароўскі: ніхто не ведаў, што ён за чалавек і чаму збег, як толькі злавілі Гліня. Усе яшчэ жылі ў стоенай трывозе, рознае прыдумлялі і гаварылі. У лясах і на далёкіх балотных хутарах яшчэ бадзяўся Падаляк з рэшткамі банды. Тыднямі пра іх нічога не было чуваць, потым яны налятaлі на якую-небудзь глухую вёску, білі, апаражнялі клеці, падпальвалі канцавую хату і знікалі ў пушчы, каб праз які тыдзень зноў аб'явіцца дзе-небудзь у суседняй воласці.

Я глядзеў на зарэчны лес, а вярзліся ў ім стоеныя, агідныя, як пачварныя страшыдлы, бандыты. Хоць тыя, якіх бачыў звязанымі на валасным двары, былі, як і ўсе людзі: каб не ведаў, хто яны — ніколі б не падумаў. Так задумаўся пра бандытаў і не заўважыў, што Оля ўжо далёка наперадзе. Подбежкам дагнаў яе, і пайшлі берагам. Цёплы ветрык раздзімаў яе валасы і ражкі гальштука.

Андрэя пазналі здалёк па аблавухім капелюшы. На беразе скурчыўшыся сядзелі Міша і Саша Куляшэвічы, Сцёпа Лосік і Варварыны Аркадзя і Толя. Паўтырканыя ў круты бераг вуды пазыбваліся над імклівaю цёмнаю вадою, яна закручвалася на вірах, пагойдвала густы аер і сітнік. У Андрэевым кацялку пялёскаліся акунёк і дзве плотачкі, каля хлопцаў стаялі пазатыканыя аерам гладышкі з почапкамі. Падыходзячы да Андрэя, Оля аддала салют, я, нібы хаваючыся, тыцнуў да лба і хуценька апусціў руку. Доўгі і заўсёды павольны Міша ашчаперыў калені, заківаўся ўзад-уперад і голасна зарагатаў:

— Ляньце, ляньце, хлопцы, як яны хрысцяцца!

Нехта хіхікнуў.

— Я цябе, боўдзіла, як перахрышчу, дык толькі бурбалкі пойдуць! — падскочыў да яго Андрэй. Усе ведалі, што б'е ён ляўшою без промаху, аж іскры сыплюцца. Міша адразу ўскочыў і адбегся ад берага. Андрэю дарогу перагарадзіла Оля.

— Не чапай яго! Біцца не трэба.

— Чаго ты ўскінуўся, Андрэй? Я ж смехам сказаў,— апраўдваўся даўгалыгі Міша.

— Ну, шчасце тваё! — пагразіў Андрэй кулаком.— Я цябе пахрышчу!

— Пасля абеду трэба сабрацца ў ксяндзовым доме... Загадаў гэты... таварыш Кудрашоў,— сказаў я Андрэю.

— А паўдня ўжэ е? — запытаўся Андрэй. Я пацiснуў плячыма. Ён павярнуўся спіною да сонца, стаў, каб цень капелюша даходзіла да краёчку берага, памераў цень крокамі, сказаў «якраз паўдня» і пачаў збіраць вуды.

— Прыходзьце і вы, хлопчыкі,— сказала Оля.— Там будзе цікава.

— Мы з дзеўкамі не гуля...— ляпнуў Міша, але адразу асекся і вінавата ўсміхнуўся Андрэю.

— Праўда, хлопцы, пішыцеся ў атрад. Камандаваць будзе той камісар з падбітаю рукою, што ў іх кватаруе,— кіўнуў на мяне Андрэй і ўзяў кацялок. Я ўспомніў, што яго за градамі чакае кот, і ўсміхнуўся.



— Можна, я паднясу,— папрасіла Оля.

— Нясі, як хочаш,— Андрэй аддаў ёй кацялок, і мы пайшлі берагам у мястэчка.

Маці ў некага жала на гатовых харчах і за паўпуда жыта на дзень і цешылася, што зімаваць будзем з хлебам. Я паганяў курэй у гародзе, намацаў пад каменем ключ і ўбачыў у шчыліне над клямкаю канверт з тоўстай жоўтай паперы. Выхапіў, пакруціў у руках і здагадаўся, што гэта ад бацькі. Хуценька адамкнуў дзверы, убег у хату і пачаў адкалупваць заклееeны хлебным мякішам канверт. Тата пісаў, што вельмі занудзіўся па нас, а доўга не пісаў, бо быў без памяці: зваліў тыфус, і ён ледзьве выскрабся. «Цяпер ужо не журыцеся,— пісаў ён.— Пайшоў трохі на папраўку, але так высах, што вучуся хадзіць, як малое дзіця, і скулле ўсю спіну абсыпала. Дактары кажуць, трэба масла есці, а я забыўся, як яно пахне. Ляжу ў Гомлі ў ваенным шпіталі. Як толькі акрыяю, пусцяць мяне на чыстай. Так што скора ўбачымся». Далей ішлі паклоны радні і суседзям.

Я аж закруціўся ад радасці. Хацеў бегчы на поле, каб узрадаваць маму, але ж трэба было ісці ў ксяндзоў дом на піянерскі збор, паслухаць, што скажуць і што нам трэба рабіць. Дастаў з печы бульбяны булён, гаршчэчак гарбузнай кашы з пшаном і на скаварадзе печаныя яблыкі. Хуценька пад'еў, памыў паліваную міску і счарнелую ад часу лыжку, схаваў пад цырату бацькава пісьмо, замкнуў дзверы і праз суседнія двары пабег на вал. Узадраўся наверх, спыніўся, каб аддыхацца. Над касцельнымі званіцамі старыя буслы вучылі буслянят лятаць. Яны то часта махалі крыламі, то выпростваліх іх і павольна праплывалі круг за кругам, уздымаліся вышэй і вышэй, становячыся меншыя за голуба, схіляліся на адно крыло, пераганялі маладых, а тыя махалі і махалі, каб не адстаць ад бацькоў. Ніжэй, як кароткія стрэлы, пырхалі ластаўкі, на яблынях пералятaлі з галінкі на галінку стракатыя матылі. Я загледзеўся, нібы бачыў усё ўпершыню, падумалася: чаго ж таўкуцца людзі, чаго ім не хапае? І ўспомніў, як аднойчы высока ў небе кружыў каршун, а маленькія шустрыя дразды з усіх бакоў налятaлі на яго, з крыкам дзяўблі хвост і крылы, падалі ўніз і зноў гналіся следам. Відаць, і птушкі нечага ніяк не падзеляць, і яны крыўдзяць адна адну, ці, як гэтыя дразды, адбіваюцца ад каршуна.

У пустым закураным доме таўклося поўна большых і меншых хлапчукоў. Усё ж паслухаліся Андрэя і прыйшлі з рэчкі Міша з Сашам, Сцёпа Лосік і Толя з Аркадзем, былі і Лаўрэн з Васілём і Іванам.

— Што тут будзе? — дапытваўся Міша.— От каб стрэльбы далі і паёк салдацкі, дык і мы б бандытаў лавілі.

— Ты на-ло-о-віш! — махнуў рукою Саша.— Як змеркне, хто цябе на двор вадзіць будзе? Можа, маму з сабою возьмеш?

Усе зарагаталі.

— Сціхні, шалудзівы! — падскочыў да меншага брата Міша. Іх разбараніў Андрэй.

— Хлопцы, а гэтага касарукага «чайніка» не злавілі? — пытаўся Сцёпа.

— А за што яго ловяць?

— Можа, за каўнер, а, можа, за штаны,— пажартаваў Андрэй.

У цалейшы пакой, дзе мы таўкліся, увайшлі Оля, чорненькая танканогая Эйдля і маленькая, з кароценькаю рудою грыўкаю, Фроня. На стрыжанай галаве вытыркаліся вялікія вушы. Таму ўсе яе дражнілі «заяц». Дробны тварык, густа ўсыпаны просам вяснушак, і вост-

ранькі носік лузаліся ад сонца, а з-пад ледзьве прыкметных бровак глядзелі вялікія сінія-сінія вочы. Яна спрытней за любога хлопца лазіла на самыя высокія дрэвы, нырцом пераплывала нашу нешырокую рэчку, а дагнаць яе не ўдавалася нікому. Следам за Фроняй, асцярожна азіраючыся, ішла вышэйшая за яе на цэлую галаву, тоненькая, як лазінка, Ніна. Яе твар залівала чырвань, зліняла, некалі сіняя ў белыя гарошынкі, сукенка была такая кароткая, што Ніна неяк смешна прысядала, каб прыкрыць каленцы.

Хлопцы адразу сціхлі.

— Праходзьце, не бойцеся, дзяўчаткі,— нібы гаспадыня, запрасіла іх Оля і здзьмухнула валаскі, што падалі з ілба на кірпаты носік.

— От зараз злаўлю зайца,— затупацеў Міша.

— Зло-о-віш! — крыкнула Фроня і сiганула ў дзверы. Міша кінуўся за ёю. Пакуль ён збягаў з прыступак абгарэлага ганка, Фроня абегла дом з другога боку, ухапілася за падваконнік і ўскочыла ў пакой. А Міша, высалапіўшы язык, круціўся вакол дома, лазіў па кустах язміну, дабег да сажалкі, гукаў: «Вылазь! Дзе ты там! Ну вылазь, яй-права, чапаць не буду».

Мы душыліся ад смеху, але трымаліся, каб не выдаць Фроніны хітрыкі, ды яшчэ пад'юджвалі Мішу: «Яна ў крапіву схавалася», «На званіцу палезла!» Набегаўшыся, ён вярнуўся назад і злосна прабурчаў: «Хай яна гарыць. Як у ваду боўтнула, і кругоў не відно». Мы ўсе пакаціліся з рогату. Смяяліся да слёз, да болю пад лыжачкаю. А Міша зусім аслупянеў, калі Фроня паказала язык і да аблупленага носіка прыставіла растапыраныя пальцы. Ён памкнуўся да яе, але толькі пагразіў пальцам.

Пад наш рогат увайшлі Груня з Кудрашовым і ад здзіўлення спыніліся ў парозе. Мы спрабавалі суняцца, але ўсё яшчэ пырскалі ад дурнога смеху.

— Чаго гэта ў вас так весела? Раскажыце, і мы пасмяёмся,— спытаўся Кудрашоў.

— Ат, няма чаго рабіць! Паказаў дурням палец, яны і рагочуць,— спакойна адказаў Міша. Мы зноў заліліся смехам.

На сярэдзіну выйшаў Кудрашоў і падняў здаровую руку, каб сціхлі. Мы штурхалі адзін аднаго і нарэшце сціхлі.

— Вось нашто мы вас сабралі, таварышы,— спакойна загаварыў Кудрашоў.— Некаторыя з вас ужо запісаліся ў атрад, астатнія, відаць, хочуць запісацца. Гэта добра. Але ад таго, што запісаўся, свядомым барацьбітом за рэвалюцыю не станеш.

Вы павінны расці сумленнымі і адданымі бальшавікамі. Мы будзем збірацца, спяваць песні, хадзіць у паходы, ставіць пастаноўкі, вывучаць законы юных піянераў, будзем расказваць пра рэвалюцыю, пра нашых бальшавіцкіх правадыроў. Вось пакуль нашуся з гэтаю лялькаю,— ён пакалыхаў сваю забінтаваную руку,— буду прыходзіць да вас. А калі не змагу, зоймецца з вамі таварыш Груня, здаецца, Васільеўна.— Груня залілася чырванню і апусціла прыгожую галоўку з коратка падстрыжанымі светлымі валасамі.

— Піянеры-спартакаўцы павінны быць сумленнымі, адданымі рэвалюцыі, смелымі і праўдзівымі. Вы будзеце расці бальшавікамі, такімі, як таварыш Ленін. А бальшавікі не вераць ні богу, ні чорту. Няма іх. Усё гэта папоўскія хітрыкі, каб абдурваць народ. Піянерам забаронена лаяцца, курыць, лузгаць семечкі. Вы павінны добра вучыцца, слухацца і паважаць дарослых, памагаць слабейшым. Пра гэта напісана ў законах юных піянераў.



— А што рабіць, калі маці пагоніць да споведзі? Слухацца ці не? — запытаўся нехта з хлопцаў.

Кудрашоў на імгненне разгубіўся, памаўчаў і спакойна сказаў:

— Ты павінен яе пераканаць, што бога няма, і не хадзіць у царкву.

— Чорт яго ведае, ёсць ён ці няма. Старыя кажуць — маліся, а вы — не. Каго ж слухацца? — насядаў Саша. Яго ззаду тузанулі, каб змоўк.

— З богам мы разбяромся. Да споведзі ходзяць замольваць грахі. Так?

— Угу! — буркнуў Саша.

— А якія ў вас грахі? Онь бандыты забіваюць людзей, выразаюць цэлыя сем'і, потым ідуць да споведзі, каб забіваць і паліць зноў,— ужо з запалам даводзіў Кудрашоў.

— Злавілі ці не гэтага касарукага з чайной? — запытаўся Андрэй.

Кудрашоў абвёў усіх доўгім поглядам і ўздыхнуў.

— Пакуль не. Але нідзе не дзенецца. Сёння не злавілі, заўтра знойдзем. Калі б адзін з вас трохі раней сказаў, што Хадароўскі ўцёк з дому, мы б яго затрымалі ў бліжэйшым лесе. А калі б вашы хлопцы прызналіся, што бачылі вось тут, пад гэтаю падлогаю,— Кудрашоў дробна пастукаў ботам па абгарэлай маснічыне,— цэлы склад зброі, мы яго тут падцікавалі б.

Лаўрэн глядзеў на мяне, з папрокам трос галавою і нячутна лаяўся аднымі вуснамі. Усе пераглядаліся, каб пазнаць, пра каго гаворыць Кудрашоў.

— А чырвоныя хустачкі ўсім дадуць ці адной толькі Олі? — спыталася Фроня.

— Гэта не хустачка, а піянерскі гальштук, частачка чырвонага сцягу,— тлумачыла Груня.— Калі дакажаце, што вы сапраўдныя піянеры, і дасцё ўрачыстае абяцанне — атрымаеце чырвоны гальштук. Праўда, іх яшчэ ў валкоме камсамола няма. Але будуць, абавязкова будуць. А Олі я аддала свой. Няхай носіць. Яе бацька быў сапраўдны бальшавік і загінуў за рэвалюцыю.

Усе паварочваліся, нібы бачылі Олю ўпершыню. А яна толькі ссунула бровы і стаяла з паднятай галавой.

— Будзе ў нас і свой клуб. У валасці абяцалі знайсці для нас хату. Трэба будзе і барабан. А сягоння падвечар давайце на беразе распалім вогнішча і будзем спяваць піянерскія песні! — з запалам гаварыла Груня.

— Мы ж не ўмеем,— вытыркнулася Фроня.

— Навучымся.

— А ў вайну будзем гуляць? — запытаўся Міша.

— І ў вайну будзем. Хоць бальшавікі хочуць міру, але пакуль ёсць ворагі рэвалюцыі, будзем вучыцца ваяваць,— тлумачыў Кудрашоў.

— Буржуянят лупіць будзем,— крыкнуў Лаўрэн.

Кудрашоў усміхнуўся:

— Сапраўдных буржуяў у нас ужо няма. Часова ёсць нэпманы: млынары, дробныя гандляры, ну і той дзівак, што аўтобус купіў. А дзеці іх, калі захочуць, няхай будуць з намі. Можа, з іх вырастуць добрыя людзі.

— Не-е-е! — запярэчыў Лаўрэн.— Іх, гадзянят, лупіць трэба. Унь якія параз'ядалі ражкі на смятане ды на сітніцы.

Груня дастала з кішэнькі кавалачак паперы і агрызкам алоўка запісала ўсіх «новенькіх».

— А цяпер павучымся спяваць. Станьце ўсе кругам,— сама вый-

шла на сярэдзіну. Кудрашоў сеў на закураны падваконнік і здаровай рукой пачаў гладзіць параненую.

— Увага, запамінайце словы і матыў. Раз-два-тры! — і яна заспявала:

Мы кузнецы, и дух наш молад,
Куём мы к счастию ключи!
Вздымайся выше, наш тяжкий молот,
В стальную грудь сильней стучи, стучи, стучи!

А мы спявалі па-свойму: «І друг наш молат», перакручвалі і іншыя словы, бо не ўсё разумелі ў песні. Потым заспявалі заліхвацкі прыпеў іншай песні:

Давай, давай по шпалам, по шпалам,
по шпалам,
Крути, давай, навёртывай, к Коммуне
подъезжай.

— Што гэта за «пашпалам»? — спытаўся Саша.
— Хто ведае? — паглядзела на нас Груня.
Паднялася адна рука.
— Раскажы, Оля.
— Шпалы... Ну, шпалы... гэта такія роўныя бярвенні. На іх ляжаць рэйкі, а па рэйках ходзяць цягнікі.
— Ты чула ці сама бачыла?
— Бачыла. Мы жылі каля самай чыгункі.
— Шанцуе ж людзям! — пазайздросціў Міша.

Груня паляскала далонямі, скамандавала: «Раз-два-тры», і мы заспявалі. Спачатку няўпэўнена, прапускаючы і перакручваючы словы, збіваючыся з матыву. Падышоў Кудрашоў, падхапіў песню высокім прыгожым голасам і прапанаваў: «Давайце тупаць на месцы». Мы ў лад песні затупалі босымі ступакамі і загарлапанілі так, што аж разлягалася рэха ад гулкіх касцельных сцен.

Пастаўшы па два, з песняю мы прайшлі па местачковай вуліцы, звярнулі на плошчу і спыніліся каля магілы Князева і Смірнова. Яе ўжо абклалі па баках дзёрнам, а з жоўтага пяску прабілася некалькі кволых травінак. Тут спыніліся. Наперад выйшаў Кудрашоў, прыклаў здаровую руку да казырка:

— Піянер, да барацьбы за справу працоўных будзь гатоў!
— Заўжды гатоў! — пакацілася над плошчаю наша рознагалосіца.
— Перад захадам сонца ўсе прыходзьце на Абалонне. Будзем паліць касцёр,— сказала Груня і на развітанне аддала салют.

Мы разбягаліся, куды каторы. Оля ішла з дзяўчынкамі, нешта ім весела расказвала, чуваць было, як па мастку і па грэблі цокаюць асінавыя падэшвы яе сандалікаў. Я ішоў назіркам, але дагнаць не адважваўся, каб хто не ўбачыў і не дражніў «дзеўчуром». А так хацелася паслухаць, што яна расказвае!

Каб увечары мама пусціла на вогнішча, паміж град і каля плота назбіраў зелля, паклаў пад сцяною хлява, дзе звычайна мама даіла карову, падгроб закарэлыя каравякі, размёў ад дзвярэй да веснічак сцежку. Назбіраў у прыпол кашулі падалак і храбустаў налiўныя шлапакі, аж сок пырскаў на шчокі.

У адчыненую фортку ўсунулася лясёнка з травою. Я падбег падтрымаць, каб лягчэй было скінуць з плячэй. З травы тырчэў серп з пазелянелымі зубчыкамі. Пад лясёнкаю матчына кофта ўчарнела ад поту,



а на плячах ад паскаў чырванелі пісягі, шурпатыя рукі, сколатыя асцюкамі і шындзёламі, трымцелі ад стомы, запыленая хустка спаўзла на вуха. Маці села на прыступку.

— Прынясі, Алёшка, вады... Язык, як суконка...

Я ўскочыў у хату і адразу ўспомніў пра бацькава пісьмо, выхапіў яго з-пад цыраты, зачарпнуў карэц вады і выбег на ганак.

— Татка пісьмо прыслаў! — падняў шурпаты жоўты канверт.
— Чаго ж ты, звадыяш, дасюль маўчаў?
— Жывы, не бойся! Скора прыедзе!
— Ну, чытай, чытай, сыночак...

Я сеў побач і пачаў бойка чытаць, бо ўжо амаль усё ведаў на памяць. Яна толькі войкала і божкала.

— Гэта ж трэба, такая бяда — ціф! Ён, небарака, відаць, яшчэ сам і не ходзіць. Хоць бы, даў бог, як дадому дагробся, малачком бы адпаілі...

Яна ўзяла лісток, працерла вочы і павольна заварушыла сухімі абветранымі губамі. Па шчоках марудна папаўзлі слязінкі. Я прытуліўся да гарачай рукі.

— Ну, не плач, мамачка, не трэба! Скора прыедзе...
— Схавай, сынок,— аддала мне пісьмо, папраўла хустку, і мы пайшлі ў хату.

Я ўсё тупаў каля мамы, наважваўся адпрасіцца на касцёр, а язык не паварочваўся. Яна паглядзела на мяне, склала рукі і з трывогай у голасе запыталася:

— Чаго муляешся? Прызнавайся, нашкодзіў?
— Не, што ты, мама! Я ні-і-чога.
— А чаго ж, як шкодны кот, трэшся?
— У нас сягоння касцёр.
— Які яшчэ табе касцёр?
— Ну, касцёр, што гарыць. Піянерскі.
— Калі замерз, лезь на печ.
— Ай, мама, не грэцца! Усіх піянераў збіраюць. Песні спяваць будзем.

Яна пастукала кулаком па далоні.

— Я ж табе казала — выпісвайся! Унь, збегаўся, адны пашчэнкі тырчаць. Збсякуешся з Лукер'інымі расколамі... Калі спяваць закарцела, на кліраc ішоў бы.
— Не хачу на кліраc. Там дзяк жалезкам па галаве дзяўбе. І я... я,— ледзьве адважыўся сказаць,— чуў, што бога няма і чорта няма.

Маці спалохана пачала хрысціцца, хрысціць мяне і шаптаць: «Свят! Свят! Свят!»

— Маліся, недавярак! Гэта ж грэх такі!

Я не скрануўся з месца: ведаў, што мама не вельмі набожная, сама рэдка малілася, а ў царкву хадзіла толькі ў вялікія святы, каб на цвінтары пагаварыць з жанкамі. А мяне часам страшыла «пеклам і карою боскаю», каб слухаўся, каб нечага баяўся.

Бразнула клямка, і ў хату ўвайшоў Кудрашоў. Пад пахаю забінтаванай рукі ён прыцiскаў «пайковую» торбачку, паставіў яе на стол і весела ўсміхнуўся:

— Будзем вячэраць, хадзяюшка! Унь якія мы сёння багатыя.

Ён выцягнуў паўпляшкі алею, аб стол загрымелі белыя, з паадламванымі хвастамі, тараны, дастаў асцюкаватую кулідку хлеба і некалькі драбкоў карычневага цукру, у міску высыпаў з фунт панцаку. Мама перастала сварыцца, палагаднела, ласкавей зірнула на мяне:

— Марш мыцца! Лятаеш, як камінар.

Я выскачыў з карцом на двор. На плоце намацаў змылачак, набіраў у рот ваду і пырскаў на рукі. З уціральнікам выйшаў Кудрашоў.

— Палей мне, браце. Хоць адну руку трэба памыць.

— А тая баліць?

— Ные, як гнілы зуб...

Я паліваў на шырокую далонь, шараваў змылкам. Адною рукою ён мыў твар і загарэлую шыю, задаволена фыркаў і ахкаў. Падаў мне канец уціральніка.

— Мамка мяне на касцёр не пускае,— пажаліўся я.— Угаварыце, каб пусціла. І з піянераў, кажа, каб выпісаўся.

— Ладна. Пагавару.

На стале стаяла гарбузная каша, гладышка малака, цыбуля, залітая алеем, ляжала па лустачцы салдацкага хлеба.

— Садзіцеся, мужчыны,— усміхнулася маці.

Я аж падрос, што і мяне заве мужчынам.

— А вы чаму не садзіцеся, хадзяйка?

— От прыйдзе карова, упраўлюся, тады і перакушу што-кольвечы. На мяне не глядзіце, ешце, ешце. Вам жа ўсё няма калі.

Я чакаў, што Кудрашоў загаворыць пра мяне. А ён моўчкі жаваў і толькі часам падміргваў.

— Весялей, Алёшка, нам жа трэба спяшацца.

— Куды гэта яму? — нібы нічога не ведаючы, запыталася мама.

— Сёння спартакаўскі касцёр. А без нас не абыдуцца. Ён у вас малайчына.

— Павыдумлялі нейкія пяўнеры, спартакі. І вам ахвота з гэтаю басатою валаводзіцца. Рука ж баліць, дзе б паляжаць, каб гоілася, дык і вы з імі гарцаеце.

— З іх вунь бальшавікі вырастуць. Камандзірамі, камісарамі стануць. На дактароў і розных там інжынераў вывучацца... Ну, збірайся,— кіўнуў мне Кудрашоў.

— Хоць чыстую кашульку адзень. Я збольшага яе зацыравала. Ды не баўся ж, глядзі!

Я хуценька адзеў цеснаватую кашульку, узаткнуў на ногі дзіравыя чаравічкі на гузіках.

— У рэчку тым часам не шусні. Барані божа, утопішся,— дадому не прыходзь: скуру спушчу.

Кудрашоў зарагатаў, і мы разам пайшлі на Абалонне.

Сонца з-за лесу зачырваніла паўнеба, пазалаціла акрайкі высокіх аблачынак, рэчка здавалася з гарачай медзі. На выгане гагаталі чароды гусей, з пашы ішлі каровы. На мелкаводдзі яны прагна пілі ваду, распырсквалі і каламуцілі іскрыстую чырвань ракі. У нізінах слаўся шызы туманок. А на беразе ўжо мітусіліся і бегалі цёмныя постаці, цягалі ламачча, галёкалі і крычалі. Я спяшаўся за Кудрашовым і ледзьве паспяваў, бо мулялі засохлыя за лета чаравікі.

Разам з усімі насіла ламачча Груня, завіхаліся Оля і маленькая, як мурашка, Фроня. Кудрашоў падбег да Груні, ухапіў вялікую сухую ламачыну і павалок да лаўжа.

— Э-э, не, так у нас нічога не выйдзе! Трэба ўсё перакласці,— сказаў Кудрашоў.— Памагай, Аляксей.

Ён камандаваў, а я складаў галінку да галінкі. Назбіралі сухіх яловых лапак. Кудрашоў паправіў ламачча, падыспад паклаў ігліцу, забінтаванаю рукою прыціснуў карабок, здароваю чыркнуў запалку і падпаліў ігліцу. Затрашчала смаловае вецце, пакарабаціліся альховыя лісты, вырваліся языкі полымя, загуло, загаманіла вогнішча, за-





пахла смалою і дымам, над лаўжом задрыжэла шкляное паветра, у неба ляцелі і згасалі іскры.

Пакуль раскладалі касцёр, змерклася. Усе пасталі вакол вогнішча. Твары і рукі здаваліся аранжавымі, у вачах трапяталі агеньчыкі. Пацямнела рака. У ёй і над намі задрыжэлі далёкія зоркі. Патыхала вільгаццю, гусцеў і падымаўся туман. Самыя задзірыстыя хлопцы сцішыліся, задуменна глядзелі на зыркае полымя, на затуманеную, усыпаную зоркамі раку. Здавалася, мы адны ў свеце, а наўкол бязлюдна і пуста. Раптам працінаў страх: што, калі з кустоў нас цікуюць бандыты? Чым настойлівей углядаўся ў змрок, тым выразней вярзліся нейкія постаці і здані.

Груня ляпнула ў далоні, скамандавала: «Два, тры», і мы дружна падхапілі: «По шпалам, по шпалам, по шпалам, крути, давай навёртывай».

Разам з намі спяваў і Кудрашоў. Шапка з чырвонаю зоркаю і сагнутым казырком з'ехала на патыліцу, натапырыўся бялявы чуб. Палову твару заліў бляск полымя, другую закрываў густы цень ад казырка. Паблісквалі вочы і роўныя белыя зубы, а голас гучэў высока і звонка.

— Вось і запомніцца вам гэты касцёр надоўга. Адсюль пачынаецца ваша дарога,— загаварыў Кудрашоў.— У чалавека яна павінна быць толькі адна, роўная і прамая. Пачнеш віляць, уздумаеш ісці нацянькі, шукаць лёгкія сцежкі — абавязкова зблудзіш, уцярэбішся ў багну і прападзеш. У нас, бальшавікоў, адна дарога, прамая і светлая. Мы ўсіх ворагаў перамаглі. Засталося падмесці наш двор і кінуць на вогнішча рэшткі смецця — дробных бандытаў, што яшчэ замінаюць нам жыць, розных там Падалякаў і іншую белую погань. Знішчым і іх, каб вам светла жылося, каб дайсці да сусветнай рэвалюцыі...

— Ой, нешта ідзе! — піснула Фроня і схавалася за Груню.

— Сціхні... «заяц»! — цыкнуў на яе Лаўрэн.

— Праўда ідзе, я баюся...

Мы ўтаропіліся ў цемрадзь.

— Ідзе, няхай сабе ідзе,— спакойна адказаў Кудрашоў.— Запомніце: страх — самы першы вораг. Спалохаўся — і лічы, канцы табе. А вы, я бачу, пудкія. У кожнага вушы, як у зайца, натапырыліся.

— Гэта ж «заяц» і напалохала,— растлумачыў Міша.— Ну, не хавайся, вылазь! — ён выцягнуў Фроню і патузаў за вушы.

Яна ляснула яго па руках:

— Пусці, дурань! Можа, бандыты ідуць?

У тумане калывалася невыразная постаць, то знікала ў нізінцы, то выплывала зноў. Загагаталі спалоханыя гусі, гуло і патрэсквала вогнішча, а мы маўчалі: відаць, трывога апанавала не толькі мяне. Гледзячы на нас, Кудрашоў засмяяўся і спакойна загаварыў:

— А вы баязліўцы... Няўжо думаеце, што бандыты ходзяць па мястэчку? Чалавек палохаецца воўка, а воўк больш за ўсё баіцца чалавека, таму і туляецца ў лесе і нападае на таго, хто спалохаецца. Вы ж павінны быць адважныя і дужыя. Ведаеце, што азначае слова піянер?

— Не-е-е,— адказала некалькі галасоў.

— Піянер — значыць першы. Чалавек, які першы адкрыў бязлюдны востраў, пераплыў акіян, узышоў на вяршыню гары...

У крузе святла паказаўся чалавек у старым фрэнчы, чорных штанах, салдацкіх чаравіках з абмоткамі і ў лямцавай шапачцы. Твар і кліночак пасівелай барады ад вогнішча здаваліся чырвонымі.

— Можна да вашага агеньчыка? — запытаўся здалёк, і ўсе пазналі Васіля Ваўчка, што ніколі не разлучаўся са скрыпкаю.



Мы весела закрычалі:

— Хадзіце, хадзіце сюды!

— Добры вечар, маладыя людзі! Прабачце, калі сваім з'яўленнем парушыў ваш спакой. Але прызнаюся: здалёк убачыў вогнішча і не мог утрымацца, каб не падысці. Люблю агонь. Калі чалавек здабыў агонь, ён стаў чалавекам. Не было б агню, зямля б наша была пустэльняй, а людзі жылі б чатырохногімі дзікунамі толькі там, дзе ніколі не бывае зімы...

Пра Ваўчка гаварылі, што ён вельмі вучаны чалавек, што служыў недзе на Каўказе, жыў, як пан, будаваў казённыя масты і дарогі, але астаўся бабылём, пад старасць зрабіўся «бзікам», кінуў-рынуў усё і сыскаўся дадому. Яго бацькоўская хата пуставала і трухлела гадамі. І цяпер, недагледжаная, з пазабіванымі вокнамі, стаіць каля Крынічкі. Васіль Васільевіч жыве ў маленькай баковачцы, цэлымі днямі нешта ўсё чытае і іграе на скрыпцы. А дзе збіраюцца людзі, там і ён. Казалі, сустрэў ён аднойчы на цвінтары нашага папа, доўга з ім павучонаму гаварыў, евангелле на памяць чытаў, здзекаваўся са святых і так прыпёр айца Сергія, што той ледзь не згадзіўся, што няма бога. Потым перахрысціўся, плюнуў, сказаў: «Вы дьявол в образе человека», падхапіў лахі пад пахі і — ходу. А Ваўчок яму ўслед: «Давайце ў царкве пры народзе паспрачаемся!». Поп толькі крыкнуў: «Изыди, сатана!»

— Кажаце, у вас бальшавіцкая арганізацыя? А праграму бальшавікоў ведаеце? — абвёў усіх поглядам Ваўчок.— Я сачыненні таварыша Леніна ведаю назубок і кожнаму слову веру. Нельга не верыць. Жалезная логіка! Вось — адзіная вера, якая павінна быць у чалавека. А папы — дурні і ашуканцы. Гэты... наш «бацюшка» — цёмны, як бот. Нават свяшчэннага пісання толкам не ведае.

— Праўда, што вы яго ў бязбожнікі адхрысцілі? — спытаўся Андрэй.

Ваўчок хітра засмяяўся.

— Згадзіўся... Але ж яму карміцца трэба і пападзянак гадаваць.

Нічога не ґаворачы, Ваўчок зняў з плячэй брызентавы футарал, дастаў скрыпку, патрэнькаў на струнах, падкруціў калкі, падняў смычок.

— Вось песня ўсім песням. Сачынілі яе французскія рабочыя. Можна, таварыш камандзір? — звярнуўся да Кудрашова.

— Давайце! А мы падпяём. Згодны?

— Зго-о-одны!

Ваўчок кінуў на футарал лямцавую шапачку і зайграў. Кудрашоў прыклаў руку да казырка. Мы, хоць і не ведалі ўсіх слоў, але спявалі ўслед за Ваўчком, Груняй і камандзірам.

Вогнішча дагарала, вуголлі, як інеем, абрасталі белым попелам. Над ракою, над туманным выганам, пад зорным небам спявала скрыпка і нашы не вельмі суладныя галасы.

Дадому ішлі ўсе разам, прыцішаныя і задуменныя. Кудрашоў мне ціха сказаў:

— Не замыкай дзверы... Хутка буду,— і пайшоў услед за Груняй.

## 9

Як толькі выгналі на ранкі каровы, нехта паскробся ў сенцах. У парозе з'явіўся абвешаны торбамі Мікіта. Скінуў шапку, таропка пераэкагнаўся куксаю, але ні маліцца, ні спяваць «лазара» не стаў.

— Ці не ў цябе кватаруе нейкі там падкамандзір? — сурова спыталася ў маці.

— Кватаруе. А хто — бог яго ведае. Кудрашовым завуць.

— Няхай сабе і Кудрашоў. Пабудзі, Ганна.

— Адчапіся, хай спіць чалавек. На табе аладку і ідзі, Мікітка, з богам.

— Аладку аддай унь хлопцу. А таго, як яго, пабудзі.

— От смала! У яго ж за душою ані шэлега. Што ён табе дась? Бяры аладку і ідзі.

— Ну ж і дурная баба! Калі хочаш, я цябе накармлю,— ён патрос торбаю,— і ў поле скварку дам. А ён мне конча трэба. Пабудзі ты, дзіцятка,— папрасіў Мікіта мяне.

За дзвярыма затупалі босыя ногі, дзверы адчыніў заспаны, у споднай кашулі з завязкамі на грудзях і ў галіфэ, кватарант.

— Чаго шуміш, стары?

— Доўга спіш, начальнік. А крумкач да-а-ўно не дрэмле. Ручку табе падбіў, сцеражыся, каб вочы не выдзеўб.

— Што ты плявузгаеш, Мікіта? Не дуры галаву чалавеку,— накінулася маці.

— Разумную галаву не задурыш,— адмахнуўся ён.

— Ну, што трэба? — жорстка спытаўся Кудрашоў.

— Не ты мне, я табе трэба. Хадзем у сенцы — нештачка скажу.

Кудрашоў прапусціў Мікіту наперад і прычыніў дзверы.

— От чмут, ні свет ні зара дурыць людзям галаву. Бач ты! Наеўся! Аладкай пагрэбаваў! Чаго ж тады бадзяешся па хатах? — бурчала маці.

А мне карцела падслухаць, што там Мікіта гаворыць Кудрашову, але падысці да дзвярэй не адважыўся. Праз некалькі хвілін Мікіта ў парозе нацягваў шапку і папраўляў свае кайстры. Каля яго стаяў ужо ў гімнасцёрцы ўзрушаны Кудрашоў, ляпаў яго па плячы і за нешта дзякаваў.

— Дзякаваць будзеш, як упалюеш. А прамахнешся — задзярэ. Кіпцюры ў яго, як у мядзведзя-пярэзімка. Не думай, не Юда я, а на звярыны след сам гасподзь настаўляе. Бывайце здаровы і не гневайцеся. Дзякуй за аладку, Ганна,— хітра ўсміхнуўся Мікіта.

— Чаго ж ты? З'еш гарачанькую,— перакідаючы з далоні на далонь, маці паднесла румяную хрусткую аладку. Мікіта панюхаў і боўтнуў яе ў торбу.

— Няхай бок грэе. Дай бог табе і хлопцу тваіму здароўечка,— ляпнуў дзвярыма і пайшоў.

— Алёшка, памажы, браце, хутчэй памыцца,— заспяшаўся Кудрашоў.

— Што гэты чмут там плёў? — запыталася маці.

— Калі толькі не хлусіць, дык яму ў ногі пакланіцца трэба. Як ён? — Кудрашоў пакруціў пальцам каля вуха.

— На байкі здатны, а каб зманіў, не помню. Не, не, не дурны ён,— пакруціла галавою маці.— Часам скажа, як звяжа, сам Саламон не дапне.

Кудрашоў хуценька сабраўся, пачапіў наган, накінуў шынель.

— З'елі б хоць якую злыбедку. Нашча толькі да споведзі ходзяць.

— Няма калі, хадзяюшка. Тут споведзь з прычасцем будзе...— і выскачыў, не зачыніўшы дзверы.

— Хоць бы, барані божа, гэтага не забілі. На бандзітаў, не іначай, паедуць. Ты ж, сыночак, нікому — ні слоўца, што Мікіта нешта шаптаў. Хай ліха будзе ціха. Наша хата з краю — нічога не знаю. А, можа, і праўда ў лесе мядзведзя падгледзеў салдатам на закрасу ў кацёл.

Я ведаў, што мама пачынае мяне абдурваць, і маўчаў. Яна зноў да некага збіралася жаць, а мне наказвала пільнаваць хату і грады, наабіраць з тычак падсохлай квасолі, прынеслі на падсціл аеру.

«Зраблю ўсё цяпер,— вырашыў я,— і пабягу да хлопцаў на рэчку, бо пасля спасу маці купацца не пусціць, ды і сам не вельмі палезеш. Вада ўжо пацямнела і зранку працінае дрыжыкамі».

Маці яшчэ каля форткі паківала пальцам: «Глядзі ж, не забегайся!» і пайшла, паблісквачы сярпом на плячы.

А я — за лясёнку і хутчэй на выган да забраснелай балацінкі, зарослай чаротам і аерам. Дробная парудзелая траўка дымілася і зіхацела чыстымі кроплямі, апякала ногі колкім халадком, паружавелі выпаласканыя расою пальцы. Трывожна, як перад восенню, крычалі чароды гусей. На грудку побач сядзелі дзядзька Яўхім і Мікіта. Яны даўно таварышавалі. Можа таму, што адзін кульгаў, а другі быў бяспалы, а можа таму, што абодва складна расказвалі байкі, часта ўспаміналі колішнюю маладосць. Мікіта бадзяўся па свеце, усё бачыў, многае чуў і, як толькі вяртаўся ў мястэчка, ішоў да Яўхіма.

— Гэ-э-й,— гукнуў дзядзька Яўхім і паманіў рукою.

Як толькі я падбег, Мікіта замоўк на паўслове.

— Скокні, дзеткі, адвярні маіх гусак ад ракі, бо сплывуць, да вечара не знойдзеш. Скокні, не лянуйся!

Я ні з таго ні з сяго пахваліўся:

— Наш татка скора прыйдзе. Пісьмо прыйшло. Ён у Гомлі ў цiфе качаецца.

— Сам пісаў ці хто за яго? — спытаўся Яўхім.

— Сам, сам. Папраўляецца.

— З бацькам, можа, трохі разжывецеся. Ён у рабоце люты і да граматы здатны. А то затуркалася Ганна саўсім.

— Скажы ты мне, хлопча, фацярант ваш вылежваецца яшчэ ці пабег? — спытаўся Мікіта.

— Паляцеў, як падмецены, следам за вамі.

— Ото добра. Я ж табе, Яўхімка, казаў. Калі хлопцы з галавою — воўка ўпалююць. Можа і не аднаго.

Я перакалаціўся ад сыкання здаравеннага гусака, але ўсё ж адвярнуў Яўхімаву чараду, нарваў аеру і з лясёнкаю пабег дадому. Ношка пахла саладкаватай рачною вільгаццю і тванню, пахруствалі за плячыма белыя карэньчыкі, казыталі шыю тонкія вострыя пёрцы.

Каля нашага двара мне пачулася нейкая гамана, «ноканне», крыкі і смех. Лясёнку перакінуў за брамку і па сваёй вулачцы выбег на шырокую вуліцу, што вяла праз усё мястэчка. Гляну і вачам не паверыў: шасцярык коней, прыпрэжаных да жардзіны, цягнуў пабіты, пашарпаны Тэйхехаў аўтобус. Колы пасплюшчваліся, як старыя галёшы, з бакоў паасыпалася фарба, пярэдняе шкло разбіта ўшчэнт, незачыненыя дзверы целяпаюцца, як перабітае крыло. Коні напінаюць пастронкі і марудна перастаўляюць ногі. На сваім месцы змрочны шафёр трымаецца за чорнае рулявое кола. Балагольскі завадатар Шолам Гільца ляскае пугаю, весела галёкае на коней і ўвесь ззяе злоснаю радасцю. За аблузаны бок аўтобуса трымаецца запылены, брудны, з шэрым тварам Тэйхехе. Ніжняя сківаца з лямцам рэдзенькай барадкі адвісла, вочы ўваліліся, як у нябожчыка. А ззаду і з бакоў, як за дамавінай, ідзе натоўп местачкоўцаў, бягуць дзеці, але ўсе пасміхаюцца, жартуюць. Шолам падміргвае сустрэчным і весела пакрыквае на коней: «Но-о-о, ядры тваю палку, цягні пустую катафал-

ку!» Ён такі, што можа ўсё гаварыць складна, аж качаюцца ўсе, а зачне з каго кпіць — збыту не дасць.

Гляджу і нічога не разумею. Першая думка — напалі бандыты. Відаць, пра гэта Мікіта і казаў Кудрашову. Але ніхто, апрача Тэйхехе, не журыцца і не бядуе. Пасміхаюцца сабе і кепікі строяць. Я да аднаго, да другога: «Як гэта? Хто пабіў?» Пасміхаюцца толькі: «Бог пакараў, каб у другіх хлеб не адбіраў».

На развілку Шолам павярнуўся да гаспадара:

— Ну, ты, камерсант, куды ламачча везці? Дадому ці ў глінішча кінем?

— Ой, а ганэф! Паганяй!

Шолам адчуў сябе, як артыст на плошчы, і далей пацяшаўся:

— Куды паганяй? Па пяску не пацягнуць. Давай на Кавалёўшчыне кінем, унь колькі з бляхі засланак будзе. Я ж табе казаў: збірай лепей караўкі...

Усе кладуцца з рогату. Некаторыя шкадуюць, што ўжо не давядзецца праехаць на «аўтабусе». Насустрач бяжыць доўгая, як тычка, зафлюндраная, распатланая жонка Тэйхехе, ломіць рукі і галосіць, як па нябожчыку, наскаквае на мужа з кулакамі:

— Ну, што? Сара дурная? Камерцыю не разумее? Падушку апошнюю мішугенэр * прадаў. Накатаўся, каб ты жыватом качаўся. Цацкайся цяпер!

Гаспадар адпіхнуў яе дрыготкай рукою, падбег да коней, зацмокаў губамі, закрычаў, і, валюхаючыся з боку на бок, аўтобус папоўз далей. Людзі патроху адсталі і разыходзіліся, але доўга яшчэ прыдумлялі, што было і чаго не было, казалі, што Тэйхехе зарабіў, як Заблоцкі на мыле. Толькі ніхто не спагадаў каравачніку: багатаму ўсё мала. Захацеў балаголаў без хлебааставіць, перахапіць усіх пасажыраў, каб разжыцца яшчэ. От і разжыўся!

Доўга яшчэ пацяшаліся з бяды Тэйхехе, расказвалі, як усё было. Аўтобус у тую раніцу праехаў вярсты чатыры да першага хвойніку пры дарозе і ўваліўся ў глыбокую прыкіданую ламачам і прысыпаную пяском яму. Не паспелі пасажыры адчыніць дзверы, як з хвойніку выскачыла шасцёра мужчын з нажамі і доўгімі каламі. Твары былі пазавязваны анучкамі з дзірачкамі для вачэй. Адны нажамі паролі колы, другія малацілі па вокнах і бляшаных баках, білі па накрыўцы на маторы. Пасажыры лементавалі ад страху, але ніхто не адважваўся выйсці з машыны. Налётчыкі разгойдвалі, каб перакуліць аўтобус, але не падужалі, памалацілі яшчэ палкамі і ўцяклі ў лес.

Тэйхехе вываліўся з машыны, забегаў, нібы кручаны, кулакамі біў сябе па галаве, да крыві выдзіраў валасы з рэдзенькай барады, плакаў і шморгаў носам, як малое дзіця, і крычаў:

— Гвалт! Ратуйце! Бандыты, зладзеі! Гэта Шоламава шайка. Божа, пабі іх перуном!

Шафёр і пасажыры, як умелі, суцяшалі гаспадара, прасілі не крычаць, каб не вярнуліся бандыты.

Неўзабаве загрукалі колы, паказаліся балагольскія буды, нагружаныя бочкамі газы і селядцоў, жалезам і скруткамі краму для «патрабілаўкі». Балаголы драмалі ў передках, толькі на першым возе не спаў Шолам Гіцька — за ім цягнуўся доўгі абоз. Спыніліся, войкалі, бедавалі: «Такую машыну загубілі!», спачувалі няшчаснаму Тэйхехе, а ў вачах, кажуць, палбліскваілі вясёлыя смяшынкі. Адразу ўзяліся дапамагчы: насеклі калоў, падважылі перадок, разам з пасажырамі выкацілі аўтобус з ямы, прыпрэглі коней і так-сяк прывалаклі дадому.

Гаспадар не ведаў, дзякаваць ці праклінаць балаголаў. Ды і ўсе цішком гаварылі, што гэта іх работа, некаторых нават міліцыя цягала на «дазнанне», але не злоўлены — не злодзей. Так і адчапіліся ад балаголаў. Тэйхехе перарабіў аўтобус на грузавік, паездзіў трохі і збыў некаму сваю «бяду», а да мянушкі прыдбаў яшчэ адну — «Тэйхехе-камерсант». Шолам смяяўся яму ў вочы: «Ты цяпер дваранін, нібы той Воўк-Леванові. Разжыўся аж на два прозвішчы. Шанцуе ж людзям!» «Бандзіт-крывапівец!» — стагнаў Тэйхехе і, седзячы на возе з караўкамі, хутчэй паганяў аднавокага коніка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пані Лабацэвічыха памерла на світанні. Заплаканы Захарка абабег суседзяў і расказаў пра сваю бяду.

— Хоць і ваўкаватая была, царства ёй нябеснае, а перад смерцю ўсе роўныя. Трэба памагчы беднаму дзіцяці,— казала маці. Першы раз яна не пайшла на заработкі, а разам з жанкамі выправілася да нябожчыцы.

Зранку захмарыла, па дахах, па лісці барабаніў спорны дождж, у садзе глуха падалі на мокрую траву яблыкі, пераклікаліся пеўні. Фортка, заўсёды замкнутая на зашчапкі і пранты, была адчынена насцеж, і я ўпершыню не праз дзірку ў плоце, не крадучыся і азіраючыся, увайшоў у чысценькі невялічкі двор. У свірне два стальмахі стругалі на дамавіну дошкі. Стружкі пахлі смалою і шкіпінарам, на паліцах стаялі закарэлыя бляшанкі з-пад фарбы, вісеў дзіравы парасон і чорны капялюшык з паркалёвымі запыленымі кветкамі, іржавыя абручы і нейкія транты з фальбонамі.

Усім тут камандавала бабка Паблiянка. Памагала ёй жонка Хадароўскага, прыгожая, схуднелая і маўклівая. Яна хадзіла нячутна, рабіла ўсё непрыкметна, тулялася ад людзей, нібы чым вінаватая, а жанкі глядзелі на яе і шапталіся. Многія прыходзілі, каб паглядзець на пакоі, дзе ніколі не былі, разглядалі выцертыя плюшавыя канапкі, кафлевую грубку, запыленыя сурвэтачкі, размаляваных фарфоравых анёлачкаў і пастушкоў.

Сівая сухенькая пані ў чорнай сукенцы і ў карункавым шаліку на галаве ляжала на стале. На сцяне ў зашклёнай раме вісеў вялікі партрэт маладога мужчыны з маленькімі вусікамі, у белым стаячым каўнерыку з чорным гальштукам. Жанкі сядзелі на гнуткіх крэслах і гаварылі пра свае будзённыя справы. Як толькі я ўвайшоў, маці цыкнула на мяне:

— Марш адсюль! Няма чаго на нябожчыцу глядзець! Яшчэ сніцца будзе.

Захарка смыкнуў мяне за рукаў, і мы з ім выйшлі ў вузенькі цёмны калідорчык, застаўлены вялізнымі куфрамі. Тут я пачуў, як нейкая жанчына сказала:

— Гляньце, бабы, а хлопец выліты Стэфан,— і паказала на партрэт.

— Адумалася калі! Толькі ён адзін, небарака, і не ведае, што гэта яго бацька. Хіба б нябожчыца трымала чужое дзіця? — пазнаў я голас Паблiянкі.

— Яно, беднае, з пялёнак парабкавала на яе. Высахла, нібы той кажан.

Захарка, як падсмалены, выскачыў з калідорчыка, а я схаваўся за куфар, каб паслухаць яшчэ.

* Мішугенэр (яўр.) — вар'ят.

— Маці ж яго, Лізавета, за пакаёўку служыла, а як радзіла хлопца, пані яе з свету зжывала, а пускаць не пускала, пакуль хадзіць і гаварыць не навучыўся. Тады хлопца, нібыта з літасці, узяла сабе, а Лізавету справавадзіла. Яна і цяпер у горадзе ў нейкага данціста нянькаю служыць,— расказвала бабка Пабліянка.— Я ж яго першы раз абмывала і пелянала. Тады мне Лізавета і прызналася.

— Трэба ж, каб яна хоць цяпер прыехала,— сказала маці,— ды які-небудзь парадак дала.

— З воласці ёй адбілі тэлеграму. Мажа, прыедзе. Тады і скажам старшыню і камісару, каб усё на іх апісалі. Форменны ж наследнік!— тлумачыла Пабліянка.— Іншых няма. А гэты прашчалыга з вусікамі недзе з палякамі звалокся і хвастом накрыўся.

Я на дыбачках выйшаў у двор. Аж горача зрабілася ад такой навіны, бо ўпершыню зразумеў, што ў дарослых ёсць нейкія тайны, пра якія раней і не здагадваўся. Таямніцаю сталі Глінь і Хадароўскі: на прыгожага гладкага чалавека з блішчастым веласіпедам мы глядзелі з зайздрасцю, казалі, што ён адважны бальшавіцкі матрос, а як толькі ўцёк, чаго толькі не выдумлялі. Цяпер я глядзеў на яго ціхую жонку і думаў: «Колькі яна ведае, пра што ніхто і не здагадваецца!» Свет для мяне паварочваўся іншым бокам. Я пачынаў разумець, што ўсяму патаемнаму — нядобраму і цёмнаму — рана ці позна прыходзіць канец.

Але ж дзе Захарка?

Я зазірнуў у свіронак. Стальмахі збівалі вечка і засцілалі дамавіну свежымі адсырэлымі стружкамі. Зазірнуў пад павець — і там Захаркі не было.

Дождж лапатаў па гарбузніку і агурэчніку, чырванабокія яблыкі зіхацелі буйнымі кроплямі, у лужыне пасярод двара плылі і лопаліся бурбалкі, патыхала мокрай травою, стружкамі, гаркаватымі настурцыямі, што раслі ўздоўж падмуроўкі.

Захарка сядзеў у альтанцы, нізка звесіўшы вушастую галаву. Я няўмела спрабаваў яго суцешыць. А ён заходзіўся ад плачу.

— Што яны там плявузгаюць? Не трэба мне ніякага бацькі. Нікога не трэба. Кіну-рыну ўсё, наймуся на хутар у падпасычы і як-небудзь пераб'юся.

— Што ты кажаш? Якія падпасычы? Скора ж зіма. Куды ты дзенешся? Прыедзе маці, і дом, сад — усё будзе ваша. Не плач, Захарка! Жанкі кажуць, што ўсё апішуць табе.

Труну вёз валасны конь. Следам ішло некалькі жанчын і мужчыны, нанятыя хаваць пані Лабацэвічыху. Хавалі без ксяндза і папа: ксяндза не было, а поп не згадзіўся адпяваць каталічку. Па вечку барабаніў і цуркамі сцякаў дождж. Конь пацепваў шкураю і атрасаўся ад макраты. Сустрэчныя здымалі шапкі і хрысціліся. Нейкая жанчына пастаяла, паглядзела і голасна сказала:

— Жыла без людзей і на той свет адна выпраўляецца. І пашкадаваць няма за што.

Толькі Захарка шморгаў носам і выціраў капелюшом змакрэлы твар.

На кладках жанкі дробна хрысціліся, бабка Пабліянка прагаварыла нейкую малітву, загрукалі камякі мокрай зямлі. Адзін Захарка плакаў наўзрыд. Яго суцяшала бабка Пабліянка:

— Не плач, дзеткі! Адмучылася пані, і ты адпакутаваў. Цяпер з маткаю зажывяце. Хоць людзей баяцца не будзеш.

Калі вярталіся з могілак, дождж сціх, засінелі праталіны ў небе,



весела крычалі пеўні, з лісця зрываліся буйныя кроплі. Захарка папрасіў маму, каб пусціла мяне пабыць з ім да вечара.

— Няхай пагуляе. Хоць у лужах пялёскацца не будзе.

У цьмяных пакоях, здавалася, з кожнага кута пазіраюць запалыя вадзяністыя вочы нябожчыцы, але столькі было тут нябачанага і цікавага: паточаныя шашалем шафы, выцертыя плюшавыя крэслы, запыленыя фарфоравыя анёлчыкі, тоўстыя кнігі з пазалочанымі абрэзамі і зашчапкамі я бачыў упершыню. Кватарантка паставіла нам на кухні талерку крутой прасянай кашы і патэльню печаных яблыкаў, пагладзіла Захарку па стрыжанай галаве:

— Еш, сірацінка, ты ж так высах за гэтыя дні. Як-небудзь будзем гараваць з табою.

Села насупраць, падпёрла зграбнаю ручкаю шчаку і глядзела, як мы апаражняем талерку і патэльню.

Бразнула фортка, на ганку затупалі боты. Жанчына ўскочыла і адразу спалатнела, потым зноў села і прыкусіла збялелую губу. У дзверы пастукалі. Яна, задыхаючыся, адказала: «Заходзьце».

У пакой увайшлі старшыня валрэўкома, нетаропкі, даўно не голены Мазалеўскі і малады, у рыпучай хромавай скуранцы, камісар Павел Зубарэвіч. Павітаўшыся, старшыня запытаўся:

— Хто ж тут за гаспадара цяпер?

Мы маўчалі.

— Выходзіць, гаспадара няма,— гучна загаварыў Зубарэвіч.— Паглядзім, што тут за маёнтак.

Яны пераходзілі з пакойчыка ў пакой, ад іх постацяў яны здаваліся яснейшымі і ніжэйшымі.

— А казалі — па-а-ні. Адно ламачча і транты. І дом на склеп падобны. А ты, хлопец, кім ёй даводзішся? — пытаўся Зубарэвіч. Захарка маўчаў.— Што, цяляты язык аджавалі? Гавары, не бойся.

— Нікім. Гадаваўся ў пані, а маці па людзях служыць і даўно не была.

— Хутка будзе. Адбілі ёй тэлеграму. А гэта хто? — камісар паказаў на партрэт.

— Стэфан. Панін сын. Ён за доктара недзе ў Польшчы.

— Ану, стань сюды,— Мазалеўскі падвёў Захарку да сцяны, на якой вісеў партрэт. А Зубарэвіч на акне ўбачыў кіяшыну, высмыкнуў з рудога кутаса шчопаць валасінак і прыклаў іх да верхняй Захаркавай губы.

— Патрымай, браце.

Захарка паслухмяна прыціснуў пальцам кіяшную поўсць і залыпаў ад здзіўлення вачамі.

— Ну, як, таварыш старшыня?

— Падобны, падобны!

— Па-мойму, копія. Як вы лічыце, грамадзяначка? — звярнуўся ён да Хадароўшчыхі, якая моўчкі стаяла каля вушака, і кіўнуў рукою на партрэт і на Захарку.

— Як дзве кроплі вады. Я даўно прыкмеціла гэта,— ціха адказала яна.— Аднойчы адважылася спытацца ў пані пра гэтае падабенства. Яна ўжо нядужая была, перахрысцілася і прастагнала: «Грэх, грэх, галубанька». А болей нічога не сказала.

— Вось што, хлопец, не бядуй. Заўтра, мабыць, прыедзе маці, прапусцім справу цераз суд і запішам на цябе ўсю дзвіжымасць і нядзвіжымасць.

— За што ў суд? Я ж нічога...— спалохаўся Захарка.

— Дзівак-чалавек. Суд прызнае, што ты законны наследнік. Па-

куль малы, маці будзе апекуном, а вырасцеш — сам сабе гаспадар,— тлумачыў Зубарэвіч.— Глядзі, каб ніводная парушына не прапала. Заўтра прыйдзе чалавек з воласці, апіша ўсё, а ты пільнуй, пакуль суд да дзела.

Захарка кінуў свае «вусы» і кіўнуў галавою. Следам за старшынёй і камісарам выйшла кватарантка.

— А што мне рабіць, скажыце, калі ласка? Ехаць да маці не даваляюць. Тут жыць не магу — усе глядзяць, як на воўка. У чайную ніхто не ходзіць, а перабівацца ж неяк трэба. Чым я вінаватая і што нарабіў мой... ну, Хадароўскі?

— На вашы пытанні могуць адказаць начальнік міліцыі таварыш Буднік і камандзір разведкі атрада,— і памаўчаўшы, Зубарэвіч запытаўся: — Вы ж ведалі, што Хадароўскі — не Хадароўскі, што ён зусім не той, кім прыкідваўся?

Жанчына аж пахіснулася і ледзь чутна спыталася:

— Гэт-т-а праўда?

— І наша віна, што паверылі. Вы даўно з ім знаёмыя?

— З каляд... Пашкадавала паранenага матроса. Ведама, бабскае сэрца, што воск. Так і сышліся. Спярша ён чулы і ласкавы быў, а потым... потым нешта нядобрае рабілася з ім: начамі ўскокваў, некуды хадзіў, спаў заўсёды з наганам пад падушкай, часта на мне зрываў злосць...

Зубарэвіч загаварыў лагодней:

— Разбяруцца. Калі праўду кажаце, — усё добра будзе. А пакуль прыгледзьце за хлопцам,— казырнуў, і абодва выйшлі з двара.

Жанчына яшчэ пастаяла каля вушака і хістка пайшла ў свой пакойчык. Было чуваць, як яна плача.

## 10

Вечарамі на вуліцах рыпелі вазы, марудна тупалі коні, за калясьмі курыўся і павольна асядаў пыл — звозілі з поля снапы. Змоўклі жніўныя песні, счарнеў і абвяў бульбоўнік, у нізінах слаліся і патыхалі халадком туманы. Трывожна крычалі і ўзнімаліся ў лёт гусі, пабляклыя прасторы засцілала халаднавата-сіняя смуга, на таполях дрыжалі і ўсё часцей ападалі парудзелыя лісты. Блізка была восень.

Мы ўжо не збіраліся ў ксяндзовым доме: у высаджаных вокнах свісталі скразнякі, з падлогі цягнула холадам, было няўтульна і пуста. Прыходзілі на плошчу, каля магілы Князева і Смірнова станавіліся ў дзве шарэнгі, аддавалі салют. А Груня з маленькай зялёненькай кніжачкі чытала «Законы юных піянераў», расказвала пра таварыша Леніна і правадыроў рэвалюцыі, паказвала маленькія партрэцікі ўсіх наркомаў.

На збор разам з Оляю, Фроняю, Нінаю і Эйдляю прыйшлі дзве сястрычкі — Маля і Ліля, па-святочнаму чысценькія і дагледжаныя. Мы касавурыліся на іх: яны ж былі «чужыя», «нэпманскія», нядаўна гулялі ў варожым нам Гогавым войску. А цяпер «падлізваліся» да Олі, скакалі з ёю ў класы, бегалі ў «даганялкі», разам хадзілі на рэчку. Усім хацелася сябраваць з навенькай наезджаю, слухаць, як яна расказвае пра далёкія гарады, пра цягнікі. Фроня нават запомніла некалькі латышскіх слоў і задавалася, што іх з Оляю ніхто не разумее.

Маля з Ліляю стаялі збоку, бо не былі запісаны ў атрад, і з зайздрасцю пазіралі на нас. Лаўрэн сыкаў на іх:

— Апсік адсюль, буржуяняты! Ідзіце да сваёй хэўры!



Сёстры вінавата адыходзіліся ўбок, слухалі нашы песні, дружнае «заўжды гатоў!». Хадзілі ўслед, калі мы маршыравалі на вуліцы.

— Таварыш Кудрашоў яшчэ прыйдзе да нас? — дапытваліся хлопцы ў Груні.

— Як толькі вернецца, прыйдзе,— адказвала яна.

— А калі ён вернецца?

— Пакуль невядома. Можа, Алёшка скажа? — паглядзела на мяне Груня. Я толькі круціў галавою і пацепваў плячыма.

— Чацвёрты дзень няма. А калі будзе, не казаў.

Мабыць, каб не Кудрашоў, наўрад ці запісваліся б так дружна ў атрад і мы. Як тут не запішашся, калі напраўдашні камандзір бярэцца намі камандаваць! Хоць у вайну мы ўжо не гулялі, не таўкліся з Гогавай хэўрай, але на зборы ішлі ахвотна, слухалі, што расказвалі Кудрашоў і Груня, хадзілі за імі з песнямі па вуліцах, радыя, што іншыя глядзяць і зайздросцяць нам.

— Навошта ты з імі валаводзішся? — спытаўся я ў Олі, кіўком паказваючы на сясцёр.

— А чаму не? Мы з Ліляю ў адзін клас будзем хадзіць. Яны мне цікавыя кніжкі даюць і расказваюць пра ўсё.

— Багатыя з намі не гуляюць... А мы з імі...— буркнуў я, толькі каб нешта сказаць, бо сам бачыў: дзяўчынкі крамніка, які прадае бабам паркаль і мультан,— ціхія, добрыя і нейкія баязлівыя. Мне хацелася, каб Оля гуляла са мною, каб разам хадзіла склікаць хлопцаў на зборы, хацелася зрабіць ёй нешта добрае, але што, не ведаў. Я часта думаў пра яе, цікаваў, каб сустрэць на вуліцы, але яна заўсёды хадзіла з сяброўкамі ці з мамай. Таму пазіраў здалёк, а падысці не адважваўся, ды і баяўся, што хлопцы будуць дражніць «дзяўчуром». І гаварыць мне не было пра што: кніжак не чытаў, ды і завядзёнкі ў нас такой не было — здавалася, чытае той, каму няма чаго рабіць. Мы ж заўсёды былі нечым занятыя, хоць больш за ўсё гарцавалі па выгане, па вале, купаліся да сініх дрыжыкаў.

З Оляю нам было ў адну дарогу. Яна ішла з Эйдляю, а я назіркам — за імі. Калі звярнулі за рог, азірнуўся, дагнаў і моўчкі пайшоў побач. Яна паглядзела на мяне, усміхнулася і спыталася:

— А ты ў які клас пойдзеш?

— Можа, у пяты,— няпэўна адказаў я і растлумачыў: — Пад канец зімы чобаты спаліў і праседзеў на печы, пакуль не падсохла. Прапусціў многа, дык восенню трэба арыфметыку здаваць. А не вытрымаю — назад у чацвёрты адсадзяць.

— Навошта ж ты паліў чобаты? Каб у школу не хадзіць?

— Не-е-е! На каньку па канаве коўзаўся, а сонца лёд папралізвала. Я і шуснуў да самай папружкі. Прыбег дадому, ваду з ботаў павыліваў, прыставіў да засланкі сушыцца. А сам — на печ, каб ногі трохі адышлі. Прыгрэўся і задрамаў. Увайшла маці, чуе — паленым смярдзіць і дыму поўна. Падскочыла да прыпечка, а чобаты ў ямку з жарам спаўзлі і ад іх толькі от такенечкія халяўкі асталіся. Адхвастала трапкачом, а ботаў усё роўна няма. Так да вясны праседзеў на печы. Прыйшоў у клас, а яны ўжо дробы прайшлі. Простыя ведаю, а дзесятковыя не даюцца.— Я паглядзеў на дзяўчынак і не ведаў, чаго ім так смешна.

— Задачнік у цябе хоць ёсць? — спыталася Оля.

— Недзе быў.

— Заўтра прыходзь на наш ганак, я табе пакажу. Ты ж чуў, што ў «Законах» напісана: «Усе за аднаго, адзін за ўсіх». Пастараешся — нагоніш.

Оля з Эйдляй аддалі мне салют, узяліся за рукі і пабеглі ў свой двор.

Дома я знайшоў задачнік і няспісаны сшытак з цубкай жоўтай паперы, прымасціўся на падваконніку і паспрабаваў рашаць прыклады. Адказы выходзілі не такія, як у канцы кніжкі. Пачаў вучыць правілы і рашаць зноў, каб часам не падумала Оля, што я такое боўдзіла. Сам не ведаю, але хацелася ёй здавацца лепшым і разумнейшым. А дробы ніяк не даваліся.

Маці глянула і аж пляснула рукамі:

— А вой-вой, нешта ў лесе здохла! Сам за кніжкі ўзяўся! Трэба ж папрасіць, каб якія галоўкі да тваіх агаркаў прышылі. Пашукай, сынок, на печы тыя халяўкі. Заўтра да шаўца сходзім. Можа, да школы і зробіць.

Я знайшоў пад лучынаю парудзелыя, з палатнянымі вушкамі і абгарэлымі канцамі халяўкі, выцер аб штонікі і паклаў на лаву.

Халодны чырвоны прамень павольна споўз з бэлькі і пагас. Хату засціла ў змрок. Не запальваючы лямпы, маці сядзела на нізенькім зэдліку і абірала на вячэру бульбу. Яна раз-пораз боўтала ў маленькі закураны чыгунок. За печчу затрашчаў цвыркун, чэкалі ходзікі з іржавым замкам замест гіркі на ланцужку.

Дзверы шырока расчыніліся, і з парога весела павітаўся Кудрашоў. Кінуў шынель на лаву, расшпіліў рамяні, што перакрыжоўвалі плечы. Я падбег памагчы, але яго забінтаваная рука ўжо ўпраўлялася сама. Маці запаліла лямпу, паставіла на прыпечку чыгунок на трыногу. Затрашчала сухая лучына і заліла хату вясёлым хісткім полымем.

Боты і штаны на Кудрашове былі ў камяках закарэлай багны, шынель у ваўчках дзядоўніку, твар стомлены і запырсканы гразёю, але свяціўся вясёлай усмешкай.

— А я ўжо ў нядзелю хацела вас у царкве памінаць,— ні то сур'ёзна, ні то жартам сказала мама.

— Мы, хадзяюшка, жывучыя, і памінаць яшчэ рана. А па бандытах хутарскія ваўкалакі ўжо, відаць, не адну свечку паставілі.

— Няўжо злавілі іх?

— Адбегаўся Падаляка. Вунь, як падла, пад воласцю валяецца. Ну ж і павадзіў ён нас! Хадзем, Аляксей, памыемся, тады раскажу.

Я выскачыў следам, паліваў з вялікага мядзянага карца на рукі, на шыю, а Кудрашоў гучна фыркаў і крактаў, змываючы пыл і гразь з пацямнелага завостранага твару.

— Дзе ж вы яго знайшлі? — дапытваўся я, а ён толькі фыркаў і крактаў ад задавальнення.

На стале ўжо стаяў вялікі паліваны кубак сырадою, ляжала луста хлеба і вараныя кіяшыны. На прыпечку пабулькквала бульба.

— Пакуль зварыцца, перакусіце, а то перапалі саўсім.

— От дзякую. І праўда, жывот да паясніцы прысох.

Ён прагна грыз кіяшыну, водзячы з канца ў канец, як губны гармонік, кусаў хлеб і запіваў малаком. Мы з мамаю паселі за стол, чакаючы, што ён раскажа. Падабраўшы і ўсыпаўшы крошкі ў рот, Кудрашоў загаварыў:

— У Гаць мы ехалі хмызнякамі і пералескамі. Коней схавалі ў густым ельніку. Трое з нас адзеліся ў світкі і лапці і разышліся хто «шукаць жарабя», хто — «карову, што адбілася ад чарады». Дапыталіся ў пастушкоў, як дайсці да хутара Пржыбыльскіх. А хутар той — астравок сярод дрыгвы і твані. Куп'е тоненькімі бярозкамі зарасло, асака пажоўклая шуміць. Толькі ў добрыя маразы выехаць адтуль можна. Але хлапчукі казалі, недзе сцежка з кладкамі ёсць. Пад'ехалі да балота — не падступіцца, ступіш — ногі ў твані храснуць, а дрыгва наўкол надзімаецца і булькае. «Ну, думаю, і пажартаваў з нас гэты Мікіта». А на хутары хата відаць, дым з коміна ідзе, калодзежны журавель то апускаецца, то задзіраецца ўгору. Днём цікуем з хмызняку, бачым: дзве жанкі на сабе снапы ў свіран цягаюць, зарослы барадаты мужчына бервяно чэша. А больш нікога. У бінокль яно добра відаць. Аж гляджу, з вышак па драбінах злазіць чалавек у паласатай цяльняшцы, без шапкі. Прыглядзеўся: ён, Хадароўскі. Ну, думаю, усё, цяпер нідзе не дзенешся. Нарэшце ноччу намацалі сцежачку — там-сям кладкі кінуты. Пабралі вінтоўкі, гранаты і папаўзлі. Прытаіліся ў хмызняку, слухаем. Непадалёк кігікае сава, драч заходзіцца. Бачым, выйшаў нехта з хаты ў адных споднiках і чэша ў лазеньку. Капцілка замігала. Мы — паўзком, паўзком. Адзін каля дзвярэй, другі пад акенцам пасталі. Чуем, вадой пялёскае і венікам хвошчацца. Астатнія да хаты пачалі падкрадацца і акружаць яе, а там — от такая, з добрае цяля, ваўкарэзіна на ланцугу як кінецца, як забрэша! Мы яму кінулі кавалак сала, закручаны ў анучу і вяроўкаю перавязаны. Чуем — бурчыць, дзярэ лапамі. Паварушымся — зноў на дыбкі.

Запахла прыгарэлаю бульбай. Маці кінулася да прыпечка, зняла, адцадзіла чыгунок, паставіла на стол міску пераваранай, з гарэлікамі, бульбы і талерку, поўную дрыготкіх грудак кіслага малака.

— Няхай трохі ачахне,— падперла рукою шчаку і ў чаканні паглядзела на Кудрашова.

— На ганак выскачыў чалавек з вінтоўкаю ды як раўне: «Стой! Хто там?» Нас ён упоцемку не бачыць, а на самога святло з акна падае. «Здавайся!» — крычу. Ён змікіціў і ходу за хату. Далі залп угору, а ён бяжыць і адстрэльваецца на хаду. Мы за ім. Чуем — трашчаць кусты. Значыць, уцякае к балоту і здавацца не думае. На сцежцы заляглі нашы, дык ён ускочыў у твань і страляе. Шарахнулі па ім з шасці ствалоў. Ціха. Думаем, прытаіўся, хоча бліжэй падпусціць. Падпаўзлі. Яшчэ раз загадваю здавацца. Маўчыць. А па кім страляем, ліха яго ведае. Але ж добры чалавек адстрэльвацца і ўцякаць не будзе. Раз тут Хадароўскі — значыць, і другі з яго кампаніі, а дзе каторы — пакуль не разбярэм. На тое шчасце з-за лесу выкаціўся вялікі чырвоны месяц. Чакаем, пакуль нам пасвеціць. Ціха. Толькі сабака дзярэцца, як ашалелы. Запаўзлі ў кусты, нехта ніцма ляжыць на купіне і храпе. Мы бліжэй, бачым, ужо не стрэліць. Пакінулі трох чалавек вартаваць, а самі бягом да лазні. Гляджу — дзверы падпертыя калком, на ім сядзіць наш Чубараў і курыць, другі штыхом загарадзіў акенца. Зайсці ў цёмную лазню боязна — ліха яго ведае, чым можа стукнуць. Загадваю выходзіць. Маўчыць. Думаю — ці не ўдавіўся ён там? Не хацелася прывозіць двух нябожчыкаў. Яны ўжо нічога не скажуць, і судзіць не будзе каго.

Бульба ў місе астыла, але есці не хацелася, пакуль Кудрашоў не кончыць расказваць. І ён яшчэ не астыў ад нядаўніх трывог, нібыта зноў перажываў тую ноч на балотным хутары.

— Тады я насцеж расчыніў дзверы. З іх паваліла бярозавая пара, дыхнула адсырэлаю сажаю і дымам. «Выходзь!» — загадваю, аж рэха пакацілася над затуманеным балотам. Хлопцаў папярэдзіў — страляць толькі ў крайнім выпадку і пераступіў парог. Насустрач шусь ражка кіпетню — ледзьве адскочыў. Бразнула качарга, але нізкая столь не давала размахнуцца, ён толькі круціў ёй перад сабою. Праз вузенькае акенца цадзілася блакітнае святло месяца, і я заўважыў на

перакрыўленым твары адчай і страх. «Калі хочаш жыць, па камандзе «тры» — выходзь!» — і наставіў наган. Качарга бразнулася на падлогу. Мокры, распатланы, у адных споднiках, хістаючыся, як п'яны, ён выйшаў на двор і падняў рукі. Скіголіць зубамі і лаецца, як п'яны шавец. Прывялі ў хату, загадалі апрануцца. Гаспадыня галасіла, ламала рукі і клялася, што гэтыя ўдвох сілком аб'ядалі і апівалі, рабілі, што хацелі, і нікога не выпускалі з хутара. Кудлаты дзед панура ківаў галавою і бажыўся, што баба гаворыць праўду.

Раніцою вывалаклі з багны нежывога Падаляка. Ну ж і здаровы бугай! На радне сяк-так перацягнулі на гала. Па кладках перавялі Хадароўскага. І вось толькі цяпер прыпляліся. Адзін ляжыць пад валасцю, другі сядзіць у кутузцы. З бандытамі, хадзяюшка, кончана. Цяпер можна спакойна жыць. Эх, такая бульба стыне!

Кудрашоў зачэрпнуў лыжку кіслага малака, узяў з прыпаленым бачком бульбіну. Пацягнуліся да міскі і мы з мамаю.

— Ну, а чаго гэты Хадароўскі туляўся? Што яму адходзіла? Такі відны мужчына, здаецца, і вока нікому не запарушыў, і яна далікатная, ціхая,— пацікавілася маці.

— О-о, гэта хітры ваўкалак! — сёрбаючы малако, адказаў Кудрашоў.— І не Хадароўскі ён, а царскі афіцэр Кучумаў. Матроса Хадароўскага забіў два гады назад і жыў па яго дакументах. З бандамі цягаўся каля Мазыра і Чарнігава. Галаварэзы яго ў лесе, а сам у мястэчках і ў гарадках жыў, усё бачыў і ведаў. Праз пасыльных раказваў, каго забіць, каго спаліць, паведамляў, калі на аблаву выязджаюць. І тут усё рабілася па яго камандзе. У чайной усякі народ збіраецца, і бандыты туды заходзілі. Падгледзеў ён, як гэты самы дурань Глінь у п'янага шляхціча кашалёк з грашыма свіснуў. Запалохаў, што аддасць пад суд, калі той не паслухаецца яго, і загадаў падпаліць гумно. Той падпаліў адно і паліў, пакуль не папаўся. А гэты спалохаўся і даў драла. Мы думалі, што падасца на станцыю. Цікавалі яго там — няма. А ён хацеў перасядзець, пакуль усё ацiхне, і лупянуць за граніцу. Аж трасцу — папаўся. Цяпер усё, хадзяюшка... Відаць, і нам хутка збірацца ў дарогу. Шкода толькі, што пакідаем тут двух лепшых таварышаў. Не забывайце хоць магілкі іхныя. Даглядай іх з хлопцамі, Алёшка.

Маці ражком хусткі выцерла слязу, а я толькі кіўнуў галавою. У лямпе нагарэў кнот і закурэла шкло. Пара было класціся. Але дзе тут заснеш? Толькі заплюшчу вочы — і бачу адзінокі хутар на балотнай выспе, чую, як хлюпае па дрыгве Падаляк, грымяць стрэлы, у лазні адбіваецца качаргою Хадароўскі. Усё расказанае Кудрашовым ажывае, нібы ўбачанае ўвачавідкі. Здаецца, і я бягу следам, страляю з сапраўднай вінтоўкі, грузáю ў балотнай твані, нешта крычу, але гукі асядаюць у горле, толькі хаўкаю губамі, як рыбіна на пяску. І ўсю ноч сніцца адзінокі хутар, страляніна, страшныя пачвары з ашчэранымі ікламі і зялёнымі вачамі. Можа гэта не сон, а нейкае жудаснае трызненне?

Назаўтра была вільготная туманная раніца. Пясок за ноч адсырэў, наліпаў на падэшвы, халадком праціnaў босыя ногі, з лістоў скочваліся буйныя кроплі расы.

На валасным двары было людна: зойдуць, паглядзяць і адыходзяць, плюючыся ад грэблівасці. А той, хто яшчэ ўчора наводзіў страх на ўсё наваколле, з прысохлымі камякамі твані на адзежы, распатланы, смяротна пажоўклы, ляжаў каля валасной сцяны, ужо не страшны, а толькі агідны.





Я пратачыўся паміж дарослых, зірнуў і адвярнуўся, убачыўшы жоўтыя зубы, скрыўлены рот і глыбокія рудыя воспіны на разбрынялым твары. Мяне смыкнулі ззаду за рукаў. Азірнуўся, убачыў Олю і разгубіўся: аддаць салют ці проста прывітацца? А яна ўсміхнулася, пастрасянула кудзеркамі на галаве.

— Няма на што глядзець. Хадзем адсюль.

Мы адышліся.

— Бяры задачнік і сшыткі і прыходзь да нас на ганак. Пара займацца, а то астанешся на другі год.

Я моўчкі разглядаў Олю. На ёй была чырвоная ў чорную клетку кофта, не вельмі новыя, але зграбныя чаравічкі на гузіках, парасончыкам раздзімалася кароткая спаднічка. Такіх у нас не насілі. Таму Оля выглядала нетутэйшаю і прыгажэйшаю за сваіх равесніц. Мы сталі воддаль і пазіралі, як падыходзілі людзі, спыняліся за некалькі крокаў ад забітага Падаляка.

— Ну і разбрыняў гад на людской крыві!

— Гэта ж трэба, столькі гора нарабіць!

— Каб твая душачка ў смале кіпела...

— Адкуль у звера тая душа? — перагаворваліся местачкоўцы.

У двор увайшоў абвешаны торбамі, у лапленай-пералапленай шарачковай свіце Мікіта, пад пахаю ў яго быў востра заструганы кій. Пастаяў, паківаў галавою, нібы некага папракаючы, бліснуў чорнымі вугельчыкамі вачэй.

— Што, адбегаўся, воўчае мяса? Га? Каб ты да сканчэння свету з пекла ў пекла бегаў гарачыя патэльні лізаць,— і, павярнуўшыся да чырвонаармейцаў, сказаў: — Салдацікі, закопваць будзеце гэтую падлу, дык вось вам асінавы калок. Забіць, каб не вылез, барані божа,— паставіў у галавах кій, плюнуў і адышоўся ўбок.

Толькі я ведаў, што Мікіта высачыў бандыцкае лагло і сказаў Кудрашову, дзе іх шукаць. Пра гэта шэптам сказаў Олі. Яна насупілася і злосна зіркнула на мяне:

— Навучыся трымаць язык за зубамі і болей нікому не пляўзгай.

Я збянтэжыўся і залепятаў:

— Я ж нікому. Толькі табе.

Яна мяне пацягнула за руку:

— Хадзем. Няма чаго тут аціраццa.

Пад закратаваным акенцам валасной «цёмнай» стаяў з вінтоўкаю вартавы. Там, відаць, сядзеў Хадароўскі. Здавалася, цяпер ён не такі, як тады, калі ездзіў на бліскучым веласіпедзе і ветліва ўсміхаўся кожнаму, хто заходзіў у чайную. Так заўсёды: жыве чалавек, і ніхто яго не прыкмячае — ат, чалавек, як чалавек. Варта яму ўкрасці ў суседа ягня, зламаць руку або пабіцца на базары, як усе адразу бягуць паглядзець, адцягваюць адзін аднаго — «дай зірнуць», «не замінай, хоць глянуць, што за ён», тыцкаюць на яго пальцамі на вуліцы. Так цяпер хацелася паглядзець на Хадароўскага. Дзіва што: так перакруціўся чалавек. Усе лічылі параненым матросам, а тут на́ табе — бандыт, галаварэз і прозвішча нейкае страшнае — Кучумаў. Не раўнуючы — чума. А ці прыйдзе да яго тая прыгожая маладзіца, што ўсё яшчэ жыве ў Лабацэвічыным доме? Там яны цяпер упраўляюцца ўдзвюх з Захаркаваю мамаю.

Прыехала яна на другі дзень пасля пахавання, ладная, чыстая, у жакетачцы, відаць, з гаспадынінага пляча, у боціках з высокімі халяўкамі. Захарка адразу схаваўся, не пазнаў і доўга баяўся падступіцца. А яна плакала і ўгаворвала: «Не бойся, сыночак, я ж твая мамка!» Бедавала: «Які ж ты сухенькі, адны костачкі, а дзіцятка маё-ё-ё!» — і залівалася слязьмі. Разам з кватаранткаю паадчынялі вокны, змывалі з шыбаў закарэлы пыл, шаравалі падлогу,ператрасалі пажоўклую і адсырэлую паніну старызну, выносілі на вецер паточаныя шашалем куфры. Захарка памагаў ім, і ўсё подбежкам, абы ўправіцца і дагадзіць. Паружавеў, пакруглеў з твару і хлопцаў ужо не абмінаў. А мы з ім шасталі па садзе, храбусталі яблыкі, ды яшчэ Захарка мне поўную пазуху накладаў.

Пакуль усё гэта круцілася ў галаве, Оля зноў смыкнула за рукаў:

— Ты што, аглух? Бяжы хутчэй па задачнік,— павярнулася і пайшла да свайго дома, а я глядзеў услед, і толькі калі яна азірнулася, пабег да свае хаты.

— І цябе панесла нялёгкая на гэтае пудзіла глядзець, а цяпер будзе ўсю ноч сніцца страшыдла,— сустрэла мяне маці ў двары.

— Цяпер ён саусім не страшны, толькі гідкі,— апраўдваўся я, ускочыў у хату, ухапіў задачнік і недапісаны сшытак.

— Куды гэта зноў ляціш?

Я, нібыта пропуск, паказаў падручнік і выскачыў з двара. Туман сплываў лёгкімі аблачынкамі, падсыхаў пясок пад праменнямі бледнага, не вельмі гарачага сонца. Высокія, з тоўстаю парэпанаю карою таполі ледзьве чутна шумелі, там-сям трымцелі адзінокія пажоўклыя лісты. У паветры пахла блізкай восенню і рабілася трошачкі сумна. Я спяшаўся, бо чакала Оля.

Яна сядзела на высокім ганку, падкурчыўшы ногі, і чыркала грыфелем па чорнай дошцы. Я спыніўся насупраць.

— Садзіся і паказвай, што ўмееш, чаго не ведаеш,— сказала яна, акурат, як настаўніца.

— Дзесятковыя дробы... у мяне не выходзяць. Прапусціў, калі іх праходзілі.

— А простыя ведаеш?

— Трохі... Калі не забыўся за лета...

Яна падала мне грыфель і дошку.

— Пішы.

Тонкі грыфель круціўся ў не вельмі гнуткіх пальцах. Оля, прыплюшчыўшы вочы, пазірала ўгору, нібыта там нешта бачыла.

— Так, так, так... Пішы... нуль цэлых дзве дзесятых прыбавіць нуль цэлых дваццаць пяць сотых. Запісаў? Ну, колькі будзе?

Я для прыкляпу варушыў губамі, нешта мармытаў, чыркаў грыфелем па дошцы, а колькі будзе — так і не ведаў. Яна цярпліва гартала задачнік і скоса паглядала на дошчачку.

— Што ж ты напісаў? Га?

Я паўтарыў прыклад. Оля ўздыхнула:

— Так запісваюцца простыя дробы. А дзесятковыя? Пішы: нуль, коска, два.

Пісаў, спяшаўся, хацеў дагадзіць сваёй цярплівай настаўніцы, а ў думках чаго не круцілася! Толькі не дзесятковыя дробы. Оля спакойна тлумачыла, як складаць і адымаць, чытала правілы, я следам паўтараў слова ў слова і крадком пазіраў на кірпаты носік у залацінках вяснушак, на маленькае ружовае вушка пад кудзеркамі светлых валасоў. Яна лавіла мае пагляды, а я, як злодзей, апускаў галаву, грыз грыфель і ніяк не мог падзяліць два на нуль цэлых і пяць дзесятых.

Яна мне задала дзесяць прыкладаў і ўсе правілы.

— Глядзі. Заўтра спытаю, — строга папярэдзіла Оля. Я буркнуў «добра» і паціху пайшоў з двара. Каля форткі азірнуўся. Оля стаяла на ганку і нешта па-свойму гаварыла маці.

Па вуліцы грукаталі колы, у воблаку пылуківалася сухая конская галава, бразгалі атосы, на грудзе каравак, нібы глухі, сядзеў панылы Тэйхехе і не зважаў на рогат і кепікі сустрэчных. А яны пад'юджвалі і перадражнялі: «Бабы, ка-гр-раўкі, кагр-р-аўкі!» «Што, даездзіўся, камерсант?», «Гэй, туз, дзе твой аўтабус?» — крычалі ўслед. Конік ледзьве перабіраў тонкімі нагамі, а Тэйхехе тузаў і круціў лейцамі. Мне зрабілася яго шкода, і расла трывога, што не ведаю дзесятковых дробаў, што могуць пакінуць на другі год, будуць дражніць другагоднікам, а хлопцы і Оля пойдуць у пяты і не захочуць са мною таварышаваць. «Не,— вырашыў я,— буду вучыць правілы, дзяліць і множыць гэтыя нулі з дзесятымі і сотымі. Трэба толькі ўзяцца».

Лета астывала і блякла, раніцы патыхалі халадком, пякучай расою і туманамі. Пабялелае сонца надоўга хавалася за воблакі, трывожна крычалі на выгане гусі, над касцельнымі званіцамі высока кружылі буслы, збіраючыся ў далёкі вырай.

Каля нашых веснічак нехта ў кароткім шынялі, з торбачкаю за плячыма і з кійком у руцэ ніяк не мог з сярэдзіны намацаць зашчапку. «Ці не новы кватарант заявіўся?» — падумаў я і подбежкам кінуўся да брамкі. Калі падбег, ён ужо ўзыходзіў на ганак.

З-пад абдрыпанага шыняля тырчалі ўкручаныя абмоткамі ў жоўтых плямах тонкія, як вераценцы, ногі, шынель і мяшэчак былі ў паппалінах, стаўбун набіўной салдацкай шапкі з'ехаў на стрыжаную патыліцу, пасярод шыі выпіналіся дзве тоўстыя жылы. Пачуўшы, як рыпнула фортка, ён азірнуўся, заморгаў вачыма і ступіў крок назад.

— Як ты завешся, хлопчык? — глуха запытаўся ён.

Я разглядаў абцягнуты жоўтаю скураю твар, коратка падстрыжаныя вусы, чуў, як калоціцца сэрца, і прашаптаў перасохлымі губамі:

— Аляксей...

— Алёшка! Сынок! Які ж ты вялікі!

Я ўжо здагадаўся, што вярнуўся татка, але не ведаў, што рабіць: стаяць ці кінуцца насустрач. Ён здаваўся нейкі чужы і незнаёмы, не такі, як уяўляўся раней.

— Ну, хадзі сюды, не бойся...

— Чаго мне баяцца? — не зварухнуўся я.

Маці, мабыць, пачула нашы галасы і выскачыла з сянец.

— А божа ж мой! — пляснула яна рукамі.— Як жа ж цябе высушыла! — і, усхліпваючы, прыпала да пляча. Бацька пахіснуўся, але падпёрся кійком і абняў вольнаю рукою за плечы.

— Ну, не плач, не плач... Цяпер мы ўсе разам... І Алёшка унь які... Хадзі, не бойся, сыночак!

Я нясмела ўзышоў на ганак, шчакою прытуліўся да прапахлага тхлінаю і карболкаю шыняля.

У хаце бацька вытрасаў на стол з маленькіх паркалёвых мяшэчкаў драбочкі адсырэлага жоўтага цукру, аж белыя ад солі тараны і асцюкаватыя сухары.

— Частуйся салдацкім сухім пайком,— падсунуў мне драбкі цукру.

— Я ж не маленькі. Не хачу,— буркнуў я, бо саромеўся і не ведаў, як мне яго зваць — ты ці вы, і доўга яшчэ выкручваўся, пакуль прызвычаіўся да бацькі.

А мама прынесла гладышку малака з жоўценькім вяршком, расклала на прыпечку пад трыногаю трэскі, бегала ў клець, скінула хустку, парумавела, пазірала на нас за сталом і ўсміхалася.

— У якім жа хоць класе ты вучышся? — нібы варам плесканула бацькава пытанне.



— Калі вытрымаю арыфметыку, у пяты пайду,— адказаў я.

— Ён вы-ы-ы-трымае! — перадражніла маці.— Прагарцаў усё лета з Лукер'інымі пустадомкамі і за кніжку ні разу не ўзяўся.

Я выцягнуў з-пад кашулі задачнік і паклаў на стол.

— Во, толькі што рашаў. І заўтра пайду.

— Хто ж цябе вучыць?

— Ёсць тут... наша піянерка. Латышка адна. З горада прыехала і ўсё ўмее.

— Гэта ж трэба? Яшчэ ў нейкія спартачы ўпісаўся, а куры ўсе грады златашылі,— скардзілася маці.

— Не сварыся на яго. Малайчына, што запісаўся, бальшавіком вырасце, чалавекам будзе,— пагладзіў бацька па галаве.— Табе што, арыфметыка не даецца?

— Да-е-е-цца, але я прапусціў багата.

Маці расказвала, як я пад вясну спаліў чобаты і праседзеў на печы, пакуль не падсохла. Бацька аж заходзіўся ад смеху, мачаў сухары ў малако, яны пухірыліся і пішчалі, а ён прагна грыз і запіваў з вялікага паліванага кубка.

На змярканні прыйшоў вясёлы і гаманкі Кудрашоў, патрос бацькаву руку, паляпаў па плячы і суцешыў: «Нічога, на жывой касці мяса нарасце». Вячэралі разам, і бацька расказваў, як лавіў бандытаў пад Чарнігавам, як потым тыфус выкасіў увесь іх узвод, як без памяці валяўся ў гомельскім шпіталі і сам не ведаў, жывы ці не. Кудрашоў пералічваў франты і гарады, дзе ваяваў, прозвішчы камандзіраў, успамінаў шпіталі і ўрачоў, якія «латалі» яго. Патрос параненаю рукою:

— А гэта свежанькая. Памяць пра вашы лясы і балоты. Каб не яна — можа б некалі і забыўся. А так — не. У непагоду ці ў лазні напомніць... Даўся ж у знакі гэты Падаляк. І прозвішча ўляпілі, як у сук. Жыў падлюгай і, як падла, валяецца пад плотам. А дружка яго ў чэка адправілі. Цёмны, як асенняя ноч. Там разбяруцца і прачытаюць яму: «Імем Савецкай Рэспублікі». Усё прасіў, каб дамачку дапусцілі. Пабачыцца закарцела. А яна і не блізка. Нават сухара не прынесла.

Я сядзеў з разгорнутым задачнікам, але хіба палезуць у галаву тыя дробы, калі тут такое гавораць, а насупраць сядзіць бацька, худы, стомлены і вельмі ж ціхмяны? Няўжо ён будзе хвастаць мяне дзягаю, як гразілася маці?

У вушах звінеў далёкі Олін голас: «Адна цэлая дзве дзесятых памножыць на нуль цэлых пяць дзесятых». Зліпаліся вочы, нібы запарушаныя дробным пяском. І пад цёплаю коўдраю, у свісце цвыркуна ўсё яшчэ чулася «пяць дзесятых», «цэлых, цэлых... дзе-сятых».

## 11

Шэрым туманным ранкам атрад пакідаў мястэчка. За так паракаваныя мясцовымі kавалямі коні цокалі на грэблях і глуха тупалі па пясчаных вуліцах. На валасным двары дымілася паходная кухня. Кухар у белым каптуры з іржавымі плямамі вузкім вяслом боўтаў варыва. Да яго падыходзілі кабеты з суседніх вуліц і клалі на нізенькі ўслончык хто абгорнуты кужэльнаю анучачкаю кавалак сала, хто грудку масла ў хрусткім капусным лісце, хто скрыль завэнджанай на ядлоўцы вяндліны, а бабка Пабліянка прынесла рукавок грэцкіх круп, зазірнула ў кацёл:

— Што варыш, сынок?
— Кашу, баушка, кашу.
— Авой! Гэта ў яго каша! Крупіна за крупінаю ганяецца з дубінаю.
— Баушка, не суй носа ў чужое проса. Можа тут — ваенная тайна, і табе знаць не паложана.
— От як паложым, што трэба, дык з'ясі і не захочаш хлеба. Бабы, у каго е крупы? Накормім салдацікаў напаследак,— яна скінула безрукаўку, каля студні апаласнула рукі, выцерла кончыкам вышыванага фартуха і ўзялася кроіць на зэдліку сала. Гукнула мяне і загадала прынесці патэльню і трыногу.

Каля кухні расклалі з трэсачак агеньчык, паставілі на яго трыногу з патэльняю. Бабка Паблііянка згрэбла на яе ружовыя скрылёчкі сала, дала мне застругану трэсачку і загадала варочаць скваркі, каб не прыгарэлі. Тым часам жанкі назносілі круп: што ў каго было.

— А нічога, не паб'юцца,— прыгаворвала бабка, памешваючы ў катле.— Няхай прэе гарох і капуста, абы было густа.
— Ну што ты прычапілася? — бурчэў кухар.— Староннім не паложана нікаць у кацёл...
— Гэта хто староннi? Я?! Сы-ы-но-ок! Колькі я адваявала, дык магла быць за генерала. Чалавек мой ад першага дня ўсю японскую прайшоў і галоўку склаў, царства яму нябеснае, недзе ў Партуры, два хлопцы з ярманскай не вярнуліся, а меншанькі недзе, як і ты, крупнік за кашу сёрбае. Ну, няма чаго стаяць, засыпай онь з таго рукаўка! — камандавала Паблііянка, ухапіла мяшалку і давай ганяць у катле. Скваркі вішчэлі, закручваліся, пырскалі гарачым тукам. Я хацеў крыкнуць, што ўжо гатова закраса, але не ведаў, як назваць бабку. Паблііянка, хоць і не крыўдная, але мянушка. Як жа яе зваць?
— Цётка-а-а, га, цётка-а-а! — гукнуў я,— мабыць, гатова.

Яна падбегла, дзвюма трэсачкамі прыціснула беражкі патэльні, перанесла на зэдлік, пастудзіла пальцы, памяшала ў катле, а калі трохі ачахла патэльня, згрэбла скваркі і зліла тук у кашу.

Кухар стаяў збоку і неяк вінавата паглядаў на куртатую вясёлую кабету, што так увішна ўпраўлялася пры катле.
— Дай чым паспытаць.

Кухар з халявы высмыкнуў круглую белую лыжку і падаў бабцы. Тая пахукала на яе, выцерла фартухом, зачэрпнула кашы, доўга студзіла, пакаштавала і паднесла кухару.
— Ой, хоць язык не праглыні.

Узялася ўбокі і чакала, што скажа салдат. Кухар павольна еў, аблізваў лыжку і пацмокваў губамі.
— Такую кашу еў толькі ў мамашы,— складна адказаў і ён.
— А ў кожнай маткі што ні салдат — то і дзіцятка.
— Цябе, бабка, не перагаворыш. Чысты Пушкін!
— Каб граматы трохі, мудрэй за таго Пушкіна даказала б. Ну, што скажаш? Смачная? От табе і ваенная тайна! Гукай сваіх, пакуль не астыла.
— У іх нюх, як у ганчакоў, самі прыджгаюць.

І сапраўды, неўзабаве забразгалі кацялкі і лыжкі, адзін за другім беглі чырвонаармейцы і станавіліся ў чаргу. Кухар хітра ўсміхаўся і марудна варочаў чарпаком.
— Чым у цябе так пахне? — пыталіся салдаты.
— Не цягні, Ваня, душу, накладвай весялей!
— Нанюхаешся і сыты будзеш,— падвясельваў кухар.

А бабка Паблііянка збоку пазірала, як выскрабаюць з кацялкоў яе



кашу, як цмокаюць і хваляць кухара, і зрэдку выцірала на шчацэ скупую слязінку.

У чарзе з кацялком стаяў меншы за ўсіх Лаўрэн. Але хіба яго цяпер пазнаеш? Тры дні местачковы кравец перашываў на яго галіфэ, гімнасцёрку і камандзірскі фрэнчык. Упрасіўся Лаўрэн, каб яго ўзялі ў атрад. І цётка Лукер'я прасіла, бо «зладу няма з трыма ратамі, ды і выкачаўся онь які байбус — няхай прывучаецца да якога дзела». Угаварылі-такі камандзіра: узяў Лаўрэна сабе канаводам і абмундзіраванне загадаў перашыць. З якою зайздрасцю мы мералі яго шапку з бляшанаю зорачкаю і фрэнчык, увесь у блішчастых гузіках! От некуды паедзе, пабачыць, чаго мы ніколі не ўбачым. А можа, і сам на камандзіра вывучыцца і прыедзе дадому ў чырвоных галіфэ, з маўзерам у калодцы. Ён і цяпер задаецца: не вельмі гаворыць з намі, толькі буркае, каб не лезлі, не заміналі, бо яго чакае камандзір. Здавалася, што камандзір нічога не робіць, а толькі чакае Лаўрэна. Было шкода, што так і не знайшлі ход пад касцёл, а без Лаўрэна ўжо і не знойдзем. Каля конавязі тупалі асядланыя коні. Я ўбачыў буланчыка Князева і працягнуў яму на далоні скарыначку. Мяккія дрыготкія губы паймалі яе. Каля плота нарваў травы і паднёс да храпы. Конь асцярожна браў з рук травінкі і хрумстаў пажаўцелымі зубамі. Падышоў Лаўрэн.
— Чаго ты каля майго каня круцішся?
— Хіба гэта твой?
— А чый жа?
— Гэта ж Князева буланчык.
— Быў, а цяпер мой.
— Ты толькі не бі яго, Лаўрэн... Глядзі... добра кармі.

Нешта заказытала ў грудзях і падкацілася да горла. Успомнілася, як мы касілі з Князевым у навальніцу і ён мяне прыкрываў сабою пад ракітавым кустом, як расказваў пра далёкія стэпы з травамі ў чалавечы рост, пра спякотнае сонца і шырокія рэкі сваёй радзімы. Потым ён ляжаў у труне з горкаю ўхмылкаю на скамянелым твары, глуха грукалі камякі зямлі па веку, плакалі трубы і людзі, жалобна бомкалі званы. Усё прамільгнула ў памяці, а тугі камяк захрас у горле — ні дыхнуць, ні слова сказаць.

— Ну, ну, чаго ты? — ціха спытаўся Лаўрэн.— От дурань, хто яго біцьме? Конь добры: тузанеш за повад — адразу ў галоп,— ён пагладзіў буланчыка па пысе, а той пацягнуўся да мае рукі і зашлёпаў мяккімі губамі, пазіраў вялікім сінім вокам, нібыта разумеў мае думкі і жаль да яго.

Чырвонаармейцы выскрабалі кацялкі, аблізвалі лыжкі і хвалілі бабку Паблііянку:
— Эх, мамаша, што за каша!
— Ідзі да нас кашаварыць. Каня і камандзірскую форму дадзім.
— Каб ты быў трохі маладзейшы, мо б і пайшла,— жартавала бабка, а салдаты аж качаліся ад рогату:
— Ну, Гошка, падавай рапарт на адстаўку! Бабка забракавала.

Белабрысы чырвонаармеец заліўся чырванню да вушэй, ускочыў, абсмыкнуў гімнасцёрку, страявым крокам падышоў да Паблііянкі, аддаў чэсць, абняў за плечы і ўляпіў па звонкім пацалунку ў абедзве шчакі. Па двары пакаціўся рогат. Бабка зачырванелася, лёгенька адпіхнула салдата:
— Адчапіся, смала. Хіба ж пры ўсіх цалуюцца? Такія кавалеры памагаюць ад халеры,— і выцерла шчокі ражочкам хусткі.— Кашаю ўсю перамазаў.

Салдат далонню абцёр губы і пацалаваў бабчыну руку:

— Ад усяго атрада дзякую, мамаша. І ўсім жанкам зямны паклон.

— Вам дзякуй, сынкі, што ад бяды і страху засцераглі.

Ад смеху ў мяне некуды скаціўся даўкі камяк. Да конавязі прыкульгала цётка Лукер'я.

— Глядзі ж, Лаўрэнка, вельмі не вытыркайся, каб, барані божа, чаго... І слухайся ўсіх. А калі што якое, прасіся дадому, як-небудзь перагаруем, перакідаемся, а там, няпраўда, палепшае.

Да Лаўрэна падыходзілі ўсе нашы хлопцы. З зайздрасцю пазіралі на яго фрэнчык з чырвонымі пятлічкамі, на салдацкія чаравікі і туга накручаныя абмоткі. Прыбег і Захарка. Ён ужо не туляўся збоку, а стаў разам з усімі і, запінаючыся, запытаўся:

— Праўда, едзеш, Лаўрэн?

— Еду, браце, еду. А хату табе адпісалі?

— Мазалеўскі казаў, судом правядуць і форменную бумагу выдадуць. Загадаў, каб у школу хадзіў. А я не ўмею вучыцца. Нябожчыца пані паказвала мне польскія і рускія літары і лічыць прывучала. Табліцу назубок ведаю і ксёнжкі трохі чытаў.

— Навучышся. А як захочаш, іх дагоніш,— па-даросламу кіўнуў на нас Лаўрэн.— А кватарантка ваша яшчэ тут ці не?

— Пусцілі, дык выязджаць збіраецца. Усё кляне свайго Хадароўскага.

— Кучумава,— паправіў я.

— А ход пад вал мы так і не знайшлі,— перабіў нас Андрэй.

— Набрахаў дзядзька Яўхім,— махнуў рукою Лаўрэн.— Я ўсё аблазіў. І знаку няма. Чмут стары байкі расказваў, а мы, дурні, слухалі.

— Стр-о-о-і-цца! — раздалася каманда.

Цётка Лукер'я прытулілася да Лаўрэна:

— Кепска будзе, прыязджай, як-небудзь перакідаемся,— уткнулася ў плячо і зашморгала носам.

Падышлі Іван з Васілём. Лаўрэн паляпаў братоў па спінах, бліснуў вузкімі чорнымі вачамі:

— Глядзіце тут маму, хлопцы,— і пабег у строй.

Цётка Лукер'я заплакала наўсхліп, уцірала нос і шчокі, налягаючы на адзін клуб, пачыкільгала да чырвонаармейцаў.

На двары было поўна людзей: папрыходзілі ўсе, у каго стаялі салдаты. Кудрашоў развітаўся з мамаю і татам. Бацька яшчэ быў з кіёчкам, але, паголены і трохі акрыялы, выглядаў дужэйшым і пасвятлелым. Мама паманіла мяне рукою. Я, саромеючыся, павольна падышоў да іх.

— Хоць развітайся з дзядзем і падзякуй, што ён столькі павалэндаўся з табою.

Прыціскаючы локаць да боку, я працягнуў Кудрашову руку. Ён ляпнуў па ёй шырокаю далонню:

— Ну, арол, расці бальшавіком! І вучыцца старайся, каб болей не было пераэкзаменовак.

— Цяпер за гэтага неслуха бацька возьмецца,— уставіла маці і павярнулася да Кудрашова: — Калі будзеце ў нашым баку, заязджайце, як дадому. Ключ пад каменем.

Кудрашоў яшчэ патрос рукі, падзякаваў, крута павярнуўся і пайшоў да адзінокай і сумнай Груні. Пра што яны гаварылі, ніхто не чуў. Гаварылі таропка, Кудрашоў размахваў рукамі, нешта запісваў у маленькую кніжачку, доўга трымаў абедзве Груніны рукі, сціснуў іх,



кіўнуў і пайшоў да строю. Перад ім стаяў маленькі, але пруткі і быстры камандзір у чырвоных галіфэ, хромавым курціку і скуранoй шапцы, ссунутай набок. Калодка маўзера целяпалася ніжэй каленяў.

— Па ко-о-о-нях! — раздалася каманда.

Лаўрэн хуценька падвёў камандзірскага каня. Хоць і невысокі, але спрытна, нібы хто падкінуў, камандзір апынуўся ў сядле і выехаў наперад. Лаўрэн хацеў гэтак жа сесці на буланчыка, але перш наскакаўся на адной назе, пакуль узлез.

За камандзірам ехаў Кудрашоў з разгорнутым злінялым сцягам. Да яго падбегла Груня, камісар нагнуўся, нешта сказаў і пад'ехаў да камандзіра. Бліснулі начышчаныя трубы, аркестр зайграў марш. Адразу выраўняліся коні, затупалі нага ў нагу, па жэрдках грэблі цокалі падковы.

Туман даўно сплыў. У злінялым небе то хавалася за перыстыя аблокі, то выплывала пабляклае сонца з пазалочаным абадком. Далячыні патаналі ў лёгкай смузе, трывожна дрыжэлі на старых таполях лісты, над касцельнымі званіцамі высока ў небе плаўна кружылі бусляняты, збіраючыся ў вырай. Вось дайграе аркестр, заціхнуць падковы, асядзе ў канцы мястэчка пыл — і адразу зробіцца пуста: болей ніколі не ўбачыш ні камандзіра, ні Кудрашова, ні гэтых паджарых, выпетраных на сонцы мужчын, ні Князевага буланчыка, а можа, і наш завадатар, смелы і дзёрзкі Лаўрэн, ужо ніколі не вернецца сюды — а раптам і яго дзе-небудзь выб'е з сядла бандыцкая куля? Зрабілася горка, аж затуманіліся слязьмі вочы. Атрад праводзіла ледзь не ўсё мястэчка: прыкульгаў выпетраны на сонцы, з гусіным пухам у барадзе і ў доўгіх валасах дзядзька Яўхім, а на плошчы каля магілы Князева і Смірнова без шапкі стаяў Васіль Васільевіч Ваўчок. Атрад паўкругам спыніўся пасярод плошчы. Камандзір аддаў павады Лаўрэну, а сам выкуліўся з сядла. Груня выйшла наперад, распасцерла рукі і звонка крыкнула:

— Піянерам і ўсім жадаючым насіць чырвоны гальштук пастроіцца ў дзве шарэнгі!

Я ўгледзеў Захарку, смыкнуў яго за рукаў:

— Хадзем!

Ён паўпінаўся і пайшоў, як на прывязі.

Побач з Оляй і Эйдляй стаялі Ліля і Маля, каля іх масціўся аптэкараў Лёлік. Андрэй яго катурхаў пад бакі і злосна сіпеў: «А ты чаго тут, смятаннік?». Лёлік адышоўся і стаў у самым канцы. Побач са мною з нагі на нагу пераступаў Захарка.

Камандзір і валасны камісар Павел Зубарэвіч узышлі на трыбуну, за імі павольна падняўся Ваўчок.

— Та-ва-ры-шы! — звонка загаварыў камандзір. — Атрад Чырвонай Арміі па барацьбе з бандытызмам зрабіў усё магчымае, каб ачысціць вашу воласць ад ворагаў Савецкай улады, каб вы жылі і працавалі спакойна і мірна. Дорага нам дасталася перамога: два нашы лепшыя таварышы назаўсёды застаюцца ў вашай зямлі. Памятайце, што таварышы Князеў і Смірноў аддалі сваё жыццё за вас і вашых дзяцей. Шануйце іх памяць. Жывіце мірна і шчасліва.

Ваўчок нізка пакланіўся камандзіру і на ўсе бакі кланяўся байцам. Ён загаварыў ціха, але яго чулі ўсе:

— За вашу дабрату і адвагу дзякуюць і кланяюцца вам усе мае землякі. Вы пазбавілі нас ад агню і смерці, вярнулі спакой і радасць. Мы сустракалі сяброў, а праводзім родных сыноў, многія не саромеюцца слёз, развітваючыся з вамі. Магілы вашых таварышаў будуць самымі дарагімі і роднымі нам. На іх ніколі не завянуць кветкі. Мір



вам, дарагія чырвоныя байцы! Няхай вас хутчэй абдымуць мацяркі і нявесты. Зямны паклон вам!

Да нас пад'ехаў Кудрашоў, прыклаў руку да казырка і голасна сказаў:

— Піянеры, да барацьбы за справу працоўных будзьце гатовы!

Па плошчы пакацілася рознагалосае «Заўжды гатовы!»

Зноў зайграў аркестр, атрад выраўняўся і звярнуў на вуліцу, што выходзіла на Бабруйскі шлях. Мы праводзілі чырвонаармейцаў аж у поле. Яшчэ там-сям стаялі бабкі нязвезенага жыта, палёг парудзелы картафлянік, над жнеўнікам плылі тонкія нітачкі павуціны. Кудрашоў адстаў ад строю, ехаў побач з Груняю і ўсё нешта гаварыў. Потым спыніўся і падняў руку:

— Бывайце здаровы! Вучыцеся добра, дружна і весела жывіце, слухайцеся сваю важатую. Можа, яшчэ і пабачымся.

Мы замахалі рукамі, крычалі: «Аставайцеся!», «Прыязджайце!» Кудрашоў прышпорыў каня, і толькі пыл закурэў з-пад капытоў. Мы доўга глядзелі ўслед, павярнуліся і з песняю «Мы кузнецы, и дух наш молод» прайшлі па мястэчку.

Усе астатнія дні мы з Оляю сядзелі на высокім ганку, складалі, дзялілі і множылі дзесятковыя дробы. Яна часам пакрыквала на мяне і ставіла ў сшытку адзнакі. Я слухаўся яе, як сапраўдную настаўніцу, трошкі саромеўся і губляўся пры ёй. Спадылба часам паглядаў на яе кірпаты носік, нібы незнарок нахіляўся, каб дакрануцца да кудзерак, што разляталіся ад ветру. Яна надзімала пухленькія губкі, адсоўвалася і ледзь прыкметна ўсміхалася. Без яе я маркоціўся, а пры ёй рабіўся нязграбны і маўклівы.

У апошнія дні жніўня прыйшла пара здаваць пераэкзаменоўку. З раніцы імжэў дробны дожджык, у дварах галасілі пеўні. Калі бачыў жанок з пустымі вёдрамі, хаваўся за рог хаты і чакаў, калі пяройдуць дарогу з поўнымі. Ішоў, як на страшны суд: падгіналіся ногі і перасыхала ў роце. Дома нікому не сказаў, куды іду: раптам не перавядуць — змоўчу, а перайду — будзе чым пахваліцца.

Каля школы ішоў павальней і павальней, а сэрца татахкала ўсё часцей. Страшна было, але нічога не зробіш, ісці трэба. На школьным двары, за лета зарослым дзікім рамонкам, трыпутнікам і дзяцельнікам, валэндалася каля дзесятка такіх «матэматыкаў», як і я. Сустракацца з імі і вярэдзіць душу не хацелася, ды і сорамна было прызнацца і звальваць віну на спаленыя чобаты. Таму шмыгнуў за школу, прыхінуўся да выступа падмурка і разгарнуў «Правілы». З даху зрываліся і шлёпалі каля ног буйныя кроплі. З гародаў пахла бацвіннем, кропам і гаркаватым бабоўнікам. Я заплюшчваў вочы і шаптаў правілы множання і дзялення. Побач зашорхала трава. Перада мною стаяла Оля ў чаравічках, суконнай спадніччы і жакецiку ў клетку.

— Онь дзе ты схаваўся. Не бойся. Пабачыш — здасі. Толькі не спяшайся і не забывайся пасля цэлых ставіць коску. Рашай спакойна, перш чым пісаць, падумай.

— А ты чаго прыйшла?

— Спытацца, якія кніжкі трэба. Кажуць, па-беларуску вучыць будуць. От цікава. Латышскую і рускую ведаю і беларускай навучуся.

— Якая гэта беларуская? — спытаўся я.

— От дзівак! Гаворыш па-беларуску і не ведаеш.

— А-а-а! Што ж тут вучыць, калі ўсе так гавораць.

— Ну, ідзі,— падштурхнула Оля.— Глядзі ж, не спяшайся.

Я павольна паклыпаў на школьны ганак. Школу збудавалі нядаўна: перавезлі панскія пакоі і свіран і зляпілі доўгую-доўгую стадолу.

Прамазалі пазы, пабялілі сцены. Пабелка паасыпалася, і на бярвеннях былі відаць сукі і сляды сякеры. Доўгі вузкі калідор праз увесь будынак асвятляла адно акно ў самым канцы, таму з дзвярэй у калідоры былі відаць толькі цёмныя цені. Я вобмацкам увайшоў у клас. Двое хлапчукоў ляскалі адзін аднаго па галаве задачнікамі. Я сеў далей ад стала, але схавацца не было за каго.

Увайшоў Уладзімір Кандратавіч, у старых хромавых ботах, у пафарбаванай палатнянай «талстоўцы» з нейкімі клямарамі ад плячэй да нізу, драцяныя акуляры з'ехалі на кончык носу, пасівелая барадка тырчэла клінком. Хадзіў ён, нібыта нешта переступаючы, і махаў разам абедзвюма рукамі. Калі ён не бачыў, мы часта яго перадражнялі і абзывалі «таптуном». А пры ім дрыжэлі ўсе, бо ў злосці ён мог так крутануць за вуха, што дні тры гарэла і пухла.

— Ну, гультаі, вучылі трохі ці прагарцалі ўсё лета?

— Трохі вучылі,— нясмела адказалі мы.

— Марш да дошкі,— кіўнуў мне настаўнік, паглядзеў на століь і пачаў дыктаваць прыклады. Крышылася крэйда, дрыжэлі рукі, губы шапталі цэлыя і дзесятыя, знакі множання і дзялення, не вельмі цвёрда запісваліся адказы. Я азірнуўся на клас і за шыбаю ўбачыў Олю, яна мне ківала галавою і ўсміхалася. Не памятаю, як і што адказваў, але не маўчаў.

— Хто цябе вучыў?

— Са-а-ам,— нясмела схлусіў я.

— Добра, калі сам. Перавядзем, ідзі.

Я ўзяў задачнік і выскачыў з класа. У двары нікога не было, азірнуўся, пастаяў. Дождж перайшоў. Ад буйных кропель зіхацелі рамонкі і густыя кусты злінялага палыну. Хацелася ўсім расказаць пра сваю радасць, і я пабег да форткі. За ёю стаяла Оля і з-пад ссунутых бровак пазірала на мяне.

— Ну, як?

— Сказаў, перавядуць...

— Малайчына, малайчына,— заўсміхалася яна.— А я баялася, што пераблытаеш знакі. Гляджу — не, усё правільна. Хутчэй бяжы, парадуй маму.

— Яна не ведае, куды хадзіў.

— Чаму ж ты не сказаў?

— А што, каб не перайшоў? Сваркі, крыку было б.

— О-о, дык ты баязлівец! Я маме ніколі не хлушу.

— І я не хлусіў. Не сказаў, і толькі.

Мне хацелася падзякаваць Олі, сказаць нешта добрае і ласкавае: каб не яна, наўрад ці вывучыў бы дробы. Але дзякаваць сароме́ўся. Падумаў: як пойдзем у школу, тады і скажу.

Я ішоў услед за Оляй і ўсё азіраўся, каб не ўбачылі хлопцы. З вялізнай старой таполі зляцеў і закружыўся пажоўклы лісток. Оля схапіла яго на ляту і ўсю дарогу круціла ў пальцах.

— Хутка восень,— уздыхнула яна.

— Ага,— буркнуў я ў адказ, і зрабілася маркотна, што праляцела гарачае лета, мінулі трывогі, што паехалі Кудрашоў з Лаўрэнам, замоўклі трубы і цокат капытоў, а без атрада апусцела і прыціхла мястэчка.





**алег лойка**



ПАЭЗІЯ



## *Сосны Купалы*

Мы — сосны Купалы, з-над вольнай
Арэсы,
Іван Дамінікавіч, дзе ты?
Чакаем, чакаем... О, колькі абтрэслі
Шылля мы і шышак над светам!..

Чакаем...
Не нож нас падсочвае востры,
Ажыць без цябе мы не можам:
З табой, для цябе ж мы шумелі, як
сёстры,
Цяпер жа — і слова не зложым.

Ракеты, і лайнеры, і сцюардэсы,
І юркі між зор спадарожнік,
Ці чуеце — мы, з па-над вольнай Арэсы,
Чакаем Купалу трывожна!..

Няўжо нас за сёстраў ніхто не прымае?..
Няўжо болей верацъ радарам?
Няўжо хоць адзін з іх, як мы, успрымае
Нячутных маланак удары?..

Няўжо і спапелімся дзеля прагрэсу,
А ты не захіліш, Купала?..
Мы ж — сосны твае, з па-над вольнай
Арэсы,
Чаму ж не ідзеш, як бывала?

Няўжо, як і нас, і цябе, родны браце,
Адолелі дзесьці нягоды?..
Ды будзем чакаць мы,
ды будзем чакаць мы
Заўсёды, заўсёды, заўсёды!..

■

*За туманам нічога не відна...*

*З народнай песні.*

Туманок мой, тумане рахманы,
Дзе сцяжынак тваіх шукаць?..
Закурыўся з лагчыны, з палянаў,
З азярын падступіў пад гаць,

І цяпор во — грываcты, грывасты,
Белы, белы, як палатно —
Ні дарогі маёй пакручастай,
Ані зорачак не відно,

Бы адзін ты на цэлым свеце.
Сам не спіш, а Палессе спіць:
У маліннік зашыўся вецер,
З тропу збіўшыся, як сляпы.

Ён не зываліць сёння соснаў,
Чар азёрных не разліе,
Не засмягне ні качар млосны,
Ні платва, што ў вірах снуе,

Ні алень, што да вадапою
Носіць жальбу амшар сухіх,
Ні, як ноч, крацяня сляпое,
Ні дзятва вачастых бусліх.

Як за сценкаю ім, за туманам...
Ведучы ў заазер'е гаць,
Тумановых, ціхмяных, рахманых
Мне б сцяжынак не заараць!..

## На Тураўскім замчышчы

Ні высокіх каменных сцен замкавых,
Ні князёў, ні чэлядзі, стражы, —
Усё зжэр агонь маланкавы,
Пазасыпаў віхор ліхаманкавы,
Пра былое нішто не кажа.
Ды насведчыць магу адзінае:
Бульба тут гудзе, як ігрышча,
Высакакняжая кожнай бацвінаю,
Глыбоканародная
карнявішчам!..





**вольга іпатава**





ПАЭЗІЯ

■

Ад бабулі, што клікалі Вольгай,
Я імя панесла у вечнасць...
Мне яна ўяўляецца вольхай,
Што раскінула рукі над рэчкай.

Уплялася ў зямлю карэннем,
І такая ў ёй прага жывая,
Што і я, гараджанка, нярэдка
Кожнай жылкай яе адчуваю,

Калі з рэчкай зліваюся кожнай,
Калі кнігаўкай плачу ў полі,
Калі ўвосень раскінуся пожняй,
Што чужынцы не стопчуць ніколі...

■

Жыве ў Светлагорску Жэнька.
Дзетдомаўка Кузьміна.
А можа, яна Бажэна,
А можа, Грэтхен яна?

Ляжала мёртвая маці
Ля хутара Альтэнштос,
Дзіця загарнуўшы ў халацік
З канцлагерных сініх палос.

З якіх была далячыняў
І хто?
Адказу няма.
Прывёз у дзетдом дзяўчынку
Малодшы сержант Кузьма.

Думалі ўсе — загіне:
Соскі не брала ў рот.
Сядзела нянька Аўгіння
Тры ночы над ёй напралёт.

Жыве ў Светлагорску Жэнька
Па прозвішчу Кузьміна.
А можа, яна Бажэна,
А можа, Грэтхен яна?

Ведала тое вайна...

■

Як здорава, што мне жыццё дае,
Хаця і зрэдку, гэтыя хвіліны:
Цяжкія ад дажджу бяроз галіны,
Ў далонях — рукі цёплыя твае.

Так шчыра і спакойна на душы,
Адзін на двух — дрыжыць пад ветрам
плашчык.
А мне — маўчаць і плечы твае лашчыць,
І па ударах сэрца варажыць.

Скубе спакойна мокры конь траву,
І сонца звечарэлае садзіцца.
І думаю — якое гэта дзіва —
Вось для такой хвіліны я жыву...

■

Вы думаеце, я не сплю начэй?
Вы думаеце, я па ім гарую?
Прымаю проста ісціну старую:
Пайшоў — дык забываць яго лягчэй.
На лекцыі з сябрамі ідучы,
У шумным перапоўненым трамваі,
Хвілінай летуценнай уначы
Яго я забываю, забываю...
Не дапускаю да сябе нуды:
Ад спраў, званкоў і тлуму ледзь жывая!
Праходзяць месяцы.
Ідуць гады.
А я ўсё забываю,
забываю...



*юрка голуб*

*

паэзія

*

## Луг

Без клопату каленькам,
Як матылькам ляцець.
І ў ручаі мяленькім
Свой воблік падглядзець.

На сёмы дзень, як лета
Святкуе першы ўкос.
Лілеі, як з балета
Танцорачкі без кос.

Шаснаццаць год і шчасце
Цябе не абміне.
Каб столькі зняць з мяне,
Дык будзе толькі частка.

Ды пра узрост ці трэба
Без дай прычыны ныць?
Ірвецца думкі ніць...
Дзяўчо.
Прастора.
Неба.

## Летам

А нас ад злога вока
Схавала азярко.
І рэха крок у крок
Сюды не валаклося.

У затоцы асачынай
Зацішак — ні шу-шу.
Мы месца асачылі.
Каб быць душа ў душу.

Аддаўшыся праменю,
Зажмурся, як дзіця.
Ты ведаеш хацця,
Што зычыш перамены.

І рады бераг даць,
Пясчынкі для загару,
Каб нам ласкавей стаць
І думкамі і тварам.

Няма куды спяшацца.
Схілюся над табой.
Над цішаю зямной
У самым цэнтры шчасця.

■

На радасць жаўруковай дзюбе
Наноў ачуньвае трава.
Пралескі ранняй чысты цюбік
Вазьмі, як лекі, патрымай.

І гнутка цягнецца лаза.
Каб стаць на восень абручамі.
І сокі ў дрэве забрынчалі,
Каб сінь пупышкамі лізаць.

Дымку над хатай лёгка віцца,
Каб адчуваць прасторы смак.
Жанкі.
І кожная сама
Святлей за ранішнюю Свіцязь.

Душа з пагодаю у згодзе.
Дарога ў трубныя лясы.
Неўрадлівай паласы
Не існавала у прыродзе.



ПРОЗА



*мікола коўзелеў*

# ЖЫВЕ ЧАЛАВЕК...

## АПАВЯДАННЕ

Мал. В. Сакалова

Яна паставіла ў печ цяжкі — як падняць — чыгун з бульбай. Пакуль паднімала яго ды ставіла — задыхалася, расчырванелася. А трэба было паставіць яшчэ адзін такі ж. Ён стаяў на падлозе.

«Пачакай. І цябе зараз»,— у думках сказала Аксеня. Яна прыставіла да печы вілы, расслаблена спінаю прыхілілася сама.

Яе круглявы твар рабіўся белым. Неўзабаве на поўных шчоках, як звычайна, была толькі невялікая ружаватасць — прыкмета многіх моцных здароўем жанчын.

У хаце тым часам стала зусім змрочна. Надыходзіў ранні зімовы вечар. Аксеня спахапілася: чаму гэта яна не ўключае святло? Яшчэ тады ў печы было прыцемна, і яна напружвала ўвесь свой зрок, а зараз дык і не ўбачыш нічога. Цяжкавата ступаючы тоўстымі, у кароткіх бурках нагамі, яна прайшла да парога, націснула на выключальнік. Хата напоўнілася святлом і абступіла Аксеню ўсімі, што былі, рэчамі. Было іх небагата: шырокі стол у куце, вялікі старамодны радыёпрыёмнік, нязграбная самаробная шафа.. Стаялі два ложкі. Адзін, незасланы, быў ля самай печы, другі, з дзвюма падушкамі,— за шафай. Справа ад печы месціўся кухонны столік, накрыты зашмальцаванай цыратай. Печ даўно не белена, у рыжых падцёках. А ў парозе, на лаўцы і пад ёю,— грудам чыгункі, місы, каструлі, вёдры...

Аксені зрабілася не па сабе. Яна глянула ў вокны — на дварэ ўжо сінеў густы прыцемак — і хуценька пазашморгвала фіранкі.

«Ну, а цяпер цябе»,— ужо з ранейшай ласкавасцю на твары падышла яна да чыгуна... Узяла на загнеце анучу, пачала мерыцца, як бы зручней яго ўзяць. Але замест таго, каб нахіліцца, Аксеня насцярожліва павярнулася да дзвярэй.

За дзвярыма нешта грукнула, пачуўся няроўны тупат, глухі стук у сцяну. Пасля непрацяглай цішыні данеслася буркатанне, лаянка, а потым — кароткае, грубае:

— Танька!..

Не сказаць, каб Аксеня спалохалася. Яна ўзялася за клямку і, не пераходзячы цераз парог, штурханула дзверы — яны адчыніліся. Але ніхто не ішоў і нікога не было відаць. Тады Аксеня выйшла ў сенцы і згледзела чалавека. Ён стаяў збоку, спінаю да сцяны. Круціў звешанай на грудзі галавою, гучна соп. На момант Аксеня сумелася, пазнаўшы Ігната. Яна адчыніла шырэй дзверы і, стоячы ў паласе святла, сказала яму:

— Ідзі ў хату, Ігнат. Чуеш? Ідзі ў хату, Ігнатка, не мычы.

Чалавек заварушыўся, прыўзняў галаву. Аксеня ўзяла яго за рукаво.

— Варушыся ж, варушыся. Ступай ножкамі.

Ён намогся і ступіў некалькі крокаў. Аксеня цягнула яго за рукаво і падтрымлівала, каб не ўпаў. Так яны ўвайшлі ў хату. Ужо ў хаце ён пахіснуўся, прысеў на нагах, а потым лёг на чыгун з бульбай, які Аксеня не паспела паставіць у печ. Пачаў паднімацца, рукой абапёрся на край чыгуна, і той перакуліўся набок. З яго лінулася вада. Пераганяючы адна адну, па падлозе пакаціліся мокрыя бульбіны...

— Ну, ты скажы!..— недаўменна, са слабою ўсмешкай усклікнула Аксеня.— Што гэтая гарэлка з чалавекам творыць...

Ігнат замармытаў, невідушчым позіркам паглядзеў на Аксеню.

— Добра ўжо, добра,— як маломý, сказала яна.— Ану, спаць, хуценька!

Ігнат абапёрся на калені і рукі і, ледзь узяўшы раўнавагу, раскірачана пратупаў па хаце, крутнуўся і лёг, звіўшыся, ля ложка на падлозе.

— ...падушку,— слаба вымавіў ён.

— Ці не спаць ты тут сабраўся? — усміхнулася Аксеня.

— Я тут усягды... Таня...

— Тані няма. Паднімайся і кладзіся ў ложак. Не валяйся пад нагамі.

Ігнат, памарудзіўшы, заварушыўся і кулём узваліўся на ложак.

— Во і ляжы ціхенька,— сказала Аксеня.— Спі. Герой лыкавы...

Яна пазбірала ў чыгун бульбу, даліла вадой, лягчэй, чым першы, падняла і паставіла ў печ, пад самыя дровы. Потым выцерла падлогу.

А Ігнат ужо спаў. Ад кароткага ўсхрапвання дрыжэў кончык носа, злёгку надзімаліся чорныя, няголеныя шчокі. Аксеня пастаяла ля ложка ў глыбокім роздуме, цяжка ўздыхнула і выйшла з хаты. Замкнула дзверы на вялікі чорны замок. Ключ паклала ў кішэню ватоўкі. Потым шчыльна прычыніла веснічкі і пайшла, грузнаватая, па ледзь заўважнай сцежцы.

Быў ужо вечар. Вёска свяцілася агнямі. Пахла гаркім, ад торфу, дымам. Аксеня ішла міма хат, і ёй добра ўяўлялася, што робяць зараз у кожнай хаце. Гэта таму, што часта бывала ў іх. Жыла Аксеня адзінока і амаль заўсёды, калі сядзець адной у хаце рабілася маркотна, ішла да каго-небудзь з суседзяў пабавіць час. І людзі былі ёй рады. Кожнаму ўмела паспрыяць Аксеня. Вясной, калі надыходзіла пара сеяць, прасілі Аксеню дапамагчы гной вывезці і растрэсці, бульбу парэзаць і пасадзіць. Аксеня была як нарасхват. У некаторыя дні па двое-тры чалавекі прыходзілі прасіць за якую хочаш плату. Але навошта ёй плата? Усё ў яе ёсць, бо, збыўшы карову, ні на адзін год не заставалася без свінчука, курэй, гусей... А ішла яна, «маладая пенсіянерка», як той-сёй зваў яе ў вёсцы, да таго, каму помач была больш патрэбная. Вось, напрыклад, да Тацяны. Сама здароўем слабаватая, усё ў яе нешта баліць, а ад Ігната, мужыка яе, карысці, як ад казла малака.

Тацяне, калі падумаць, Аксеня пасабляла больш, чым каму. Ад таго і хілілася тая да Аксені, як слабое дрэўца да моцнага. Прыйдзе калі, сядзе і сядзіць, утаропіўшыся ў падлогу.

— Ну як жа вы там жывяце? — спытаецца Аксеня.

Ускіне Тацяна запалыя вочы і скажа, як працэдзіць:

— З раніцы да вечара... Так і жывём...

І нечакана ўсхліпне. А пасля, паміргаўшы вачыма, загаворыць, стрымліваючы слёзы:

— Усё сама, Аксенечка. Усё сама, сваімі ручкамі. Дзе не падніму што — ляжаць і будзе. Будзе ляжаць год, два, а ён, валацуга, не возьмецца. І не падумае.

Памаўчыць Тацяна, паплюскае вачыма, а тады як пачне божкаць:

— Божачка, калі ж ужо ён абап'ецца?

— Нельга так, Тацяна!.. Што гэта ты гаворыш? — ажно спалохаецца Аксеня.

— А яму можна? Яму можна гэтак мучыць мяне? Не, даб'юся свайго, пракляну валацугу! Ты ж памяркуй, Аксенечка — даўным-даўно прывёз з пільні абапалкаў, і што ж? Ляжаць! А ў добрага гаспадара не ляжалі б...

— Нельга гэтак, Тацяна,— зноў скажа Аксеня.— Які ні чалавек ён — а чалавек. І дзеці ў вас.

— Дзеці...— хмыкае Тацяна.— Дачка адна. У яе ўжо дзеці свае...

Сцежка скончылася. Пачалася цвёрдая, уезджаная машынамі дарога. Аксеня павярнула па ёй улева, на пагорак, дзе воддаль стаяла яе хата.

У хаце Аксеню агарнула цёплае, радаснае пачуццё, якое звычайна находзіць на тых, хто нейкі час быў у гасцях ці так дзе, сярод усяго нязвыклага, чужога, і нарэшце вярнуўся ў сваё жытло. Якое яно тады роднае! І як лёгка тады на душы!..

Яна распранулася. Класціся спаць было рана, і яна наважыла чым-небудзь заняцца. Але чым? Пільнай справы не было. Усё ў яе невялікай хаце як след. Усё дагледжана. Але рупны чалавек занятак сабе заўсёды знойдзе.

Неўзабаве Аксеня сядзела на зэдліку і шыла. Адна за адною пабеглі думкі пра тое, як яна апынулася ў Ігнатавай хаце гаспадыняй.

Гэта было чатыры дні таму назад, якраз у нядзелю. Аксеня толькі што прыйшла тады ад Сахвеі, якую за надта лёгкі язык усе звалі Балаболкай, павячэрала і ўжо збіралася класціся спаць, як у дзвярах паявілася Тацяна. Была яна нейкай рухавейшай, чым звычайна. Аксеня гэта ўбачыла адразу. І адразу ўчула, што ў Тацяны да яе будзе нейкая важная просьба. Так яно і было.

— Аксенечка, гэта ж во чаго я прыйшла,— гледзячы зырка, вока ў вока, загаварыла Тацяна.— Зойка тэлеграму прыслала: прыязджай, мамачка, няма каму глядзець Марынку, у мяне іспыты. Дык во што рабіць? Паедзь — а хто тут будзе прыглядаць гаспадарку? На яго ж нельга кідаць,— Тацяна мела на ўвазе Ігната.— Здохнуць і карова, і

свінні. Думала-думала: божачка, каго б гэта мне папрасіць, і рашылася папрасіць цябе. Выручала ты мяне, Аксенечка, выруч ужо яшчэ. Век буду дзякаваць, яй-бо.

Аксеня сумелася. Весці чужую гаспадарку, няхай сабе і некалькі дзён,— гэта ўсё ж не абы-які клопат...

— Няўжо там яна няньку не можа знайсці? — разважліва спыталася яна.

— Што ты, Аксенечка!.. Каго ты там знойдзеш? Там жа вялікі горад, многа маладых, дык за нянькамі вунь як ганяюцца. Ні за якія грошы не знойдзеш. Ды яшчэ такога малога глядзець.

— А колькі яму?

— Два месяцы, Аксенечка. Усяго два,— борздка сыпала Тацяна.— Божухна, гэта ж так незадачна ў яе палучылася... І сама вучыцца, і ён, мужык яе. А тут дзіця...

Доўга сядзела ў той вечар Тацяна, то весялеючы, то робячыся бездапаможна-гаротнай. Усё важнае яна ўжо выказала, разоў колькі сказала, што, як ацеліцца карова, будзе насіць Аксені малако, а Ігнат прывязе дроў. І Аксеня пасля разважлівага маўчання, нарэшце, згадзілася:

— Ну што... Трэба ўжо выручыць...

— Во дзякуй. Во дзякуй табе, Аксенечка! — як не ўзляцела з табурэткі Тацяна.— А божачка — каб не ты, не ведаю, што было б... Я ж ужо трох чалавек запытала,— прызналася яна,— і ніхто ні блізка. Не хочуць памагчы чужому гору. Ды ёсць жа во добрыя людзечкі на свеце, яй-бо...

Чатыры дні, як паехала Тацяна да Зойкі. Чатыры дні Аксеня ходзіць у яе хату гаспадарыць. Найбольшым клопатам была жывёла. У Тацянінай пуні была карова — гэткая ж панылая з выгляду, як гаспадыня, і два ладныя падсвінкі. Былі яшчэ куры. Пакарміць жывёлу, птушку яно не так і цяжка. Цяжэй за ўсё было выпаліць у печы, каб нагрэць вады, запарыць бульбу. Дровы былі сырыя. Аксеня клала іх нанач у печ, каб падсохлі, але ўсё роўна распальваліся яны не скора. Дзіва дзіўнае, не раз думала яна, ёсць пры хаце гаспадар, у лесе працуе, а дроў няма! Вось і зараз яна з трывогай падумала, як заўтра будзе распальваць у печы. Правалтузіцца вунь колькі... А ў сваёй выпаліць хутка, бо дроўцы ў яе сухія, яшчэ леташнія.

Яна клалася спаць, думаючы пра заўтрашні клопат.

Абудзілася вельмі рана.

Дома ўправілася гадзіны якіх за паўтары і неўзабаве падыходзіла да Тацянінай хаты. Нейкае новае, супярэчлівае пачуццё агарнула Аксеню: там, у хаце, Ігнат...

Замок вісеў. Яна адамкнула яго. Адразу, як пераступіла парог, уключыла святло.

Ігнат спаў. Ціха, без усхрапвання, але яшчэ моцна, і сваім застылым, жаўтлява-чорным тварам нагадваў цяжка хворага чалавека.

Аксеня распранулася, яшчэ раз зіркнула на Ігната, пачала распальваць у печы. Пачарнелыя ад часу трэскі, знойдзеныя ёю ўчора ў куце пуні, згарэлі, але дровы ад іх толькі закурэліся.

Неўзабаве Аксеня таропка ішла да свае хаты. Вярталася назад і несла перад сабой сухія паленцы...

Ціха, стараючыся не пабудзіць Ігната, упраўлялася Аксеня. І раптам сумелася ад думкі: Ігнат жа ўвесь час спаць не будзе. Ён прачнецца. А што будзе есці?

Пра Ігната ў яе з Тацянай не было ніякай гаворкі. Быццам яго не было на свеце. А ён жа прыйшоў. У хаце...



Яна ўсклапаціліся. Але нічога прыдумаць не магла. Зварыць бульбы? Дык дзе шукаць якой затаўкі? Тацяна пра гэта не сказала ні слова.

Яна выйшла ў сенцы. З аднаго боку тут была кладоўка. У ёй, мусіць, было сала. Глянула — дзверы кладоўкі на замку. Маленькі такі замочак, але не будзеш жа яго адбіваць...

«Еш, Ігнат, што хочаш,— зноў тупаючы па хаце, засмучона думала Аксеня.— Як гэта можна — не падумаць пра мужчыну? Не, Тацяна, тут ты вінавата. Ну няхай ён дрэнны, такі-сякі. Але ж гэта мужчына. Можа б ён і лепшы быў. Хіба ж можна, каб мужчына галадаў?»

Твар Аксені спахмурнеў. Яна ўзяла з груду посуду чыгунок, памыла, потым наабірала ў яго бульбы, наліла вады і паставіла ў печ. А потым схадзіла дамоў. Прынесла ў гаспадарчай сумцы нейкія скруткі, бітончык.



Калі ўсё парабіла, стала ўжо зусім відна. Напаследак заставалася зачыніць у печы юшку. Яна ступіла на хісткі табурэт, адчыніла дзверцы і, намацаўшы збоку юшку, прыладзіла яе над кругавінай. Табурэт нечакана павяло ўбок, і Аксеня, зачыняючы дзверцы і губляючы раўнавагу, моцна імі стукнула.

— Га? Што там?..

Аксеня ад нечаканасці ажно прыгнулася. На твары ўмомант выступіла чырвань. Яна глянула на ложак і ўбачыла, што Ігнат, ускудлачаны, пахмурна-сонны, глядзіць у столь.

— Ты што — можа задушылася там?

Аксені стала смешна. Яна зразумела, што ад гарэлкі Ігнат забыўся, а можа і зусім не ведаў, што Тацяны няма, што яна паехала.

— Не, жывая я, жывая. А ты тут за ноч не памёр?

— А-а-а...— працягнуў ён, убачыўшы Аксеню. І сказаў сабе: — Аксеня.

У першы момант ён не здзівіўся. Здзівіўся пасля, убачыўшы, што

яна ў кофце, без ватоўкі. Ён сеў на край ложка, угнуў калматую галаву.

— Значыцца, мая Панедзя (гэтак ён дражніў Тацяну) паехала,— гледзячы перад сабой у падлогу, сказаў Ігнат.— Да дачушкі... А я ляжу і думаю: чаго ціха ў хаце? Не стогне ніхто і не прычытвае. І нешта на ложку ноч праспаў, не на падлозе...

Аксеня з вялікай цікаўнасцю разглядвала Ігната і нічога не гаварыла.

— Тады яно ясна,— нетаропка працягваў ён.— Калі Панедзя паехала, то будзе ціха. Нават палаяць не будзе каго.

— Чаму? Я за яе. Палай мяне.

— Цябе? — ён пабоўтаў нагамі.— Цябе не буду. Цябе і Сямён, царства яму нябеснае, не лаяў. Праўда?

— Праўда,— уздыхнула Аксеня.

— Бачыш... Не было за што. А каб пажыў з маёю — і лаяўся б, і піў, і... і дамоў бы прыходзіў раз у тыдзень, а то і ў месяц раз. О-о-о, яна б даўяла!.. Сваімі стогнамі... Каб ёй звароту не было.

— Ігнат!..— пагрозліва выдыхнула Аксеня.

Ён змоўк, адно толькі гучна соп. Потым стаў на ногі, ступіў крокі два па хаце і зноў сеў.

— Што — дрэнненька?

— А ты думала, лёгка? Лёгка яе піць? Паспрабуй-тка — кожны дзень, да ачмурэння...

— А ты не пі.

— Эх, Аксеня, Аксеня...— звычайна Ігнат быў такі маўчун, а тут гаварыў і гаварыў.— Я, як быў халасцяком, кроплі ў рот не браў. Ты ж, можа, помніш. А як сышоўся з гэтай ніцай Панедзяй — так і пайшло наперакос. Усё стогне і стогне, ные і ные, усё «я, я, я...». А скажы — што яна ўмее? Ну, што? Нічога. Толькі глядзіць, каб дачушцы пасылкі шпурляць. А ты зірні во на хату. Ці скажа хто, што ў ёй добрая жыве гаспадыня? — Ігнат глядзеў пранізліва. Адчувалася, што ён гаворыць з усёй шчырасцю.— Я ў першыя гады стараўся-стараўся, а тады бачу, што ўсё ідзе без ніякага толку, і...

Ён зноўк і, даверліва глянуўшы на Аксеню, ціха дадаў:

— І ты думаеш, з Зойкі будзе толк? Такі, як з Панедзі. Яна ж яе змалку прывучыла ні аб чым не думаць. Матка нічогенька не ўмее, а дачка і яе акаснула...

Аксеня слухала і нечакана для сябе падумала: а што, з якога боку ні глянь — Тацяна нідзе не перахапіла,— ні ў калгасе, ні дома. А ўслых сказала:

— Тацяна ж, не забывай, хворая.

— Хто? Яна?! Не смяшы ты, Аксеня. Яна такая хворая, як ты ці я. Гэта ж у яе натура такая — плакаць і ныць. А на другіх выязджае...

Ігнат усміхнуўся і пачаў разувацца. Зняў боты, і ў хаце востра запахла потам. Аксеня ажно жахнулася. Глянула на Ігнатавы анучы і не ўбачыла ніводнай чыстай мясцінкі. Усе ў чорных лапінах бруду. Потым ён распрануў фуфайку, і яна заўважыла, што ў ягонай сарочцы няма ніводнага гузіка, а каўнер споднай як наваксаваны...

«Эге-е-!... Жыве чалавек...— думала ўражаная Аксеня.— Ігнат, Ігнат...»

А ён пачаў нешта шукаць. Зірнуў на печ, заглянуў пад ложак. Змеціўшы нешта на падлозе каля сцяны, падняў, разгарнуў. Гэта была



Тацяніна кофта. Ён прымерыўся і хацеў ірвануць яе пасярэдзіне, але Аксеня не дала.

— Не руш. Тацяна яшчэ насіць будзе.

Ігнат разгублена зірнуў на яе. І ён, і яна бачылі, што ў хаце няма нічога, з чаго можна было б зрабіць анучы. І калі ён намерыўся абкручваць на ногі тыя самыя, брудныя і мокрыя, Аксеня хутка зняла буркі і дала яму свае бялюткія мультовыя анучкі.

Ігнатаў твар зніякавеў. Збянтэжаным голасам ён спытаўся:

— А табе як?

— Мне цёпла і так. Дахаты дайду, а там у мяне і суконкі, і мульт. Бяры, наматвай.

Ён вагаўся. Не проста было для яго ўзяць чужыя анучы. Гэта каб так што-небудзь, а то, выходзіла, такой драбязы не мае ў сваёй хаце!..

— Бяры-бяры. А то ногі, глядзі, застынуць.

Ён нібы чакаў гэтых Аксеніных слоў, з яшчэ маладаватым спрытам пачаў абувацца. Пасля — мыўся. Таксама хутка, бадзёра. Але па твары было відаць, што Ігнат узрушаны, што аб нечым думае і думае.

— Ты і ваду носіш? — спытаўся ён, выціраючы рукі.

— Не, не я,— усміхнулася Аксеня.

Ён таксама ўсміхнуўся, але ўсмешка была не вясёлай, а сарамяжліва-горкай. Пакуль ён потым расчэсваў даўно не мытую галаву, Аксеня паставіла на стол міску булёну, выняла са сваёй сумкі ўсё, што там было, паклала на стале.

Ігнат моўчкі назіраў за ёю і быў сур'ёзны. Праз якую мінуту ён ужо сядзеў за сталом і гучна сёрбаў булён. Лыжка так і мільгала.

— Дай, падалью,— сказала Аксеня, калі ён ужо дабраўся да дна.

Ён кінуў на яе кароткі прыязны позірк, падаў міску.

Пасля Ігнат еў каўбасу з кіслымі агуркамі і хлебам, піў кісель. Аксеня тым часам прыбрала ложак, на якім ён спаў, падмяла ў хаце.

— Ну, Аксеня, дзякуй. Наеўся, як конь,— сказаў ён і спаважна вылез з-за стала.

— Наеўся — на здароўечка,— хуценька і зычліва адказала яна. І спыталася: — А цяпер куды? На работу?

Ён не спяшаўся адказваць. Убачыў на загнеце два бярозавыя паленцы, падышоў, патрымаў іх па чарзе ў руцэ, нібы ўзважваў. І толькі тады сказаў:

— У мяне чатыры дні адгулу. Можна не ісці.— Ён памаўчаў, аб нечым думаючы, потым дадаў: — Але я схаджу на работу. Трэба ўзяць адну рэч.

— Ну, калі трэба, то і схадзі.

Апоўдні, калі ўгрэла сонца і палягчэў мароз, Аксеня зноў кіравала да Ігнатавай хаты, каб пакарміць жывёлу. І яшчэ ля Сахвеінага падвор'я ёй выразна пачуўся то высоканатужаны, то нізкі гул. Яна прыслухалася. Гул даносіўся як быццам з Ігнатавага двара.

«Што ж гэта гудзе? Значыць, бензапіла,— падумала яна.— Во, калі хочаш...»

І праўда. Гэта была бензапіла. Ігнат пілаваў абапалкі, за якія столькі разоў яго кляла Тацяна. Добра налаўчыўся Ігнат, працуючы ў лясгасе. Ад вялікага груду гарбылёў амаль нічога, калі прыйшла Аксеня, не заставалася.

Яна спынілася ля вугла, з цікавасцю глядзела, як ён пілуе — адразу па два гарбылі, каб было спарней. Іх ён складваў адно да аднаго шырэйшымі бакамі. Каб не раз'язджаліся.

Ён убачыў яе, але не спыніў свае работы, пакуль не папілаваў апошнія два гарбылі. Тады толькі выключыў бензапілу, прыставіў яе да сцяны хлява. Падышоў да Аксені, сказаў:

— Цяпер табе ўжо не трэба будзе насіць сваіх дроў. Бачыш?

— Бачу-бачу. А я стаяла і падумала: сёння можна б і лазню прапаліць.

— Навошта?

— Памыешся, чысты будзеш.

— Яно добра было б — памыцца,— павольна сказаў Ігнат.— Ды я... разумееш... мне...

Ён чамусьці засароме́ўся, адвёў убок позірк. Ад гэтага не па сабе стала і Аксені: хто яго ведае, аб чым чалавек падумаў? Ён учуў яе ніякаватасць і паспяшаўся растлумачыць:

— Бялізны ў мяне няма. Апроч той, што на мне...

«Вунь яно што!.. Ай, ай... Не купіць мужчыне ў запас пару-дзве бялізны!..— ліхаманкава падумала Аксеня.— Ну й Тацяна! Да чаго давяла чалавека. Да чаго давяла!» А ўголас сказала: — Гэта не важна, Ігнат. Я буду даваць карове сена, а ты ідзі ў хату, знімі бялізну. Памыю. У печы якраз ёсць чыгун цёплай вады. А тады павешаеш яе ў лазні на шост. Пакуль папарышся ды памыешся, яна і высахне. У духу. А да лазні пабудзеш у верхняй адзежы.

Ён уважліва выслухаў, быў запярэчыў, але яна настояла на сваім, і Ігнат пакіраваў у хату.

Аксеня пайшла ў пуню, перакінула праз агароджу карове сена. Зарохкалі, паціху пачалі вішчэць свінні.

— І вам ужо захацелася естачкі? Дам і вам, дам,— гаварыла яна.— І вам, куранькі, дам. Усіх накармлю. Ніхто не будзе галодны.

Выйшла з пуні, супынілася: трэба пачакаць, пакуль выйдзе Ігнат. На снезе ляжала сякера. Яна ўзяла яе, паспрабавала пальцам лязо. Падзівілася: у яе, удавы, сякера куды вастрэйшая. Выйшаў Ігнат. Убачыў яе з сякерай у руках, вярнуўся назад у хату, прынёс брусок.

— Зараз я яе... Во на рабоце ў мяне сякера!.. Як агонь.

Пасля ён калоў абапалкі, яна карміла свіней і курэй, мыла яму бялізну. А Ігнат пачаў насіць у лазню ваду.

Сахвея, як убачыла яго з вёдрамі ў руках, як не закрычала:

— Глядзіце-ка, людзі — Ігнат па ваду ідзе! Колькі жыву — не бачыла яго ля калодзежа. Ну, гамон усім ваўкам у лесе. Падохнуць.

І засмяялася, гэтак жа знарочыста.

Тацяна прыехала, калі пачало брацца на вясну.

Снег днём ужо раставаў, і пакуль яна прыйшла са станцыі, добра ўпарылася. На дзвярах быў замок. Яна паставіла чамадан, перахрысцілася і, узіраючыся ва ўсё нейкім птушыным позіркам, пайшла па ключ, які мусіць быць у старой хованцы ў шуле.

Як толькі павярнула за вугал сенцаў, спынілася, нібы хто яе асляпіў. У вочы ёй кінуўся бела-жоўты бляск дроў, высока складзеных уздоўж пуні і хатняй сцяны. У першы момант Тацяна нібы прасвятлела, узрадавалася, але потым у яе цьмяных вачах паявілася трывога, і яна як бы здранцвела.

Ціха, нібы па чужым двары, прайшла яна да хлява, адчыніла вароты. Прагна ўцягвала пах гною і сена, нічога не бачачы пасля дзённага святла ў прыцемненай пуні. Пачула, як жавала жвачку карова. Сытна рохкалі свінні. Калі вочы прывыклі і ўсё пачало бачыцца вы-





разна, яна забегала позіркам то на карову, то на свінней. Яны, гэта яна змеціла адразу, былі дагледжаныя, спраўныя.

— Люстра, Люстра,— працягнула яна руку да каровы. Карова трохі павяла ў яе бок галавой, безуважна паглядзела, жуючы сваю жвачку. Тацяна адчула сябе як бы зняважанай.

— А вы чаго седзіцё? Акы-ыш на вуліцу! — узмахнула яна рукамі на курэй. Тыя залапаталі крыллямі, паднялі вэрхал і кумельгам кінуліся на двор.

Тады выйшла і Тацяна. Узяла ключ. Ідучы па двары, усё глядзела і глядзела на дровы.

Увайшоўшы ў хату, стала ў парозе і, не выпускаючы з рукі чамадана, мітусліва кідала па ёй позіркі. У хаце было прыбрана. На вокнах віселі чысценькія, нібы толькі што памытыя, фіранкі. У куце стройным радочкам стаялі чыгункі, гарлачыкі, місы. І ўсе вымытыя.

Пахла варанай капустай. Тацяна нюхала гэты пах з недаўменнем: адкуль было ўзяцца капусце? Яна ж сваю не пашынкавала. То не хацелася, то нездаровілася. А Ігнат, ведама, і пальцам не варухнуў. Ляжалі качаны, ляжалі, а тады ўлезлі ў сенцы свінні, лычамі ды нагамі перамясілі. І прапалі такія качанчыкі! Карове аддаць прыйшлося...

Тацяна паставіла чамадан на табурэт, адчыніла засланку, павыцягвала на загнет меншыя чыгункі. У кожны зазірнула. У адным была капуста, у другім — тушаная бульба. У зялёнай каструльцы былі дранікі.

Тацяна заклала засланку, унурана, сашчапіўшы рукі на жываце, пастаяла пасярод хаты, потым выйшла на двор. Не павесіўшы на дзверы замок, зацялёпкала па вуліцы. Насупраць Сахвеінай хаты агледзелася і шуснула ў дзверы.

Сахвея, маці семярых дзяцей, заўсёды была дома.

— Глядзіце-ка, хто да нас прыйшоў,— праспявала яна, як толькі ўвайшла Тацяна.— Даўно, даўно не была. Ну дык праходзь жа, расказвай, як табе ездзілася, як там гасцявалася.

— Ды нічога,— Тацяна села на табурэтку.— Во забылася дзецям канхветак узяць...

— Не трэба ім твае канфеты. Сваіх хапае, толькі б елі,— сказала Сахвея. А па выразу твару было відаць, што думала яна пра нешта другое. Пра гэта «другое» і загаварыла: — А ты, мая галубка, магла б і не прыязджаць. Тут такое цяперака!.. Ігната свайго не пазнаеш. Гладкі стаў, ажно памаладзеў гадоў на дзесяць.

— Хто ж яго выгладзіў? — нервова ўстрапянулася Тацяна.

— Пытаецца — хто. Аксеня! Яна яго ш-шоўкавым зрабіла. І дровы возіць-коліць, і ваду нясе, на работу і з работы — чым чынам. І не п'е, як раней. Ну, трохі калі вып'е... А ні разу не валяўся, як бывала. І ёй жа ўжо дроў прывёз. Цэленькі трактар згрузіў.— Сахвея недаверліва паглядзела на дзяцей, на вокны і прашаптала: — Я дык думаю: ці не прылабуніла яна яго?

Тацяна заплюскала вачыма, пабялела. Аблізаўшы сухія губы, дрыготкім голасам сказала:

— Не, гэта ўжо, Сахвейка, наўрад.

— Дурная ты,— выцягнула шыю Сахвея.— Усё можа быць. Калі гэта Сямён яе памёр...

— Не, Сахвейка, гэта наўрад,— паўтарыла зажураная Тацяна.— Не паверу. Старая яна для яго, ды і не з такіх, каб...

Доўга сядзела ў Сахвеі Тацяна. У хату вярнулася падвечар. Пераапранулася, прылегла на ложак адпачыць. Ляжала, падпёршы шчаку рукой, журботна глядзела ў падлогу. На душы ў Тацяны было горка



і пякуча. Два месяцы была ў Зоі, а Аксеня тут вунь як усё перавярнула!.. А яна ж яе, Аксеню, падманула — ездзіла не Марынку няньчыць, а Зойку ратаваць. Каб муж не кінуў. Але не вярнуўся ён, нічога не выйшла. Дапякла яна яму. Во Зойка дык Зойка!.. Аддзячыла маці. Гэтак рупілася аб ёй! Адкуль што якое — ёй. На, дачушка, спажывай, не клапаціся. А сама — як папала. І Ігнат гэтак сама... Што і гаварыць, у злосць увяла яго праз дачушку. Толькі праз яе. А як даэнаецца, што там з Зойкай,—дасць дык дасць. Навошта было гаварыць пра гэта Сахвеі? Тая разбалбоча... А Аксеня як даведаецца — ад сораму згарыш...

Стукнулі веснічкі. Тацяна падхапілася. У хату ўвайшла Аксеня.

— Ну — гаспадыня прыехала,— сказала яна.— Добры вечар табе, Тацяна.

— Добранькі вечар,— ціха вымавіла яна, глянула на Аксеню, адвярнулася і зашморгала носам.

— Ці не плачаш ты?

— Не,— адказала Тацяна.— А божухна, чаго ж мне плакаць? Ты во, вялікі табе дзякуй, усё мне тут парабіла.

— А можа там што з Зояй? Не? Ну і добра. А тут не сёння-заўтра карова павінна ацяліцца. Дык ты ўжо глядзі, Тацяна, каб цяля заспела. А я тады заўтра пайду ў калгас. Фядульчына Гапка дужа захварэла. Няма каму пры хаце памагчы...

— Дзякуй табе, Аксенечка, за ўсё. Каб не ты...— Тацяна паправіла на галаве хустку і ўсміхнулася. Як бы з неахвотай.





**анатоль грачанікаў**



ПАЭЗІЯ



## Вясновая экспрэсія

**1**

Вясна...
А ў сэрцы — завіруха,
Мароз, адліга і слата...

На Сожы лёд буркоча глуха,
Сняжніца — згуслая вада,
Угрэлася і пасінела.

І вось
пад промнем веснавым
Упарта наледзь затрымцела,
Ажно пайшоў са шчылін дым.

А я стаяў.
Курыў на кручы.
І быў мой позірк невідушчы:
Я наваколлю быў чужы.

Ішло вясновае вяселле,
І Сож піў сонечнае зелле.
Свет маладзеў.
Смяяўся,
Жыў!

**2**

Усхлупла рака.
Паводка
Урэшце моцы набрала.

Да крыгі прыліпла лодка,
І крыга — яе забрала.

О, як ірванулі з мелі
Яны у вірлівым свеце!

Бурбалкі следам ляцелі,
Крычалі зайздросна дзеці!

...Ля першага ля затору
Урэзаліся ў калоды.

А думалі — што да мора,
А думалі — назаўсёды...



## Надзея

На скрыжаванні дум і слоў
Мая маўклівая надзея
Ліпіць ледзь-ледзь і палымнее
Ад сварак,
спрэчак
і размоў.
Надзея добрая!
Яна
Нам спагадае, нас ратуе,
Як роспаччу жыццё частуе,
Калі бярэ ў ім верх мана.

Вястунка шчасця і святла,
Жыві, жыві, мая надзея!
Бо чым у большай быў бядзе я,
Тым большай ты ў мяне была!

Табе заўжды такою быць:
Маўкліва жыць, далёка бачыць.
Нічым табе не адплаціць,
Нічым цябе не перайначыць.
Як слова матчына:
«Засні!
Ноч пройдзе. Зноў наступіць ранак...»,—
Так ты ў дарожнай мітусні —
Выратавальны мой паўстанак.

## Крывавая балада

Ні хмурынкі, ні ветрыку
Ад Ляскавіч і да Петрыкава,
Толькі сорак галасоў
Над маўклівасцю лясоў.

Сорак чаек у адчаі,
Сорак дзетак-малалетак.

Нашы маткі так крычалі,
Што завяла сорак кветак.

«Цыц, Рыгорка, не раві!
Колькі у цябе крыві?

Трошкі возьмуць — і дамоў,
І нашто ім наша кроў!..»

Ні хмурынкі, ні ветрыку
Ад Ляскавіч і да Петрыкава.

Толькі гыркаюць аўчаркі,
Канваіры: «Шнэль!
Цурук!»

І прытушваюць цыгаркі
Аб далоні нашых рук.

...Наплывае успамінаў дым,
Зноў убачу, нібы надоечы,
Як выводзяць нас па адным
І да шулы прывязваюць стоячы.

Хліпнеш раз,
Хліпнеш два,
Хліпнеш тры —
Пырсне кроў у літровую банку.

І патухне сонца ўгары
Зранку.

«Не чапайце сястрычку маю,
Не чапайце!
Лепш ля шулы жывым
Вы мяне закапайце!
Кроў вазьміце да дна,
Кроў вазьміце,
Толькі Верку дамоў
Адпусціце!..»

Круціўся свет у чорных плямах,
Я на траву валіўся ніц.
Наводмаш біў у сэрца прама
Крывавы шпрыц.

Калі ж канчаліся трызненні,
У сонным хісткім праясненні
Матулю бачыў я. Яна
Ішла кудысьці. Нешта пела,
Але на рукі не хацела
Узяць мяне. І я крычаў,
Крычаў, пакуль не замаўчаў.

...Няўжо гэта наш зарачанскі бор?
Вунь дзядзька Андрэй, касцёр.

Няўжо гэта мая нага, рука?
О, як хочацца малака!
А дзе ж Рыгорка, Верка, Надзя,
Зоська, Клава, Антосік, Ядзя?
Міхаська, Міколка, Янінка, Адам?
А дзе ж гэта я сам?

— Ляцела сорак сарок...
— Гэта казка, татка?
— Праўда, сынок!

■

Я не рабіў нікому злога.
Мая віна, што не заўжды
Маё спагадлівае слова
Вас ратавала ад бяды.

І сам я і спяваў і плакаў,
Незаспакоены нідзе —
Між малайцоў і небаракаў
У весялосці і ў бядзе.

Калі ж
шчаслівая хвіліна
Мяне ўздымала да нябёс,—
Я дзякаваў табе, Айчына,
І вам, сярод каго узрос!

Калі ж
рабілася балюча,
Калі мне ў вочы біла золь,—
Я думаў: зеллем хай гаючым
Вам стане мой вялікі боль!

Я не рабіў нікому злога.
Мая віна, што не заўжды
Маё спагадлівае слова
Вас ратавала ад бяды.





**аляксей зарыцкі**

*

ПАЭЗІЯ

*

■

## Далёкія маланкі

*Змітраку Астапенку, паэту і мужнаму афіцэру-дэсантніку, які загінуў смерцю храбрых у славацкіх Татрах.*

Ужо маладосць ахінаецца лёгкім замгленнем,
Ды помню сустрэчы з табой ад апошняй да першай,
Як некалі ў коле сяброў ты чытаў з захапленнем
Паэта аўстрыйскага Ле́нау слынныя вершы.

Пра трох цыганоў-абадранцаў радкі не забыты,
Як першы на скрыпачцы йграў,
Неўтаймоўны, імклівы.
Другі сваю люльку курыў бесклапотна,
Нібыта
На свеце ён самы багаты і самы шчаслівы.
А трэці цыган,
Той цымбалы павесіў на дрэва
І ў заценні спаў, апчаперыўшы голаў рукамі,
І вецер па струнах праносіўся звонкім павевам,
І сны веснавыя па сэрцы цыганскім блукалі.

Далёка-далёка і стэпам плылі і лясамі,
Гучалі нязмоўчна жывыя чысцюткія зыкі.
Ці гэта цымбалы ігралі на ветрыку самі,
Ці гэта спявала бяссоннае сэрца музыкі?

Не знаю, не ведаю, дружа...
Ужо, як зарніцы,
Успыхваюць зырка
У далях гадоў успаміны,
І Ленау томік стаіць у мяне на паліцы,
Бяру і гартаю і верш твой знаходжу любімы.

Чытаю паволі, ды гукі нямецкае мовы
І чэзнуць, і блякнуць, як тыя асеннія краскі,
І шум спакваля нарастае дняпроўскай дубровы,
І чую я зноў словы родныя матчынай казкі.

Музыка ссівелы,
Музыка бывалы, удалы,
У нашых краях з ім спраўлялі вяселлі й радзіны.
У пушчы ён лёг у цяньку прыкархнуць,
А цымбалы
Даверыў галінам разгатай задумнай каліны.

Якія ж цымбалы ў старога!
Сыграць на іх можна
Не толькі ўсе песні
Майго прыдняпроўскага краю,
Жыццё чалавека,
Са шчасцем ягоным трывожным,
Ад зыбкі да скону
Вам тыя цымбалы сыграюць.

Як спіцца салодка музыку ў няходжанай нетры,
І сніцца яму —
Ён ізноў і бадзёры і юны.
А струны цымбальныя
Кратае злёгеньку ветрык,
І ціха яму адгукаюцца чуйныя струны.

Так вёсны і зімы ў нязменнай чаргуюцца змене,
Не хоча стары развітацца з юнацкімі снамі.
І чуецца часам у гэнай пушчанскай глухмені,
Як струны пявучыя недзе пазвоньваюць самі.

І казка ўсё гэта,
Тым часам ужо і не казка:
Шукальнікі ж ёсць,
Што пачулі чароўнае йгранне,
І ў нашых барах,
На зямлі звонкапесеннай наскай
Шукаюць цымбалы дзівосныя ўночы і ўранні.

Выразна і я тое йгранне, здараецца, чую
І ў пушчах падоўгу блукаю, шукальнік няўдалы,
З юнацкіх гадоў верасы лесавыя тапчу я,
Шукаючы ўпарта цудоўныя тыя цымбалы.

А часам так блізка,
А часам так блізка, здаецца,
На струнах уразлівых
Ветрык пралётам іграе,
Што сэрца маё,
Ужо не юнацкае сэрца,
Ад шчасця,
Вялікага шчасця
На міг замірае.

Не ведаю я —
Ці то струны звіняць
Ці то, мусіць,
Крыніцы плюскочуць,
Спрабуюць вятры свае крылы?
Ці гэта душа маёй маці,
Маёй Беларусі,
Усё напаўняецца ўладнаю песеннай сілай?

Хвала і святлу, і любові,
І марам, і мроям
У музыцы чуецца гэтай,
У вабным гучанні,
І вечная слава загінуўшым нашым героям,
Якіх мы з бяссмерцем у нашых радках заручалі.

Калісьці я поруч з табою, мой дружа-юнача,
Ішоў праз гады на гучанне зазыўнае гэта.
І разам мы трызнілі песеннай звонкай удачай,
І разам шукалі нялёгкага шчасця паэта.

Я помню дагэтуль усё —
І пахілены домік,
Дзе стрэліся мы на пачатку жыццёвага маю.
І Ленау, браце, табою падораны томік
Як сведчанне дружбы юнацкай і сёння хаваю.

Не знаю, таварыш, ці ўрэшце мне выпадзе шчасце
Знайсці самагуды-цымбалы
У пушчы вясновай.
Адно спадзяюся —
Яшчэ паталаніць мне скласці
Жаданую песню,
Сказаць запаветнае слова

Пра наша сяброўства,
Пра нашу матулю-краіну,
Дзе вецер-юнак маладосцю заўжды павявае,
Дзе кожны курган у глыбінях затоіў быліну,
Дзе кожнае сэрца,
Дзе кожнае дрэўца
Спявае.

І можа яшчэ мае слова праз горы й даліны
Туды даляціць,
Аж да самай старонкі славацкай,
Дзе спіш ты, мой дружа, далёка ад любай айчыны
Ужо колькі вёсен і зім у магіле салдацкай.



рыгор семашкевіч

*

ПАЭЗІЯ

*

## Шкляр

У гадах, але якраз
Маю стаж.
Пакуль што зоркі.
Спраўна жыхкае алмаз,
Ажно ў шкле міргаюць зоркі.

Найслаўней мне вокны шкліць.
Сам заціхнеш вечарамі —
Здасца, на ўвесь свет глядзіць
Дом той цёплымі вачамі.

Толькі жудка шкліць было
У разбуранай сталіцы —
Вокны цемрай замяло,
Нібы мёртвыя вачніцы.

Удыхні святло у іх,
Будзеш трошачкі усцешан.
Горчыць хлеб заробкаў тых,
Сёння, пэўна ж, весялейшы.

Мяч вірком у шыбы б'е.
Гвалт узвіхрыўся над домам.
Ах вы, шклярыкі мае,
Зарабіць далі старому.

Зарабілі і сабе
Ласкі бацькавай напружкі.
Хто там носікам дзяўбе
Набрынялыя падушкі?

Дзеці,
Гэткай паўбяды
Лёгкім страхам мы адбудзем.
Бацька б'е — адны мяды.
Кепска, калі людзі будуць.

І нічога,
Мы мігом
Схаўрусуем з бацькам строгім.
Будзе зноў здароў ваш дом.
Лепш глядзіце на дарогі.

Колькі выхаджана іх,
Як бы сплачваючы доўг ім,
Брукаваных, палявых,
Крыжавых,
Кароткіх, доўгіх.

Помню з маладых гадоў
Пылу смак і пах заранкаў,
І пастаўскіх праснакоў,
І смаргонскіх абаранкаў.

Бачу родную зямлю
У святле і рыштаваннях,
А найбольш за ўсё люблю
Вокнаў сонечнае ззянне.

■

Дзесьці у полі ляскоча падвода.
Што яна лічыць — выбоіны? годы?

Стылая далеч асенняй прасторы
Чуйна разносіць усё, што гавораць.

Людзі, дарогі, падводы, машыны
І ў паднябессі клін жураўліны.

Не, нездарма самым вечным і блізкім
Здасца зямля, гэта поле-калыска,

Боты ў раллі, у асенняй, стамлёнай,
Дзень, што як быццам мядзведзь захмялёны,

Цяжка варушыцца ў мускулах нашых,
З намі на бульбе папрацаваўшы,

Здасца — у ціхіх сялянскіх разорах
Выспелі, стынуць вялікія зоры.



*іосіф скурко*



ПАЭЗІЯ



## БелАЗы

Стварають іх
Зусім не для паказу.
У іх — рабочы
Кожны сантыметр,
Асілкі беларускія —
БелАЗы —
Славяцца сягоння
На ўвесь свет.

Не ўстрашыць іх
Завейны шлях далёкі.
Яны на ўдзячнай службе
У людзей.
Працаўнікі,
Не просячы палёгкі,
Шчыруюць там,
Дзе толькі найцяжэй.

Нясуць штодня
Упэўнена і мужна
Па паўпланеты
На плячах сваіх.
БелАЗы і магутныя,
Таму што
Былыя партызаны
Робяць іх.





ПРОЗА



*яўген гуцала*

# СЕЛЬСКІЯ НАСТАЎНІКІ

## Аповесць пяцідзесятых гадоў

З украінскай пераклаў **Леў САЛАВЕЙ**

Мал. **В. Шрамякова**

Алена Лявонаўна зняла з плота падсушаную за дзень даёнку, якая пахла малаком і сонцам, і пабегла даіць Зорку. Даіла ў канцы двара, пад грушаю. Перад Зоркаю ляжаў ахапак травы, нарванай на ўзмежку, і карова гэтак прагна ела яе, нібыта ад ранку да вечара не мела ў роце ні каліўца.

Варка падышла ціха і непрыкметна, стала за спіною ў Алены Лявонаўны, і настаўніца ўгледзела сваю суседку толькі тады, калі тая падала голас:

— Гэта ж трэба, ажно чэрава падцягнула ў Зоркі, і дзе тыя лайдакі пасвілі, што яна такая галодная? І мая, як толькі зайшла ў двор, адразу кінулася да бурачніку.

І Варка пачала расказваць, хто і як з пастухоў пасвіць скаціну. Вось калі дзядзька Павэлак возьмецца, дык ён не палянуецца і да Ляскоў дабрысці,— там паша добрая і малако ў яе тлустае,— а вось калі гоняць чараду дзеці, дык яны цалюткі дзень пратрымаюць кароў на выгане каля става, бо ім, бачыце, хочацца пялёхацца ў вадзе, іх і за вуха не выцягнеш на бераг. А якая паша ля става? Стойбішча, ды і толькі.

Алена Лявонаўна даіла Зорку і слухала суседчыну гаману, а сама разумела, што Варка, вядома, прыйшла не для таго, каб расказваць пра пастухоў. Але такая ўжо ў суседкі звычка — пачынаць здалёку, спярша патаўчы ваду ў ступе, а тады толькі пераходзіць да справы.

— Хто ж сёння пасвіў? — пацікавілася настаўніца.

— А хто ж, як не Іван Гунька ды Пятро Марынчук, вучні вашы! Яны, любачка, і вучацца гэтак жа, як пасвяць? — залапатала Варка, прысела каля яе на кукішкі і спрабавала ў вочы зазірнуць, але ёй гэта не ўдавалася, бо настаўніца пазірала на струменьчыкі малака, што цвыркалі ў даёнку.— Да навукі яны не дужа здатныя, бо пераросткі, ім не грамата ў галаве, а гульні! Варта гэткім вось абібокам сабрацца ў клубе, як яны ўжо гатовы шыбы павыбіваць і дзверы з завесаў пазрываць.

Алена Лявонаўна выдаіла апошнія кропелькі малака і з палёгкаю ўздыхнула. Хоць і небагата дае Зорка, хоць сёння і не брыкалася, стаяла ціха, а ўсё ж рукі стаміліся ад нялёгкае гэтае работы.

Узяла ўслончык, на якім сядзела, у адну руку, даёнку — у другую і пайшла ў сенцы працэджваць малако. Варка падалася следам. Стала ў яе над душою, глядзела, як настаўніца нацягнула марлю на гарлач, як павольна цэдзіць, баючыся пераліць цераз край.

— Божа мілы,— бубніла над вухам Варка,— усе толькі і дрыжаць над таею кропелькаю малака, кожны жыве з яго. Без каровы — як без рук.

— Гэта праўда,— згадзілася Алена Лявонаўна, яна і сама любіла пагаманіць, але сёння ў яе язык нібы прысох. Можа, таму, што доўга корпалася ў гародзе, стамілася, ды і сонца моцна напякло галаву.

Варка яшчэ штосьці гаварыла пра малако, а потым, убачыўшы, што настаўніца вось-вось пойдзе ў хату (самой жа ёй заходзіць у хату не хацелася, бо там мог быць Нікан Іванавіч), адразу ж пераскочыла да таго, што, уласна кажучы, і прывяло яе сюды. Яна ўмольна зазірнула ў вочы Алены Лявонаўны, нават сваю нязграбную постаць схіліла ў глыбокай пашане і сцішыўшы як не да шэпту голас:

— Вось аб чым хачу прасіць вас...

Настаўніца зачэрпнула кубкам вады з вядра, што стаяла ў сенцах за дзвярамі, і пачала спалосквадь даёнку.

— Вы такая мілая жанчына, вас усе любяць, усе паважаюць,— і далей саладжавым галаском працягвала: — Гэта ж я прыйшла да вас, каб памаглі мне. У такую бяду трапіла, што не давядзі божа! Чорт спакусіў, не інач! Дзяўчаты з самага ранку таўкліся ля малатарні, пшаніцу малацілі, дык я, дурніца, крыху зерня прыхавала за пазуху. За пазуху паклала і ў торбачку, у якой сняданак нашу сабе. Паверце, Алена Лявонаўна, што ўпершыню... Іншыя кожны раз бяруць і не пападаюцца, а я вось узяла — і адразу ж папалася.— Яна трашчала, як сарока, каўтаючы словы, і пільна сачыла за выразам твару Алены Лявонаўны — асуджэнне было на ім ці спачуванне. Ды толькі круглы смуглявы твар настаўніцы па-ранейшаму быў абыякавы.— А каля става, як на тую бяду, перахапіла мяне старшыніха наша. Нібы спецыяльна чакала! Адабрала торбачку, нават за пазуху не пасаромелася палезці. Бледная такая з твару зрабілася, страшная і нічога не кажа, толькі пазірае злоснымі вачамі, быццам бы я роднае дзіця яе разарвала...— Варка цяжка ўздыхнула, памаўчала з хвіліну і дадала: — Ну, цяпер бяда мне, цяпер ужо не даруе, не такая!

— Навошта ж вы, Вара, бралі? — спытала настаўніца.

— Цяпер я і сама каюся, што ўзяла! — як не ўскрыкнула Варка, і на яе аблічча сапраўды адбілася раскаянне.— Вы ж ведаеце нашу старшыніху, яна не даруе, яна мяне пад суд аддасць, бо цяпер за гэта судзяць.

— Кажаце, не сварылася, маўчала?

— Вось таму яно і страшна, што маўчала. Каб сварылася — было б, здаецца, лягчэй. А то затаіла гнеў, цяпер бяда мне... Алена Лявонаўна, старшыніха паважае вас, як нікога, вы ў яе ў пашане, дык можа б схадзілі да яе, закінулі за мяне слова? Век помніла б ваша дабро... Вы ёй скажыце, што ў мяне дзеці, што пра іх дбала.

— Хіба яна пра вашых дзяцей не ведае?

— Ведае, Алена Лявонаўна, але не зашкодзіла б, каб вы ёй яшчэ раз нагадалі... Нагадайце, што я ўдава...

— Ды яна ведае пра гэта.

— А вы нагадайце, прашу вас. Я і сама пайшла б да яе, але яна і слухаць мяне не захоча, вы ж ведаеце, якая яна шалёная. А вы ў яе ў пашане, бо вас усе паважаюць,— шоўкам слалася Варка, не баючыся перабраць меры. Алена Лявонаўна слухала суседчыну пахвальбу на свой адрас, і куточкі яе вуснаў ледзь прыкметна ўздрыгвалі, ды толькі нічога яна не адказвала.— У нашай старшыніхі такая натура, што нарадзіцца б ёй не жанчынаю, а мужчынам.

— Ну, добра, Вара, добра,— урэшце сказала настаўніца.

Але суседка не спускала з яе вачэй.

— Я на вашу дабрыню ніколі не забудуся,— і ў яе голасе загучала шчырае раскаянне.

— Добра, Вара, я пагавару, а цяпер ідзіце сабе дахаты.

Варка, відаць, яшчэ штосьці хацела сказаць, але, дамогшыся згоды настаўніцы і адчуўшы палёгку на душы, падалася дадому. Бо калі настаўніца паабяцала, то ўжо слова сваё стрымае,— дасць бог, можа, усё скончыцца добра.

Гарпіну Цітаўну Свярбівус усе ў Мядзвенцы звалі старшыніхай. Старшыніха — і ўсё тут, і малы і стары. Была яна высокага росту, дзябёлая, з пабітым воспаю тварам. За вочы яе звалі яшчэ і «рабою». Мабыць, праз тое рабаціння, што збрыдзіла яе яшчэ ў маленстве, яна і замуж не пайшла. Можа, гэтае рабаціння і характар яе знявечыла, зрабіла яго цяжкім і грубым. Пра старшыніху людзі крадком казалі, што лепей ужо з канём жыць, чым з такою жанчынаю.

Да вайны ў Мядзвенцы за старшыню быў Ксаверы Дутыш, які і калектывізацыю ў сяле праводзіў, і кулю насіў пад праваю лапаткаю — гасцінец, пасланы яму ў спіну цёмнай ноччу. Ксаверыя паважалі за тое, што хоць і ўпарты быў чалавек, заўжды на сваім настойваў, але і гаспадар з яго быў талковы, не пазычаў на старане гаспадарскага ўмення ды стараннасці. Ксаверыя Дутыша немцы вывезлі з сяла на трэці дзень пасля свайго прыходу, і пазней яго ўжо ніхто болей не бачыў. Хоць і расказвалі, нібыта Ксаверыя расстралялі ў двары раённага спіртзавода.

Адразу ж пасля вызвалення сяла ад акупантаў, калі калгаснікі ўзяліся за аднаўленне арцелі, неяк само па сабе атрымалася, што на чале яе апынулася Гарпіна Свярбівус. Ці таму, што людзей на той час у Мядзвенцы амаль не было, ці таму, што да вайны яна, за жывой памяццю Ксаверыя Дутыша, была сярод актывістаў, дзяўчынаю хадзіла агітаваць людзей аб'ядноўвацца ў калектыўную гаспадарку, вытрасала, калі трэба было, збажыну з розных схованак і таксама ледзь уратавалася ад гарачага гасцінца ў спіну,— ніхто і не здзівіўся, калі яна стала за старшыню, і мянушка «старшыніха» прычапілася да яе адразу, нібы яна з ёю і нарадзілася.

Калгас меў сваю кантору, у той канторы адзін пакойчык адвялі пад кабінет для старшыні, ды толькі Гарпіна Цітаўна, здаецца, ніколі не сядзела там, а ўсё бегала ці па гаспадарчых справах, ці ездзіла ў поле, ці проста хадзіла па людзях. Усё, што трэба было вырашаць ці ўдак-

ладняць, вырашалася і ўдакладнялася на хаду, таму, відаць, не было і патрэбы збірацца на нарады і пасяджэнні ў канторскім кабінеце. Калі хто і меў неадкладныя якія справы да старшыні, дык стараўся сустрэць яе дзе ў полі ці каля кароўніка або ішоў проста да яе дадому. Заходзілі да яе толькі тады, калі цвёрда ведалі, што яна будзе дома: або на дасвецці, калі яшчэ спала, або ўвечары, калі вярталася дахаты і, не маючы болей сілы штосьці рабіць, садзілася на ганак і колькі часу моўчкі адпачывала.

Раней яна жыла з маткаю, якая займалася хатняю гаспадаркаю, даглядала курэй, гадавала парася,— так што свежае яйка ці кавалак мяса заўжды вяліся ў хаце, заўжды была на стале і гарачая страва... Маці неяк нечакана памерла, і толькі тады старшыніха адчула, што быццам хтосьці адсек палову яе жыцця, і тая другая палова — самотная і хаатычная — сумуе і ные, прагне спакою і не знаходзіць яго...

Па двары цяпер ужо не бегалі ні куры, ні свінні, а паколькі за неадкладнымі арцельнымі справамі не было калі і есці сабе згатаваць, дык не заўсёды выпадала і гарачай стравы лыжку якую глынуць. І вось як пасля матчынага пахавання ў першы вечар не магла зайсці ў хату, якая зрабілася раптам чужая і варожая, нібы тая дамавіна, а праседзела ўсю ноч на лавачцы каля ганка, зусім забыўшыся на суседак, што прыйшлі тою ноччу падтрымаць яе ў горы, так пасля таго і прывыкла яна сядзець на лавачцы, баючыся роднага кута.

Пакуль жыла на гэтым свеце маці, яны і карову трымалі,— малака ім абедзвюм хапала ўволю. Пазней за кароваю не стала належнага догляду, і старшыніха адвяла яе ў арцельны статак — няхай там яе даглядаюць, няхай там і дояць. Людзі меркавалі, што старшыніха з часам абдумаецца і забярэ назад свой клопат. Але яна не абдумалася нават тады, калі той «клопат» аднаго разу ўцёк з калгаснага статку і прыбег дадому, стаў на сваё месца ў хлеве і жаласным голасам пачаў клікаць гаспадыню, каб тая прыйшла і падаіла. Старшыніху ніколечкі не расчуліла нечаканае паяўленне каровы.

Карову яна так-сяк падаіла (малако тое так і не выпіла, яно згоркла і яго давялося выліць), а раніцай наступнага дня зноў адвяла на ферму. Пасля таго карова ўжо не прыбягала дадому, хоць пастухі лупцавалі яе ў статку не менш за іншых, калі тая хацела ўбіцца ў шкоду ці пачынала брыкацца...

Праўда, часам у старшынёвай хаце было ўсё акуратна прыбрана і есці згатавана,— да Гарпіны Цітаўны наведвалася старая цётка, якая жыла ў канцы сяла. Цётка Лабадзіха была сухенькая, нібы тая трэска, апранутая ва ўсё старэнькае, але чыстае, з твару бледная, без крывінкі, глядзела на ўсіх хоць і прыязным, але пустым, адсутным позіркам. Цётка Лабадзіха ўсё сваё жыццё адчувала сябе хвораю, усё сваё жыццё скардзілася на здароўе, лячылася ў розных знахарак і варажбітак, у яе не зводзіліся самыя разнастайныя зёлкі, карэнні, ды толькі мала яны, відаць, памагалі ёй. Цётка заўжды гаварыла пра здароўе, пра тое, хто памёр і ад чаго памёр, а таксама пра тых, якія не берагуць сябе і вось-вось аддадуць богу душу. Слабое здароўе не перашкодзіла Лабадзісе ў маладосці пайсці замуж за прыгожага і дужага хлопца, нарадзіць ад яго трох дачок, а пасля пахаваць свайго карміцеля, які гэтак недарэчна памёр за колькі дзён да пачатку вайны (ссекшы ў лявадзе ясакар, ён хацеў саматугам зацягнуць яго ў двор — і пасярод агароду як упаў, дык ужо і не змог падняцца з-пад таго ясакара; доўга яшчэ потым тое дрэва ляжала на мяжы, Лабадзіха абмінала яго, як злую сілу, а пасля дадумалася аддаць камусьці за паўцаны, абы толькі не бачыць, абы толькі прэч з вачэй).



Наведваючыся да Гарпіны, цётка Лабадзіха спярша спынялася ў парозе, глядзела ўсё, што рабілася ў хаце, і яе тонкія сухія губы хваравіта крывіліся. Потым яна шукала венік, які ніколі не ведаў свайго сталага месца, і пачынала падмятаць падлогу. Падмёўшы, выцірала анучкаю пыл на стале і на лаве, здымала павучынне па кутках, а затым ужо адчыняла засланку ў печцы, зграбала попел, раскладала агонь. Ведала, што ў старшыніхі не заўсёды знойдуцца ў хаце крупы, і таму прыносіла крыху з сабою ў вузельчыку або яшчэ што-небудзь брала — і гатавала для яе абед ці вячэру. Не заўсёды згатаванае старшыніха і з'ядала (можа, не галодная прыходзіла, можа, не ў гуморы, а можа, проста не было апетыту), і часта ўсё даводзілася выліваць каля хлева на памыйніцу.

Перад тым як ісці дадому, цётка Лабадзіха садзілася на лаўцы, клала сухія рукі на кашчавыя калені і заўсёды думала пра тое, што ў Гарпіны ад нараджэння жыццё не пайшло так, як у іншых людзей, што, мабыць, гэтак ёй на вяку наканавана. А ўсё праз гэтую хваробу, праз гэтую воспу... І адкуль яно толькі ўзялося, гэтае рабаціннe, якое так збрыдзіла дзявочыне твар, сапсавала характар...

І ўласныя цётчыны хваробы, унутраныя, не бачныя людскому воку, здаваліся ёй не такія страшныя, таму яна нават поўнілася пачуццём перавагі над сваёю нябогаю.

— Заходзьце, заходзьце, Алена Лявонаўна! — гукнула з хаты старшыніха, якая заўсёды пазнавала настаўніцу па яе ціхім і асцярожным стуку.

Алена Лявонаўна пераступіла парог і адразу зажмурылася, бо лямпа, якая звычайна ледзь-ледзь свяцілася ў старшыніхі, сёння гарэла вельмі зырка, добра падрэзаны кнот даваў роўны веер полымя, а шкло было без адзінай плямкі сажы.

Старшыніха ўбачыла здзіўлены погляд настаўніцы, скіраваны на лямпу, холадна ўсміхнулася і сказала:

— Вось прыйшла дадому і, мабыць, з гадзіну корпалася са сваёю лямпаю. Пакуль шкло вычысціла, пакуль кнот падправіла... А ў лямпе ўжо гэтулькі рознага смецця і гразі сабралася, што нават незразумела, як наогул яна гарэла... Бывала, ледзьве бліскаў кволы агеньчык, а цяпер зірніце, як палае. Нават самой не верыцца, што мая старая лямпа можа даваць столькі святла!.. Дык жа сядайце, не стойце,— раптам спахапілася гаспадыня, убачыўшы, што настаўніца пераступае з нагі на нагу.

— Нічога, нічога, я пастаю,— ціха адказала настаўніца, адчуваючы няёмкасць.

І зноў у паглядзе старшыніхі, скіраваным на яе, заблісканлі халодныя іскрынкі. Гарпіна Цітаўна выцерла анучкаю крэсла, Алена Лявонаўна села на яго і раптам адчула яшчэ большую няёмкасць за свой позні прыход.

Старшыніха памаўчала трохі, потым сказала:

— Да чаго ж абрыдлі ўсе гэтыя лямпы, каганцы, газоўкі, абрыдлі так, што душа баліць. Электрычнасць сялу патрэбна, святло, каб людзі не сядзелі па норах, як у пячорны час.

— Адкуль жа яе возьмеш? Без электрыкі і ў школе цяжка. Толькі ападзе змрок увосень ці ўзімку — ужо і заняткаў ніякіх няма, ужо і па хатах трэба разыходзіцца, хіба ж гэта вучоба пры лямпах?

— Хутка будзе ў нас электрычнасць,— сказала старшыніха.— Ужо ведаю, адкуль яе ўзяць.

Яна мела звычку гаварыць гучным, уладным голасам. Вось і цяпер гаварыла так, быццам перад ёю сядзела з паўхаты людзей.

— Дзе ж яе возьмеце? — спыталася настаўніца.

— А хіба ў нас няма млына? — старшыніха пільна паглядзела на госцю.— Ёсць млын. Пускаюць ваду — ён і меле. Ды і паравік стаіць ля млына ў прыбудоўцы,— чаго яму стаяць без справы? Раней у нас і паравік малоў, не толькі вада.

— Майстра няма, ці што?

— Жадання ні ў кога няма, а майстра знайсці можна... Я знайду майстра, які ўсё зробіць! І дынамамашыну дастанем, якая ток выпрацоўвае.

— Вось добра было б,— згадзілася настаўніца.

— Пра гэта я ўсё думала, калі прыводзіла да ладу сваю лямпу,— у яе ў вачах бліснула цёплая іскрынка, гаспадыня нават усміхнулася — з незахаванай радасцю, што ўсё гэта прыйшло ёй у галаву.

— Наш Плішак,— сказала настаўніца пра механіка, які працаваў на мядзвенецкім млыне,— не ўправіцца і каля жорнаў, і каля электрыкі. Ды ці разбярэцца ён у гэтай справе?..

— Калі адразу не разбярэцца — падвучыцца. І абавязкова падвучыцца, бо не захоча, каб на такое хлебнае месца паставілі каго іншага, а не яго. Плішак гэтак прапах млыновым пахам, што іншых пахаў і знаць не захоча.

— Ды і чалавек на млыне трэба, каб быў сумленны, Плішак не абважвае, не ашуквае.

— Сумленны ён ці несумленны, а толькі не пападаецца ніколі, і сям'я яго не сядзіць галодная. Усяго хапае — і хлеба і да хлеба.

Тут Алена Лявонаўна і вырашыла, што самы час перайсці да справы, якая і прывяла яе сюды.

— Сумленны, таму што не пападаецца,— падтрымала яна старшыніху.

— Не тое, што ваша суседка Варка,— сказала старшыніха такім тонам, нібыта і настаўніца была вінаватая ў той Варчынай пакражы.— Сёння я ў яе вытрасла паўпуда пшаніцы.

Алена Лявонаўна ўзрадавалася, што гаспадыня сама кінула нітку размовы пра Варку і сама ж узялася размотваць яе.

— А што там здарылася? — спытала яна, нібы нічога не чула.

— Што? Яна ніколі з пустымі рукамі не варочаецца дадому. З буракавага поля ідзе — буракоў украдзе, каля маку крутнецца — макавак нарве. Гарох малоцяць — яна і гароху прыхопіць з сабою, каля грэчкі пройдзе — і яе не абміне. Што толькі можа, за пазуху запхне. І хоць бы троху баялася, дык жа не, на ражон лезе. Добра ведае, што я ўсе яе хітрыкі прыкмячаю, але ўсё роўна гне сваё, па-свойму робіць. І з кожным днём усё больш нахабна, бо людзі не дужа звяртаюць увагу на яе махлярства. Але на гэты раз я ёй не спушчу, няхай памятае, ды і для іншых навука будзе. Законы для ўсіх аднолькавыя, іх трэба паважаць, бо калі іх не паважае чалавек — яны адразу перастаюць быць законамі.

— Што ж з ёю будзе цяпер?

— А што? Тут ёй не да жартаў...

— Дзяцей у яе багата, ажно чацвёра, стары бацька ляжыць на печы, не падымаецца колькі гадоў, ніяк не дачакаюцца, калі памрэ...

Старшыніха прыжмурыла зеленаватыя свае вочы, утаропілася на настаўніцу.



— Вы што — прыйшлі абараняць яе? Прыйшлі прасіць за яе? Не іначай, Варка паспела ўжо злётаць да вас, паспела ўжо наскардзіцца на мяне, паслала вас прасіць за яе.

Алена Лявонаўна адчула раптам, як гарачая кроў ударыла ёй у твар, і нібы ўся запалала — з ног да галавы.

Старшыніха працягвала далей — рэзка і зычна, быццам у хаце было поўна людзей і ўсе яны гаманілі на ўвесь голас.

— А калі дзеці ў яе, калі бацька стары і нямоглы — дык, значыць, і красці можна? Чым больш дзяцей — тым больш красці дазволена, так ці не?

— Не, не так,— стараючыся гаварыць як мага мякчэй, запярэчыла настаўніца.— А толькі яна адзіная карміцелька ў сям'і, больш нікога няма, каб пастараўся.

— А вы ведаеце, што калі ёй і на гэты раз дараваць, дык яна не кіне красці, зусім зробіцца нахабная?

— Можа, і кіне,— лагодным тонам адказала Алена Лявонаўна.

Старшыніха нібы словам якім папярхнулася, апусціла свае пільныя і халодныя вочы — як быццам дзесьці там, унізе, шукала згубленыя доказы і, не адшукаўшы іх, вымавіла:

— Калі чалавек мае паганую звычку, дык і ў багацці жывучы, ад гэтае паганае звычкі не адмовіцца.

Аднак сказала гэта не такім рэзкім голасам, нібыта і сама не дужа верыла ў свае словы. Затым зноў упэўнена ўзняла галаву, зноў уладным голасам сказала:

— Варка — паліцэйская жонка. Яе паліцая забілі — туды яму і дарога. А колькі нашых мужчын на франтах загінула! Дык мне што, аднолькава ставіцца да Варкі і да тае, у якой муж герой? Абараняць паліцэйскую жонку? Абараню я яе, дык што мне скажуць салдацкія ўдовы?

— Удава ўдаву зразумее.

— Толькі не я! — ускрыкнула старшыніха. І паўтарыла: — Толькі не я!.. Для каго яны і аднолькавыя, а для мяне — розныя і такімі заўсёды астануцца. Бо муж адной злажыў галаву за Радзіму, а другі забіты як здраднік. А вам, Алена Лявонаўна, я скажу,— гаспадыня бліжэй падышла да сваёй госці і гарою навісла над ёю, настаўніца ажно ўсхапілася з крэсла,— каб вы, Алена Лявонаўна, не абаранялі вінаватых і невінаватых...

— Я вінаватых не абараняю,— амаль шэптам вымавіла настаўніца.

Старшыніха, здаецца, не пачула яе і гаварыла далей:

— Вы за ўсіх у сяле заступаецеся — і за добрага, і за благога, да вас усе бегаюць са сваімі болькамі і яшчэ просяць, каб перада мною замовілі слова. Вы ўсіх гатовы выслухаць, бо ці розум маеце мяккі, ці сэрца мяккае, а ў мяне розум халодны і сэрца халоднае, бо я справядлівасці шукаю, бо я справядлівасць адстойваю.

— І я за справядлівасць,— цвёрда, адолеўшы хваляванне, сказала Алена Лявонаўна.

— За якую ж вы справядлівасць? — бліснуўшы вачамі, усміхнулася старшыніха.— За тую, пры якой Варка і далей будзе красці, пры якой яе не будуць прыцягваць да адказнасці? Выходзіць, што за такую? А я за тую,— яна яшчэ бліжэй падышла да Алены Лявонаўны, яе твар гарэў агнём,— я за тую, каб Варка не крала, каб ніхто не краў, каб людзям жылося добра. А таму і пакараць яе трэба. Хіба вы не гэтак разважаеце? Хіба не трэба пакараць?

— Як я разважаю, як я лічу? — расцягваючы словы, спыталася

настаўніца. Гаварыла яна павольна, быццам кожнае слова давалася ёй з цяжкасцю.— Каб мы гаварылі пра абстрактнага чалавека, не называючы яго прозвішча, і гэты чалавек сапраўды зрабіў нешта нядобрае... нядобрае,— паўтарыла настаўніца гэтае слова, бо іншага не магла падшукаць у тую хвіліну, таму што іншыя, якія ўсплывалі ў памяці, здаваліся ёй празмерна жорсткія,— дык я не супраць, каб такога чалавека пакараць... па закону, вядома, па закону, які існуе для ўсіх. І калі гаворка заходзіць пра канкрэтную Варку, якую я ведаю не першы год і з якою жыву па суседству, дык я, прызнаюся, не спяшалася б яе караць.

— Цяпер усё робіцца для чалавека, а не супроць чалавека... Няхай кожны стараецца...

Настаўніца хацела штось запярэчыць, ды раптам яе апанавала дзіўная апатыя, і словы завялі ў яе на губах. Ужо не хацелася ні спрачацца, ні сваё даводзіць. Затое старшыніху нібы хто пад'юджваў, яна, узбуджаная, хацела і далей выказваць свае думкі.

— Хіба не так? — дапытвалася.

— Яно то гэтак,— згаджалася Алена Лявонаўна,— ды толькі ж трэба і спагаду да людзей мець, нельга жыць па-казарменнаму, трымаючыся адных толькі параграфаў.

— Не так і блага, калі параграфы тыя правільныя,— запярэчыла старшыніха.— Нават вельмі добра, што яны правільныя.

— Пайду я,— сказала Алена Лявонаўна, пакутліва і неяк збянтэжана ўсміхаючыся.— Прыйшла да вас сярод ночы ў хату, распачала спрэчку, а вам і без таго клопату хапае, ды і адпачываць пара.

— Адпачываць будзем тады, калі прыйдзе да нас вечны спачын,— пахмурна адказала старшыніха, і Алена Лявонаўна так і не зразумела толкам — было гэта сказана жартам ці ўсур'ёз.— Добрая душа ў вас, толькі сляпая. Здаецца, і пазіраеце на ўсё сваімі вачамі, а бачыце кепска, бо на іх бельмы.

— Ведаеце,— усё ж не стрымалася госця,— іншы раз сляпы бачыць лепш за відушчага.

— Як жа гэта яму ўдаецца? — зноў бліснула пільнымі вачамі старшыніха.

— А самі сказалі — добраю сваёю душою.

— Ну...— толькі і нукнула старшыніха і не паспела выказацца да канца, бо Алена Лявонаўна ўжо ўзялася за клямку і адчыніла дзверы. Заспяшалася гэтак, нібы хацела, каб апошняе слова ўсё ж за ёю асталося. Старшыніха на нейкі момант спынілася пасярод хаты, потым кінулася ўслед, быццам бы хацела выказаць яшчэ адну вельмі важную сваю думку, але на ганку затрымалася і нічога не крыкнула наўздагон Алене Лявонаўне, постаць якой амаль расплылася ў вячэрнім мораку.

Алена Лявонаўна з мужам сваім Ніканам Іванавічам да вайны настаўнічала па розных сёлах Кіеўшчыны і Віннічыны. Вайну Алена Лявонаўна перасядзела з двума малымі — старшай Таісай і меншым Міхалам — у сваіх бацькоў у сяле Новая Грэбля. У часе акупацыі нацярпелася ўсяго, забылася ўжо на ўсе радасці жыцця, і найбольшым шчасцем для яе быў прыход нашых ды яшчэ тое, што змагла ўратаваць дзяцей. Нікана Іванавіча забралі на фронт, але праз сваё слабое здароўе ён больш па шпіталях праляжаў ды па розных тылавых часцях праездзіў,— то, можа, дзякуючы сваёй лядашчасці і жывы астаўся. Ён нават да канца вайны не дабыў — спісалі праз непрыгоднасць, і Нікан Іванавіч вярнуўся да свае сям'і адразу ж пасля вызвалення Новай Грэблі ад немцаў.

Гэта быў час, калі кожны мужчына быў на вачах у людзей, калі на кожнага мужчыну звярталі ўвагу — а чаго ён у тыле, а чаму не на фронце, калі яшчэ ідзе вайна, калі арміі патрэбна дапамога? Нікана Іванавіча вазілі па розных медыцынскіх камісіях, наладжвалі праверкі і пераправеркі. І ўсе ў адзін голас адзначылі: здароўе ў Нікана Шкарубы сапраўды нікуды не вартае, зусім слабое сэрца і хворая печань, што яму трэба лячыць ныркі, што ў яго незразумелы хранічны галаўны боль.

Тады ж былі арганізаваны розныя працоўныя арміі, бо Данбас і Крываарожжа ляжалі ў руінах, трэба было неадкладна аднаўляць прамысловасць, даваць краіне і арміі данецкі вугаль і крыварожскую руду, даваць машыны, зброю. Ды толькі абмінулі Нікана Іванавіча і працоўныя арміі, зноў-такі праз здароўе.

Пэўнае значэнне тут мела, відаць, і тое, што, нягледзячы на вайну, трэба было ўжо думаць пра аднаўленне вучобы ў школах,— настаўнікаў асталося вельмі мала... Яны абое паехалі ў райана, і іх накіравалі на работу ў сяло Мядзвенец — гэта кіламетраў за дванццаць пяць ад Новай Грэблі. Навагрэбленскі сельсавет даў ім каня, яны паклалі на калёсы ўсе свае небагатыя пажыткі, пасадзілі дзяцей і на світанку рушылі ў свет, у новае жыццё.

У Мядзвенцы ім далі хату, дзе раней жыў нямецкі паслугач, якому ўдалося ўцячы разам са сваімі гаспадарамі. Каля хаты расло некалькі яблынь і грушак, быў агарод у даволі шырокай лагчыне, у якой вясною збіралася талая снегавая вада. У гэтай лагчыне добра радзіла капуста. Быў каля хаты і калодзеж, праўда, калодзеж той быў закіданы розным ламаччам, падлаю і непатрэбшчынай. Нікан Іванавіч колькі дзён запар вымаў усё гэта, потым вычэрпваў забруджаную ваду. Памагаў яму ў гэтым сусед — аднаму было не пад сілу. І тым не меней яны яшчэ доўга не маглі піць вады з гэтае крыніцы. Таму хадзілі па пітную ваду да суседзяў, а для мыцця бялізны і палівацъ агарод бралі ўжо ў сябе.

Прыехалі яны ў Мядзвенец пад восень і, вядома, не паспелі засеяць агарода. З вясны ён меў страшэнны выгляд — з канца ў канец зарос бур'янам. Алена Лявонаўна жартам казала, што ў гэтым агародзе самы раз выць ваўкам па начах. Ваўкі, вядома, не прыходзілі, але было горка глядзець на гэтую запушчаную і недагледжаную зямлю. Настаўніца разам з дзецьмі павыдзіралі пустазелле і склалі пад хатаю — пойдзе на паліва,— потым пазносілі на ўзмежак living рознае жалеззе: гільзы ад снарадаў, металічныя скрыні, пагнутыя ржавыя бляшанкі. Пасярод агарода стаяла спаленая нямецкая машына, легкавушка, Міхал з Таісаю паабдзіралі з яе ўсё, што толькі маглі абдзерці, а цяжкі металічны шкілет так і астаўся на месцы.

Першая зіма ў Мядзвенцы нялёгка далася ім. Добра яшчэ, што ў калгасе можна было выпісаць трохі бульбы, нейкай збажыны, бо каб давялося ўсё гэта купляць на заробленыя грошы, дык наўрад ці выцягнулі б. З палівам давялося асабліва цяжка — фуру хмызу прыкупілі, крыху вугалю дала школа, але гэтага было недастаткова, і ў зімовыя халады мусілі сядзець дома ў паліто, калі ж кладліся спаць — укрываліся ўсімі манаткамі, якія толькі былі ў хаце... З надыходам вясны стала лягчэй, можна было галля назбіраць па ярах, каб паліць у печы; ускапалі рыдлёўкамі агарод і пасадзілі бульбу, часткова купленую на рынку, а часткова пазычаную ў людзей.

Наступная зіма далася ім лягчэй. У хаце вяліся ўжо такія-сякія

прыпасы, апрача таго, завялі знаёмства з сялянамі, набылі сяброў, якія ў нявыкрутку заўсёды гатовы былі прыйсці на дапамогу.

Карову Зорку яны прыдбалі на другую восень у Мядзвенцы. Можа б ім і не ўдалося гэтак хутка купіць яе, каб маці не дала Алене Лявонаўне трохі грошай (дзе толькі яна магла іх дастаць — гэта так і засталося яе таямніцаю). У той час яны эканомілі літаральна на ўсім — на харчах і на адзежы, ашчадна складвалі адзін зароблены рубель да аднаго, каб нарэшце-такі прыдбаць уласную кароўку, каб дзеці маглі штодня піць свежае малако. Карову нагледзелі на рынку ў Калінаўцы, спачатку доўга вагаліся, баяліся памыліцца ў сваім выбары — не ведалі, якая яна будзе; людзі, што тоўпіліся вакол, казалі рознае, але найбольшаю спакусаю было тое, што прасілі за яе менш, як за астатніх, якіх яны глядзелі.

Зорка прынесла ім і радасць і гора. Радасць была ў тым, што, нарэшце, яны прыдбалі ўласны хвост у гаспадарцы, што маюць цяпер сваё малако і не трэба яго больш купляць ці пазычаць. А гора — што малака таго давала яна зусім мала. Другая карова і цельная не перастае даіцца, а ў Зоркі яшчэ задоўга да ацёлу ўжо вымя пустое. І хоць гаспадар, які прадаў яе, горача кляўся, што карова будзе на славу, малака ад гэтага больш не стала. Думалі нават прадаць Зорку, але збаяліся, што ім не вярнуць нават тых грошай, якія аддалі за яе. Гэтак і жылі з ёю чацвёрты год, нават трох цялят мелі — усе бычкі.

З тымі бычкамі таксама марокі мелі нямала — цялілася Зорка напрадвесні, якраз тады, калі і для яе самой не хапала корму, дык хіба мала было клопату, пакуль дачакаешся тае зялёнае травы! Пасля ўжо зусім добра, пасецца сабе на выгане, прывязаны да кала ці жалезнага шворана; калі ж у хлеве стаіць, можна нарваць яму ахапак бур'яну на палявым узмежку. А ўвосень ці ўзімку зарэжаш таго бычка — вось табе і мяса, вось табе і шкура. Мяса ў боршч — на душы адразу робіцца весялей,— а шкуру вырабіш і боты пашыеш. Праўда, Нікан Іванавіч сам вырабляць не адважваўся — баяўся сапсаваць і таму аддаваў чалавеку, які ўпраўляўся з гэтаю справаю па-майстэрску. У адных ботах з тае цялячае шкуры хадзіла Алена Лявонаўна, у другіх — Таіса.

Вось гэтак і распачалі яны жыццё ў Мядзвенцы, вось гэтак і абжываліся...

Найбольш, мусіць, памагала ім суседка Варка, што жыла насупраць,— праз два агароды,— іх ды свой. Часам па справе, а часам і проста так прыходзіла яна да іх перакінуцца словам-другім. Можа, і перашкаджала калі, але ўсё ж лягчэй на сэрцы ад думкі, што хтось да цябе горнецца, хтось думае, наведвае. Варка ім і пра навіны розныя мясцовыя расказвала, і пра суседзяў, так што яны па першым часе пра іх даведваліся менавіта ад Варкі і толькі пасля ўжо сустракалі на вуліцы, у калгаснай канторы ці тады, калі тыя заходзілі ў школу. Падчас Варка давала вельмі трапныя характарыстыкі таму ці іншаму аднавяскоўцу, расказвала, як чалавек паводзіць сябе — па-працяцку, з усімі па-панібрацку, ці хітруе, гаворыць у вочы адно, а думае пра другое або задужа высока нос задзірае, трымаецца героем, хоць на самай справе ўсяго баіцца.

— І адкуль вы ўсё ведаеце? — пытаўся Нікан Іванавіч, які любіў часам пакпіць з суседкі, праўда, рабіў ён гэта настолькі тонка і далікатна, што яна і не заўважала яго кпінаў.

— А пажывяце сярод нас, дык і вы будзеце ведаць,— адказвала Варка.

Яна не раз раіла, каго трэба асцерагацца і з кім трэба мець друж-





бу. Казала, з кім можна смела дзяліцца сардэчнымі таямніцамі — і той не выдасць іх нікому, а з кім варта трымаць язык за зубамі, бо, пачуўшы слова, потым пераверне ўсё дагары нагамі.

— А вы з усімі гэтак паводзіце сябе, як і нам раіце?

— Ей-ей,— замахала рукамі Варка,— уласная навука ніколі не ашукае, ды толькі не заўсёды да яе прыслухоўваешся.

Вось так яны і пачыналі жыць, так пачыналі ўваходзіць у вялікі і складаны свет маленькага сяла.

На наступны дзень пасля сустрэчы са старшыніхаю Алена Лявонаўна прачнулася яшчэ зацемна. Падымалася яна заўжды на дасвецці — печ гарэла кепска, а трэба ж было згатаваць есці для сям'і на ўвесь дзень. Яна заўсёды гатавала ўсё адразу — і сняданак, і абед, і вячэру, а потым страву пакідала ў печы, прысыпаючы попелам ці абгорнутую старой якой фуфайкай, каб не траціла смаку. Таму вось і ўставала на дасвецці, што клопату хапала. Але сёння ёй усю ноч не спалася, балелі бакі ад драўлянага тапчана, цяжкая была галава, нібыта ляжала яна не на падушцы, а на голых дошках.

Нікан Іванавіч прачнуўся, калі Алена Лявонаўна ўжо мітусілася ля печы, раскладаючы агонь. Павярнуўшыся на другі бок, напаўжартам сказаў, што яна, мусіць, не ўяўляе свайго жыцця без працы; нават, калі яе і няма, дык усё роўна знойдзе сабе клопат. Гэтыя словы Нікан Іванавіч казаў не раз, улічваючы, што жонка калі-нікалі таксама магла б паляжаць лішнюю якую гадзіну і дагледзець ранішнія сны. Але так яна не лічыла — Алене Лявонаўне здавалася, што хатняй работы ніколі не пераробіш, і чым больш корпаешся, тым больш астаецца нязробленага.

— Пайшоў бы ты лепей зацягнуў дрот парасяці, а не гаварыў абы-што,— кінула яна ў адказ.

Хадзіў па падворку, шукаў кавалак дроту. Адшукаўшы, узяўся вастрыць з аднаго канца, каб лягчэй было загнаць у парасячы лычык. Урэшце рэшт, напілкам так завастрыў, што можна было лёгка і самому ўкалоцца. Зайшоў у хлеў — Зорка дыхнула на яго цёплым духам, хацела рыкнуць, але не рыкнула. Залез у клетку, да парасяці, яно зарохкала, потым падхапілася, спадзеючыся, што прынеслі есці. Нікан Іванавіч хацеў пачухаць парася за вухам, каб заспакоіць, але яно ў трывозе бегала ў загарадзі і пішчала.

— Такая ты гаспадыня...— сказаў ён Алене Лявонаўне.— Спярша трэба яго накарміць, а потым ужо дрот зацягваць... Каб спакойнае было...

Алена Лявонаўна стаўкла парасяці крышку лушпаек. Нікан Іванавіч паспрабаваў быў схапіць яго, прыціснуць каленам да зямлі, але яно з віскам вырвалася з рук і віхураю пачало гойсаць па загародцы.

— Цьфу, акаяннае,— вылаяўся Нікан Іванавіч, не адважваючыся больш нават дакрануцца да яго ды, шчыра кажучы, і пабойваючыся, бо ніколі ў сваім жыцці яшчэ не зацягваў парасяці дроту.

Што было рабіць? Пакінуў хлеў і выйшаў на вуліцу, праз нейкі час вярнуўся з Варкаю. Алена Лявонаўна зірнула ў акно — і не пазнала суседкі: галава перавязана сама меней трыма хусткамі, выраз твару пакутніцкі. Абое тут жа зніклі ў хляве, а ў наступную хвіліну адтуль даляцела кароткае, прыдушанае рохканне парасяці. Дрот быў зацягнуты, і Варка выйшла на сярэдзіну двара.

«Ну, цяпер ужо не пазбегнуць размовы з ёю,— падумала Алена



Лявонаўна, і пад сэрцам у яе непрыемна заныла.— А што я ёй скажу?»

Варка прысела ля дзвярэй — пахмурная, з пакутніцкім выразам на твары, потым хрыплым, прастуджаным голасам кінула:

— Што, не пазналі? Учора была адна Варка, а сёння ўжо іншая? Ледзьве хаджу, галава страшэнна трашчыць.

— Вы нам не толькі кабана калолі, а і дрот вось зацягнулі, праўда? — удзячна вымавіла Алена Лявонаўна.

— Дробязь... Няма пра што і гаварыць...— і з цікаўнасцю зазірнула ў вочы настаўніцы. Тая маўчала, і тады Варка сама пачала: — А ці гаварылі са старшыніхаю?

— Гаварыла,— цяжка ўздыхнула Алена Лявонаўна,— ды толькі ніякага толку.

Варка хваравіта скрывілася і апусціла долу вочы.

— Больш я на працу не пайду,— сказала.

Памаўчала. Потым абыякавым, нудным голасам дадала:

— А мой Мікола,— расказвала яна пра свайго старэйшага сына,— гэтай ноччу дома не начаваў. І ведаю, што не ў полі быў, што не ў сцірце пераспаў.

— Дзе ж гэта ён знайшоў прытулак? — спытала Алена Лявонаўна пра суседчынага хлопца — плячыстага, мардастага і цяжкога ў хадзе асілка — куды там Варцы да яго!

— Відаць, у прымы надумаў пайсці...— гэткім жа абыякавым тонам выказала меркаванне суседка.

— Мікола?! — здзівілася настаўніца. Міколу было семнаццаць гадоў, ён з горам напалам скончыў шэсць класаў і гэтай восенню збіраўся ісці ў сёмы.

— А хто ж, Мікола. І прыгожую маладзіцу прыгледзеў, ведаеце Надзю Лапкоўскую?

— У Лапкоўскай жа дзіця ёсць, хлопчык.

— Хлопчык ёсць, але ж і хата ў яе, не трэба будзе сваю перацягваць, бо, як на цяперашні час, справа гэта складаная. І гаспадарка ў яе дагледжаная, жанчына ж яна працавітая, не сядзіць склаўшы рукі.

— Мікола малады хлопец, сам сабе дарогу ў жыццё праб'е. Маглі б, Вара, сказаць, каб не спяшаўся.

— А чаго яму цягнуць? Хай жэніцца, няма чаго ў мяне на шыі сядзець. Мне трэба астатніх дзяцей гадаваць.

— А як жа са школаю? — не магла супакоіцца настаўніца.

— Якая школа? — не зразумела Варка.

— Хто ж за яго ў школу хадзіць будзе?

— А ніхто! — абыякава адказала Варка.— Чытаць і распісацца ўмее, а больш яму і не трэба.

— Як жа так — не трэба?

— Навошта яму больш? У школе не вучаць, як зямлю араць, ды ён і сам ведае.

— Эх, Вара, Вара, не дбаеце вы пра сваіх дзяцей!

— Я не дбаю? — пакрыўджана ўсклікнула Варка.— А хто ж тады дбае? Я кожнаму свайму дзіцяці шчасця зычу. Таксама і Міколу. Няхай ідзе ў прымы, я яму благой жонкі не параю, а Лапкоўская — нішто сабе маладзіца... Астатнія дзеці будуць вучыцца, можа, з іх і будзе які толк, пра які вы кажаце.

— Скончыў бы Мікола школу, паехаў бы ў горад, набыў спецыяльнасць. Некалі вырасце і прыгадае вам, Вара, што не адгаварылі яго, крыўдаваць будзе на вас.

— Не будзе крыўдаваць,— спакойна запярэчыла Варка.— Каб я яго ад якой распуснай кабецiны не адгаварыла, тады справа iншая, тады мог бы крыўдаваць, а Лапкоўская — добрая жанчына, i дзiця ў яе добрае... Дык чаго ж яму крыўдаваць на мацi сваю?

— Ажанiцца — справа няхiтрая, вось як бы потым разжэньвацца не давялося!

— А што? — таксама спакойна адказала Варка.— Калi трэба будзе, дык i разжэнiцца.

— Жонку трэба шукаць адну i на ўсё жыццё!

— У жыццi па-рознаму бывае,— даводзiла сваё Варка.— Жонка — нiбы той бот: знасiў стары, надзявай новы.

— Не, Вара, не так разважаць трэба, не так... Жонка не бот, якi скiдаеш, калi хочаш, з ёю таксама па-людску трэба абыходзiцца.

— А хiба я кажу, што не па-людску?.. Ну, я пайду ўжо,— i Варка паднялася з услона.— I што мне цяпер рабiць? — спыталася, маючы на ўвазе, мабыць, свой нявырашаны клопат з няўмольнай старшынiхай.

Падалася яна з падворка разам з Нiканам Iванавiчам — той, далучыўшы Зорку да статку, сабраў вуды i пайшоў да става лавiць рыбу.

Зiнгераўская швейная машына была ў iх са спрадвечных часоў, ва ўсякiм разе, Мiхал памятаў яе заўсёды; калi быў малы, ён вельмi любiў круцiць прывадное колца, за што яму не раз пападала па руках ад мацi. I куды б iх нi кiдала доля, мацi, пакiдаючы ўсё, нiколi не забывалася пра машыну i забiрала яе з сабою. Гэтая машына шчаслiва перабыла i апошнюю вайну, прысыпаная смеццем i пiлавiннем у пунi бабкi Кiлiны, а пазней, калi прагналi немцаў, зноў паўстала перад вачамi сям'i цалюткая i нiколечкi не папсаваная.

Машыну яны прывезлi i ў Мядзвенец. Па першым часе Алена Лявонаўна абшывала толькi сябе i дзяцей, а пасля людзi пачалi прыходзiць да яе i прасiць пашыць тое-сёе. Вось яна i вымушана была шыць, хоць i не ў кожнага брала крамнiну i не ўсё звычайна магла добра скроiць.

Толькi паспела Варка пайсцi з хаты, як прыйшла Яўдошка. Яўдошка жыла таксама цераз два агароды, па-суседстве з Варкаю. Жывая, бялявая, з тонкiмi маршчынкамi, якiя рана паявiлiся каля губ i пад вачамi, вельмi рухавая i быстравокая, яна была адзiнаю дачкою ў даволi пажылых ужо Марфы i Сазона Хрушчоў, якiя, вiдаць, i не спадзявалiся мецъ калi-небудзь дзяцей.

Калi Яўдошка зайшла да настаўнiцы ў хату, дык адразу ажно зазззяла ўся, нiбы для яе не было большай радасцi, як бачыць Алену Лявонаўну. «Прыгожая ўсё ж дзяўчына,— падумала настаўнiца,— калi яна ўсмiхаецца, калi вясёлая».

— Вось ужо месяц толькi пра гэта i думаю,— сакатала Яўдошка,— iсцi да вас цi не iсцi са сваёю просьбаю. Клопату ў вас хапае i свайго, а тут яшчэ i людзi дакучаюць.

У руках яна нiчога не трымала, але пад кофтаю штосьцi тырчэла, i настаўнiца здагадалася — Яўдошка прынесла нешта шыць.

— Я, вядома, не прыйшла б да вас i не прасiла б,— гаварыла далей суседка,— але ж вы ведаеце нашага Шчарбiну. Спыталася ў яго, цi не пашые мне сукенкi, а ён кажа, што пашые, толькi не раней зiмы, бо ўжо набраў шмат заказаў. Праўда, кравец ён добры, да яго i з раёна прыязджаюць шыць фрэнчы i галiфэ. Без работы чалавек не сядзiць, з гэтага i жыве, але падумайце, Алена Лявонаўна, вось пра што. Я да яго звярнулася адзiн раз, можа, нiколi болей i не папрашу, то хiба не мог ён мне ў першую чаргу пашыць, а чужым — крыху пазней? Але Шчарбiна ведае, што багата грошай з мяне не возьме, а чакаць гэтак доўга я не буду — вось i абяцае к самай зiме. А навошта мне тая сукенка зiмою? Гэта ж не кажух, я ў iм па марозе не збiраюся шпацыраваць.

«Шчарбiна, можа, пашыў бы табе i хутчэй, ды плату высокую запросiць. Таму, мiлая, i прынесла да мяне, што даяце мне капейкi, толькi для адводу вачэй, каб не лiчылася, што пашыла бясплатна».

— Вось паглядзiце, любая,— Яўдошка дастала з-за пазухi пакунак, разгарнула.— Гэта, вядома, танны паркаль, дык, можа, Шчарбiна праз тое i не ўзяў, бо прывык да крамнiны дарагой. Чым даражэй крамнiна — тым больш бярэ, не тое што вы, Алена Лявонаўна. Вы берыцё адну i тую ж цану за самую розную тканiну, хiба толькi, можа, за шоўк крышку болей, бо з iм клопату багата.

— Цi ж нашы мядзвенецкiя дзяўчаты шыюць з шоўку?

— I сапраўды,— згадзiлася Яўдошка.— Шыюць кофты з байкi, каб цяплей было, а пiнжакi з пярэстай якой тканiны, каб не такiя маркiя... Дык возьмеце, Алена Лявонаўна?

— Ведаеш, Яўдошка, даўно збiраюся сабе тое-сёе пашыць, апрача таго, ляжаць у мяне на чарзе дзве блузкi... Пасля блузак i за тваё прымуся. Мерку здымаць будзем цi не? Я ж летась ужо шыла табе сукенку, у мяне ўсё запiсана... Якi ты хочаш фасон?

— Фасон той самы... А мерацъ не трэба, за гэтую зiму я не вырасла,— i засмяялася, быццам нечага засаромелася.

— Вата ў цябе ёсць?

— Каб на плечы падкласцi? Няма ваты...

— Можа табе не трэба плечыкаў падкладаць?

— А хiба гэтак можна? — адразу зрабiлася сур'ёзная Яўдошка.— Трэба, абавязкова трэба. Можа, я са старой фуфайкi што-небудзь выкраю. Падыдзе?

— Што ж, можна i з фуфайкi. А на грудзях выраз рабiць цi не? Яўдошка зноў засмяялася.

— Не трэба выразу. Каб зашпiльвалася i каб быў каўнерык.

— Каўнер вялiкi цi маленькi?

— На колькi хопiць крамнiны,— сказала Яўдошка.— Шыйце так, каб лiшняга не аставалася, бо потым нельга будзе нiчога надзецъ падыспад.

— Хай будзе гэтак, як хочаш. Не забудзься прынесцi гузiкi.

— У мяне ёсць чорныя...— асцярожна пачала Яўдошка i не скончыла.

— Навошта ж чорныя,— запярэчыла настаўнiца.— Крамнiна ў цябе сiняя, дык i гузiкi хай будуць сiнiя цi белыя.

— Вось яно як... А дзе ж я дастану сiнiх тых гузiкаў? Смяяцца яшчэ будуць... Лепей ужо з чорнымi хадзiць буду — нiхто зубоў скалiць не будзе.

— Як сабе хочаш... Тады, можа, хоць белых пашукай, у нашым сельмагу павiнны быць.

Яўдошка магла б ужо iсцi дадому, яна, здаецца, сказала ўсё, што хацела. Аднак, паклаўшы крамнiну на швейную машыну, асталася стаяць на месцы. Вiдаць, свярбеў язык яшчэ нешта сказаць. Нарэшце адважылася:

— Дык што ж цяпер Варцы будзе, га?

— А хiба я ведаю? — Алена Лявонаўна кiнулася да печы, бо там

нешта закіпела цераз верх. Адсунуўшы ўбок гаршчок, дадала: — А што ёй павінна быць?

— Ну,— Яўдошка пасур'ёзнела, твар у яе адразу зрабіўся непрыгожы і нейкі ўвесь зморшчаны,— вы ж павінны ведаць, бо ўчора хадзілі да старшыніхі.

«Ужо дачулася і пра гэта! А калі ведае Яўдошка, то ўжо не сакрэт для ўсяго Мядзвенца!»

— Старшыніха са мной не раілася.

— Варка праз тую бяду нават захварэла. Думаеце, у яе нешта баліць? Нічога не баліць, а забінтавалася ўся, каб на работу не ісці, каб не чапляліся да яе і нікуды не выклікалі. Цяпер яна ой як доўга прахварэе! Усё спадзяецца, што перачакае бяду. Як-ніяк, да калекі павінна ж быць нейкая спагада.

— Яна перад табою наведвалася, на ёй твару не было.

— У кожнай не было б твару — гэтак перажываць... А яе хлопец — чулі? — у прымы збіраецца да Лапкоўскай. Ды яна ж яму як матка, гэтая Лапкоўская!

Алена Лявонаўна прамаўчала,— сказаць што-небудзь Яўдошцы, дык к вечару ўжо ўсе будуць ведаць, што вось, маўляў, Алена Лявонаўна асуджае гэтыя прымы, што яна тое ды сёе казала пра Лапкоўскую.

Настаўніца з палёгкаю ўздыхнула, калі Яўдошка развіталася з ёю і пайшла.

Першая зайшла ў хату Таіса, а за ёю ўжо Міхал. Алена Лявонаўна дала ім куляшу, перад кожным паклала лыжку, адрэзала па лусце хлеба. Міхал, апякаючыся, пачаў таропка сёрбаць, а Таіса села на тапчан і паглядала спадылба.

Міхал быў падобны да маткі — круглагаловы, чарнявы, з доўгім роўным носам, невысокага росту, каранасты. Характар меў спакойны, але падчас загараўся, і Алена Лявонаўна здзіўлялася, ад каго ён пераняў гэтую рысу. Таіса ўдалася ў бацьку — і высокая, і худая, і косы светлыя, губы слаба акрэсленыя і падбароддзе мяккае, як і ўвесь авал твару. Перадалася ёй і гультаяватасць Нікана Іванавіча, разважлівасць у тых выпадках, калі трэба было што-небудзь рабіць, і залішняя паспешлівасць, калі мелася пабегчы да сяброўак на вячоркі. Міхал зусім не турбаваўся пра адзежу, быў абыякавы да яе — меў кашулю, адны штаны і пра большае зусім не дбаў. Таіса ж любіла ўвесь час пераапранацца, часта заводзіла гаворку пра ўборы, і маці разумела яе, не абрывала: нічога не зробіш — дзяўчына...

— А ты чаго не ясі? — спыталася Алена Лявонаўна ў дачкі.— Садзіся, бо астыне, потым у рот не палезе.

Таіса не адказала, відаць, была чымсьці нездаволеная. Міхал бліснуў на яе халоднымі вачамі, хацеў быў нешта сказаць, але стрымаўся. Сваім панурым позіркам ён нібы загадваў сястры маўчаць.

Але, як заўсёды ў падобных выпадках, яна зрабіла наадварот:

— Не сяду я з ім за адзін стол,— буркнула.

— А што здарылася?

Таіса вагалася — сказаць ці не. У гэты момант Міхал паказаў ёй крадком кулак з-пад стала, і вось тады яна не стрымалася, вырашыла адплаціць:

— А ён з чэрапам гуляў,— выпаліла яна зласліва, і светла-карыя вочы яе блiснулі радасцю.— Схапіў лыжку і хлеб, а рук не памыў.

— Што ты брэшаш! — Міхал павёў плечуком, нібы сястра і на самай справе хлусіла. І твар ягоны зрабіўся зусім абыякавы, быццам гаворка ішла пра некага іншага.

— А вось і не брашу! — вісклiва выгукнула Таіса.— Зараз пайду і прынясу!

Яна падхапілася з тапчана, каб бегчы на вуліцу. Міхал у той жа момант саскочыў з крэсла і заступіў ёй дарогу — стаяў злосны, з моцна сціснутымі кулакамі.

— Міхалка, даядай кулеш,— сказала маці.

Але, здаецца, у таго адразу ж прапаў апетыт. Сняданак быў сапсаваны, і Алена Лявонаўна завяла гаворку пра тое, пра што за сталом можа і не варта было б казаць.

— Міхалка, памый рукі.

Ён паслухмяна ўзяў кубак з вадою, мыла і хуценька памыў рукі.

— Дзе ты яго ўзяў? — спытала маці пра чэрап.

— Валяўся ў бур'яне,— насупіўшыся, адказаў Міхал.

— Дзе гэта, у бур'яне? — яна не магла паверыць, што ў Мядзвенцы гэтак проста можна было знайсці чэрап.

— Каля Фіёны.

Фіёна жыла непадалёк ад іх — спачатку Варка, далей Яўдошка, а потым ужо Фіёна, пра якую казалі, што яна нібыта толькі адны дрожджы есць, бо пухленькая, а Фіёна на гэта адказвала, што яна, маўляў, такой пароды.

— Дзе гэта? — не верыла ўсё яшчэ маці.

— Я ж сказаў, што ў бур'яне,— злосна буркнуў Міхал.

— І ты прынёс дадому? — дапытвалася, як быццам і так было незразумела, што прывалок-такі.

Міхал нібы язык праглынуў.

— Навошта ён табе? Што ты з ім рабіць будзеш?

Таіса толькі зларадна ўсміхнулася. Міхал і далей маўчаў.

— Сядзіць сабе за хатаю ў кустах і пазірае на той чэрап, нібы пераглядзець хоча яго,— сказала Таіса.— Няхай бы гуляў, калі такі разумны, а то схапіў яго і кінуўся за мною, каб напалохаць. Ну і зарабіў аплявуху! А цяпер вось за стол сеў — і хоць бы што!

— Паклёпніца,— сказаў ёй Міхал.

— Сам ты паклёпнік,— адрэзала Таіса.

— Я — паклёпнік? Гэта ты пра мяне так гаворыш? — у Міхала ажно вочы звузіліся ад злосці.

— А што ты за цаца такая? — кінула ў адказ Таіса, відаць, пасапраўднаму ўзлаваўшыся на брата.

— Ну, добра! — пагрозліва сказаў Міхал. Хуценька падышоў да ложка, перавярнуў падушку, выцягнуў з-пад сенніка нейкі канверт і выняў пісьмо.

Аднак не паспеў ён нават разгарнуць яго, як Таіса дзікаю кошкаю скочыла да брата і закрычала са слязьмі ў голасе:

— Аддай!

— Не аддам,— Міхал моцна сціснуў у руцэ скамечаны лісток паперы.— Ты сказала, што я — паклёпнік.

— Не паклёпнік, толькі аддай!

— А хто паклёпнік?

— Я, я, толькі аддай.

— Люблю, калі праўду кажуць,— здзекліва пахваліў Міхал сястру.— Але не аддам, хай табе навукаю будзе.

— Міхалка, гэта не тваё пісьмо,— нарэшце ўмяшалася Алена Лявонаўна,— аддай! — Яна стаяла ў разгубленасці, не маючы сілы спыніць сварку паміж сынам і дачкою.

— Спачатку прачытаю, а тады аддам!

Таіса заплакала і адышлася да тапчана. Міхал разгарнуў скамечаны лісток і прачытаў:

— «Золатка Таіса, піша вам з далёкае Карэліі не знаёмы вам салдат Лёня. Даў мне ваш адрас ваш аднавясковец Толя Ліпешка, мы з ім служым разам. Золатка Таіса, прабачце...»

Таіса зноў кінулася да яго, намагаючыся вырваць пісьмо. Брат не даваў, тады яна пачала драпаць яго. Міхал абараняўся.

— Бачыце, яна з салдатамі перапісваецца! — крычаў,— пісьмы ад іх пад падушкаю хавае... «Золатка Таіса,— насмешліва паўтараў ён,— піша вам з далёкае Карэліі не знаёмы вам салдат Лёня...»

Таіса рыдала, ужо нават не робячы спробы выхапіць з братавых рук сваю таямніцу. Маці ўзяла чапельнік і замахнулася на Міхала. Ён неяк адразу супакоіўся.

— На, вазьмі,— кінуў пісьмо сястры.— Толькі не будзь даносчыкам, золатка Таіса, бо табе будзе горш.

— Ідзі сюды,— строга сказала маці сыну.

Падышоў, здагадваючыся, што яго чакае.

— Давай сюды вуха,— сказала тое, што не раз гаварыла яму ў маленстве.

Міхал паслухмяна спыніўся каля маці і павярнуў галаву так, што яна змагла добра ўхапіць двума пальцамі ягонае вуха.

— Можаш круціць, усё адно не заплачу.

— Не крытыкуй і не здзекуйся. Вядзі мяне за хату.

Чэрап ляжаў у кустах, зіркаў чорнымі пустымі вачніцамі. Маці адпусціла Міхалкава вуха — яно было чырвонае.

— Загарні,— загадала маці,— і аднясі на могілкі.

— Я знайшоў каля Фіёны,— нагадаў сын.

— Гэта не мае значэння, дзе знайшоў. Што яна скажа, калі дазнаецца, што ты наўмысна прынёс і кінуў пад яе хату?

— Можа, трэба яшчэ і пахаваць яго? Каб духавы аркестр іграў жалобную музыку?

— Сын! — вымавіла яна самотна і грозна.— Не здзекуйся з людской памяці! Ты не ведаеш, чый гэта чэрап. Можа, гэта была мілая жанчына ці красуня-дзяўчо...

— Як наша Таіска...— буркнуў Міхал.

— Можа, гэта быў сардэчны і разумны чалавек...

— Разумныя пахаваны,— упарціўся хлопец.

— Сын! — задрыжаў голас у маці.— Думай пра іншых, тады і пра цябе падумаюць.

— А я не збіраюся паміраць... А з чэрапа я не здзекуюся, проста хацеў паглядзець, як чалавек выглядае, калі памрэ.

Хоць і ўпарціўся, а маці ўсё ж паслухаў — не мог не паслухаць. Нарэзаў лопуху за хатаю, загарнуў чэрап і, прытуліўшы да грудзей, праз усё сяло падаўся на могілкі. Хадзіў паміж магіл, шукаючы месца, куды б можна было пакласці, нарэшце пакінуў у вішняку, каля замшэлага каменя. Ужо і адышоўся быў троху, але ўгледзеў на зямлі нейкі прэнт, падняў яго і вярнуўся назад. Сапучы, выдзеўб прэнтам неглыбокую ямку, апусціў у яе чэрап і прысыпаў зямлёю. Зверху ўваткнуў сваю жалязяку, каб месца пазначыць, і падумаў — добра было б пасадзіць тут якое дрэўца, але хіба пасадзіш, калі вакол усё гэтак пазарастала.

Маці вярнулася дадому. Таіса нават і не пакаштавала куляшу, ляжала на ложку, уткнуўшыся тварам у падушку. У дзяўчыны была вельмі ўражлівая натура, і яна доўга не магла супакоіцца. Гэтак можа праляжаць да самага вечара, а потым з апухлымі ад слёз вачамі ні на кога не звяртае ўвагі і нічога не заўважае вакол сябе.



Звычайна ў падобных выпадках варта было з ёю толькі пагаварыць. А тут пісьмо. Усё гэта падобна да гульні, якою занята нямала мядзвенецкіх дзяўчат. Ды ці вінавата Таіса, што ёй напісалі. Напісалі, а маглі ж і не напісаць. Але вечарамі дзяўчыну ўжо цягне з дому на вуліцу, цягне ў кампанію, у клуб. Вядома, і ў гэтым няма нічога страшнага, але ж... Алена Лявонаўна разумела, што пра ўсё гэта лепш было б пагаварыць з вока на вока, з душэўнай шчырасцю, лагодна — і ў той жа час думала: як гэта зрабіць? Ды і пра што, уласна кажучы, гаварыць з дачкою, калі тая і сама не ведае добра, чаго хоча, не ведае, што з ёю робіцца.

Таіса глыбока ўздыхнула і неахвотна ўзялася за лыжку...

Па вечарах да іх часта заходзіў Сцяпан Кушта. Перад самаю вайною хтось у бойцы выбіў яму правае вока. Праз гэта яго і на вайну не ўзялі. З таго часу Сцяпан стаў больш спакойны, не быў ужо такі задзірысты. Калі раней, бывала, нікому дарогі не даваў, шукаў любой зачэпкі, каб пасварыцца з чалавекам, усчаць бойку, дык цяпер набраўся розуму, або, як казалі ў Мядзвенцы, у яго «пабольшала алею». А яшчэ гаварылі (звычайна так, каб не дайшло да Сцяпана Кушты), што каб яму заадно і другое вока тады выбілі, то, дальбог, і зусім падабрэў бы чалавек.

За апошнія гады Кушта двойчы трапляў у астрог. Першы раз пасадзілі за тое, што ўкраў у рыбгасе сеткі (на вялікім мядзвенецкім ставе здаўна трымаўся рыбгас), а ў другі раз давялося Сцяпану паспытаць суровага рэжыму за спробу падпаліць хату Максіма Лебедзя. Хата, праўда, толькі занялася, і яе адразу ўдалося патушыць, але Кушта папаўся. Ці яго хтось бачыў там сярод ночы, ці проста людзі былі ўпэўнены, што апрача Сцяпана на гэта ніхто не здатны, але ён, які заўсёды быў на нажах з Максімам Лебедзем, вымушаны быў прызнацца і адседзець столькі, колькі было яму прызначана судом.

Самае цікавае было тое, што Кушта пасля першае свае адсідкі ажаніўся з настаўніцаю малодшых класаў Настаю Васільеўнай. Вяселле справілі як мае быць — гулялі некалькі дзён; іграў духавы аркестр, сышлося з паўсяла. Кушта, які да гэтага ніколі не адмаўляўся ад чаркі, на вяселлі амаль не піў, весела пабліскваў адзіным сваім левым вокам, і ўсе казалі, што Наста Васільеўна і Кушта — пара нішто сабе, а каб некалі Сцяпану пашанцавала ў бойцы, дык цяпер гэтая пара, напэўна, была б самая прыгожая.

Кушта вельмі не любіў расказваць пра свае адсідкі — проста абмінаў гэта ў размовах, і толькі. Але праз адно ўжо тое, што ён пабываў-такі ў лагеры, і не ў адным, у сяле яго пабойваліся. Сцяпану ж спадабалася, што яго баяцца. Пасля жаніцьбы ён усё часцей пачаў паяўляцца ў клубе, калі туды прывозілі кінакарціны, у клубнай бібліятэцы, дзе большасць кніг было пра вайну і брашуры з аргатэхнічнымі парадамі. Апрача таго, час ад часу наведваў таго ці іншага мядзвенецкага настаўніка і падоўгу гутарыў з ім. Але часцей за ўсё, мабыць, прыходзіў да Шкарубаў. Гаварыць ён умеў гладка, на любую тэму і няўтомна расказваў пра ўсё, што ведаў.

— О, зноў твой Кушта ідзе,— казаў у такіх выпадках Нікан Іванавіч Алене Лявонаўне.

— Ён гэткі ж мой, як і твой,— адказвала Алена Лявонаўна. У іхняй сям'і ўсе жартавалі, што Кушта ходзіць да іх, каб пабачыцца з

Аленай Лявонаўнай, бо, маўляў, да настаўніц ён заўсёды небезуважны.

Кушта не спяшаючыся пераступаў парог, не спяшаючыся здымаў шапку з галавы — тую шапку ён чамусьці насіў нават у спёку. Не спяшаючыся вітаўся. Голас у яго быў заўжды даволі грубы, а тут раптам зусім мяняўся — рабіўся і ціхі, і саладжавы, і лагодны. Нібыта з Куштавых вуснаў сплывала не звычайная чалавечая мова, а звінеў вясёлы веснавы струменьчык. Амаль пасля кожнага слова ён злёгку кашляў, прачышчаючы горла,— дбаў, каб той жывы струменьчык звінеў яшчэ больш мілагучна.

— А я вось ішоў міма і падумаў, а чаму б мне не зайсці, не наведаць вас,— заўсёды пачынаў Сцяпан.

— Заходзьце, заходзьце,— ветліва запрашаў Нікан Іванавіч, якому было прыемна пагаманіць з Куштам пра ўсялякую ўсячыну.

Ён кідаў позірк на Алену Лявонаўну, нібы чакаў, што і яна запросіць Сцяпана.

— Дзякуй, што зайшлі,— звычайна казала яна, не адрываючыся ад свае работы — ад печы, ад швейнай машыны, ад вучнёўскіх сшыткаў.

Для сваіх адведзін Кушта заўсёды меў прычыну — ніколі не прыходзіў без якой-небудзь навіны. Аднак прыберагаў яе на самы канец размовы, калі, здавалася, ужо ўсё перагаворана. Тады ён асабліва старанна пачынаў пакашліваць, прачышчаючы горла і рыхтуючыся падзяліцца сваім сакрэтам, які для Шкарубаў часта зусім і не быў сакрэтам, але яны не прызнаваліся ў гэтым.

І на гэты раз, калі ў сенцах пачулася знаёмае кашлянне, яны ўжо ведалі — Кушта прынёс нешта.

Сцяпан павольна адчыніў дзверы, з хвіліну якую пастаяў у парозе, потым гэтак жа павольна сеў на крэсла, якое цяжка і пакутліва прастагнала пад яго дзябёлым целам. Нарэшце, зручна ўсеўшыся, Кушта добразычліва ўсміхнуўся спачатку гаспадарам, якія ў гэты час пазіралі на яго, потым Міхалу, калі той на нейкі момант адарваўся ад кніжкі. Пашукаў левым вокам Таісу, але не знайшоў — кудысьці пайшла,— і для яе пакінуў усмешку.

Кушта амаль заўсёды пачынаў размову з надвор'я.

— Цудоўнае сёння надвор'е,— сказаў ён і ўслед ціха кашлянуў.

— Слаўнае,— згадзіўся Нікан Іванавіч. Ён меў звычку дадаваць колькі слоў да таго, што гаварыў Сцяпан, як бы падкрэсліваючы гэтым права госця казаць усё, што ён хоча.

— А ці чулі, што ў Кацюжынцах учора выпаў град? У полі ішоў дождж, а над сялом хвастаў такі град, што ўсё здратаваў у садах і агародах. Курам галовы паадбіваў, шыбы патрушчыў.

Гаварыў і лагодна ўсміхаўся, нібы расказваў пра нешта вельмі вясёлае.

— Хіба ў нас напрадвесні не такі ж самы выпаў? — спытаўся Нікан Іванавіч.

— І ў нас,— згадзіўся Кушта. І прыгадаў: — Фіёна тады ішла кудысь, дык ёй гузак набіла на лбе, з добрую сліву... А сабака ў Шчарбіны? Па галаве так упляжыла, што на сваіх пачаў кідацца, перастаў пазнаваць. Недзе на трэці ці чацвёрты дзень толькі адышоў. А магло ж і не адной Фіёне пацэліць...— ён гучна зарагатаў.— Вось было б цікава, га?

— Што ж тут цікавага? — недаўменна паціснуў плячыма Нікан Іванавіч.

— А чаго там? Цікава...



Міхал чытаў кніжку, але разам з тым міжвольна адным вухам прыслухоўваўся да размовы. Яго прываблівала ў гэтым чалавеку тое, што Сцяпан любіў заўжды разважаць неяк па-свойму, незвычайна, не так, як усе. Падабалася, што Кушта да ўсяго ставіцца бесклапотна, са смяшынкаю; праўда, іншым разам і злосць брала — Кушта нават за добрымі людскімі ўчынкамі падчас стараўся ўбачыць абавязкова нешта благое, падспуднае.

— Вось вы скажыце мне,— прыжмурыўшы левае здаровае вока, спытаўся Сцяпан.— Што такое чалавек?

— Гэта ўсе ведаюць,— паблажліва ўсміхнуўся Нікан Іванавіч.

— Усе ведаюць, а вы мне скажыце.

— Ну, чалавек — гэта вы... Гэта ён,— Нікан Іванавіч кіўнуў галавою ў бок Міхала.

— А хлеб гэты,— госць працягнуў руку да стала і ўзяў закарэлымі пальцамі надрэзаны бохан хлеба,— хлеб гэты — не чалавек?

— Ніяк не,— засмяяўся гаспадар.

— Што ж тады атрымліваецца? — загарэўся Кушта.— Хлеб — не чалавек, бульба — не чалавек, вада — не чалавек, а з усяго ж гэтага і складаецца чалавек, бо ён і есць, і п'е, жыве з гэтага. Каб не еў і не піў, памёр бы.

— Яно то так, але і не так. Вы ўсё механічна кідаеце ў кучу, Сцяпане, і забываецеся на якасны пераход.

Госць слухаў з такім выглядам, нібыта збіраўся пачуць яшчэ нешта новае для сябе, але, не пачуўшы, з ранейшым запалам разважаў далей:

— А я лічу, што чалавек — гэта ўсё, што ёсць на зямлі. Гэта і вада, і паветра, і хлеб, і бульба. І тое, на што чалавек пазірае, і тое, пра што ён думае. Адным словам, зямля.

— Як гэта — зямля? — скептычна выгукнуў Нікан Іванавіч.

— А так! Бо пакуль існуе зямля — і чалавек жыве, а зямлі не будзе — не будзе і чалавека.

— Дужа проста і разам з тым дужа складана. Вашы разважанні не даюць адказу на пытанне.

— Як? — не зразумеў Кушта.

— Вы часта думаеце пра гэта?

— Бывае...

— Над гэтым сушылі галовы многія геніяльныя людзі і, дальбог, нічога не дабіліся, а вы хочаце кавалерыйскім наскокам.

— Яны самі па сабе, а я сам па сабе.

— Кожны мае сваю ўласную думку адносна гэтае праблемы, гэта праўда. Але ўсё больш складана,— зноў паблажліва ўсміхнуўся Нікан Іванавіч.— Вада, бульба...

— Можа, мае простыя вывады больш правільныя за іх няпростыя.

Госць хацеў быў і далей спрачацца, але, відаць, пакрыўдзіўся, што людзі не хочуць зразумець яго думак, грэбуюць імі. Ён змоўк і пачаў глядзець у акно, нібы хацеў там знайсці зачэпку для іншае размовы. І тут раптам падала голас Алена Лявонаўна.

— А я разумею вас,— сказала яна Сцяпану.— Вы вельмі цікава гаварылі пра чалавека, пра зямлю...

Нікан Іванавіч насмешліва дадаў:

— З зямлі выйшаў, у зямлю і пойдзе.

— Можа, і не ў зямлю,— запярэчыў Кушта, страціўшы, напэўна, ахвоту да далейшай спрэчкі.

— Куды б ні пайшоў, а толькі не знікае бясследна. Ён заўсёды ёсць. І тады, калі яшчэ не нарадзіўся, і тады, калі памірае. Бо не мо-

жа ж ён паявіцца з нічога, ніадкуль. Значыць, увесь час існуе,— сказала Алена Лявонаўна, звяртаючыся да Сцяпана, і вочы ў яе раптам загарэліся, нібы яна нейкую незвычайную таямніцу раскрыла яму.

Нікан Іванавіч з цікавасцю і разам з тым як бы з недаверам пазіраў на сваю жонку — яны даўно ўжо не вялі паміж сабою гэткіх размоў.

Нарэшце падаў голас Кушта:

— А вы думалі калі-небудзь пра тых, хто мог бы нарадзіцца, ды не нарадзіўся?

— Як жа пра іх думаць, калі іх няма? — спытаўся Нікан Іванавіч, і зноў да яго як бы вярнулася нядаўняя пагардлівасць.

— Няма і тых, што памерлі,— упарта крутнуў галавою Кушта і кінуў левым вокам на Алену Лявонаўну, быццам чакаў ад яе падтрымкі,— аднак жа вы пра іх думаеце!

— Ну, Сцяпан, тут вы ўжо блытаеце грэшнае з праведным.

— Не, не блытаю! Вось падумайце! — Настойліва вымагаў ён ад Нікана Іванавіча.— Магло ж у мяне нарадзіцца двое малых, а не адно? Магло. І гэтак у кожнага. Я кажу пра тых, якіх няма, але якія маглі б быць... Разумееце?

Нікан Іванавіч зноў паблажліва ўсміхнуўся.

— Я пра тых кажу! — гарачыўся Кушта.— Як пра іх думаць — яны ёсць ці іх няма?

— Дык жа дзе яны...— ціха запярэчыў Нікан Іванавіч. Кушта быццам не пачуў яго:

— А каб яны нарадзіліся ўсе, шмат-шмат, дык жыццё іхняе было б гэткае ж самае, як і наша, ці якоесь іншае? Калі гэткае ж самае, дык, выходзіць, жыццё такое ж будзе і праз сто гадоў.

— Як жа гэта яно так атрымліваецца?

— Атрымліваецца! Хіба ж яны якія іншыя? — і, падумаўшы, дадаў: — Ну, вядома, можа, крыху якія іншыя, але ж і такія самыя.

Пасля гэтага ўсе змоўклі, нават Сцяпан Кушта, твар у якога зрабіўся нейкі як бы разгублены, нібы чалавек перажываў за ўсё тое, што нагаварыў тут. Здавалася, быццам яму сорамна зрабілася за самога сябе. І ён прымусіў сябе ўсміхнуцца — праз сілу, ненатуральна. І тут жа сказаў:

— Ну, я тут столькі нагаварыў, што і сам, мабыць, не змагу паверыць у сваю балбатню.

Алена Лявонаўна зірнула на госця такімі вачамі, нібы не згаджалася з ім. Нікан Іванавіч таксама рашыў уставіць слова:

— Чаго там, Сцяпан, гэта якраз добра, што вы думаеце.

Міхалу, які ўвесь час прыслухоўваўся да размовы, чамусьці зрабілася не па сабе ад бацькавай рэплікі, і ён нізка апусціў галаву над кніжкаю.

— Каму патрэбны тыя думкі, калі яны няправільныя,— з ноткаю раскаяння вымавіў Кушта.— А вось думаць правільна я не ўмею. Так, каб наперад ведаць, што я правільна разважаю, што не памыляюся.

Нікан Іванавіч прыжмурыў вочы — пакеплівае з яго госць ці толькі так здаецца? Быццам бы не, хоць ад яго ўсяго можна чакаць.

— Пайду я,— сказаў Кушта. Устаў, разы два-тры пераступіў з нагі на нагу, потым зноў сеў. І калі сеў, дык усе зразумелі, што Сцяпан, нарэшце, хоча сказаць менавіта тое, дзеля чаго і прыйшоў да іх.

— Вы нічога не чулі? — спытаўся ён.

— Не, а што? — насцярожыўся Нікан Іванавіч.

— Як? — шчыра здзівіўся госць.— А Насці...— Сцяпан на нейкае імгненне задумаўся, прыкідваў, ці варта называць сваю жонку пабацьку, потым зноў загаварыў: — А Насці Васільеўне ўжо загадалі, каб паслязаўтра выходзіла падпісваць людзей на пазыку.

— У кожнага свая дзесяціхатка, ці як? — пацікавілася Алена Лявонаўна.

— А як жа, дзесяціхатка.

— Ну што ж,— сказаў Нікан Іванавіч,— калі трэба, дык трэба... Мусіць, заўтра ўсіх нас будуць збіраць на сход.

— А якая сума з кожнага? — спыталася настаўніца.

— Сумы ўжо распісаны — з каго колькі. І не так, як заўжды.— Кушта хітра заплюшчыў вока, губы ягоныя неяк дзіўна скрывіліся на адзін бок.— Але я ведаю, колькі з нас.

— Колькі? — утаропіліся на яго.

— З Насці Васільеўны васемсот.

— У мінулы раз я таксама падпісваўся на столькі ж,— сказаў Нікан Іванавіч.

— А з мяне шэсцьсот роўна,— і Куштавы губы на гэты раз папаўзлі ў другі бок.

— А чаго з вас так багата? — шчыра здзівілася Алена Лявонаўна.

— Хіба ж я ведаю. Нідзе не працую, а мушу падпісацца на шэсцьсот.

Гаварыў Кушта пра гэта такім тонам, нібы адначасна і рады быў, што з яго хочуць узяць гэткую суму.

— А з Насты Васільеўны не дужа шмат? — пацікавілася Алена Лявонаўна.

— Шмат,— спакойна згадзіўся Кушта.— Але нідзе не дзенецца, унясе, бо сама хадзіла па хатах і ад іншых вымагала. Як жа яна асмеліцца багата патрабаваць ад іншых, калі сама ўнясе мала? Тут ужо кожны пратне цябе вачамі.

— Бадай што праўда,— згадзілася Алена Лявонаўна.

На нейкую хвілю ў хаце запанавала цішыня.

Ужо на наступны дзень, у нядзелю, Алена Лявонаўна хадзіла па сваёй дзесяціхатцы падпісваць людзей на пазыку. Яе дзесяціхаткаю быў куток, дзе яны жылі, дзе яна ўжо ведала кожнага і дзе кожны ведаў яе.

Яна ўстала на дасвецці, раней звычайнага. Ды і хадзіць па людзях найлепш зранку, калі ўсе яшчэ дома, не паразыходзіліся на працу.

Учора ў сельсавеце хацелі прымацаваць да яе ўпаўнаважанага з раёна, аднак Алена Лявонаўна адмовілася, сказала, што ўправіцца сама. У душы пабойвалася, што чужы чалавек яшчэ сапсуе ёй размову з людзьмі.

Але самой не дазволілі — прымацавалі да яе выкладчыка фізкультуры Андрэя Кандратавіча Сака, які адбываў армію пасля вайны ўжо і толькі нядаўна вярнуўся дадому. Андрэй Сак не меў не толькі настаўніцкай адукацыі, але і ніякай іншай; чамусьці ён вырашыў, што зможа настаўнічаць, і яго ўрэшце рэшт прынялі ў школьны калектыў.

Да каго ж ісці першага?.. Можа, да Варкі? Пачаць з яе, а там відаць будзе.

Варка якраз пякла хлеб — у хаце было курна, пад столлю слаўся сінявáты дым. Варка вымала з дзежкі сырое цеста, пaпляскваючы далонямі, прыгладжвала яго і клала на стол. Каля маці таўклося двое яе меншых хлапчукоў — абодва чарнявыя, шыракабровыя, з адвіслымі ніжнімі губамі. Відаць, удаліся ў свайго бацьку.

Калі Алена Лявонаўна з Сакам зайшлі ў хату і спыніліся ў паро-

зе, дык дзеці і сама Варка адразу забыліся пра свой клопат і, вылупіўшы вочы, утарапіліся на гасцей.

— Хлеб пячэце, Вара,— ці то спыталася, ці то пацвердзіла Алена Лявонаўна, адчуваючы ў душы нейкую няёмкасць, і пашкадавала ўжо, што пачала з Варчынай хаты.

— Пяку вось,— не дужа ветліва сказала Варка.

Яна, відаць, адразу ж прыгадала, як зусім нядаўна прыходзіла да настаўніцы прасіць за сябе. Гэта ж настаўніца цяпер можа падумаць, што пячэ яна з крадзенага. І дадала сярдзіта:

— Без хлеба не абыдзешся. Ці ёсць з чаго пячы, ці няма — усё роўна пячэш.

На печы нехта закашляўся старэчым голасам і азваўся:

— На хлебе і вадзе ўсё трымаецца.

Варка злосна кінула туды, на печ:

— Маўчалі б, тата, бо гаворыце абы-што.

— Я што? — даляцела з дыму.— Хіба няпраўду кажу?

— Вы кажаце праўду, ды толькі каму яна патрэбна!

На печы сціхла, і Варка дапытліва паглядзела на настаўнікаў. Андрэй Сак пераступіў з нагі на нагу, сказаў:

— Мы да вас па пазыцы. Трэба, каб падпісаліся.

У хаце запанавала цішыня. Штосьці трэснула-стрэльнула ў печы. Варка ўзяла ў рукі кавалак сырога цеста ды так і застыла з ім. І раптам дзеці, нібы спалохаўшыся нечага, адно за адным ціхутка пасунуліся да дзвярэй, спрытна шаснулі паміж выкладчыкам фізкультуры і Аленай Лявонаўнай.

Варка, не даляпіўшы бохана, паклала яго на стол. Узяла з тапчана хустку і мокрымі сваімі, у муцэ, рукамі перавязала галаву,— твар яе адразу набыў хваравіты выгляд.

«Ну, зараз пачнецца»,— падумала Алена Лявонаўна, падрыхтаваўшыся да Варчынай сваркі.

Але Варка зноў узяла са стала недалепленае цеста, папляскала яго з усіх бакоў, каб надаць яму выгляд бохана. Потым з учарнелым тварам падышла да дзежкі, выхапіла адтуль новы кавалак цеста і зноў узялася ляпіць бохан.

Сціхла і на печы — відаць, там таксама чакалі, што Варка ўчыніць вэрхал.

А тым часам гаспадыня, паляпіўшы ўвесь хлеб, пачала саджаць яго ў печ. Упраўлялася лёгка, спрытна, здавалася, нават з нейкай злоснаю рашучасцю. Настаўнікі моўчкі стаялі ў парозе. Нарэшце Варка прыкрыла печ засланкай, паставіла ў кут лапату і спыталася, пазіраючы сабе пад ногі:

— А колькі трэба?

Відаць, перадумала сварыцца. Мабыць, прыгадала той непрыемны выпадак са збажынаю і не хацела нашкодзіць сабе яшчэ больш.

— Шэсцьсот,— сказаў Андрэй Сак. Потым дастаў з кішэні спіс з прозвішчамі, насупраць якіх былі пастаўлены ўжо сумы, і паўтарыў: — Шэсцьсот.

На печы пачуўся кашаль — і больш нічога.

Варка тупым нажом моўчкі саскрабала з дзежкі цеста. Толькі вочы яе бліскалі.

«Зараз, мусіць, абзавецца так, што пачуюць ажно на другім канцы сяла».

Аднак Алена Лявонаўна памылілася. Варка сабрала рэшткі цеста, зляпіла з яго невялічкую ляпёшку, паклала ў дзежку. Штось буркнула, але яе не пачулі.





— Што вы сказалі? — перапытаў Андрэй Сак.

Варка не паўтарыла таго, што ўжо сказала, толькі моўчкі падышла да іх і працягнула руку.

— Што? — здзіўлена паўтарыў выкладчык фізкультуры.

— Давайце ручку, распішуся.

У кожнага з іх было па ручцы. Абое тут жа хуценька падалі ёй, але яна ўзяла ў Алены Лявонаўны. Тады Андрэй Сак дастаў з кішэні чарніліцу. Варка стрэльнула туды пяром, нібы хацела прабіць дно.

— Дзе распісвацца?

— Слухай, дочка,— даляцела з печы.— А чым ты плаціць будзеш?

Варка нічога не адказала і зноў спыталася:

— Дзе распісвацца?

Алена Лявонаўна паказала ёй пальцам. Варка, пільна ўглядаючыся ў тое месца, падышла да стала, паклала на рассыпаную муку спіс і вельмі старанна, літара за літарай, узялася выводзіць сваё прозвішча — Лузгар... Нарэшце скончыла пісаць і, цяжка ўздыхнуўшы, зноў утаропілася ў спіс, быццам не верыла, што яна там толькі-толькі распісалася.

— Ну, вось і ўсё,— сказаў Андрэй Сак.

Яна паглядзела на яго здзіўлена. Нібы хацела спытацца — як гэта, маўляў, усё?

— Грошы дасцё зараз ці, можа, самі прынесіцё ў сельсавет?

— Сама,— сказала Варка.

— Што ж ты панясеш? — даляцела з печы.

— А от вас вазьму пад паху і панясу! — кінула ў адказ Варка. І нельга было зразумець — жартавала яна ці сказала ўсур'ёз.

— Каб прынялі, я з ахвотаю б. Можа б, яшчэ і карысць якую даў.

— Дасцё, дасцё! — выгукнуў Андрэй Сак і ўсміхнуўся. Алена Лявонаўна таксама ўсміхнулася.

У Варкі, якая глядзела на іх, здавалася, пасвятлеў твар.

— А на колькі людзі падпісваюцца? — пачулася з печы.

— Да людзей яшчэ не заходзілі,— сказала Алена Лявонаўна.— Да вас вось першых зайшлі.

— З чаго б гэта?

Алена Лявонаўна пераглянулася з выкладчыкам фізкультуры — што тут сказаць?

— А калі іншыя не падпішуцца? — бубніў стары.— Што тады?

Варка зноў кінула на печ:

— Падпішуцца!

— Так, так...— не згаджаўся стары.

— От, тата, тата! — загневалася Варка, ажно пачырванела.

Яны з палёгкаю ўздыхнулі, як толькі апынуліся на вуліцы. Уласна, уздыхнула Алена Лявонаўна, бо яна чакала ў гэтай хаце найгоршага, выкладчык жа фізкультуры толькі паглядзеў на яе і зразумеў усё без слоў.

— Ну, а цяпер да Яўдошкі,— сказала Алена Лявонаўна.

Яўдошчына сядзіба межавала з Варчынаю. Яна была абгароджана плотам, каб не заходзіла з вуліцы скаціна; пасярод двара тырчэў сукаваты кол — на ім сушыліся звычайна глячкі,— пад вішняю стаяла старэнькая драўляная лавачка, непадалёку ад яе ўзвышаўся паграбок. Вокны ў хаціне паперакошваліся, скасавурана пазіралі ў розныя бакі. У сенцах падлога была гэткая крывая, што здавалася, ступаеш у нейкую яму.



За сталом сядзелі Яўдошчыны бацькі — Сазон і Марфа Хрушчы. Перад імі стаяў паўмісак з варанай бульбай у мундзірах і вялікая сальніца. Сазон трымаў у руках аблупленую бульбіну, белую і сопкую, хукаў на яе.

— А дзе ж гэта Яўдошка? — спыталася Алена Лявонаўна. У гэтай хаце ўсім верхаводзіла вёрткая, напорыстая Яўдошка, і настаўніца ведала, што па сур'ёзнай справе можна гаварыць толькі з ёю.

— У калгасе,— сказаў Сазон.

Цяпер ужо гаспадары пазіралі на іх з непрыхаванай цікаўнасцю. І паколькі настаўнікі не спяшаліся гаварыць аб мэце свайго візіту, дык Сазон, хвіліну счакаўшы, спытаўся:

— Можа без яе абыдземся?

— Чаго ж не абыдземся? — пагадзіўся Андрэй Кандратавіч.— Абыдземся, вядома... Мы прыйшлі па пазыцы, трэба, каб вы падпісаліся.

— На пазыку? — звёў рэдкія сівыя бровы Сазон, і ягоныя вочы пад імі нібы яшчэ больш звузіліся, зрабіліся глыбейшыя.— Можна было б падпісацца, але цяпер грошай няма.

— Цяпер няма, дык заўтра будуць!

— А што, калі і заўтра не будзе?

— Без грошай не седзіцё,— цвёрдым голасам вымавіў Андрэй Кандратавіч.

Нарэшце Сазон пачаў есці ўжо астылую бульбіну. Ён неяк увесь адразу спахмурнеў і нібы сабраўся пайсці з гэтае хаты невядома куды.

— Без грошай не сядзім,— азвалася Марфа,— але і на грашах не сядзім.

— Паслухайце,— налягаў Андрэй Кандратавіч.— Вы гэтак усе гаворыце, нібыта мы,— кіўнуў ён на прыціхлую Алену Лявонаўну,— для сябе просім.

— Чаму ж для сябе...— ціха запярэчыла гаспадыня. Пры чужых людзях ёй чамусьці ежа не лезла ў горла, і яна ўзялася выскрабаць гаршчок.

— Не для сябе, а для дзяржавы,— пачаў тлумачыць выкладчык фізкультуры.— Мы нядаўна такую страшную вайну перажылі, усім нам цяжка, а вы пра гэта і думаць не хочаце.— Ён гаварыў рэзка і шчыра, у яго на шыі і на лбе ажно жылы панапіналіся.

— Чаго ж, мы думаем...— пазіраючы на бульбіну, адказаў Сазон.

— Думаеце, а памагчы не хочаце! Селі на сваю каліту з грашыма і седзіцё!

Ажно Алене Лявонаўне зрабілася не па сабе ад гэтых слоў,— ну, якая ж у яе суседзяў каліта з грашыма!

— Ды мы ж нічога не кажам! — не пазіраючы на настаўнікаў, сказаў Сазон.— А толькі ж Яўдошка нас потым са свету зжыве, калі мы самі падпіску зробім.

— А хіба вы не яе бацька?

— Бацька,— згадзіўся стары.

— Хіба ваша слова для яе не закон?

— Яўдошка гаспадыня і над сабою, і над намі.

— З якога часу яйка пачало вучыць курку?

— Калі трэба, тады і вучыць.

Алена Лявонаўна ведала, што тут нічога не даб'ешся ні просьбамі, ні ўгаворамі. Бо Хрушчы такія, што нібы і згаджаюцца з табою, нібы і не пярэчаць, а ўсё роўна па-свойму зробяць, што б ім ні казаў.

— Яўдошка на абед прыходзіць?

— Калі як,— адказала маці.

— Тады мы яшчэ раз прыйдзем.
Настаўнікі сабраліся ўжо ісці, як падаў голас Сазон:
— А колькі там на Яўдошку запісалі?
— Колькі запісалі? — загарэўся Андрэй Кандратавіч, які часта без асаблівай прычыны раптам пачынаў абурацца і гэтак жа раптоўна супакойваўся.— Гэта справа добраахвотная.
— Ну, колькі там добраахвотна?..
— А гэта залежыць ад Яўдошкі. На колькі захочаце, на столькі і падпішацеся.
— Дык мы з Яўдошкаю пра ўсё дамовімся,— сказала Алена Лявонаўна і падалася да выхаду.
— І праўда, з Яўдошкаю, з ёю,— радасна пагадзілася Марфа,— бо мы хіба што ведаем? З ёю трэба, з Яўдошкаю гаварыць...
«І як бы яна зажурылася,— міжвольна падумала Алена Лявонаўна,— каб вось зараз Яўдошка ды і прыйшла дадому».
Сазон і не зварухнуўся, калі за імі рыпнулі дзверы.

(Заканчэнне ў наступным нумары.)

# ПУБЛІЦЫСТЫКА







Лепшыя работніцы аўтакамернага цэха Марыя Малашко і Валянціна Новікава.



● Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ

# НАД БЯРОЗАЙ-РАКОЙ

Пятро Мікалаевіч Ванцэвіч, галоўны інжынер Беларускага шыннага камбіната, уводзіць нас у курс справы.

— Беларускі шынны сёння—не толькі гіганцкая будаўнічая пляцоўка, а і дзеючае прадпрыемства. На цэлы год раней тэрміну мы далі сваю першую прадукцыю. Дзейнічае эксперыментальны ўчастак. Краіна атрымала ўжо тысячы аўтапакрышак. Мы змаглі непасрэдна на месцы падрыхтаваць кадры і адпрацаваць тэхналогію. Напярэдадні новага, 1973 года пусцілі асноўны ўчастак лініі па абгумліванні корду, праз некаторы час запрацаваў і аўтакамерны цэх. Цяпер нашы шыны смела можна назваць беларускімі: для іх вырабу выкарыстоўваецца свой корд, камплектацыю таксама робім камбінацкімі камерамі. Калектывы генпадрадчыка—Бабруйскага будаўнічага трэста № 13 — і мантажнікі 19 студзеня забяспечылі пуск першай чаргі завода буйнагабарытных шын, разгортваюць будаўніцтва цэха масавых шын. Работы вядуцца на ўсіх сарака аб'ектах камбінацкага прамысловага комплексу. Жыццё на ўсесаюзнай ударнай камсамольскай будоўлі крынічыць. Наогул, вы зможаце пераканацца ў гэтым самі...

...Мы на тэрыторыі камбіната. Завод буйнагабарытных шын—галоўная рабочая пляцоўка будаўнічых атрадаў. Па трох'яруснай лесвіцы падымаемся на дах яго галоўнага корпуса: адтуль добра відаць уся панарама будоўлі. Першае, што кідаецца ў вочы і захапляе,—трактар на адным з перакрыццяў даху. Прыткнуўся да вентыляцыйнай шахты і стаіць сабе спакойна, як на зямлі. Відаць, кудысьці на хвілінку адлучыўся трактарыст. Побач гойсаюць ва ўсіх напрамках мотакалляскі—падвозяць гарачы асфальт. Вёдрамі ці чым іншым не наносішся: дах корпуса—18 гектараў...

Спускаемся ўніз—і зноў бачым малюнкі сапраўды волатаўскага размаху: па цэхах завода снуюць грузавікі. Завод-гігант і прадукцыю будзе выпускаць адпаведную: у год сотні тысяч шын вагою да дзвюх тон пры дыяметры два з палавінаю метры. Цэх масавых шын, які хутка вырасце побач, таксама зойме плошчу ў 18 гектараў і будзе выпускаць за год мільёны адзінак «абутку» для легкавых і невялікіх грузавых аўтамабіляў. Нават шматпавярховы корпус інжынерна-адміністрацыйнага будынка выцягнуўся ўздоўж Мінскае шашы на трыста метраў.

Каб мець большае ўяўленне пра справы маладых будаўнікоў, мы зазірнулі ў камсамольскі штаб. Яго начальнік Анатоль Курляндчык, адарваўшыся ад нейкіх папер, расказвае:

— Як КамАЗ і многія іншыя ўдарныя аб'екты пяцігодкі, Беларускі шынны будуе ўся краіна. Сваю долю ўносяць 200 прадпрыемстваў. Дый самі будаўнікі—людзі розных нацыянальнасцяў. У штаб і цяпер ідуць пісьмы з розных куткоў краіны. Моладзь просіць расказаць аб шынным, цікавіцца, ці можна прыехаць сюды на работу. Калі ласка, чытайце...

Бярэм адзін са шматлікіх лістоў. Выхавацелькі дзіцячага дома з Шумілінскага раёна Люба Жукава і Зоя Ільінец пішуць: «Усякае паведамленне з Бабруйска нас хвалюе, нібы яно з родных месцаў. Калі нават мы і не будзем удзельнікамі гэтай вялікай будоўлі (а нам ой як хацелася б!), то ведайце, што недзе ў далёкіх Лясковічах пра вас памятаюць, сочаць за вашымі справамі і расказваюць дзецям». Другі ліст—ад маладых камуністаў, мужа і жонкі Рыжыкавых з Барысава. Студэнты-завочнікі, з малым дзіцем на руках, яны прыедуць, хай толькі са штаба напішуць, ці ёсць патрэба ў рабочых руках. Ён—токар высокага разраду, але гатовы працаваць вучнем па любой будаўнічай спецыяльнасці.

У размову ўключыўся сакратар парткома трэста № 13 Іван Васільевіч Васіленка:

— Нават на першы погляд відаць, што на будаўнічых аб'ектах камбіната—пераважна моладзь. Таму ў трэсце мы стварылі камсамольска-маладзёжныя брыгады. Многія ўжо з першых крокаў апраўдваюць сваё ганаровае званне. Цікава, што сюды, у маладзёжныя калектывы, уключылі па некалькі чалавек вопытных, сталых будаўнікоў. Гэта—каб было з каго браць прыклад, у каго вучыцца. Дый, у прынцыпе, хіба хто адмовіцца працаваць побач з такімі асамі сваёй справы, як кавалер ордэна Леніна, заслужаны будаўнік БССР Яўген Фёдаравіч Савіцкі, кавалер ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі Васіль Іосіфавіч Крук, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга Пятро Сцяпанавіч Галуза?..

...І зноў цэхі камбіната. У кароткія хвіліны абедзеннага перапынку сустрэліся з хлопцамі брыгады Васіля Леўчанкі. Гэта яны клалі высотную частку корпуса буйнагабарытных шын, блока механічных вытворчасцяў, склада хімікатаў і помпавай станцыі. У брыгадзе 28 муляраў. Існуе тут добрая традыцыя: пасля службы ў арміі хлопцы зноў вяртаюцца да Леўчанкі. Так зрабілі Франц Жывіца, Павел Багдановіч, Валодзя Жукавец, Коля Карпаў, Мікалай Гантароў.

У невялічкім вагончыку, што служыць бытоўкай,—хвалі тытунёвага дыму. Васіль Леўчанка нетаропка апавядае пра свае будні:

— Вы да нас трапілі ў гарачыя дні. Якраз здаём завод буйнагабарытак. Даводзіцца працаваць з павышаным напружаннем. Хаця і раней тэмпы былі высокія. Часам, бывае, канчаецца змена, а тут раствор прывезлі. Застаюцца з нас двое-трое на пару гадзін—не прападаць жа дабру.

У брыгадзіра пад вугластай шапкай-шаферкай—ружавашчокі круглы твар, але праз гэтую юначую мяккасць прабіваецца мужчынская ўпартасць, цвёрдасць. У куточках сціснутых вуснаў—скупая ўсмешка, пад насупленымі бровамі—строгія вочы, у голасе—ноткі заклапочанасці.

Падышоў Валодзя Жукавец. Былы пагранічнік. Расказваюць, што за час службы двух парушальнікаў затрымаў. Калі Леўчанка адвярнуўся, Валодзя кінуў у яго бок:

— Брыгадзір—хвацкі хлопец!

З кім ні гаварыў—хлопцы нахвальвалі адзін аднаго. Гэта не было «работай на карэспандэнтаў». Проста тое, што мы прывыклі называць мікракліматам калектыву, тут у найлепшым стане. У гэтым пераконваюць, напрыклад, такія «дробязі». Новы год яны лічаць сямейна-брыгадным святам і заўсёды сустракаюць разам. Традыцыяй стала і такое: на 23 лютага—падарункі мужчынам, на 8 сакавіка—жаночай палавіне брыгады. Многія выхадныя дні праводзяць таксама разам, у турысцкіх паездках.



Слесары Мікалай Кавецкі і Веніямін Балагулаў вядуць мантаж абсталявання завода буйнагабарытных шын.



**Участак вулканізацыі камер. Майстар участка Аляксандр Карабанаў (справа) і вулканізатаршчык Уладзімір Чыжэвіч.**

Камітэт камсамола трэста № 13 і камсамольскі штаб будоўлі распрацавалі грамадска-працоўны пашпарт камсамольска-маладзёжных калектываў. Гэта своеасаблівае люстэрка паказчыкаў брыгады на працягу года, удзелу яе ў грамадскім жыцці. Дык вось, хлопцы з брыгады Васіля Леўчанкі яшчэ 1 лістапада 1972 года запісалі ў сваім пашпарце: план двух гадоў дзевятай пяцігодкі выкананы датэрмінова.

Такі ж запіс на некалькі дзён пазней зрабіла і брыгада Мікалая Сіманенкі. Яе мы засталі за пракладкай унутрыпляцовачных сетак тэлефанізацыі. На пытанне, што спрыяе такім высокім вытворчым паказчыкам, адказаў праформ брыгады Анатоль Кавалёнак:

— Добра арганізаваная вучоба. Ужо стала традыцыяй вучыць навічкоў калектыўна. Наш «галава» мае дваццацігадовы вопыт і ахвотна ім дзеліцца. Дый кожны член брыгады адчувае асабістую адказнасць за новага таварыша. Так што Ваня Смарчкоў, Алёша Падабедаў, Саша Антохін і былыя падсобнікі атрымалі разрады сталяра ці муляра...

Камсамольска-маладзёжныя калектывы—пачынальнікі ўсяго новага, што нараджаецца на будоўлі. Брыгада Валерыя Лашчова, напрыклад, выступіла з ініцыятывай, якую потым падтрымалі камсамольскі штаб будоўлі і бюро гаркома камсамола. Гэта—заклік да моладзі горада аб шэфстве над шынным. Маладыя бабруйчане ўжо адпрацавалі ў вольны ад работы і вучобы час на Усесаюзнай ударнай будоўлі 10 тысяч чалавека-гадзін.

З брыгадзірам Нінай Пятрэнка мы гутарылі пра новую форму падвядзення вынікаў работы за месяц—пра каэфіцыент працоўнага ўдзелу.

— У нас, у тынкоўшчыкаў,—гаварыла Ніна,—на першым плане—якасць. Нас задавальняе толькі выдатная адзнака. Думаем, што прымяненне каэфіцыенту працоўнага ўдзелу дазволіць нам яшчэ больш павысіць якасныя паказчыкі.

Калі паспрабаваць падвесці нейкі вынік нашай сустрэчы, то можна сцвярджаць: у камсамольска-маладзёжных брыгадах камбіната куюцца сапраўдныя гаспадары вытворчасці. Дапамагаюць ім у гэтым конкурсы на лепшага па прафесіі, агляды тэхнічнай творчасці, вечары пасвячэння ў рабочыя і г. д.



**«Абутак» для «БелАЗ»аў.**

За другі год пяцігодкі моладзь аднаго толькі трэста № 13 сэканоміла будаўнічых матэрыялаў больш чым на 100 тысяч рублёў, унесла каля 60 рацыяналізатарскіх прапаноў...

Калі мы пакідалі будоўлю, з Яловікаў, невялікага ляску, наплывалі блакітныя вячэрнія прыцемкі. Наперадзе вырысоўваўся горад, а ззаду ў зарыве агнёў ззяла ўдарная камсамольская. Там, на будаўнічых пляцоўках, віравала жыццё.

Фота **К. Якубовіча.**

■■■



● Галіна АЙЗЕНШТАТ

# ПОЛЕ СЯМІДЗЕСЯТЫХ

Адзін мой калега неяк пабываў на Любаншчыне. Некалькі дзён ён жыў у вёсцы, у сям'і, дзе два механізатары: дзяўчына-камсамолка і швагер, чалавек сярэдніх гадоў. Вярнуўшыся з камандзіроўкі, ён расказваў: «Ранічкаю, як толькі пачало світаць, Тамара, паснедаўшы, хуценька пайшла да свайго трактара. Дзень быў марозны, і трэба было добра прагрэць матор, каб у час пачаць работу. Яе швагер, не спяшаючыся, паснедаў ды яшчэ чарку ўзяў. «Весялей работа пойдзе»,—адказаў ён на мой здзіўлены позірк. Кантраст адносін да справы гэтага мужчыны і Тамары відавочны. Я лічу, што з прыходам жанчыны на трактар своеасабліва зменіцца, стане больш прывабнай сама гэтая прафесія...»

Спрэчкі пра тое, наколькі жыццёвы заклік «Дзяўчаты, на трактар!», ідуць даўно. І не толькі на старонках газетных дыскусій, але і ў звычайных жыццёвых размовах. Сярод самых розных катэгорый людзей. І гэта натуральна. Усё, што датычыцца жанчыны, клопатаў пра яе, не пакідае раўнадушным нікога. І, вядома, асабліва мужчын. Яны лічаць сваім абавязкам засцерагчы жанчыну ад цяжкай працы, у дадзеным выпадку—ад работы на трактары. Але ў той жа час зусім спакойна глядзяць на тое, што жанчыны, за якіх яны заступаюцца, робяць куды больш цяжкую работу, скажам, на ферме. Парадокс, які з-за традыцыйнага погляду на рэчы проста не заўважаецца.

Памятаю, як адзін разгневаны мужчына прыслаў у рэдакцыю ліст: «Вы заклікаеце дзяўчат на трактар, а я, каб на тое мая воля, ні адну не пусціў бы! Трэба берагчы і шкадаваць дзяўчат, а вы хочаце, каб яны хадзілі мурзатымі. Хто такіх замуж возьме?»

Другі, не менш агрэсіўны апанент, злосліва кпіў: няхай бы журналісты паслалі на механізатарскія курсы сваіх дачок. Нябось, самім вам на даводзілася і рук у салярцы памыць...

Я чытала гэты ліст, і прыгадвалася мне, як пасля дзесяцігодкі сама не хацела ісці на «чыстую» работу. Здавалася, як гэта сумна—цэлы дзень прасядзець у канторы. І я пайшла ў РТС вучнем токара. Вучоба, вядома, была прымітыўная (яна залежала ад настрою токара, да якога мяне прымацавалі), але збольшага я навучылася тачыць балты і гайкі на маленькім дрыготкім станку. Пасля змены я ішла па вуліцы стомленая, але задаволеная. З гонарам пазірала вакол: гэта вам ідзе не канторскі служачы, а рабочы чалавек! І чад, і дым, і грукат у майстэрні мне быў да душы. Падабалася мне і тое, што я была тут з дзяўчат адна...

Праз многа гадоў прыехала я ў свой раён, у славуты калгас «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага, каб узяць інтэрв'ю ў аднаго вопытнага камбайнера. Твар яго мне здаўся знаёмым. Я сказала яму пра гэта. «А я вас адразу пазнаў,—усміхнуўся ён.—Мы ж разам у РТС працавалі».

І гэтае «мы разам працавалі» напоўніла мяне пачуццём удзячнасці і гонару. Я адчула сябе так, нібы пасля доўгай ростані сустрэла чалавека, з якім ёсць пра што пагаварыць...

Толькі пасля гэтай сустрэчы я ўпершыню яскрава зразумела, якімі карыснымі для мяне былі тыя гады. І я ў думках адказвала аўтару таго ліста: так, я вельмі б хацела, каб і мая дачка гэтак сама пачала сваё жыццё.

Канечне, у гэтых двух лістах—крайнія пункты погляду на праблему. Але ёсць і такія, што на словах яны як бы і за тое, каб сярод жанчын прапагандаваць механізатарскія прафесіі, а самі думаюць інакш. Адзін з такіх прызнаваўся мне: «Шчыра кажучы, і я супраць таго, каб дзяўчына села за руль трактара. Усё ж не жаночая гэта справа».

Заадно скажам, што, мабыць, па гэтай жа прычыне і ў школах тая работа, што вядзецца па прафесійнай арыентацыі, не заўсёды дае патрэбны эфект.

Думаючы над праблемай прыходу дзяўчат на трактар (у нашы дні заклік гэты трэба разумець куды шырэй і разглядаць як вялікую праграму сацыяльных дзеянняў, прадыктаваную карэннай перабудовай вёскі, усёй сельскагаспадарчай вытворчасці на якасна новай, прамысловай аснове), я не раз пыталася ў сябе: як магло здарыцца, што трактар, які з першых гадоў Савецкай улады стаў сімвалам новых глыбокіх перамен у вёсцы, які выклікаў захапленне ў тых жа жанчын і жаданне кіраваць ім, з часам нібы страціў сваю прыцягальнасць? А, здавалася б, з развіццём навукова-тэхнічнага прагрэсу, павышэннем адукацыйнага ўзроўню, ускладненнем тэхнікі павінна была павялічыцца і цяга сельскіх дзяўчат да тэхнікі. Іменна падобны працэс адбываўся і адбываецца ў горадзе, і мы прымаем яго як нешта натуральнае. Сотні жанчын і дзяўчат працуюць на заводах інжынерамі, канструктарамі, начальнікамі цэхаў; жанчына—вадзіцель тралейбуса, шафёр таксі, і нікога гэта даўно ўжо не здзіўляе.

У вёсцы ж працэс нібы затармазіўся. Хаця, калі трэба было—у вайну і пасляваенныя гады,—жанчыны замянялі мужчын-механізатараў. «Бывала, сапсуецца трактар,—прыгадвала сорак шосты год адна знаёмая жанчына-механізатар,—дык заглушу матор, а сама хаджу горная, шукаю ў баразне тую згубленую гайку...»

...Цяпер амаль у кожнай гаспадарцы ёсць добрыя рамонтныя майстэрні, і з запчасткамі стала лягчэй, і заробкі інакшыя. А жанчын-механізатараў у кожным раёне—на пальцах пералічыш. У чым жа справа? Магчыма, у пошуках адказу варта азірнуцца гадоў на дваццаць назад, у пяцідзесятыя гады, калі ў сельскай гаспадарцы дапускаліся вядомыя перагібы? І ў полі, і на трактары—хлеб быў не салодкі, бо на працадзень мала чаго прыпадала...

А з трактарам клопату было шмат. Думай, як з гаручым выкруціцца, дзе запчасткі знайсці. Вядома, такое мала каго магло прыцягнуць, і аўтарытэт механізатарскай прафесіі быў зусім невысокі, нават сярод мужчын, не кажучы ўжо аб жанчынах.

Пачынаючы з 1965 года, пасля вядомага сакавіцкага Пленума ЦК КПСС, які паклаў пачатак карэннай перабудовы сельскагаспадарчай вытворчасці, партыяй і ўрадам неаднаразова прымаліся меры па павышэнні ролі механізатара ў вёсцы. І сёння, калі па сельскіх прасторах крочыць навукова-тэхнічны прагрэс, мы бачым, якой празорлівай была гэтая палітыка. Цяпер механізатара па праву называюць галоўнай фігурай у вёсцы, сёння механізатар—самы паважаны, самы аўтарытэтны тут чалавек.

Дык чаму ж сярод дзяўчат і жанчын гэтая прафесія непапулярная? Мусіць, таму, што думку («не жаночая гэта работа»), якая складвалася і ўкаранялася гадамі, не так проста адкінуць. Гады ідуць, а яна, старая, упартая, жыве сабе, хаця цяпер у вёсцы і ўмовы працы, і тэхніка змяніліся карэнным чынам. Але ў сельскай дзяўчыны па-ранейшаму ледзь не панічны страх перад машынай. Аграном, настаўнік, заатэхнік—гэтыя прафесіі яна прызнае «сваімі». А вось пайсці ў механікі, электрыкі, інжынеры—божа барані!

Натуральна, выбар шляху—справа асабістая. Ці можам мы ўмешвацца ў яго? Можа, няхай так і будзе: хлопцы будуць механікамі, электрыкамі, інжынерамі; дзяўчаты—настаўнікамі, аграномамі, заатэхнікамі? Не, такое традыцыйнае размеркаванне на «мужчынскую» і «немужчынскую» прафесіі трэба спакваля мяняць. Хаця б таму, што цяпер у вёсцы даволі часта назіраецца дыспрапорцыя ў суадносінах маладых мужчын і жанчын.

Удзел жанчыны ў кваліфікаванай сельскагаспадарчай працы—вялікая дзяржаўная, сацыяльна-палітычная задача. У пастанове ЦК КПБ «Аб разгортванні масавага руху сельскай моладзі за авалоданне тэхнічнымі прафесіямі», якая была апублікавана 1 сакавіка 1970 года, падкрэслівалася: «Камітэтам камсамола разам з адпаведнымі сельскагаспадарчымі органамі неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненне дзяўчат у рух за авалоданне тэхнічнымі ведамі. Варта больш канкрэтна весці прапаганду прафесіі механізатара сярод жаночай моладзі, больш рэкамендаваць дзяўчат для вучобы ў СПТВ, іх філіялы, гурткі і курсы механізатарскага ўсенавуча».

І што б ні казалі раўнівыя «абаронцы» жанчын, як бы ні стараліся засцерагчы жанчыну ад трактара, само жыццё прымушае нас «паварочваць» яе да машыны, да тэхнікі. Іхні «клопат» нічога агульнага не мае з сапраўднымі і надзённымі клопатамі аб тым, каб дзяўчына-сяльчанка змагла праявіць свае здольнасці.

І ўсё ж хто яны, носьбіты традыцыйнага погляду? Не раз спрабавала я дакапацца да высновы гэтага, гутарачы перш за ўсё з самімі дзяўчатамі-механізатарамі. У іх лёсах было шмат агульнага, блізкага, але адказы, якія я атрымоўвала, не давалі магчымасці намаляваць агульную карціну. Ды яно і вядома: сустрэчы гэтыя былі эпізадычнымі.

У сакавіку мінулага года адбылася больш грунтоўная гаворка па пытанню ўцягнення дзяўчат у тэхнічны ўсенавуч. За «круглым сталом» у ЦК ЛКСМБ сабраліся дзяўчаты-механізатары, камсамольскія работнікі, прадстаўнікі зацікаўленых міністэрстваў, навучальных устаноў.

Пасля, падсумаваўшы запісы размовы, я выявіла, што яскрава выступаюць наступныя тэндэнцыі: самымі настойлівымі, заўзятымі абаронцамі старых традыцыйных поглядаў на тэхнічную прафесію як на выключна мужчынскую ў вёсцы выступаюць бацькі; кіраўнікі гаспадарак, якія, з аднаго боку, праяўляюць нежаданне працаваць з маладымі спецыялістамі наогул і з дзяўчатамі-спецыялістамі ў прыватнасці, а з другога—няўменне быць выхавацелямі ў самым глыбокім сэнсе гэтага слова.

Сюды можна дадаць і некалькі іншых. Напрыклад, адсутнасць клопатаў аб эстэтычным аспекце прафесіі. Не выпадкова дырэктар магілёўскага СПТВ-1 А. В. Львоў, як ўдзельнічаў у гутарцы за «круглым сталом», завастрыў увагу іменна на гэтым: «Уся бяда ў тым, што мы раўняем хлопца і дзяўчыну. У нас у вучылішчы 213 дзяўчат. Ім мы выдаем тыя ж грубыя кірзавікі, што і хлопцам, тую ж форму. Мы забываемся, што дзяўчаты ёсць дзяўчаты і яны павінны вызначацца сваёй знешнасцю. Калі мы хочам рашыць праблему прыцягнення дзяўчат да авалодання тэхнікай, нельга забывацца пра гэтую ісціну. Гэта зусім не дробязь, як здаецца на першы погляд».

Называліся і іншыя прычыны, што тармозяць механізатарскі ўсенавуч сельскіх дзяўчат: тэхніка, якую ім сёння даюць, не ўлічвае іх асаблівасцей. Не заўсёды дзяўчыне па сіле адрамантаваць сапсаваны трактар (а добра было б прыйсці а восьмай гадзіне раніцы, прыняць трактар, гатовы да работы, а ўвечары здаць яго на прафілактыку ў майстэрню. У горадзе ж вадзіцелі не рамантуюць свае тралейбусы. І глядзіце, колькі жанчын-вадзіцеляў з'явілася за апошнія гады!), дзень у дзяўчыны-механізатара не нарміраваны. А ёй жа хочацца і кнігу пачытаць, і на танцы схадзіць...

Адным словам, праблема ёсць. Яна наспела і з кожным годам становіцца ўсё больш актуальнай. Паспрабуем прааналізаваць тыя факты, аргументы, што прыводзіліся ў час размовы за «круглым сталом».

Вядома, што кожная маці хоча, каб яе дачка «выйшла ў людзі». Для жанчыны-сялянкі да нядаўняга часу гэта азначала паехаць у горад, прыбіцца там да якога-небудзь берага, уладкавацца на абы-якую работу, не столькі грашовую («салам, хлебам дапаможам»), але каб на чыстую («сама век у гнаі поркалася, то няхай хаця дзіця інакш жыве!»). Ясна, што такая маці жаданне дачкі—стаць механізатарам—не толькі не ўхваліць, але будзе з усяе сілы супраціўляцца.

Вось што расказваюць некаторыя дзяўчаты-механізатары, якім давялося пераадольваць супраціўленне бацькоў на пачатку свайго жыццёвага шляху. «Мама забараніла мне пасля васьмігодкі падаваць заяву ў СПТВ. Пасля дзесяцігодкі я паслала яе цішком. Цяпер мама з гэтым змірылася, але малодшай маёй сястры, якую я хацела падвучыць на трактарыстку, і думаць забараняе аб механізатарскай прафесіі». (Тацяна Рыбчынская, механізатар калгаса «Ленінскі заклік» Крычаўскага раёна).

«Мая мама дык проста плакала, калі я пайшла ў філіял СПТВ...» (Тамара Юруць, трактарыстка калгаса «Дружба» Баранавіцкага раёна).

«Мама пярэчыла, а бацька сказаў: няхай робіць, як сама хоча...» (Людміла Аўласенка з калгаса «1 Мая» Рагачоўскага раёна).

Яшчэ большыя перашкоды на шляху сваёй прафесіі давялося пераадолець Тамары Грынь, механізатару эксперыментальнай базы «Вусце» Аршанскага раёна. Яе бацькі нарадзіліся і гадаваліся ў вёсцы, але з часам перабраліся ў Оршу, прыжыліся. Бацька пачаў працаваць электрыкам у дэпо, маці паштальёнам. Браты Тамары—хто электрык, хто таксіст. Сама яна на пачатку наважыла стаць шафёрам. Уласна, таму і паступіла ў СПТВ. Але там шафёраў-прафесіяналаў не рыхтавалі, і Тамара рашыла вучыцца на трактарыста. У час навучання ў яе з'явілася цікавасць да гэтай прафесіі. Калі пасля заканчэння вучобы Тамару накіравалі на працу ў «Вусце», бацькі катэгарычна запратэставалі, каб яна ехала ў вёску. «Магла б хаця ў які тэхнікум паступіць»,—нездаволена сказаў ёй адзін з братоў. Другі, таксіст, угаворваў: «Пераходзь да мяне, навучу. Работа і чыстая, і грашовая».

Чым вытлумачыць такую ўпартасць бацькоў? Матэрыяльнай забяспечанасцю? Не маюць патрэбы ў высокім заробку («пракормім, а там дачка замуж выйдзе...»)? Магчыма. Ці іх палохае ненарміраваны пакуль што працоўны дзень механізатара («хіба лёгка дзяўчыне адрабіць дзве змены, а там сям'я будзе, дзеці, і дагледзець іх не будзе часу...»)? Напэўна.

Зусім недастаткова развіты тэхнічны ўхіл (ці як цяпер гавораць, праф-

арыентацыя) у сельскай школе, няўменне заўважыць схільнасць і прызванне іменна ў гэтым напрамку? Відавочна.

Прычын можна назваць дзесяткі. І ўсе яны перапляліся ў цесны клубок, і за якую нітачку ні пацягнеш, абавязкова чапляецца і другая. Ці не таму мы баімся размотваць гэты клубок—вырашаць пытанне комплексна, а не па прыватнасцях? Клопату шмат? Вядома! Але ж час, жыццё патрабуюць—і ўсё больш настойліва—вырашаць гэтую праблему.

Прыгадваецца рэспубліканская нарада жанчын-механізатараў 1970 года. Як жа хвалююча было сядзець у зале, між жанчын-механізатараў розных пакаленняў, бачыць, з якім гонарам многія з іх носяць урадавыя ўзнагароды за сваю ўдарную працу!

Пазней, аналізуючы прамовы ўдзельнікаў нарады, я выявіла цікавую дэталь: у многіх з іх уплыў на выбар прафесіі аказаў нехта з членаў сям'і. Напрыклад, Ганна Данільчык з саўгаса «Бялыніцкі» на Магілёўшчыне, Ала Такарэўская з саўгаса «Рудакова» на Віцебшчыне, Ірына Лазоўская з калгаса імя Чапаева Лідскага раёна навучыліся вадзіць трактар у сваіх мужыкоў. Валя Іконнікава з Ушацкага аддзялення «Сельгастэхнікі»—у сваёй маці, Люся Разумка—у бацькі...

Мабыць, вось ён—адзін са шляхоў пераадолення традыцыйнага погляду на «нежаноцкасць» спецыяльнасці трактарыста—«сямейнасць» у выбары адной і той жа прафесіі. А ці трэба гаварыць, наколькі гэтая традыцыя можа стаць і вялікім маральным набыткам—не толькі для асобнай сям'і...

Як шкада, што кіраўнікі асобных гаспадарак зусім упускаюць з поля зроку гэты фактар. Больш таго, падзяляючы думку некаторых бацькоў, пра якіх гаварылася тут, адмахваюцца ад дзяўчат-механізатараў.

— У нас ёсць факты,—гаварыў за тым «круглым сталом» сакратар Ашмянскага райкома камсамола Міхаіл Булаўка,—калі дзяўчаты, якія скончылі СПТВ, працуюць кім давядзецца, нават афіцыянткамі, і толькі таму, што ім не далі работы па спецыяльнасці.

Ён расказаў, якія цяжкасці давялося пераадолець, напрыклад, Яніне Яжэвіч з калгаса імя Крупскай, дэлегату XXIV з'езда ЛКСМБ, удзельніцы першай рэспубліканскай нарады жанчын-механізатараў, прызёру рэспубліканскага конкурсу аратых. Ёй доўга не давалі трактар, потым выдзелілі «ДТ-40». Яна папрасілася перавесці яе на больш сучасную машыну—ёй адмовілі, і толькі дзякуючы сваёй настойлівасці Яніна перамагла ўсе нягоды на пачатку свайго шляху.

Такія прыклады, на жаль, ёсць і ў Віцебскім, і ў Талачынскім, і ў іншых раёнах.

Вядома, не ўсе дзяўчаты-механізатары змогуць так працаваць, як мужчыны. Ёсць і даволі бездапаможныя, не падрыхтаваныя як мае быць да практычнай работы (многія СПТВ не могуць яшчэ пахваліцца матэрыяльнай базай, і гэта, натуральна, адмоўна ўплывае на якасць падрыхтоўкі спецыялістаў), але гэта ўсё ж выключэнне, а не правіла. Большасць дзяўчат працуе добраасумленна, старанна, а галоўнае, як адзначаюць самі кіраўнікі гаспадарак, дзяўчаты-механізатары больш дысцыплінаваныя, з большай адказнасцю адносяцца да свайго абавязку.

— Іменна таму,—гаварылі мне ў калгасе імя Дзяржынскага Маладзечанскага раёна,—мы і вылучаем нашых жанчын на адказныя ўчасткі вытворчасці.

Жанчыны, між іншым, тут актыўныя ўдзельніцы механізатарскага ўсенавуча. Тры гады таму назад сталі трактарыстамі шырокага профілю першыя восем дзяўчат і жанчын. Потым яшчэ васемнаццаць атрымалі правы шафёра. Прыклад у гэтым паказалі галоўны аграном Яніна Гарошка, інспектар па кадрах Ніна Соусь, бухгалтар Лізавета Кудзіна і іншыя.

Добры кіраўнік, які зацікаўлены, каб гаспадарка ішла ўгору і ўсебакова развівалася, абавязкова праявіць клопат аб стварэнні ўмоў для працы людзей і, асабліва, для работы дзяўчат-механізатараў. Гэта, як паказвае практыка, і ёсць аснова для замацавання іх у вёсцы.

— Старшыня нашага калгаса «Зара» Зельвенскага раёна,—гаварыла трактарыстка Лена Мякеня, якая на мінулагодніх рэспубліканскіх спаборніцтвах аратых заняла першае месца,—вельмі чула адносіцца да кожнае нашае просьбы. Мы, механізатары, адчуваем заўсёды яго падтрымку. І самі стараемся. Нельга ж падводзіць людзей, якія робяць шмат добрага для цябе...

Думаецца, што гэтая ўзаемная абавязковасць і павінна стаць нормай узаемаадносін кіраўніка і спецыяліста.

Згадзіцеся, вельмі крыўдна, калі людзі, такія, як, скажам, тая ж руплівіца Лена Мякеня, не знойдуць падтрымкі і не здолеюць раскрыць свайго прызвання!

Сярод важкіх аргументаў, якія прыводзяцца, каб пацвердзіць думку, што прафесія механізатара не для жанчын, існуе, нагадаю, і такі: тэхніка, якую сёння прапануюць дзяўчатам, не зусім падыходзіць для іх.

Доўгі час я была пераканана, што гэта, бадай, сапраўды ледзь не вырашаючы аргумент. Але вось цікава: з кім бы я з дзяўчат-механізатараў ні гаварыла, ні адна з іх не паскардзілася, што ёй не па сіле праца на сённяшнім трактары.

Выпадковасць? Каб больш грунтоўна адказаць на пытанне, звернемся зноў да матэрыялаў першай рэспубліканскай нарады жанчын-механізатараў.

Зося Пятроўна Рачок, першая трактарыстка Беларусі: «У 1931 годзе, скончыўшы курсы пры МТС, я працавала на «Пуцілаўцы». Потым перайшла на «Інгер». Усё ў начную змену працавала: напарніца мая ўвечары з дому выходзіць баялася. Сёння моладзі толькі працаваць—такая цяпер тэхніка!»

Ганна Іосіфаўна Рыбчык, механізатар саўгаса «Гайна» на Лагойшчыне, кавалер ордэна Леніна: «Цяперашні трактар не параўнаеш з тымі, на якіх я ў 1938 годзе рабіла. Дрыўмі палілі. Каб лепей дровы гарэлі, раздавалі іх сушыць па хатах. Не паспеюць падсохнуць, то і трактар не ідзе. Поўз, як чарапаха...»

Алена Іванаўна Ушкар, камбайнер саўгаса «Беларусь» Жабінкаўскага раёна: «У 1950 я скончыла курсы трактарыстаў. Працавала на старэнькім «Універсале»—жалезны руль, жалезнае сядзенне... І ўсё адно з ім нават самы моцны конь не справіцца».

Ганна Данільчык, трактарыстка саўгаса «Бялынічы»: «Лёгкі» трактар? Паглядзім, якія ў яго будуць скорасць і праходнасць. Для мяне і цяперашні трактар не цяжкі».

Як бачым, тут гаварылі жанчынымеханізатары самых розных пакаленняў. У іх выказваннях, нягай пункцірна, бачацца ўсе этапы «развіцця» трактара, абмалёўваецца вобраз жанчыны-механізатара.

Могуць сказаць: час быў такі, патрабавалася своеасаблівая самаахвярнасць. Але ж і іншае зразумела: каб быць здольным на такую самаахвярнасць, трэба валодаць не менш моцным пачуццём усвядомленага абавязку. Я ўжо не кажу аб прызванні, гэтым моцным «рухавіку ўнутранага згарання», якое вядзе чалавека на, здавалася б, недасягальныя вышыні. Ці заўсёды мы праводзім нашу прафарыентацыю аб выхаванні ў падрастаючай змены менавіта гэтай якасці? Ці дастаткова ўмела мы гэта робім? Ці пераканаўча, аргументавана?

Трэба прызнаць: не, не заўсёды. Часам не ўмеем, часам—не хочам, часам—проста не надаём гэтаму ўвагі, не лічым важным...

«Жыццё пераконвае,—пісаў вядомы савецкі педагог В. А. Сухамлінскі,—што чалавек ніколі не палюбіць простай сельскагаспадарчай працы, калі з маленства ён не натхніўся прыгажосцю будзённай работы».

Натхненне прыгажосцю будзённай работы... Вось дзе, бадай, трэба шукаць выток праблемы падрыхтоўкі кадраў для розных галін сельскагаспадарчай вытворчасці, у тым ліку і падрыхтоўкі дзяўчат-механізатараў.

Нашы вясковыя выпускнікі, нават калі ў школе і ёсць вытворчая брыгада, даволі павярхоўна ведаюць аб тым, якой цаною дасягнуты ў гаспадарцы той ці іншы поспех або чаму, з якое прычыны допушчаны нейкі промах. Яшчэ менш яны ведаюць аб перспектывах свайго калгаса ці саўгаса, аб тым, якія спецыялісты будуць патрэбны гаспадарцы ў недалёкім будучым і якое, да прыкладу, месца можа заняць у ёй дзяўчынаспецыяліст, якая любіць тэхніку, якія яе чакаюць умовы для работы.

Не, аднымі заклікамі праблему не вырашыць. І хаця пэўныя крокі ў гэтым напрамку зроблены, лозунг «Дзяўчына, на трактар!» сёння гучыць яшчэ даволі слаба. Напрыклад, у 1972 годзе планавалася прыняць у СПТВ 750 дзяўчат, а паступіла туды крыху больш за 500.

Ды і ці ўсе яны вернуцца ў вёску? Ці ўсе застануцца ў родным калгасе ці саўгасе, не пагрэбуюць сваёй прафесіяй? І што трэба зрабіць для таго, каб усё ж яны засталіся там, замацаваліся? Гатовых рэцэптаў тут не дасі. Адно ясна: праблема ёсць і яна патрабуе вырашэння.

■■■

**Сіла камсамола — у партыйным кіраўніцтве. Выхаванне падрастаючай змены, камсамольскіх кадраў — адзін з галоўных клопатаў партыі.**
**«Пра малодшага таварыша» — новая рубрыка часопіса. Сваімі думкамі аб выхаванні сучаснага камсамольскага важака, вопытам падзеляцца партыйныя работнікі.**
**Размову пачынае першы сакратар Бярозаўскага райкома КПБ Пётр Лявонавіч Лебедзеў.**

● **Пётр ЛЕБЕДЗЕЎ, першы сакратар Бярозаўскага райкома партыі Брэсцкай вобласці.**

# СЛОВА НА ДАРОГУ

Калектыў Сігневіцкага будаўніча-мантажнага ўпраўлення — адной з вядучых арганізацый на ўсесаюзнай ударнай камсамольскай будоўлі Палессеводбуд — маладзёжны. Ударнай сілай калектыву з'яўляюцца механізатары. У асноўным гэта моладзь. Самаму старэйшаму экскаватаршчыку, кавалеру ордэна Леніна камуністу Аляксею Сцяпанавічу Кавалевічу ў гэтым годзе будзе сорак. Сакратару партыйнага бюро ўпраўлення Святаславу Сідзевічу яшчэ няма трыццаці.

Усё, здавалася, складвалася вельмі добра. І моладзі ў калектыве шмат, і кіраўнікі маладыя. Як быццам камсамольскае жыццё павінна было б тут крынічыць! На самай жа справе камсамольская арганізацыя БМУ амаль што бяздзейнічала. Уся яе работа зводзілася ў лепшым выпадку да збору членскіх узносаў. Ды і тут не было належнага парадку.

У чым жа справа? Правяралі, вывучалі, абмяркоўвалі... Многія правяраючыя амаль аднагалосна заявілі, што ўсё можна вытлумачыць спецыфікай работы прадпрыемства. Людзі працуюць у пяці раёнах. Летняй парою механізатары ўвесь тыдзень знаходзяцца на балоце, далёка не толькі ад БМУ, але наогул ад паселішчаў. Але мы ўсё ж цвяроза ацанілі абстаноўку і адзначылі, што прычына гэтага — нізкі ўзровень арганізатарскай і палітычнай работы ў камсамольскім калектыве і галоўнае — адсутнасць сапраўднага маладзёжнага важака. Выбралі аднаго таварыша сакратаром, праз нейкі час — другога, трэцяга. А справы не паляпшаліся. Першы быў надта ж чысценькі, баяўся падаць руку механізатару, каб не замурзаць сваю абнову, другі аказаўся ганарыстым і зазнайкам, звысоку глядзеў на камсамольцаў, трэці сваё вылучэнне зразумеў так, што яму аказаны давер і пашана, але ні кроплі не ўцяміў новых абавязкаў, каб апраўдаць высокае сваё прызначэнне, якое яму далі авансам камсамольцы на выбарах. Галаву ён трымаў так высока, што не бачыў зямлі пад нагамі. Хадзіў так важна і чынна, нібы ўся зямля на ім трымаецца. Ступіць крок, падыме нагу і думае: ці ашчаслівіць грэшную зямлю, паставіць на яе свой чаравік ці ўстрымацца...

Людзі ж не любяць і не церпяць фанабэрыстых і зазнаек, чэрствых і бяздушных — незалежна ад таго, якія б пасты яны ні займалі. Прастата, душэўнасць, павага і ўвага да людзей, справядлівасць, асабісты прыклад працавітасці — вось за што яны паважаюць чалавека. І пры гэтым яшчэ любяць строгасць і дысцыпліну.

Мы доўга мучыліся — падбіралі, рэкамендалі, а воз стаяў на месцы. Зруху да лепшага ў гэтай камсамольскай арганізацыі не адчувалася.

— Колькі ж вы будзеце там мяняць камсамольскіх кіраўнікоў? — як бы між іншым спытаў у мяне адзін кіруючы таварыш з вобласці.

— Да таго часу, пакуль не знойдзем сапраўднага важака моладзі!..

— Можа лепш паважацца з тым, што ёсць? Шліфаваць... Памагчы...

— Памагчы добра таму, хто сам стараецца!..

Нарэшце ўвагу прыцягнуў Антон Барашка, дваццацічатырохгадовы камсамолец. За яго плячыма была ўжо вялікая працоўная школа. Пасля заканчэння васьмігодкі Антон папрацаваў у калгасе, потым скончыў СПТВ, стаў механізатарам шырокага профілю. Паступіў завочна ў культасветвучылішча, вучобу сумяшчаў з працай. Яго захаплялі музыка, песні — ён быў заўсёды ў гушчы моладзі. Антона вылучылі загадчыкам клуба ў калгасе, а пазней прызначылі дырэктарам Дома культуры БМУ. Работа ў яго ладзілася. Камсамолец стаў душою калектыву механізатараў.

На справаздачна-выбарчым сходзе ў 1971 годзе Антона Барашку выбралі членам камітэта і тут жа, пад апладысменты, камітэт абраў яго сакратаром камсамольскай арганізацыі. Ён разгубіўся, ускочыў:

— Ды я, хлопцы!.. Ды што вы робіце?..

— Будзеш нашым важаком! Хопіць чынуш!..

●

Антон Барашка зачасціў на ўчасткі, да экскаватаршчыкаў, якія дзень і ноч шчыравалі на балоце. Дзе пехатою, а дзе на спадарожнай машыне, а часам і з начальнікам БМУ. Хлопца ўсяго захапіла работа. Яму было пра што пагаварыць з экскаватаршчыкам, з трактарыстам і параіцца з майстрам ці прарабам. Дадому вяртаўся толькі ў нядзелю. Жонка папракала: «Забыўся пра сям'ю!..»

«Так трэба, — адказваў ёй Антон. — Мне ж моладзь даверыла... Ты ж разумееш, Валя...»

Яна рабіла выгляд, што злуецца, але сама ўсё разумела. Ды і як жа інакш, яна сама б так рабіла. Яна ж сама — камуніст...

Вось ужо Антон пабываў на ўсіх участках, сустрэўся амаль з усімі камсамольцамі, пагаварыў і сам убачыў, што дзе трэба зрабіць у першую чаргу.

Як можна лічыцца камсамольцам і не ўдзельнічаць у рабоце арганізацыі, нават узносы не плаціць! Ён абураўся. Але тут жа разважаў. Не трэба рабіць паспешлівыя вывады. Варта выявіць усе прычыны, дакапацца, як кажуць, да кораня, а потым ужо прымаць рашэнне.

Антон думае, думае. Аналізуе недахопы, няўдачы і промахі. Збіраецца камітэт. Сакратар уносіць свае прапановы. Камітэт адабрае іх, прымае рашэнне: стварыць камсамольскія арганізацыі на ўчастках.

Ранейшы камсамольскі сакратар рэдка калі прыходзіў да начальніка ўпраўлення. Бывала, калі і загляне ў кабінет, пачне з ім гаварыць, дык той толькі махне рукой: «Пачакай, тут справы больш важныя трэба рашаць!..»

І Антон, бывае, пасядзіць у прыёмнай, пачакае, але калі ўжо зойдзе, то рашуча падыходзіць да стала начальніка: «У мяне ёсць справа».

І начальнік слухае. «Малайчына, настойлівы хлопец. У такога справа пойдзе!..»

Камсамольскае жыццё ў арганізацыі ажывілася. Да маладзёжнага калектыву пачалі гарнуцца нават «старыя», якія былі перасталі лічыць сябе камсамольцамі. Цяпер там ужо каля двухсот членаў ВЛКСМ. Толькі за мінулы год камсамольская сям'я павялічылася на 22 чалавекі.

Убачыўшы, што камсамолія актывізавалася, і начальнік БМУ таварыш Русовіч часцей стаў звяртацца ў камітэт камсамола. Трэба то тэрмінова завяршыць будаўніцтва грэблі, то засыпаць гравіем дарогу, і камсамольцы становяцца на ўдарную вахту. Вядома, на чале са сваім важаком.

Антон Барашка ўносіць прапанову аб паляпшэнні арганізацыі працы на ўчастках, райкому камсамола — па ўзмацненню кіраўніцтва пярвічнымі арганізацыямі, павышэнню каэфіцыента актыўнасці моладзі.

Стварылі на ўчастках камсамольскія арганізацыі на правах пярвічных, і лягчэй стала працаваць. Больш цікава і актыўна праходзяць сходы. Вядома, камсамольскія справы лепш ідуць там, дзе начальнік участка праяўляе сапраўдныя партыйныя адносіны да моладзі.

— Вы толькі паглядзіце, Петр Лявонавіч, — горача даводзіць мне Антон. — Вось вам Судзілавіцкі ўчастак. Там сапраўдны парадак. Работа ідзе выдатна, і настрой ва ўсіх добры. Чаму? А таму, што прараб участка Антон Якаўлевіч Грышчук, хаця і чалавек ужо ў гадах, але ніколі ні ў чым не адмовіць моладзі. Заўсёды сам прыйдзе на камсамольскі сход і актыўна ўдзельнічае ў справах, якія рашаюць камсамольцы. Тое ж можна сказаць і пра майстра, маладога камуніста Івана Грышчука. Таму тут лягчэй працаваць і камсамольскаму важаку Ірыне Кухарчук, і гэты камсамольска-маладзёжны ўчастак неаднойчы займаў першае месца ў спаборніцтве механізатараў вобласці, атрымліваў сцягі і прэміі.

Антон перадыхнуў, як бы збіраючыся з думкамі, потым працягваў:

— А вось другі прыклад. Участак «Бярозаўскі». Умовы для работы лепшыя, чым дзе ў іншых. Побач раённы гарадок. Ёсць усе ўмовы для наладжвання культурна-масавай работы, але гэтыя магчымасці не выкарыстоўваюцца. Думаю, што многае залежыць ад прараба Казлоўскага. Трэба сказаць адкрыта — не любіць ён моладзі. Не паспееш яму што сказаць, а ён ужо грэбліва падымае руку і так жа яе апускае: «Гэта мне, маўляў, усё вядома без вас і ўсё надакучыла». У яго сваё меркаванне: «Мне трэба план, а астатняе — трын-трава!» Такія быва-

юць, на жаль, яшчэ кіраўнікі, а працаваць з імі трэба. Нікуды ад іх не дзенешся...

І Антон Барашка працуе. Часам яму бывае цяжка. Іншы раз даходзіць да адчаю. Але ў яго жылка арганізатара і змагара. І душа калектывіста, чалавека, які жыве дзеля людзей. Ён стараецца ўпрыгожыць жыццё сабе, сваім сучаснікам і сваім нашчадкам.

Я ўпэўнены: такія, як Антон, пакінуць след на зямлі, па якім праз стагоддзі нашчадкі будуць пазнаваць рысы нашага сучасніка—чалавека-калектывіста, чалавека-працаўніка.

...Мы гаворым з Антонам гадзіну, другую. Абменьваемся думкамі. Спрачаемся. Многія ж пытанні яшчэ не высветлены. Застаўшыся сам-насам, я зноў вяртаюся да нашае размовы. І раздумваючы, я ўсё больш пераконваюся, што ў нашай складанай, неспакойнай і важнай рабоце не можа быць гатовых рэцэптаў на ўсе выпадкі жыцця, нават пры аналагічных сітуацыях.

Работа наша, партыйная, камсамольская, звязана з жывымі людзьмі. А, як вядома, кожны чалавек мае свае, толькі аднаму яму ўласцівыя асаблівасці, якія і складаюць яго характар. І калі нам даверылі работу з людзьмі, то трэба гэтым даражыць, уважліва вывучаць іх жыццё, быць уважлівымі да іх запатрабаванняў, ведаць іх схільнасці, захапленні і ўмела накіроўваць усё лепшае, чым яны валодаюць, у патрэбнае рэчышча; берагчы чалавека ад праяўлення благіх рыс характару.

Дарагі малады мой сябра! Ты пайшоў, а ў мяне столькі нявыказанага, што хочацца падзяліцца з табою сваімі думкамі. Невыпадкова кажуць, што добрая думка прыходзіць звычайна пасля...

У Бярозаўскім раёне першым сакратаром райкома партыі я працую ўжо дванаццаць гадоў. А ўсяго на камсамольскай і партыйнай рабоце больш дваццаці пяці гадоў. На гэтым некароткім шляху было ўсякае: і недахопы, і цяжкасці, і памылкі. Нагледзеўся я і на тое, як многія, такія ж, як і я, кіраўнікі, пераадольвалі цяжкасці свайго росту і як удасканальвалася іх майстэрства.

Ты пытаешся: «Якія якасці павінен мець сучасны кіраўнік?» Гэтае пытанне, скажу шчыра, не лёгкае. Мне здаецца, што апрача высокай адукаванасці і глыбокіх ведаў палітычны кіраўнік абавязкова павінен мець наступныя якасці—быць сумленным і справядлівым, любіць і паважаць людзей, быць строгім і аднолькава патрабавальным да людзей і да сябе,—да сябе нават больш; паказваць асабісты прыклад працавітасці, глыбокай партыйнай прынцыповасці; умець строга спагнаць з чалавека і ўмець дараваць яму, адначасова спалучаючы якасці суддзі і бацькі, умець пераадольваць асабістую непрыязнасць і ніколі не помсціць нават свайму крыўдзіцелю. І яшчэ шмат якія якасці патрэбны кіраўніку любога калектыву, каб калектыў прызнаў яго за свайго кіраўніка.

Скажу колькі слоў яшчэ пра веды. Кіраўнік павінен шмат ведаць. Таму ён абавязаны штодзённа і напружана працаваць над сабой, павышаць сваю адукацыю, пашыраць свой агульны і палітычны кругагляд. Жыццё не стаіць на месцы, яно імкліва ідзе наперад. І мы павінны паспяваць за хуткаплынным бегам часу. Нельга жыць і абапірацца толькі на веды, набытыя некалі ў навучальнай установе. Чалавек, які перастае вучыцца, не чытае не толькі спецыяльнай палітычнай, мастацкай літаратуры, але нават газет і часопісаў, паступова адстае ад жыцця, апусташаецца духоўна, траціць свой інтэлект. У яго рэчмяшку, дзе раней былі веды, засталіся толькі сухія вокладкі дыплома.

А табе, сябра мой, неабходна яшчэ і інстытут скончыць. У наш час без вышэйшай адукацыі нельга. Я разумею і згодзен з табой—завочна вучыцца цяжка. Так, сапраўды цяжка. Але цяпер, калі табе дваццаць пяць, вучыцца куды лягчэй, чым тады, калі будзе сорак. Гэта я добра ведаю па сабе. Я сам закончыў завочна інстытут народнай гаспадаркі, калі мне было ўжо сорак два гады. І хаця ў мяне ўжо была вышэйшая адукацыя, усё адно мне было вельмі цяжка адолець праграму за інстытут. Тым больш, што ў мяне была ўжо такая неспакойная пасада.

Пра іншыя якасці, якія неабходны для кіраўніка, я гаварыць доўга не буду. Скажу толькі, што сумленнасць, справядлівасць, прыстойнасць і іншыя якасці патрэбны кіраўніку, як паветра жывому арганізму. Кіраўнік жа з'яўляецца адначасова і настаўнікам у сваім калектыве. І кожны ведае, што нельга вучыць іншых, не робячы самому таго, да чаго заклікаеш іншых.

Цяпер пра цяжкасці ў рабоце. Іх вельмі многа. Іншы раз яны падпільноўваюць цябе там, дзе іх зусім і не чакаеш.

Плошча, прадугледжаная генпланам пад стадыён, засаджана бульбай. Ніколі не думаў, што таварыш Русовіч—начальнік БМУ, гэты малады, адукаваны кіраўнік, так пагардліва паставіцца да моладзі. «Няхай людзі лепш бульбу збяруць на тым пляцы, чым вы там будзеце скакаць, штаны ды чаравікі дзіравіць...»





Калі ж моладзь сабралася на пустцы, расчысціла яе і зрабіла спартыўную пляцоўку, начальнік БМУ зноў праявіў свой кіраўнічы пыл. Ён заявіў хлопцам, якія прыйшлі да яго ў кабінет, бо на пляцоўку прыгналі бульдозер: «Тут будзем будаваць дом».

Гэта, я думаю, называецца «кіруючай» хваробай. І на яе хварэюць часцей маладыя кіраўнікі, якія стараюцца перад падначаленымі сваё ўласнае «я» выставіць. Маўляў, я кіраўнік, што захачу, тое і зраблю. Гэта звычайная манія велічы.

Сустракаў нешта падобнае і раней, сам. Хаця з таго часу прайшло ўжо дваццаць пяць гадоў, а я ўсё ніяк не магу забыць тое, і, як прыгадваю, сэрца перапаўняецца абурэннем. У 1948 годзе працаваў я сакратаром камітэта камсамола на Віцебскім заводзе заточных станкоў. Час быў цяжкі. Навокал беднасць і нястача. На ўвесь Віцебск быў адзін кінатэатр. Сядзім на пасяджэнні камітэта камсамола, думаем, мяркуем, як наладзіць адпачынак моладзі.

— Давайце абсталюем заводскую спартыўную пляцоўку,—прапанаваў сакратар камсамольскага бюро цэха Веніямін Нікіцін.—Трэніравацца будзем, спаборніцтвы наладзім...

Ідэя гэтая спадабалася ўсім. Выбралі месца—пустку за зборачным цэхам. Пытанні ўзгаднілі ва ўсіх інстанцыях, уключаючы і дырэктара завода. Усе сказалі: «Добра, рабіце!»

Моладзь горача ўзялася за справу. Працавалі пасля змены і ў выхадныя дні. На насілках і рукамі вынеслі тоны цэглы, смецця. Калі пляцоўка была гатова, дырэктар завода сказаў: «Вось і добра. На тым месцы будзе склад. Для завода карысць будзе. А то будзеце там скакаць, штаны ды чаравікі дзіравіць...»

Тады быў, паўтараю, цяжкі час—пасляваенныя гады. Думалася, што цяпер такое не можа здарыцца. А бачыце, бывае.

Цяпер пра цяжкасці выхаваўчай работы. Сапраўды, самае цяжкае—выхаванне чалавека, фарміраванне асобы, яе светапогляду. Што ні чалавек, то характар. Да кожнага патрэбны індывідуальны падыход. Нельга дапускаць шаблону. Жыццё складанае. Яго не ўціснеш у загадзя падрыхтаваныя рамкі. Няма такога рэцэпта, які быў бы прыдатны на ўсе выпадкі жыцця. У кожным канкрэтным выпадку неабходна шукаць падыход да чалавека, падбіраць ключык, каб адкрыць яго душу, зблізіцца з ім.

Прыгадаю адзін даўні выпадак. У час калектывізацыі ў заходніх абласцях Беларусі я працаваў у палітаддзеле Дунілавіцкай МТС памочнікам начальніка па камсамолу, а затым у Відзаўскай МТС намеснікам начальніка па партыйна-масавай рабоце. Даводзілася браць самы дзейны ўдзел у перабудове вёскі. Дзень і ноч працавалі мы, упаўнаважаныя і вясковыя актывісты. Сходы, індывідуальныя гутаркі, уговоры і спрэчкі... Нарэшце, здаецца, усё—калгас створаны. Засталося некалькі гаспадарак, але і яны даюць згоду жыць калектыўна. Вось толькі адна жанчына-ўдава не згаджаецца, усіх, хто да яе ідзе, у гневе праганяе, ні з кім з вясковых актывістаў не размаўляе.

Як быць? Рашыў ісці сам. І старшыня, і брыгадзір адгаворвалі, але я стаяў на сваім. Яшчэ з вуліцы ўбачыў, як у акне мільгануў яе злосны твар.

Адчыняючы дзверы ў хату, успомніў: а сёння ж—другі дзень вялікадня.

— Хрыстос уваскрэс!—з парога прывітаўся з гаспадыняй. Яна збянтэжылася, разгубілася. Пасля нейкага замяшання адказала:

— Ісцінна ўваскрэс...

— Прымай госця, гаспадыня,—загаварыў я, праходзячы ў хату.—Па чырвонае яйка прыйшоў...

— А хіба будзеш есці свянцонае?..

— А чаму б і не з'есці. Добрыя людзі ўжо даўно абедаюць, а тут яшчэ і не абнашчыўся...

— Калі добры чалавек, то і пачаставаць можна. Садзіся. А я зараз,—і жанчына шуснула ў сенечкі.

Неўзабаве мы за сталом вялі гутарку. Гаспадыня расказала мне пра свой нялёгкі батрацкі лёс. Было сіроцкае маленства, потым цяжкая праца наймічкі. Выйшла замуж за такога ж, як і сама, гаротніка. Настаў 1939 год, мужа забралі на фронт, і ён загінуў. Зноў давялося цярпець. Раззлавалася на ўсіх. Разумее, што калгас—для яе адзіны паратунак. Але не рашаецца, баіцца, што зноў яе будуць крыўдзіць. А насенне ёсць, яна гатова адвезці хоць зараз...

На калгасным двары мяне сустрэлі роспытамі:

— Ну што? Не пабіла? А мы ўжо збіраліся ісці на выручку.

— Ды нічога. Яна добры чалавек. Запрагайце каня...

Праз некаторы час да калгаснага свірна падышла падвода з мяшкамі. На мяшках—гаспадыня.

— Прымай, старшыня, насенне. Зерне—як золата,—ціха прамовіла яна.

Хачу расказаць яшчэ адзін эпізод са свайго жыцця. У гады Вялікай Айчыннай вайны мне, шаснаццацігадоваму камсамольцу, пашчасціла быць разведчыкам на Віцебшчыне ў партызанскай брыгадзе, якой камандаваў бязмежна храбры чалавек—камуніст

Герой Савецкага Саюза Аляксей Фёдаравіч Данукалаў.

Гэта было ў кастрычніку 1943 года. У Бешанковіцкім і Сенненскім раёнах немцы пачалі ўсё часцей рабіць напады на партызан. «Дзядзька Аляксей» — так звалі мы, хлапчукі, нашага камандзіра — паслаў мяне ў гарнізон «пранюхаць» намеры фашыстаў. У вёску, дзе я ўжо пасябраваў з хлапчукамі, прыбыло каля паўсотні немцаў. Хлапчукі мне расказалі, што фашысты рыхтуюцца раніцою напасці на партызан.

Я пераначаваў з вясковымі сябрамі на сене ў калгаснай пуні. Рабіў выгляд, што сплю, а сам усю ноч слухаў, каб не ўпусціць ворага. На досвітку калона рушыла з вёскі. Я шуснуў з сянніцы, паўзком выбраўся на вуліцу і, як цень, на пэўнай адлегласці краўся ўслед. Калона ўзяла кірунак туды, дзе размяшчаўся наш першы батальён. Я не ведаў, што буду рабіць далей, але то хаваючыся ў кустах, то прыпадаючы да зямлі, недаступна прабіраўся за калонай.

Займалася світанне. Ужо да партызанскай стаянкі заставалася не больш трох кіламетраў. Калона падзялілася на дзве групы: адна направа, другая налева паабапал дарогі. Неўзабаве па абодва бакі пагорка немцы і паліцаі спыніліся, пачалі акопвацца...

Я выпаўз на пагорак. Што рабіць? Як папярэдзіць сваіх? Адпаўзці адсюль цяжка. Я апынуўся амаль у цэнтры засады. У паўзмроку я заўважыў на ўзлобку густы куст ядлоўцу. Паўзу да яго. І трапляю ў ямку, відаць, нехта ў ёй закопваў калісьці бульбу. Стаю ў яме і, як на далоні, бачу: немцы акопваюцца. Стала страшна. Аж мурашкі пабеглі па спіне.

«Спакойна, хлопча, спакойна,— шапчу я сам сабе.— Не бойся. Ты ж камсамолец!..»

І адразу прыгадаліся тыя шчаслівыя дні. У канцы студзеня 1941 года мне споўнілася пятнаццаць. Як я чакаў гэтага дня! 2-га лютага адбыўся сход у нашым рамесным вучылішчы металістаў, дзе мяне прымалі ў камсамол. Дзяўчаты нашае групы нават пацалавалі мяне. А потым сакратар Чыгуначнага райкома камсамола г. Віцебска ўручыў мне камсамольскі білет.

— Клянуся, што апраўдаю давер'е Ленінскага камсамола!— адказаў я на віншаванне сакратара райкома.

...Ад гэтых малюнкаў-успамінаў стала неяк цёпла на душы. У мяне міжволі вырвалася:

— Не! Камсамолу ніколі не будзе сорамна за мяне!..

Сказаў і азірнуўся. Немцы і паліцаі заняты сваёй справай. Я падняўся крыху вышэй, глянуў на дарогу. У наш бок рухаецца калона партызан. Наперадзе, на белым кані — камандзір батальёна Пятро Міхайлавіч Анціпаў. Вось ён прышпорыў каня, імчыць сюды. Немцы заўважылі партызан, прыціснуліся да зямлі. Я на чым свет лаю камбата, шэптам прашу апамятацца. Зараз жа яны трапяць у пекла. Камбат, відаць, спяшаецца, каб з пагорка агледзець мясцовасць.

Камбат набліжаецца хутка. Ужо каля пяцісот метраў засталося да засады. Далей марудзіць нельга. Выхопліваю пісталет і даю стрэл угару. Гэта і з'явілася сігналам да бою. Немцы адкрылі ўраганны агонь. Але цэль далёка. Белы конь стаў на дыбкі, павярнуўся і памчаў назад...

Немцы пралічыліся. Аказваецца, недалёка ад пагорка адзін партызанскі атрад першага батальёна раней за фашыстаў заняў абарону. Другі, які вёў Пётр Анціпаў, павінен быў залегчы тут, на месцы засады. Фашысты ўцягнуліся ў перастрэлку і не заўважылі, што збоку падаспеў другі атрад. У беспарадку фашысты адступілі, пакінуўшы раненых і забітых. А партызаны яшчэ кіламетры тры гналіся за імі.

Я прыйшоў у брыгаду і ўсё расказаў «Дзядзьку Аляксею».

...Дарагі мой сябар! Памятай: усё тое добрае, што робіш ад душы, з натхненнем, не прападзе, абавязкова дасць плён. Зярняты твае дабраты абавязкова прарастуць і дадуць буйныя ўсходы. Толькі ніколі не забывай: каб запаліць іншых, трэба самому гарэць.

Вось гэтымі думкамі мне і хацелася падзяліцца з табою, мой юны сябар! Жадаю табе поспехаў у тваёй нялёгкай, але пачэснай працы.

■■■





● Валянціна ТРЫГУБОВІЧ

● Фота Уладзіміра Мяжэвіча

# СЛОНІМСКІ СЕРВІС

У пакоі гасцініцы на стале ляжала традыцыйная інструкцыя-даведка. Агульнапрынятыя пажаданні, нумары мясцовых тэлефонаў. Увагу прыцягнула тое, што дзяжурная можа прыняць вашу бялізну для мыцця, здаць вашы рэчы ў хімчыстку ці ў рамонт. Заказ выконваецца на працягу 24 гадзін.

Вячэрала я ў кафэ «Шчара», на першым паверсе гасцініцы. За столікам сядзелі шафёры-міжгароднікі.

— Ну, сёння можна адпачываць спакойна, машыну я пакінуў на рынку, там у іх платная стаянка, вартаўнік ёсць,— гаварыў адзін.

— Каб так было ўсюды,— заўважыў другі.

На спектаклі ў Слонімскім народным тэатры я зацікавілася касцюмамі артыстаў. Яны былі зусім не «самадзейныя» і не з чужога пляча. Відаць, пашытыя на заказ. Маю думку пацвердзіў рэжысёр. «Вядома, касцюмы свае. Эскізы мы малюем самі, а шыюць у мясцовым быткамбінаце. У іх добры мастак-мадэльер Людміла Франкоўская дапамагае падабраць тканіну, ёсць вопытныя майстры»...

Так, трапіўшы ў гасцінны горад над Шчарай, я сутыкнулася з мясцовай службай быту. Прабыўшы ж тут некалькі дзён, пераканалася, што служба быту ў Слоніме не хаваецца за шырокімі вокнамі-акварыумамі, а гасцінна расчыняе дзверы перад кліентамі і ўсё часцей сама ідзе ім насустрач.

Расказваючы пра тэмпы росту бытавых паслуг насельніцтву Слонімшчыны, сакратар партыйнай арганізацыі камбіната бытавога абслугоўвання Рэгіна Іванаўна Гусак прывяла такія лічбы. У 1960 годзе, калі толькі стварыўся КБА, у яго ўваходзілі чатыры майстэрні па шыццю і рамонту адзення і абутку, фатаграфія і цырульня ў раённым цэнтры і дзве сельскія майстэрні—у пасёлках Жыровічы і Альбярцін. Гадавы аб'ём рэалізацыі бытавых паслуг склаў на камбінаце 158 тысяч рублёў.

Цяпер у Слонімскім раёне з яго 70-тысячным насельніцтвам у сістэме быткамбіната працуюць 18 швейных атэлье і майстэрняў, 12—па рамонту абутку, цэх трыкатажных вырабаў, шэсць цырульняў, майстэрня па рамонту мэблі, бюро бытавых паслуг з пунктамі пракату і г. д. У вёсках Дзераўная, Жыровічы, Мяжэвічы, Навадзевяткавічы, Азярніца адкрыты дамы быту, створаны 24 комплексныя прыёмныя пункты, 4—перасоўныя.

420 відаў паслуг аказвае Слонімскі КБА. (Варта зазначыць, што ў спісе паслуг усесаюзнага міністэрства бытавога абслугоўвання насельніцтва іх налічваецца крыху больш за пяцьсот). Тут і самы разнастайны рамонт адзення, абутку, мыццё бялізны, шкленне вокнаў, распілоўка дроў, уручэнне падарункаў, выкананне машынапісных работ. І такія складаныя паслугі, як будаўніцтва дома, выраб новай мэблі, рамонт тэлевізараў, пральных машын і іншай бытавой тэхнікі.

У цырульні, напрыклад, выконваюць больш за 20 відаў работ. Вось у крэсла да Валянціны Кручковай садзіцца жанчына. Майстар уважліва выслухала яе пажаданні, і зашчоўкалі нажніцы, замільгаў грабянец... Затым прамытыя валасы накручваюцца на бігудзі, і, пакуль жанчына сушыць іх у суседнім пакоі, я падыходжу да Валянціны.

— Работы сёння ў вас няшмат...

— Так,—адразу ўключаецца яна ў размову,—хутка змена канчаецца, а ў мяне яшчэ амаль пусты лісток. Па буднях днях зімой так амаль заўсёды. Затое ў выхадныя—чарга. А вясной і летам можна б і ў тры змены працаваць—кліентаў хапае.

— Сезоннасць у нас вельмі адчуваецца,—падтрымлівае размову Таццяна Чараднічэнка.—А гэтага не павінна быць...

Дзяўчаты час ад часу перапыняюць размову, бо заходзіць чарговая кліентка. І тады я назіраю за іх спрытнымі ўмелымі рукамі, бачу, як прыгажэюць жаночыя твары ад правільна падабранай прычоскі, чую словы шчырай падзякі.

У мужчынскай і жаночай залах цырульні каля 60 майстроў. Многія вучыліся ў Слоніме, некаторыя скончылі Мінскае ГПТВ-12. Мастак-мадэльер цырульні—выпускніца Львоўскага спецыялізаванага вучылішча.

Раз на тыдні маладыя майстры выязджаюць у вёскі, дзе няма сваіх цырульняў. Сельскія модніцы могуць рабіць завіўкі, не трацячы часу ні на паездкі, ні на чаргу. А ў Слоніме ў апошні час пачалі запрашаць майстроў на дом напярэдадні сямейных урачыстасцяў.

— Прычоскі рабіць цікавей, чым звычайныя завіўкі або стрыжкі,—расказвала мне Валя Кручкова.—Тут можна праявіць і свой густ, і фантазію. У нас працуе шмат маладых дзяўчат, яны ўважліва сочаць за напрамкамі моды. Старэйшыя перадаюць ім свой вопыт і веды. Да таго ж, развіваецца прафесійны погляд на ўсё. Гартаеш часопіс, глядзіш тэлеперадачу—нейкія ўражанні, дэталі застаюцца ў памяці. Назаўтра раптам заўважаеш, што ўбачанае напярэдадні неяк трансфармуецца ў новай прычосцы.

Таня Чараднічэнка працуе ў цырульні тры гады. Летась яна стала прызёрам абласнога конкурсу, удзельнічала ў паказальных выступленнях на рэспубліканскім і лічыць, што гэта была вялікая школа майстэрства.

— Разумееце,—дзялілася яна сваімі думкамі,—мы заўсёды павінны хоць крышачку ісці наперадзе кліента, прапанаваць яму сёння тое, што ён захоча заўтра. Толькі ў такім выпадку мы зможам станоўча ўплываць на яго густ...

У Слонімскім камбінаце бытавога абслугоўвання мне даводзілася чуць і пра план. Выкананне плана, лічаць тут, заўсёды павінна быць вынікам добрай работы, творчых адносін да яе.



Зімой шмат хто хоча пашыць сабе паліто. Часопісы мод настойліва рэкамендуюць вялікія пушыстыя каўняры. А на вітрыне ў прыёмным пакоі толькі маленькія куніцы і собалі. Многіх заказчыц, асабліва дзяўчат, задаволілі аператыўна выкраеныя са штучнага норкавага футра каўняры самых модных канфігурацый. З таго кавалка, што мела атэлье, можна было б пашыць тры-чатыры паліто. Затое колькі новых заказаў прынесла тое футра ў раскроеным выглядзе!

У фотаатэлье гарачая пара бывае толькі на пачатку лета, калі выпускнікі рыхтуюць дакументы ў тэхнікумы і вышэйшыя навучальныя ўстановы альбо для паступлення на работу. У астатнія дні свяцільнікі тут не перагараюцца. Напружаная работа ідзе толькі ў лабараторыі, дзе апрацоўваюцца плёнкі, адзнятыя напярэдадні ў калгасах, на прадпрыемствах, у школах. Менавіта выязныя фатографы дапамагаюць цэху два гады запар трымаць пераходны чырвоны сцяг быткамбіната. Яны не прапускаюць ніводнай значнай падзеі ў жыцці раёна, прысутнічаюць на юбілеях і сямейных святах. Рыгор Богдан і Анатоль Зазуля былі жаданымі гасцямі амаль на ўсіх рэгістрацыях шлюбаў у раённым і гарадскім ЗАГСах, на многіх вясковых вяселлях. Дарэчы, слонімскія майстры фатаграфіі ўручаюць маладым не пакет здымкаў, як гэта прынята нават у Мінскім палацы шлюбаў, а спецыяльна афармлены альбом.

Маладзёжны калектыў фотаатэлье (з 13 чалавек тут 8 камсамольскага ўзросту) пастаянна шукае новыя формы работы, павышае якасць фотаздымкаў не толькі з тэхнічнага, але і мастацкага боку. Кожны можа замяніць, калі трэба, свайго калегу. Артыкулы ў спецыялізаваных часопісах, фотавыстаўкі становяцца ў калектыве тэмай сур'ёзных гутарак, роздуму. За гэты пастаянны прафесійны пошук, за поспехі ў бытавым абслугоўванні насельніцтва фотаатэлье прысвоена імя 50-годдзя Ленінскага камсамола і ўручана грамата ЦК ЛКСМБ.

Шафёра-прыёмшчыка Антона Шпака добра ведаюць у многіх вёсках. Яго аўтафургон спыняецца ля хаты, адзначанай у квітанцыях дыспетчара, і Антон Арсенавіч перадае гаспадыні яе заказ. Пакуль тая прымярае боты ці новую кофту, да яе заглядвае суседка.

— Мо ў вас сёння ёсць васільковыя ніткі? Я хачу сабе кофтачку заказаць такую, як вы мінулы раз паказвалі.

— Ёсць, чаму ж не...

Прыёмшчык здымае меркі, афармляе заказы. Яму нясуць рэчы ў хімчыстку, афарбоўку, просяць пад'ехаць і забраць матрац у рамонт. Тыя тры працэнты нацэнкі за паслугі на даму становяцца яшчэ больш каштоўнымі ад шчырых падзяк. За ўвесь час сваёй работы Антон Арсенавіч прыгадаў толькі адзін выпадак, калі заказчыца была незадаволена тым, што атрымала: ёй перастаў падабацца каўнер у шарсцяным жакеце, які яна сама ж выбрала пры заказе.

Шафёр-прыёмшчык не абмінае ніводнага хутара, некалькі разоў спыняецца ў кожнай вёсцы. У фургоне паяўляюцца пральныя машыны і іншая бытавая тэхніка, якой патрэбен рамонт, а ў блакноце—адрасы уладальнікаў няспраўных тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў. Па гэтых адрасах прыедуць майстры-рамонтнікі.

Рабочы дзень Антона Арсенавіча, як і трох яго калег, вельмі напружаны. Трэба сустрэцца з заказчыкамі ў чатырох-пяці вёсках. Заехаць яшчэ ў дзве-тры, на комплексныя прыёмныя пункты. А вечарам—падлік выручкі, афармленне дакументаў...

Перасоўныя прыёмныя пункты абслугоўваюць, як правіла, маленькія, далёкія вёскі. У вялікіх паселішчах адкрываюцца дамы быту або комплексныя прыёмныя пункты. У Жыровічах, напрыклад, карыстаецца папулярнасцю пункт пракату. Зімой ён завалены веласіпедамі, палаткамі, спальнымі мяшкамі.

— У нас па суседству тэхнікум механізацыі, і ўсе гэтыя рэчы з надыходам вясны знікаюць у студэнцкіх пакоях,—гаворыць загадчык дома быту Уладзімір Канстанцінавіч Лукашэвіч.—А вось посуд, тэлевізары, хоць колькасць іх і немалая, разбіраюць у любую пару.

У райбыткамбінаце працуе шмат моладзі. Кожны пяты—камсамолец, нядаўні выпускнік сярэдняй школы, прафтэхвучылішча ці тэхнікума. Іх урачыста пасвячаюць у рабочыя, клапоцяцца пра ўмовы іх вучобы, павышэння прафесійных ведаў. Прадпрыемства мае сваіх стыпендыятаў у Віцебскім тэхналагічным інстытуце, у Мінскім тэхналагічным тэхнікуме, у Львоўскім вучылішчы мадэльераўцырульнікаў. Трынаццаць чалавек завочна займаюцца ў тэхнікумах, тры—у інстытутах, дваццаць два наведваюць школу рабочай моладзі.

Па выніках за восьмую пяцігодку Слонімскі камбінат прызнаны адным з лепшых у краіне і першы ў Беларусі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Слонімцы з гордасцю нясуць такое высокае званне і пацвярджаюць яго кожным сваім працоўным днём.



Ніна Лукашэвіч працуе ў цырульні Слонімскага райбыткамбіната.



Чарга за прыгажосцю.

Фатограф Анатоль Зазуля — жаданы госць на слонімскіх вяселлях.





Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР краўчыха Слонімскага атэльье мод Тэрэза Гвоздзікава.

Хімчыстка «Сняжынка».






Майстар дакладнага часу Люда Холкіна.

У шавецкай майстэрні Слонімскага Дома быту.



# РЫХТУЮЧЫСЯ ДА НОВАГА ПРЫЁМУ...

Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга політэхнічны інстытут — буйнейшая вышэйшая навучальная ўстанова ў рэспубліцы і краіне. На адзінаццаці факультэтах дзённага аддзялення, на вячэрнім і завочным факультэтах, а таксама ў філіялах у Гомелі і ў Жодзіне рыхтуюцца інжынеры па 33 спецыяльнасцях.

У інстытуце работа па прыёме новага папаўнення вядзецца на працягу ўсяго года. Пасля заканчэння ўступных экзаменаў пачынаецца прыём на падрыхтоўчыя курсы, якія працуюць па вячэрняй і завочнай сістэме навучання.

Так, напрыклад, у 1972 годзе пры інстытуце, а таксама на прамысловых прадпрыемствах і будоўлях, дзе мы арганізоўвалі курсы, займалася звыш дзвюх тысяч чалавек. Гэтыя курсанты, як правіла, даволі паспяхова здаюць уступныя экзамены.

Рыхтуючыся да прыёму 1972 года, рэктарат інстытута загадзя зацвердзіў склад прыёмнай камісіі. Выкладчыкі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый на працягу зімы і вясны пабывалі ў школах Мінска, на многіх прадпрыемствах і будоўлях рэспублікі, дзе расказвалі пра спецыяльнасці інжынераў, якіх рыхтуе інстытут, знаёмілі моладзь з гісторыяй і традыцыямі інстытута, са спецыфікай і асаблівасцямі навучання. Ва ўсе раёны рэспублікі выязджалі нашы выкладчыкі і навуковыя работнікі, дзе сустракаліся з выпускнікамі сельскіх школ.

У чэрвені месяцы пры інстытуце адкрыліся бясплатныя кароткатэрміновыя курсы. На іх займалася больш як дзвесце абітурыентаў — іх рэкамендавалі райкомы партыі і раённыя аддзелы народнай асветы.

У той жа час у інстытуце па ўсіх прадметах, па якіх трэба было здаваць вусныя ці пісьмовыя ўступныя экзамены, праводзіліся кансультацыі. Упершыню даваў кансультацыі абітурыентам электронны кансультант па змесце і методыцы пісьмовага і вуснага экзамену па фізіцы.

У перыяд прыёму заяў дзейнічаў стол даведак, працавала грамадская прыёмная камісія. Абітурыенты мелі магчымасць пракансультавацца адносна выбранай спецыяльнасці, атрымаць адказ на хвалюючыя іх пытанні.

Для тых, хто збіраецца паступаць у наш інстытут, будзе цікава даведацца, як прайшлі ўступныя экзамены ў 1972 годзе, каб мець для сябе ўрок на будучае.

На дзённае аддзяленне было пададзена 6700 заяў. 639 абітурыентаў мелі стаж практычнай работы больш за два гады, 137 скончылі сярэднюю школу з медалём ці тэхнікум з адзнакай, 552 — узнагароджаныя пахвальнай граматай.

У сярэднім конкурс па інстытуце — 2,6 чалавека на адно месца.

Найбольшы конкурс быў па спецыяльнасці «архітэктура» — 3,4 чалавека на месца. Па спецыяльнасці «эканоміка і арганізацыя машынабудаўнічай прамысловасці» — 3,3; «эканоміка і арганізацыя будаўніцтва» — 3,3; «прамысловае і грамадскае будаўніцтва» — 3,1; «электрапрывад і аўтаматызацыя прамысловых установак» — 3,0; «хімічная тэхналогія шкла і сіталаў» — 3,0.

Самы малы конкурс (2,0—2,4 чалавека на месца) быў на спецыяльнасці тарфянога, механіка-тэхналагічнага і інжынерна-тэхналагічнага факультэтаў.

Як вядома, у 1972 годзе агульная колькасць балаў складалася з усіх адзнак, якія абітурыенты атрымоўвалі на ўступных экзаменах, і сярэдняй арыфметычнай ацэнкі — з дакумента аб сярэдняй адукацыі. Такім чынам, максімальная сума балаў для ўсіх спецыяльнасцяў інстытута складала 25 (для спецыяльнасці «архітэктура» — 30).

Прахадны бал, у залежнасці ад спецыяльнасці, быў ад 22,5 да 18,5 (для спецыяльнасці «архітэктура» — 26,5).

Прахадны бал на спецыяльнасць быў прыкладна прапарцыянальны колькасці заяў, якія падаваліся на адно месца.

Якія думкі напрошваюцца пасля экзаменаў? Трэба зазначыць, што абітурыенты — выпускнікі школ і тэхнікумаў — у асноўным маюць дастаткова добрыя веды. Добрыя веды паказалі выпускнікі падрыхтоўчых курсаў.

Напрыклад, пісьмовы экзамен па фізіцы больш як 60 працэнтаў паступаючых здалі на «чатыры» і «пяць».

Па матэматыцы, у параўнанні з мінулымі гадамі, абітурыенты лепш ведаюць тэорыю межаў, пабудову графікаў функцый, уласцівасці функцый (паказальнай, лагарыфмічнай, трыганаметрычнай), вызначэнне вобласці існавання функцыі, знаходжанне ВДЗ (вобласць дапушчальных значэнняў) ураўненняў і няроўнасцяў, рашэнне прасцейшых трыганаметрычных ураўненняў, рашэнне сістэмы лінейных ураўненняў.

Аднак хацелася б спыніцца на прабелах, якія былі выяўлены на ўступных экзаменах і на якія неабходна звярнуць увагу тым, хто будзе нашым чарговым абітурыентам.

Многія з паступаючых яшчэ недастаткова ведаюць такія раздзелы матэматыкі, як даследаванне сістэмы лінейных ураўненняў, даследаванне квадратных ураўненняў, комплексныя лініі, некаторыя пытанні трыганаметрыі. Многія збіваюцца пры рашэнні задач па геаметрыі трыганаметрычным метадам і тлумачаць гэта тым, што ў школе такіх задач рашалася вельмі мала. Відаць, у школах, асабліва ў сельскіх, гэтаму важнаму раздзелу не надаецца належнай увагі.



Некаторыя абітурыенты маюць слабае прасторавае ўяўленне (губляюцца пры знаходжанні вуглоў паміж прамымі ў прасторы, паміж плоскасцямі і паміж прамой і плоскасцю). У школах не звяртаецца патрэбнай увагі развіццю лагічнага мыслення. Пры рашэнні няроўнасцяў і ўраўненняў выпускнікі не заўсёды ўлічваюць ВДЗ (вобласць дапушчальных значэнняў), не выкарыстоўваюць уласцівасці лагарыфмічнай і паказальнай функцый.

Экзаменацыйная камісія па фізіцы адзначыла шэраг пытанняў, палажэнняў і законаў фізікі, пры выкладанні і прымяненні якіх абітурыенты дапускалі найбольш памылак. Пры рашэнні дынамічных задач выявілася няўменне правільна выяўляць сілы, якія прыкладзены да цела. Многія недастаткова добра разумеюць фізічны змест такіх паняццяў, як колькасць руху, энергія; слаба ведаюць законы захавання колькасці руху і энергіі, а пры рашэнні дынамічных задач не выкарыстоўваюць гэтых законаў.

Найбольшыя цяжкасці ў адказах і пры рашэнні задач у абітурыентаў выклікала пытанне, звязанае з разлікам сіл, якія дзейнічаюць на цела пры вярчальным руху.

Некаторыя з паступаючых недастаткова яскрава ўяўляюць сабе гарманічныя ваганні, неглыбока разумеюць сутнасць хвалевага працэсу, не адрозніваюць падоўжаныя і папярэчныя хвалі, умовы іх распаўсюджвання.

Выклікалі цяжкасці і асноўныя палажэнні малекулярна-кінетычнай энергіі, рух малекул газаў, вадкасцяў і цвёрдых цел, асаблівасці цеплавога расшырэння вады.

Пры рашэнні задач на законы пастаяннага току выяўляецца фармальнае веданне закона Ома, няўменне правільна ўлічваць уплыў унутранага супраціўлення крыніцы, змены асобных супраціўленняў ланцуга на агульны рэжым работы ланцуга.

Аб'ём ведаў выпускнікоў па атамнай фізіцы абмежаваны.

Экзаменацыйная камісія па хіміі адзначае такія недахопы. Абітурыенты часта робяць памылкі па валентнасці, складанні ўраўненняў хімічных рэакцый, хімічнай наменклатуры, па структурных формулах, асноўных хімічных законах; не маюць уяўлення аб вугляроднай адзінцы і ступені акіслення.

Спадзяёмся, што абітурыент-73 лепш падрыхтуецца і больш паспяхова здасць уступныя экзамены ў наш інстытут.

**Леў ЛЯХОВІЧ,**
**прарэктар БПІ па вучэбнай рабоце,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## МАТЭМАТЫКА

У 1972 годзе на пісьмовым экзамене для абітурыентаў, якія паступалі на механічныя спецыяльнасці БПІ, прапаноўваліся заданні з адной задачы і трох прыкладаў.

Падаём прыклад аднаго з такіх заданняў.

1. У правільнай чатырохвугольнай пірамідзе адлегласць ад сярэдзіны вышыні пірaміды да бакавой грані роўна $a$. Знайсці поўную паверхню ўпісанага ў піраміду конуса, утвараючая якога нахілена да плоскасці асновы пад вуглом $\alpha$.

2. Рашыць ураўненне:

$$\log_5 x + \log_{\sqrt{5}} x + \log_{\frac{1}{25}} x = 5;$$

3. Рашыць няроўнасць:

$$\sqrt{x^2 - 4x} > x - 3;$$

4. Рашыць ураўненне:

$$\operatorname{tg}\frac{3}{5}x \cdot \operatorname{ctg}\frac{5}{3}x = 1 - \sec\frac{3}{5}x \cdot \operatorname{cosec}\frac{5}{3}x.$$

**Рашэнні.**

1. Дадзена $MN = a$, $\angle OES = \alpha$. Знайсці поўную паверхню конуса.

Поўная паверхня конуса

$$S = \pi r^2 + \pi r l = \pi r (r + l), \qquad (1)$$

дзе $r$ — радыус асновы, а $l$ — утвараючая конуса. Знойдзем $r$ і $l$. Разгледзім $\triangle MSN$,

у якім $\angle SNM = 90^\circ$, $\angle SMN = \alpha$ і гіпатэнуза $MS = \frac{H}{2}$, дзе $H = OS$ — вышыня піраміды.

З гэтага трохвугольніка знаходзім:

$$\frac{H}{2} = \frac{a}{\cos\alpha},$$

ці

$$H = \frac{2a}{\cos\alpha}$$

і

$$l = \frac{H}{\sin\alpha},$$

г. зн.

$$l = \frac{2a}{\sin\alpha \cdot \cos\alpha}.$$




З прамавугольнага $\triangle OSE$ маем:

$$r = l\cos\alpha,$$

ці

$$r = \frac{2a}{\sin\alpha}.$$

Падстаўляючы знойдзеныя значэнні $r$ і $l$ у (1), атрымаем

$$S = \frac{4a^2\pi}{\sin^2\alpha}(1 + \cos\alpha).$$

Прывядзём атрыманы вынік да выгляду, які зручны для лагарыфмавання. Для гэтага скарыстаем суадносіну

$$1 + \cos\alpha = 2\cos^2\frac{\alpha}{2}.$$

Канчаткова будзем мець для поўнай паверхні конуса:

$$S = \frac{2\pi a^2}{\sin\frac{\alpha}{2}\cdot\cos\alpha}.$$

2. Ураўненне

$$\log_5 x + \log_{\sqrt{5}} x + \log_{\frac{1}{25}} x = 5$$

пераўтворым, карыстаючыся вядомымі ўласцівасцямі лагарыфмаў:

$$\log_a x = \log_{a^n} x^n$$

і

$$\log_a a^n = n.$$

Атрымаем

$$\log_5 x + \log_5 x^2 + \log_5 x^{-\frac{1}{2}} = \log_5 5^5,$$

ці

$$x \cdot x^2 \cdot x^{-\frac{1}{2}} = 5^5,$$

адкуль

$$x^{\frac{5}{2}} = 5^5,$$

ці

$$x = 25.$$

3. У вобласць дапушчальных значэнняў няроўнасці

$$\sqrt{x^2 - 4x} > x - 3 \qquad (1)$$

уваходзяць $x$, што задавальняюць умову $x^2 - 4x \geqslant 0$.





Рашаючы апошнюю няроўнасць, атрымаем

$$x \leqslant 0 \text{ і } x \geqslant 4.$$

Пры рашэнні дадзенай няроўнасці (1) трэба разгледзець два выпадкі:

1. $x \geqslant 3$. Так як пры гэтай умове абедзве часткі дадзенай няроўнасці неадмоўныя, то гэтую няроўнасць можна ўзвесці ў квадрат. Мы атрымаем:

$$x^2 - 4x = (x - 3)^2,$$

ці

$$2x - 9 > 0,$$

г. зн.

$$x > \frac{9}{2} = 4{,}5.$$

Значыць, у гэтым выпадку няроўнасць (1) задавальняецца для ўсіх $x > \frac{9}{2}$. Відавочна, усе гэтыя значэнні ўваходзяць у *ВДЗ* дадзенай няроўнасці.

2) $x < 3$. У гэтым выпадку няроўнасць (1) з'яўляецца справядлівай для ўсіх $x < 3$, так як $\sqrt{x^2 - 4x} \geqslant 0$, а $x - 3 < 0$. Аднак з улікам *ВДЗ* мы атрымаем, што дадзеная няроўнасць выконваецца для ўсіх $x \leqslant 0$.

Канчаткова атрымаем наступны вынік: рашэннямі дадзенай няроўнасці з'яўляюцца ўсе $x > \frac{9}{2}$ і $x \leqslant 0$.

3) Трыганаметрычнае ўраўненне

$$\operatorname{tg}\frac{3}{5}x \cdot \operatorname{ctg}\frac{5}{3}x = 1 - \sec\frac{3}{5}x \cdot \operatorname{cosec}\frac{5}{3}x$$

пераўтворым так, каб у яго ўваходзілі толькі функцыі сінус і косінус. Атрымаем:

$$\frac{\sin\frac{3}{5}x \cdot \cos\frac{5}{3}x}{\cos\frac{3}{5}x \cdot \sin\frac{5}{3}x} = 1 - \frac{1}{\cos\frac{3}{5}x \cdot \sin\frac{5}{3}x},$$

ці

$$\sin\frac{3}{5}x \cdot \cos\frac{5}{3}x = \cos\frac{3}{5}x \cdot \sin\frac{5}{3}x - 1.$$

Пры гэтым мы ўлічваем, што значэнні $x$, для якіх $\cos\frac{3}{5}x \cdot \sin\frac{5}{3}x = 0$, не ўваходзяць у *ВДЗ* дадзенага ўраўнення.

Далей мы можам запісаць ураўненне ў выглядзе:

$$\sin\frac{5}{3}x \cdot \cos\frac{3}{5}x - \sin\frac{3}{5}x \cdot \cos\frac{5}{3}x = 1,$$

ці

$$\sin\left(\frac{5}{3}x - \frac{3}{5}x\right) = 1.$$

Значыць, дадзенае ўраўненне раўнасільна ўраўненню

$$\sin\frac{16}{15}x = 1.$$

Рашаючы гэтае ўраўненне, атрымаем

$$\frac{16}{15}x = \frac{\pi}{2} + 2k\pi, \ (k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots),$$

г. зн.

$$x = \frac{15}{32}\pi + \frac{15}{8}k\pi \ (k = 0, \pm 1, \pm 2, \ldots)$$

**Наталля ПАПОВА,**
**загадчыца кафедры вышэйшай матэматыкі БПІ, кандыдат фізіка-матэматычных навук.**



З ВЫСТАЎКІ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ 50-ГОДДЗЮ УТВАРЭННЯ САЮЗА ССР.

М. ЗВЯРКО.
Кашпо. (Кераміка).

В. ГАЎРЫЛЮК.
Мая вёска. (Саломка).

Н. ГРАНЬКО.
Дружба народаў. (Вышыўка).









САМАДЗЕЙНЫ АНСАМБЛЬ «МАЛАДОСЦЬ» З ВІЦЕБСКА — ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ.

Фота В. Ждановіча.





І. АСТРАМОВІЧ. Юнацтва. (Разьба па дрэве).

А. ПРАКАЛУШЧАНКА. Францыск Скарына. (Чаканка).




З ВЫСТАЎКІ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ 50-ГОДДЗЮ ЎТВАРЭННЯ САЮЗА ССР.

І. АСТРАМОВІЧ. Летапісец. (Разьба па дрэве).



І. МАЛЧАНОВІЧ. Зубр. (Кераміка).



В. КОТАЎ. Гусляр. (Разьба па дрэве).



Бабруйскае МДПТВ-15. Танец. (Інтарсія).






## 1973

### КРАСАВІК

**2**

25 гадоў з дня адкрыцця (1948) II Усебеларускага з'езда мастакоў.

**5**

80 гадоў з дня нараджэння (1893) Ц. М. Годнева, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**10**

35 гадоў з дня выхаду (1938) першага нумара газеты «Знамя юности» (да 1956 года «Сталинская молодежь»), органа ЦК ЛКСМБ.

**11**

80 гадоў з дня нараджэння І. А. Гітгарца (1893—1966), дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**17—25**

50 гадоў назад (1923) праходзіў XII з'езд РКП(б).

**18**

70 гадоў з дня нараджэння П. Р. Галавача (1903—1937), беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча.

**19**

80 гадоў з дня нараджэння (1893) В. С. Гарбацэвіча, беларускага драматурга і педагога, заслужанага настаўніка БССР.

**21**

70 гадоў з дня нараджэння М. М. Аляхновіча (1903—1959), беларускага крытыка.

**22**

**1870 год. Нарадзіўся У. І. Ленін. Дзень памяці У. І. Леніна.**

**22—28**

45 гадоў назад (1928) праходзіў IX з'езд ЛКСМБ.

**23**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Р. Л. Рэлеса, яўрэйскага пісьменніка.

**28**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Б. І. Сцяпанава, вучонага-фізіка, акадэміка Акадэміі навук БССР.



Ц. М. Годнеў.



П. Р. Галавач.



Р. Л. Рэлес.

Б. І. Сцяпанаў.







# Дзмітры СМОЛЬСКІ: «МУЗЫКА ПАЧЫНАЕЦЦА З ДУМКІ...»

— Многія пытаюцца ў мяне: «Чаму ты перастаў пісаць песні?» Ну, зусім не перастаў, але адна-дзве песні ў год—гэта, вядома, не тое, што раней. Але калі сказаць праўду, у апошні час крыху астыў да песні...

Гэтае прызнанне даволі нечакана гучыць у вуснах аўтара такіх папулярных песень, як «Абеліскі», «Наш век», «Быць чалавекам я рады», «У кожнага ёсць свая песня», «Няхай хлопцы памятаюць», «Вы куды, жураўлі?..» Можна зразумець чалавека, калі ён кідае справу, якая ў яго не ладзіцца. А тут...

— Шчыра кажучы, песні мне даюцца параўнаўча лёгка, але сапраўднага, глыбокага задавальнення не прыносяць. Можа, тут уся справа ў форме... Нездарма ж лічыцца, што форма павінна адпавядаць зместу. Малая форма і вялікі змест—як звязаць адно з другім? А мяне ўсё больш вабіць музыка вялікіх думак...

Наша гутарка нечакана перапыняецца прыходам маладога саліста опернага тэатра, таксама лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Валерыя Кучынскага. Мой субяседнік, папрасіўшы прабачэння, садзіцца за фартэпіяна. Гучаць энергічныя акорды новай песні. Слухаючы яе, усміхаюся: значыцца, Смольскі не такі ўжо катэгарычны... Што ж, гэта пойдзе на карысць песеннаму жанру.

Праз пяць мінут мы зноў удвух ва ўтульным пакоі Саюза кампазітараў. Дзеля таго, каб пачаць з Дзмітрыем Смольскім гэтую размову пра музыку, мне прыйшлося адарваць яго ад шахматнай партыі з маладым кампазітарам Андрэем Мдзівані. Відаць, невыпадкова ў шахматах і музыцы (і ў жывапісе і ў літаратуры) столькі аднолькавых тэрмінаў: кампазіцыя, кульмінацыя, эцюд...

Зрэшты, я ўспомніў пра шахматы зусім не дзеля таго, каб даказаць рознабаковасць таленту Дзмітрыя Смольскага: калі ўжо дзе шукаць рознабаковасць кампазітара, дык, ва ўсякім разе, не за межамі музыкі. Творчае амплуа Дзмітрыя Смольскага на дзіва разнастайнае: сімфоніі, інструментальныя канцэрты, араторыі, вакальна-сімфанічныя цыклы, песні, музыка для кіно; цяпер кампазітар працуе над балетам і выношвае задуму оперы... Адным словам, у творчай лабараторыі Дзмітрыя Смольскага знайшлося месца для самых розных музычных жанраў. Але ўсе гэтыя рознапланавыя, рознахарактарныя творы зітаваны адным лейтматывам—тэмай патрыятызму, грамадзянскасці, гуманізму. Музыказнаўцы, знаёмыя з ра-

ботамі Дзмітрыя Смольскага, выказваюць аднадушную думку, што гэтая тэма—галоўная ў творчасці кампазітара. Не выпадкова твор, у якім яна выказана найбольш поўна і яскрава, атрымаў прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. Гаворка ідзе пра араторыю «Мая Радзіма».

— Мне хацелася ўвасобіць у музыцы тэму Радзімы без напышлівых фраз, без дзяжурных вобразаў,—гаворыць кампазітар.—Я разумеў, што добра было б знайсці адпаведную літаратурную аснову, прычым гэта павінны быць не проста так званыя «правільныя» вершы, а паэтычны роздум—глыбокі, надзённы, праблематычны. Я знайшоў яго ў вершах Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Сяргея Грахоўскага, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага і іншых беларускіх паэтаў. Так узніклі тэмы роднай прыроды, роднай мовы, бацькоў і дзяцей, пераемнасці пакаленняў, дарагіх народу звычаяў і традыцый... Пабудаваць музычную драматургію аказалася не так проста, як здавалася спачатку. Але выказаць галоўную ідэю, на мой погляд, удалося. Я мяркую аб гэтым вось чаму. Часта ў аўтара з'яўляецца жаданне перарабіць твор праз некаторы час пасля таго, як ён напісаны. На гэты раз мне нічога не хацелася перарабляць. Відаць, атрымалася...

— Напэўна, былі і іншыя ўдачы? Або, пэўна, няўдачы?

— Ну, пра гэта няхай лепш скажуць іншыя. Бо пра тое, што мне здаецца ўдачай, у некага можа быць іншая думка. І наадварот.

— Добра, не будзем паглыбляцца ў ацэнкі. Абмяжуемся толькі назвамі.

— Гэта прасцей. З чаго пачаць? Відаць, з фартэпіяннага канцэрта, напісанага ў кансерваторыі. Праўда, яшчэ ў музычнай школе я напісаў канцэрт для фартэпіяна, але цяжка, асабліва цяпер, лічыць яго сур'ёзнай работай. Больш сур'ёзна можна гаварыць пра сімфоніі—іх у мяне дзве; другую крытыкі называюць наватарскай і нават гавораць пра нейкія «матэматычныя разлікі» ў яе музычнай будове. Не ведаю, можа ў гэтым меркаванні нешта і ёсць—я сапраўды нераўнадушны да пошукаў новых форм і сродкаў выяўлення. Ёсць яшчэ «Песні Хірасімы»—араторыя для двух галасоў з двума фартэпіяна, на вершы японскіх паэтаў. Можна назваць некалькі вакальна-сімфанічных твораў: «Кантата пра Леніна», «Два аблічны зямлі», «Бабін век», «Галасы світання», вакальны цыкл «Дзявочыя лірычныя». Яшчэ? Канцэрт для цымбалаў з аркестрам, песні, музыка да кінафільмаў...

— Усё гэта, відаць, ужо знаёма слухачам. А тое, што яшчэ не знаёма?

— Зусім нядаўна закончана работа над канцэртам для віяланчэлі з аркестрам. Я напісаў яго для свайго калегі, маладога выкладчыка Беларускай кансерваторыі Яўгена Ксавер'ева,—вучня Мсціслава Растраповіча. Увогуле, трэба сказаць, творы для віяланчэлі пісаць цяжка,—магчыма, гэтым і тлумачыцца іх яўны дэфіцыт. У новым канцэрце я паспрабаваў вырашыць некаторыя цікавыя для мяне як кампазітара задачы: дасягнуць лаканізму выразных сродкаў, знайсці монатэматызм развіцця музычнай тэмы, калі ўсё будуецца з адзінага зерня, на аснове адзінага комплексу...

— Кажуць, вы пішаце оперу і балет?

— Пра гэта гаварыць пакуль што рана. Работа над операй знаходзіцца яшчэ ў стадыі задумы; праўда, усяляе надзею цікавае лібрэта—яго напісаў па матывах сваёй паэмы «Сівая легенда» Уладзімір Караткевіч. Што датычыць балета, дык тут ужо сёе-тое зроблена. Ідэю напісаць балет па матывах рамантычных навел Горкага мне падказаў малады харэограф нашага тэатра Віталь Бутрымовіч. Проста дзіўна, як такі цудоўны матэрыял, які ляжаў, што называецца, на паверхні, дагэтуль не прыцягнуў увагу кампазітараў! Умоўная назва будучага балета—«Сэрца Данка»; акрамя галоўнага героя, ёсць яго антыпод—Лара. Павінны быць і жаночыя вобразы. Наогул—багата рамантыкі, адсюль і музычны лад будучага твора. Але... Ёсць адно «але». Я пачаў працаваць над балетам у Доме творчасці Саюза кампазітараў у Рузе, пад Масквой. І вось у адзін з выхадных дзён мне ўдалося паглядзець у Вялікім тэатры «Анну Карэніну». Геніяльная музыка Радзівона Шчадрына проста ўзрушыла мяне. Я не памятаю нічога, што пакінула б такое ўражанне. Прызнаюся, пасля гэтага на мяне напала нейкая базлівасць: усё, што пішу, здаецца слабым, нецікавым...

(Думаю, што мой субяседнік тут крыху перабольшвае, хоць падзяляю яго думку пра балет «Анна Карэніна». Але ж і Смольскі не такі ўжо навічок. Некалькі гадоў назад мне давялося пабываць на Усесаюзным аглядзе новых харэаграфічных нумароў у Маскве; дагэтуль памятаю апладысменты пасля выступлення беларускага танцоўшчыка Мікалая Красоўскага, які стаў дыпламантам агляду. Ён выконваў «Патрыятычны эцюд» на музыку Дзмітрыя Смольскага).

Размова заходзіць пра настаўнікаў кампазітара. Імёны іх вядомыя — Юры Шапорын, у якога Смольскі пачынаў вучыцца ў Маскве, Анатоль Багатыроў, які потым стаў педагогам пачынаючага кампазітара ў Мінску, выкладчыкі Маскоўскай кансерваторыі М. І. Пяйко і Ю. А. Фартунатаў, у якіх Дзмітры Смольскі вучыўся ў аспірантуры.

Цяпер ён сам выкладае ў кансерваторыі, якую скончыў дванаццаць гадоў назад. Відаць, і сярод яго вучняў ужо ёсць кампазітары?

— Ёсць,—пацвярджае Смольскі.—Гэта леташнія выпускнікі Людміла Шлег і Міхаіл Васючкоў. Люда напісала вельмі цікавую дзіцячую оперу «Тараканішча», якая ўжо запісана ў выкананні аркестра Беларускага радыё і тэлебачання, Міхаіл зараз служыць у арміі, ён—аўтар фартэпіяннага канцэрта.

— Дазвольце пастукацца ў вашу творчую лабараторыю. Як пішацца музыка?

— Не абавязкова за фартэпіяна, хоць звычайна ўсе пачынаюць з гэтага. Цяпер я ў асноўным абыходжуся без фартэпіяна—зразумела, гаворка ідзе пра чарнавы варыянт; за інструментам толькі правяраеш напісанае «ў думках».

— А такі запіс не забываецца?

— Я і зараз магу прайграць «у думках» любую з напісаных рэчаў...

— І так усе кампазітары?

— Не ведаю. Кажуць, Стравінскі ў асноўным пісаў за інструментам. А ўвогуле, што тут дзіўнага? Ёсць жа шахматысты, якія валодаюць здольнасцю гуляць «у думках» адначасова некалькі партый; паэты таксама звычайна памятаюць свае вершы. Я лічу, што кампазітар павінен умець думаць, не трымаючыся ўсімі дзесяццю пальцамі за клавіятуру.

— Што вы лічыце галоўным у сваёй творчасці?

— Калі размова ідзе пра жанр, дык гэта—камерна-сімфанічны жанр. А калі гаварыць наогул—галоўным у сваёй творчасці я лічу музыку вялікіх думак. Гэта вельмі цяжка—пісаць такую музыку. Уявіце сабе: сімфонія гучыць пятнаццаць мінут, сама болей—паўгадзіны, а працаваць над ёй трэба месяцы. Оперу і балет часта пішуць гадамі. Ды і не толькі ў часе справа. Трэба, каб твая музыка прымусіла чалавека думаць, хвалявацца, перажываць. Дрэнна, калі чалавек пазяхае на канцэрце. Праўда, тут не заўсёды вінаваты кампазітар—шмат залежыць ад узроўню эстэтычнага і, у прыватнасці, музычнага выхавання...

— Якую ацэнку свайго твора вы лічылі б самай высокай?

— Калі б Шастаковіч сказаў: «Добра!».

**Гутарку вёў**
**Аркадзь КАРЭЛІН.**

Алесь ЯСКЕВІЧ

# НАТХНЕННЕ

## ЭЦЮДЫ ПРА ПСІХАЛОГІЮ ТВОРЧАСЦІ

Мастакам знаёмае такое адчуванне:

вось раптоўна, сярод яснага дня, народзіцца ветрык нейкага дзіўнага настрою, і ў паднябессі вашай фантазіі ўжо замроіліся, захадзілі, ужо шырацца, клубяцца аблачынкі задумы. У душы ўсё чуйна сцішана і засяроджана, як перад першым ударам грому. Воблачка гэтага задуманага чагосьці расце, набухае, вось яно засланіла ўсё, вы ўжо нічога не бачыце і не хочаце бачыць і ведаць, апрача аднаго. Яно—ваша трывога, і ваш боль, і сум, і самая вялікая таямніца да той пары, пакуль у нейкім святлістым азарэнні, нейкім магутным разрадзе памяці не скаланецца да звання ўсё, што так пакутліва выношвалася і непакоіла вашы думкі і... спачатку павольна, а потым шырэй і шырэй не пальецца дажджом вобразаў і слоў...

Такі душэўны стан паэты называюць натхненнем.

Што ж яно такое, гэтае натхненне? Таямнічая сіла, якая невядома адкуль бярэцца і невядома куды знікае? Ці магутны творчы імпульс, які ўзнікае ў душы мастака? Тады якая яго прырода?

Адказу на гэтыя пытанні трэба шукаць у псіхалогіі творчасці мастакоў, якая ў апошні час прыцягвае ўсё большую і большую ўвагу даследчыкаў.

Вывучэнне псіхалогіі творчасці мае сваю асаблівасць. Перад даследчыкам на першы план выступае матэрыял так званай «эмпірычнай псіхалогіі»—сведчанні саміх мастакоў аб сакрэтах свайго рамяства, якія, з пункту погляду верагоднасці, найбольш дакладныя. І мы ў сваёй гаворцы будзем імкнуцца як мага паўней выкарыстоўваць гэтыя «паказанні першых сведкаў», як некалі называў І. Франко аўтарскія саманазіранні.

Аднак, мусіць, уся складанасць у тым, што стадыя, калі пачынае праясняцца план будучага твора,—гэта зусім яшчэ не пачатак.

Увесь папярэдні перыяд творчай перадгісторыі твора прынята называць збіраннем і вывучэннем матэрыялу. Гэтая з першага бытавога кола мыслення запазычаная формула засланяе ад нас штосьці значна больш глыбокае і істотнае.

Лічыцца аксіёмай, што ў аснове мастацкага твора ляжыць матэрыял жыцця. Ён служыць фабулай, падмуркам рэчы. Характарам гэтага матэрыялу ў чымсьці істотным вызначаецца выбар роду і нават жанру, у якіх ён можа ўвасобіцца, «укласціся» з максімальнай выразнасцю. Невыпадкома Бальзак называў жыццёвы выпадак самым вялікім раманістам на свеце.

Томас Ман, адзін з тых пісьменнікаў, якія не таілі сакрэтаў прафесійнага «рамяства», а, наадварот, з ахвотай дапускалі чытача ў сваю мастацкую «лабараторыю», у артыкуле «Більзэ і мы» вельмі ўважліва даследаваў дыялектыку суадносін жыццёвага факта і творчай фантазіі (момант «вынаходніцтва» ў творчасці пісьменніка). Падрабязна прааналізаваўшы творчасць такіх вялікіх майстроў сусветнага мастацтва, як Шэкспір, Вагнер, Шылер, Тургенеў, адштурхоўваючыся ад найбольш блізкага яму—уласнага вопыту,—ён прыходзіў да вываду, што геніі, якія валодаюць усім на свеце, у значнай ступені валодаюць і дарам «вынаходніцтва», творчай фантазіі, але... мала ім карыстаюцца. У іх насуперак усяму прыкметная прыхільнасць да гатовага сюжэта, матэрыялу жыцця, выпадку, газетнай хронікі і г. д. і да т. п.

«Здаецца бясспрэчным,—піша Т. Ман,—што дар вынаходніцтва, нават мастацкага, ні ў якой ступені не можа служыць крытэрыем паэтычнага твора. Больш таго, нам здаецца, што гэты дар мае толькі пабочнае значэнне: буйныя і вялікія пісьменнікі часта адносіліся да яго амаль што з пагардай, ва ўсякім выпадку, яны лёгка без яго абыходзіліся».

Асаблівую сувязь з жыццёвым прататыпам мы назіраем у сучасных беларускіх пісьменнікаў. Чые б творы мы ні ўзялі—І. Мележа ці Я. Брыля, І. Шамякіна ці В. Быкава, А. Кулакоўскага ці Я. Скрыгана,—у аснову іх, згодна аўтарскіх сведчанняў, звычайна пакладзены жыццёвы факт, выпадак, прататыпы людзей, што сустракаліся на шляхах жыцця. Янка Брыль з гэтага выпадку неяк гаварыў: «Нават калі выдумваеш чалавека, дык усё-такі бярэш яго з нейкіх, калі можна так сказаць, састаўных частак, складаеш з некалькіх чалавек. Наогул трэба быць богам, каб узяць ды проста выдумаць чалавека. Без натуршчыка, без мадэлі. Нашаму брату, каб напісаць чалавека, патрэбна натура».

Але якім шляхам прыходзіць матэрыял да пісьменніка? Ці ўсякі матэрыял можа стаць аб'ектам яго натхнення?

У пісьменніцкім ужытку бытуе такі выраз: права аўтара на тую ці іншую жыццёвую тэму. Да гэтае тэмы мастак прыходзіць па найвялікшаму маральнаму поклічу, зжываецца з ёю усёй сваёй унутранай сутнасцю, адчуваючы гадамі неастываючую цікавасць да яе. І надыходзіць той час, калі ў выніку нейкага патаемнага «браджэння» да пары схаваны ў тайніках памяці пісьменніцкі вопыт пачынае выспяваць для творчасці.

Трэба доўга набліжацца да матэрыялу, уваходзіць у яго, перш чым адчуеш, што ён «твой», што ты «засвоіў яго мову і сам можаш гаварыць на ёй».

Невыпадкова існуе правіла: калі адчуваеш, што не меў асаблівай патрэбы пісаць кнігу, лепш яе і не пішы.

Галоўная тэма пісьменніка, як лічыць У. Салаухін, жыве і развіваецца ўнутры яго самога. Куды б ён ні паехаў, ён будзе несці ў сабе сваю ўласную тэму.

І тады выяўляецца, што, апрача жыццёвага матэрыялу, які кладзецца ў аснову любога твора, патрэбна яшчэ фарміруючая сіла, якая выклікае да вобразнага жыцця тыя альбо іншыя факты бясконцага і разнастайнага ў сваіх праявах жыцця, надае ім сэнс, збірае і асвятляе іх адпаведным чынам, «стварае» іх для мастацтва,—патрэбна, гаворачы словамі Л. Талстога, адзінства маральных аўтарскіх адносін «да прадмета». Аналагічных поглядаў прытрымліваўся і Бялінскі, які лічыў, што твор уяўляе сабой не што іншае, як пафас душы яго аўтара.

Маральныя адносіны да матэрыялу, настрой, з якім аўтар успрымае падзеі і факты,—які гэта пераўтваральны, дзейсны фактар, мы і ўявіць сабе не можам! Жыццёвы (фабульны) матэрыял Янкам Брылём для апавядання «Галя» ўзяты самы звычайны, бытавы. Жыццё галоўнай гераіні не ўдалося. Яе муж Хамёнак, здаецца, толькі і жыў дзеля гумна, набітага снапамі. У вайну ён, запусціўшы бараду, хаваўся, калаціўся і за сваё дабро, і за сябе. І ў мірны час не змяніў характару, усё неяк хітраваў, заняўся спекуляцыяй, пакуль не трапіў у турму. Галя з дзецьмі засталася адна на хутары. Сярожа—яе першая і адзіная няспраўджаная надзея і каханне — працуе у калгасе трактарыстам...

Аднак падзеі ў навеле не ўспрымаюцца бязрадасна і беспрасветна. Матэрыял пераадолены мастаком: над усёй падзейнай, бытавой беспрасветнасцю жыцця гучыць радасны гімн каханню. Няхай горыч, няхай пакуты, няхай не суджана, але гэтае вялікае пачуццё свеціць чалавеку праз усё жыццё і робіць яго існаванне значным!..

Метамарфозы, што адбыліся з жыццёвым матэрыялам,—вынік таго, як гэты матэрыял убачаны, якім настроем прасветлены, якія маральныя адносіны да яго склаліся ў пісьменніка.

Міхась Стральцоў у апавяданні «Перад дарогай» расказвае пра невыносна цяжкую пару ваеннага ліхалецця, але настрой твора—прасветлены, таму што пісаўся ён у стане духоўнай засяроджанасці, філасофскага сузірання свету. Вельмі цікавыя чатыры розныя погляды, якімі «бачаць» свет героі апавядання: былы франтавік Сямён Захарэвіч, яго жонка, якая ў вайну з малымі дзецьмі пакутавала ў бежанцах, малады шафёр аўтабазы, які ўяўляе вайну толькі па кніжках, і калгасніца, у якой гасцююць гараджане, збіраюць грыбы, а больш успамінаюць, думаюць пра перажытае.

Трансфармацыя жыццёвага матэрыялу, пакладзенага ў аснову твора, складаная. Пісьменніку ўдалося выказаць не толькі свой погляд на жыццё, не толькі сваё бачанне цяжкіх чалавечых лёсаў, але і паказаць, што ў кожнага з герояў—свая «асветленасць» перажытага, якая адпавядае яго характару, яго адносінам да жыцця.

Пасля вядомых даследаванняў Л. С. Выгоцкага па псіхалогіі творчасці—у прыватнасці, яго бліскучага аналізу навелы І. Буніна «Лёгкае дыханне»—робіцца асабліва відавочным, што ў сапраўдным мастацкім творы жыццёвы матэрыял пераражывае найглыбейшыя пераўтварэнні.

У сваіх аўтабіяграфічных нататках «Трохі згадак і думак» Іван Мележ дае вельмі цікавы матэрыял для разумення такіх пераўтварэнняў, спасылаючыся на гісторыю «Палескай хронікі»: «Аб чым і кім ні стаў бы ўспамінаць, непазбежна ступіш на гарачы, вечна пякучы прысак той вялікай, усеабдымнай навалы. Успомніш пра тую печ, дзе грэўся зімовымі вечарамі, тую хату, дзе сляпіў вочы над букварам, над першымі кніжкамі—ажывае шкадаванне: няма той хаты—згарэла

ў вайне. Успомніш таварышаў, з якімі бегаў басанож, з якімі лазіў па балоце — зноў заные боль страты: няма тых таварышаў... Вайна была!

Цераз завалоку вялікай нягоды-вайны ўспамінаю я сваё нябеднае радасцямі і бядою жыццё...»

Адтуль, з першых уражанняў залатога маленства, цячэ вытока яго прозы, што так зачаравала чытача. Але і не толькі адтуль. У ёй, у гэтай прозе, адчуваецца тоўшча гадоў, у ёй нябачна ходзяць водсветы мінулай вайны. Інакш адкуль жа тады такая вастрыня адчування, асаблівая замілаванасць да чалавека, новая, маладая любоў да зямлі і ўстрывожанасць да сваіх герояў...

У псіхалагічным плане можна нават лічыць, што з самой маральнай сістэмы чалавечага «я» першапачаткова і «ўзнікае» твор. Асабліва настойваюць на такім разуменні першапачатковых вытокаў мастацкага вобраза самі мастакі.

«Паэма, — пісаў Ф. Дастаеўскі, — узнікае як самародны каштоўны камень, алмаз, у душы паэта, зусім гатовы, ва ўсёй сваёй сутнасці, і вось гэта першая справа паэта як ствaральніка і творцы. Душа яго ёсць тая самая крыніца, якая нараджае алмазы і без якой іх нідзе не знайсці».

Карлейль піша аб творах Шэкспіра, што яны вырастаюць бессвядома з невядомых глыбінь яго душы, як вырастае дуб з нетраў зямлі, як утвараюцца горы і воды.

Томас Ман нават пра такі свой твор, як раман-міф «Іосіф і яго браты», што знешне не меў ніякіх пунктаў судакранання з яго жыццёвай біяграфіяй, тым не менш зазначыў:

«Твор, які я пішу, павінен глыбока ўваходзіць карэннямі ў маё жыццё, патаемныя сувязі павінны цягнуцца ад яго да летуценняў самай ранняй пары майго маленства — толькі тады я змагу прызнаць за сабою ўнутранае права на яго, толькі тады я паверу ў тое, што маё жаданне займацца ім мае сваю законную падставу».

Якім упершыню, з першымі азарэннямі маленства паўставаў свет, якімі таямніча-агністымі былі тыя першыя словы, што быццам праз мноства аконцаў адкрывалі нам напоўненую гукамі, колерамі, пахамі, вечна пераменлівую і чароўную навакольную прыроду, якія вятры шумелі, якія навальніцы абпальвалі, якія рэкі працякалі праз наша дзяцінства, якія паляны лячылі, якія настаўнікі, якія вобразы і героі ўладарнічалі над нашымі думамі ў дзяцінстве і юнацтве, урэшце, якія першыя ўрокі давала нам жыццё, — усё гэта бясконца вялікае і неабсяжнае шмат у чым вызначае характар творчай індывідуальнасці, свет своеасаблівага аўтарскага бачання.

К. Паустоўскі лічыць гэты момант вызначальным у фарміраванні таленту.

«У маленстве і юнацтве свет існуе для нас у іншай якасці, чым у сталыя гады, — піша ён у «Залатой ружы». — У дзяцінстве гарачэйшае сонца, гусцейшая трава, шчадрэйшыя дажджы, ярчэйшае неба і надзвычай цікавы кожны чалавек... Паэтычнае ўспрыманне жыцця і ўсяго навакольнага — найвялікшы дар, дадзены нам ад пары дзяцінства. Калі чалавек не растраціць гэты дар на працягу доўгіх цвярозых гадоў, ён паэт ці пісьменнік».

Аднак асноўным матэрыялам, на якім і з якога складваецца творчы і жыццёвы вопыт любой індывідуальнасці і з якога бяруць пачатак так ці інакш усе яго творы, з'яўляецца штодзённае неспакойнае, у чымсьці заўсёды неўладкаванае жыццё мастака з яго грамадзянскімі страсцямі і найбагацейшым унутраным духоўным існаваннем, увесь навакольны свет і век, сумленнем якога суджана быць мастаку.

Гэта вельмі добра даносяць вядомыя кожнаму з нас з маленства Коласавы радкі:

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана жыццё і небыццё, —
Збіраўся скарб...

Кожны створаны паэтам вобраз, незалежна ад таго, на якой дыстанцыі ці ў якім «сваяцтве» з аўтарскай асобай ён знаходзіцца, мы можам лічыць вытворным ад пісьменніцкага «я», бо кожны персанаж сапраўды нясе хоць маленькую, але абавязкова часцінку характару самога творцы і яго часу.

Такая пастаноўка пытання дае значна больш глыбокае і дыферэнцыраванае разуменне складанай праблемы прататыпа, кладзе канец таму спрашчэнству, калі думкі больш-менш блізкіх да аўтарскай асобы герояў атаясамліваюцца са светапоглядам самога пісьменніка. На самай справе герой ніколі не бывае цалкам ідэнтычны аўтару.





«Герой рамана, — піша А. Маруа, — не адбітак усяе асобы аўтара, а толькі нейкі, часта вельмі абмежаваны фрагмент яго «я».

Аднак на той падставе, што ўсе персанажы твора з'яўляюцца вытворнымі ад аўтарскага «я», нельга думаць, што аўтарскі характар абавязкова сумяшчае ў сабе рысы таго мноства вобразаў — ад героя да зламысніка, ад чалавекалюба да злачынцы, — якімі населены творы кожнага вялікага пісьменніка. Тут, відаць, трэба пагадзіцца з меркаваннем французскага крытыка Цібодэ, які лічыць, што па-сапраўднаму таленавіты аўтар стварае сваіх герояў з дапамогаю «бясконцых магчымых напрамкаў свайго жыцця. Творца рамана ажыўляе магчымае, а не ўзнаўляе рэальнае».

Здзіўляе пры гэтым неверaемная яркасць і праніклівасць зроку пісьменніка, вастрыня ўражання, рэдкая памяць на дэталі, проста ўнікальнае ўспрыманне свету ў фарбах, гуках, пахах, рытме. І вось цуд мастацтва — аўтару здаецца, што ён выяўляе толькі сябе ці свае ўражанні, а атрымліваецца нешта «звышасабістае», тыповае, агульнаграмадскае.

Томас Ман неяк у палемічным запале пісаў:

«Мае ўражанні аб жыцці ўплывовых асоб і аб іх прадстаўнічых абавязках будуць больш яркія, больш істотныя, больш каштоўныя для публікі, чым тыя ўражанні, якія вынесе за дваццаць гадоў службы які-небудзь гофмаршал».

Пісьменнік прызнаецца, што як чалавек ён мог быць і станоўчым, добрым, цярплівым, шчодрым, мог валодаць зусім некрытычнай уласцівасцю бачыць любую з'яву ў ружовым святле, але як мастак ён падпарадкоўваўся «творчаму дэману», які прымушаў назіраць і з маланкавай хуткасцю і хваравітай узлаванасцю паглынаць кожную падрабязнасць, характэрную ў мастацкім сэнсе.

Устанаўленне сувязі паміж аўтарскім «я» і героямі яго твораў, вывучэнне складанай, надзвычай апасродкаванай трансфармацыі пісьменніцкага вопыту ці — калі браць шырэй — наогул жыццёвага матэрыялу ў творчасць, у вобразную субстанцыю яго твораў падводзіць нас да самога працэсу стварэння мастацкага твора.

Бездань, што аддзяляе звычайны штодзённы псіхалагічны стан мастака ад стану творчага, натхнёнага глыбока адчуў А. С. Пушкін, аб чым сведчыць яго верш «Паэт».

«Я працягваю думаць, — запісвае перад гэтым ён у дзённіку, — што паэт стаіць не вышэй, чым усе астатнія людзі, да таго моманту, пакуль не загаворыць натхненне. Паэт натхняецца, гэта бясспрэчна. Бываюць гадзіны, калі я не мог бы напісаць двух радкоў, а ў гадзіны азарэння вершы ліюцца, быццам вада».

Для шмат каго з мастакоў уваходжанне ў стан натхнення праходзіць пакутліва і трывожна.

У дзённіку братоў Ганкур мы знаходзім скаргі на бясконцыя прыступы тугі, зморанасці, сораму за ўласнае бяссілле перад гэтым «нешта», якім фантазія не мае сілы авалодаць. У галаве быццам аркуш белай паперы, на якім думка няясна, з намаганнем выводзіць свае каракулі.

«Без стомы шнарыце вы ў сваім мазгу, — пішуць Эдмон і Жуль пра гісторыю ўзнікнення рамана «Маладая буржуазія», — у галаве звініць, як у пустым катле... Вы абмацваеце сябе і натыкаецеся на нешта безжыццёвае: гэта ваша фантазія. І вы гаворыце сабе, што нічога больш не зможаце стварыць, што ніколі ўжо нічога не створыце. Вы адчуваеце сябе пустым».

А між тым задума недзе зусім побач — заманлівая і няўлоўная. І зноў даводзіцца збірацца з сіламі, шукаць. На адно кароткае імгненне штосьці нібыта ўзнікае ў фантазіі, але тут жа знікае і прыходзіць яшчэ больш вострае пачуццё бяссілля.

«О! Трызніць вобмацкам сярод цёмнай ночы сваёй фантазіі, шукаць тое безжыццёвае цела, у якое вам трэба ўдыхнуць жыццё, шукаць душу сваёй кнігі і не знаходзіць! Блукаць доўгімі гадзінамі, «кідацца ў самыя далёкія глыбіні свайго «я» і вяртацца ні з чым!» — у такім пакутлівым стане знаходзіліся аўтары будучага рамана «Маладая буржуазія», пакуль, урэшце, аднойчы ўвечары штосьці не замроілася — першыя контуры, неакрэслены план твора.

Цяжкай «хваробай» называе паэзію і Эдуардас Межалайціс. Ён не напісаў ніводнага верша, не адпакутаваўшы.

«Іншы раз цэлымі месяцамі нічога не пішу, — дзеліцца назіраннямі над самім сабою Э. Межалайціс. — І раптам пацягне да паперы. Але яшчэ праходзіць дзень-другі, пакуль не пачнеш адчуваць сапраўднае гучанне паэзіі... Блукаеш з кута ў кут, быццам непрыкаяны, месца сабе знайсці не можаш. Быццам пошасць якая нападае. Галава цяжкая, ліхаманіць. Я на парозе сур'ёзнай і пакутлівай хваробы.

I раптам... Раптам у вачах праясняецца, святлее. I за стол. I пачынаю пісаць. Радок за радком. Страфу за страфою. Слова падганяе слова, думка падганяе думку...

Так добра робіцца: адчуваеш сябе ўпэўнена, думкі цякуць вольна, без прымусу... Сэрца б'ецца і звініць, як звон. Даўно пара адпачыць, але я пішу. Адчуваю, што вось-вось вычарпаны і знясілены звалюся на пісьмовы стол. Ужо нестае фізічных сіл. Але столькі вобразаў, творчай энергіі...»

Паэта і ў сне праследуе гэты стан. У галаву лезуць абрыўкі нейкіх фраз, радкі, рыфмы. Пачуцці і розум гранічна напружаны, як струны.

А на другую раніцу пішацца яшчэ лепш. I на трэцюю. Па-ранейшаму быццам ліхаманіць. Але вось усё праходзіць. I—пустата. Абсалютная. Нейкія бездапаможныя, сухія фразы—без пачуцця, без любві. Механічная праца. Версіфікацыя. Шквал натхнення прайшоў.

Вядомага рускага празаіка Д. В. Грыгаровіча ўвесь час займала пытанне, як гэта «вопытны майстар часта б'ецца, як рыба аб лёд, не могучы сабрацца з думкамі, у марным імкненні накідаць на паперу, напісаць часам складна самы нягітры просты ліст, і раптам, без усялякай зачэпкі, без усялякай бачнай знешняй прычыны, да той жа асобы вяртаецца ўся бадзёрасць духу, думкі праясняюцца, уражанні складваюцца ў жывыя вобразы, словы, якія трэба было вышукваць, напрошваюцца самі сабою».

Пра складаныя пераходы настрою піша ў сваіх пісьмах і вядомы беларускі спявак Забейда-Суміцкі. Перад выкананнем новай, толькі што развучанай песні артыст ходзіць устрывожаны, неспакойны, змучаны дазваннем, але перад пачаткам канцэрта, перад самым выхадам на сцэну наступае прасвятленне і ўзвышанае пачуццё, адчуваецца раптам прыліў энергіі, а з ёю—заспакаенне, што песня ўдасца. Звычайна гэта бываюць лепшыя канцэрты спевака.

Гаворачы пра сам момант натхнення, не трэба забываць, што яму папярэднічае звычайна вялікая ўпартая праца. Фізіялагічна натхненне—стан нязвычны, у вышэйшай ступені пакутлівы. I вось, як можна меркаваць па выказваннях Пушкіна, Грыгаровіча, братоў Ганкур, Забейды-Суміцкага, Межалайціса, вялікая праца і намаганні важныя перш за ўсё як канцэнтрацыя ўвагі мастака ў адпаведным напрамку. Перш чым прыйдзе натхненне і пачнуць адкрывацца абрысы будучай рэчы, гэтую працу трэба разумець і як трэніроўку, намаганне перавесці свядомасць у новы стан. Жуль Рэнар лічыў, што «пісьменніку варта даводзіць свой мозг да такога пункту, калі яму становіцца неабходна тварыць».

Вышэйшая канцэнтрацыя волі, якой суправаджаюцца моманты натхнення, патрабуе духоўнай засяроджанасці, вызвалення ад многіх знешніх раздражненняў. Нездарма многія мастакі ў такія моманты бываюць вельмі рассеяныя, няпамятлівыя, няўважлівыя да ўсялякіх жыццёвых дробязяў.

Паследуем за творцам далей у краіну натхнення, у якой, быццам у сполаху бліскавіцы, успыхваюць, расхінаюцца далі вобразнага бачання. Заглыбленне ў прыроду гэтай з'явы дазволіць устанавіць многія сувязі са структурай, формай мастацкага вобраза.

«Учарашняя раніца,—піша I. А. Ганчароў,—належыць да лепшых часін майго жыцця. Я адчуваў бадзёрасць, маладосць, свежасць, быў у такім незвычайным настроі, адчуваў такі прыліў стваральнай сілы, такую страсць выказацца, якой не адчуваў з 57 года.

Зразумела, гэта не прапала дарма для будучага (калі ён толькі будзе) рамана. Ён увесь разгарнуўся прада мною гадзіны на дзве гатовы, і я ўбачыў столькі такога, чаго мне і не мроілася ніколі».

Леў Талстой інакш і не разумеў натхненне як стан, «калі раптам адкрываецца тое, што можна зрабіць».

Асабліва цікавыя і нечаканыя моманты ў перыяд творчага натхнення адкрывае Моцарт:

«Калі я застаюся сам-насам з сабою і ў добрым настроі духу, калі я, напрыклад, еду ў вагоне ці гуляю, ці не сплю ноччу, тады нараджаюцца ўва мне музычныя думкі бясконца і найлепшай якасці. Адкуль і як яны прыходзяць да мяне, гэтага я не ведаю, ды я да іх не маю асаблівага дачынення...

I вось, калі мне не замінае ніхто, разгараецца душа мая. Тады тое, што прыходзіць да мяне, усё расце, расце, святлее, і вось п'еса, якой бы доўгай яна ні была, амаль гатова, так што я азіраю яе ўжо адным поглядам, як прыгожую карціну, і слухаю яе ў сваёй фантазіі зусім не ў паслядоўнасці, як гэта мае месца пазней, а як бы **адначасова»** (Падкрэслена мной.— **А. Я.**).

Пра «завершанасць» і нават пэўную «аформленасць» будучага твора ў яшчэ першасным духоўным плане піша і мастак Людвіг Рыхтар. Аднойчы ён сядзеў паглыблены ў чытанне нямецкіх казак братоў Грым. Калі наступіў вечаровы змрок, мастак адклаў кнігу ўбок і падышоў да цёмнага акна. Карціна, пра якую ён ніколькі не думаў, раптоўна выступіла перад ім цалкам завершаная і як жывая—са сваёй формай і фарбамі. У захапленні майстар хуценька ўзяў вугаль і, нягледзячы на цемру, намаляваў усё на кардоне.





Наогул цікавасць у пісьменнікаў да гэтых пытанняў настолькі вялікая і аўтарскіх сведчанняў так шмат, што мы ў пэўнай ступені можам гаварыць, што амаль кожны мастак, які назіраў над псіхалогіяй сваёй творчасці, так ці інакш у сваіх дзённіках, мемуарах ці артыкулах пакінуў сваё здзіўленне перад гэтай загадкавай з'явай найвышэйшага творчага азарэння.

Як гэта ні дзіўна, але аналагічныя выказванні вучоных мы сустракаем і аб псіхалогіі навуковай творчасці. Калі разабрацца па сутнасці, то ля калыскі ўсіх вялікіх адкрыццяў стаяла ўсё тое ж творчае азарэнне.

«Сапраўдная навука і сапраўдная музыка,—пісаў Альберт Эйнштэйн,—патрабуюць аднароднага мысліцельнага працэсу».

Гэтую думку мы знаходзім у Максіма Горкага. У «Гутарках пра рамяство» ён пісаў, што «работа літаратара падобна да работы вучонага, і літаратар гэтак жа часта знаходзіць прычыну раней, чым назіранні дадуць яму падставу бачыць яе».

К. Паустоўскі расказвае пра такі выпадак. У Берліне ў таверне сядзелі Горкі, Андрэеў і Бунін. Аляксей Максімавіч, азірнуўшыся на суседні столік, з усмешкай прапанаваў сваім сябрам: вось за тым столікам сядзіць чалавек, паглядзіце на яго паўмінуты і скажыце, хто ён такі.

Леанід Андрэеў, паглядзеўшы, прамовіў толькі: «Гэта сын д'ябла!» Бунін жа з абсалютнай дакладнасцю сказаў, які на гэтым чалавеку гарнітур, у якую палоску, які ў яго гальштук, які каўнер, у якім месцы пакамечаны, які ў яго твар. I ўсё абсалютна дакладна. А хто гэты чалавек?—нейкі вялікі міжнародны злодзей, па ўсім відаць...

Паклікалі гаспадара таверны, папыталіся ў яго: «Што гэта там за чалавек?»—«Прашу вас, цішэй, гэта вядомы міжнародны злодзей. Ён прыязджае сюды адпачываць».

Сучасная навука ўсё больш схіляецца да той, пакуль яшчэ парадаксальнай думкі, што напачатку і вучоны ў момант адкрыцця, і пісьменнік у вышэйшыя хвіліны натхнення бачаць свет аднолькава. I. Забелін у сваёй кнізе «Чалавек і чалавецтва» піша аб тым, што пастаноўка новых праблем у навуцы патрабуе ад вучонага «развітай здольнасці да вобразнага мыслення». Навука, як лічыць I. Забелін, і пачынаецца з бачання, аднак змест яе складае вытлумачэнне ўбачанага.

Цяпер, урэшце, набываюць сэнс выказванні Эйнштэйна, Вярнадскага і іншых вучоных пра мастацтва як вартага партнёра ў даследаванні свету.

Са шматлікіх саманазіранняў мастакоў і вучоных над сваёй творчасцю напрошваецца вывад, што вучоны, як і паэт, аднолькавым чынам, праз адзін і той жа мысліцельны цэнтр успрымае гармоніі прыроды (у навуцы яны называюцца законамі), але потым, пры ўвасабленні гэтага бачання, шляхі рэзка разыходзяцца. Калі мастацтва павінна перадаваць вобразнае бачанне ў тых жа вобразных формах, у якіх яно адкрылася, то вучоны «апранае» свае думкі ў форму логікі, у формулы матэматычнага мыслення.

У сферы псіхалогіі творчасці выяўляецца яшчэ адзін цікавы момант: да пісьменніка пад час натхнення прыходзіць такое незвычайнае пачуццё мастацкай меры, парадку, якім у паўсядзённым стане ён так выразна не валодае. Лепш за ўсё пра гэта найвышэйшае адчуванне гармоніі, якое наведвае творцу ў моманты натхнення, сказаў П. I. Чайкоўскі:

«Расказаць вам пра гэтыя хвіліны няма ніякай магчымасці. Тое, што выходзіць з-пад пяра ці проста складваецца ў галаве ў гэтым стане, заўсёды добра, і калі нішто не замінае, то павінна выйсці дасканаласцю таго, што ў стане стварыць той ці іншы мастак.

Нажаль, гэтыя знешнія перашкоды амаль непазбежныя. Трэба ісці на службу, клічуць абедаць, прыйшоў ліст і г. д. Вось чаму так рэдкія творы, якія ва ўсіх частках ураўнаважаны па колькасці музычнай гармоніі. Адсюль з'яўляюцца швы, прыклейкі, шурпатасці, неадпаведнасці».

I заўсёды ў парыве натхнення, як пра гэта вельмі добра сказаў К. Паустоўскі, унутраны свет чалавека бывае «настроены тонка і верна, як нейкі чароўны інструмент, і адклікаецца на ўсе, нават самыя няскладныя гукі жыцця».

Што ж уяўляе сабой стан натхнення,—такі адрозны ад звычайнай бытавой работы мыслення,—калі думка становіцца праніклівай і крылатай, калі памяць у якімсьці вышэйшым стане азарэння высвечвае ў сваіх глыбінях і ўздымае ў светлае поле актыўнай свядомасці бясконцае мноства фактаў і вобразаў, малюнкаў і ўспамінаў, якія здаваліся зусім забытымі, і ўключае іх у творчую работу думкі?

Навейшыя даследаванні ў галіне мозгу паказалі, што малюнкі і вобразы, якія з'яўляюцца адлюстраваннем нашымі органамі пачуццяў рэалій навакольнага све-

ту, захоўваюцца ў памяці не ў выглядзе нейкіх стацыянарных геаметрычных адбіткаў, а ў іншай, найбольш ёмістай форме—хвалевай.

Фізіёлаг Прыбрам выказвае меркаванне, што памяць—гэта не запас інфармацыі, накоплены ў паасобных клетках, а што яна, гэтая інфармацыя, існуе ў якімсьці хвалевым стане як агульны стан мозгу.

Аналагічнага погляду прытрымліваюцца фізік Літл і савецкі прафесар А. Кампанеец. З'явы звышправоднасці, адкрытыя ў прыродзе і характэрныя для пэўных умоў, дазволілі выказаць меркаванне, што доўгія палімерныя малекулы ў клетках мозгу знаходзяцца ў квантавых станах і падпарадкаваны звышправодным заканамернасцям. Памяць—гэта незатухаючыя токі ў гэтых клетках.

І тое адначасовае прасвечванне ўсяго аб'ёму назапашаных памяццю фактаў, вобразаў, успамінаў, што наступае ў час натхнення ў выніку канцэнтрацыі творчай волі ў пэўным напрамку, і бачанне ўсяго накопленага ў розныя часы з розных сфер у адной рэальнасці, у адной прасторы будучага твора, як гэта заўважаецца ў саманазіранні І. Ганчарова, і ў адначасовым успрыманні, як гэта засведчана ў выказваннях Моцарта,—усё гэта можна вытлумачыць звышправоднасцю, якая, безумоўна, павінна мець месца ў вышэйшыя, найбольш прадуктыўныя фазы творчасці, якія мы называем натхненнем.

Бясспрэчна, што ў стане найвышэйшай актыўнасці і звышправоднасці, якая ўстанаўліваецца ў мільярдах нейтронаў пад час натхнення, мозг настроены асабліва тонка і дакладна, ён набывае асаблівую здольнасць адчування найтанчэйшай меры і гармоніі, сувымернасці і прапарцыянальнасці частак і цэлага ў будучым творы.

Погляды сучасных вучоных на прыроду памяці шмат што растлумачваюць у загадкава скрытых працэсах мыслення, але яны пакуль што—гіпатэтычныя. Слова за новымі фактамі і адкрыццямі навукі.

Нельга не звярнуць увагу, што ва ўсіх без выключэння саманазіраннях над псіхалогіяй творчасці, пакінутых вялікімі людзьмі, так альбо інакш гаворка ідзе пра важнасць энергіі, сабранасці, душэўнай волі ў моманты творчага натхнення.

Апошняе павінна служыць істотным аргументам у палеміцы супраць беспадстаўнасці шматлікіх тэорый аб хваравітай прыродзе геніяльнасці і самой творчасці. «Падставай» для такіх думак паслужыла, бясспрэчна, нязвычнасць стрэсавых намаганняў у момант творчага экстазу, якія карэнным чынам адрозніваюцца ад паўсядзённага стану.

Пакуты творчасці, якія ці можна з чым параўнаць, цяжкі, «на грані захворвання», стан натхнення, забыццё пра паўсядзённыя звычкі і прывязанасці некаторыя медыкі схільныя атаясамліваць з псіхічнай немаччу, аргументуючы гэта параўнаўча вялікай распаўсюджанасцю нервовых расстройстваў сярод выдатных асоб.

Супраць падобных «тэорый» у свой час рашуча паўставаў Г. Флабер.

«Не атаясамлівайце,—піша вялікі празаік Тэну,—унутранае бачанне мастака з бачаннем сапраўды галюцынуючым. Мне добра вядомы абодва станы, паміж імі ляжыць бездань. Пры сапраўднай галюцынацыі назіраецца жах, вы адчуваеце, што ваша «я» знікае, вам здаецца, што вы паміраеце. У час паэтычнага бачання—наадварот, прысутнічае радасць, гэта штосьці, што ўваходзіць у вас».

Для сённяшняй навукі бясспрэчны факт, што стан натхнення, які суправаджаецца бясконца пакутлівым напружаннем волі і псіхікі,—усё ж гэта стан вышэйшай актыўнасці, бадзёрасці, стан здароўя.

У геніяльнасці разам з найвышэйшай схільнасцю да перажыванняў спалучаецца найвялікшая здольнасць да засяроджанасці, арганізаванасці, творчасці.

Псіхіка ў творчай асобы сапраўды надзвычай чуйная, яна адклікаецца на пакуты, болі, кожную падзею свету, арганізм жыве на поўную аддачу сіл, унутранай энергіі і актыўнасці. І мастаку не перанесці б выпрабаванняў, якія выпадаюць на яго долю, калі б не было ў яго цудадзейнага сродку—вытрывання ў творчасці. У гэтым сэнсе твор—штосьці не толькі створанае пісьменнікам, але і тое, што стварае самога пісьменніка, гэта разнятасць, уваходжанне ў свет трагедый і пакут людскіх і сваіх, каб праз перамогу над імі—вобразам, словам, творчасцю—дасягнуць найвышэйшага самавызвалення.

Узяць на сябе боль свету, пакутаваць ад яго трагедый і ўзнавіцца, уваскрэснуць зноў праз творчасць, праз новае, сваё стварэнне свету! Гэтыя два супрацьлеглыя пачаткі заўсёды супрацьстаяць адзін аднаму, і некаторым удаецца іх спалучыць, перамагчы, а некаторым і не ўдаецца. Многія бачылі і адчувалі тое, што адчувалі геніі свету, аднак, не змогшы выказаць, узнавіць сваё бачанне ў найвышэйшым творчым намаганні, так і засталіся невядомымі.

«Мараль мастака,—піша Т. Ман,—гэта сабранасць, гэта рашучасць ствараць вобразы, гэта імкненне да абмежавання... Адным словам, мараль—гэта воля да стварэння».

У гэтым плане асабістае жыццё мастака ў значнай ступені адрозніваецца ад





жыцця іншых людзей. Мастак усё ўбірае ў свае сэрца. Толькі праз сэрца—перамога над чалавечымі пакутамі, толькі праз перажыванне, спачуванне і творчасць—вызваленне ад іх. Ёсць, безумоўна, лёгкі выбар—пазбегнуць гэтых пакут, аднак тады ён не можа спадзявацца, што яму адкрыецца праўда свету.

«Для мастака,—піша Стэфан Цвейг,—ёсць лячэбны сродак, якога ўрач не можа прапісаць іншым сваім пацыентам. Ён можа, толькі ён адзін, пераадольваць клопаты і выпрабаванні, апісаўшы іх. Ён можа ператварыць свой горкі вопыт у хвалюючыя вобразы і ўсё, што было жорсткай жыццёвай неабходнасцю, ператварыць у творчую сілу».

Кожнае пакаленне, кожны гістарычны перыяд нараджае мастакоў, якім суджана прайсці праз усе буры жыцця і не ачарсцвець, не надламіцца, захаваць шчырае сэрца, некранутую, нерастрачаную любасць да людзей і ў барацьбе за ісціну, за ідэалы будучыні выявіць свой час ва ўсёй бескампраміснай праўдзе і глыбіні.

Бясспрэчна, што пры такім актыўным жыцці ў мастацтве і для мастацтва шмат для каго з мастакоў створаныя імі вобразы і карціны—самая вышэйшая рэальнасць. Жывапісец Віганд блытаў створаныя ім вобразы з рэальнымі людзьмі.

А Бальзак... Мастак Санда неяк зайшоў да яго расказаць пра сваё гора: у яго небяспечна захварэла сястра. Бальзак, як заўсёды заняты ў думках сваімі героямі, няўважліва слухаў яго і ўрэшце нецярпліва перапыніў: «Вельмі добра, дарагі, але цяпер вернемся да рэальнасці, пагаворым пра Яўгенію Грандэ...»

Дык як жа працякае далей працэс увасаблення задумы?

Вобразы, якія ўзнікаюць у працэсе работы над жыццёвым матэрыялам, матэрыялізуюцца ў форму, апранаюцца ў «адзежыну» слова таксама своеасабліва, нейкім складана апасродкаваным шляхам, вельмі падобным па форме да таго, як рэаліі навакольнага свету адлюстроўваюцца ў нашай свядомасці. На гэтую думку наводзяць саманазіранні многіх мастакоў.

У. Маякоўскі самыя пачатковыя моманты зараджэння верша звязвае з узнікненнем унутранай музыкі, рытму.

«Я хаджу,—піша паэт,—размахваючы рукамі, і мармычу яшчэ амаль без слоў, то запавольваючы крок, каб не замінаць мычанню, то мычу хутчэй у такт крокам.

Так габлюецца і афармляецца рытм—аснова ўсялякай паэтычнай рэчы, што праходзіць праз яе гулам. Паступова з гэтага гулу пачынаеш выцягваць асобныя словы...

Адкуль прыходзіць гэты асноўны гул-рытм—невядома. Для мяне гэта ўсякі паўтор ува мне гуку, шуму, пагойдвання або нават наогул паўтор кожнай з'явы, якую я вылучаю гукам».

У Шылера, калі ён садзіўся пісаць, таксама часцей узнікаў музычны вобраз вершаў, чым яснае ўяўленне аб яго змесце.

«Мяне навёў на гэтае назіранне,—піша паэт,—мой «Гімн да святла», які зараз займае мае думкі. У мяне пра гэты гімн няма выразнага ўяўлення, але ёсць толькі няяснае прадчуванне, і ўсё ж я заведама магу сказаць, што ён мне ўдасца».

Пра настраёвы рытмічны ключ, які кладзе пачатак любой рэчы, гаворыць і Уладзімір Караткевіч. Калі паспрабаваць вылучыць у яго саманазіраннях настраёвы момант, як дамінанту ўзнікнення твора, то атрымаецца такая псіхаграма:

«Перш за ўсё павінен быць адпаведны настрой... Ён можа быць нават гукам, але гукам таксама адзіна патрэбным... Пасля гэтага гуку або радка (а ён часта бывае ключавым) ты ўжо працы не кінеш...

Рэч усё адно яшчэ не гучыць. Але калі ўсё ж у такі момант сядзеш яе пісаць, то атрымліваецца правільна, з веданнем справы і... мёртванароджана. Зноў патрэбны настрой, той стан душы, асаблівы, напяты, гатовы на ўсё, той настрой, калі здаецца, што няма немагчымага, той настрой адпаведнасці сябе—свету, які бацькі крыху вялікапышна, але ўвогуле правільна звалі натхненнем».

Нам вельмі важна разабрацца ў прыродзе гэтай рытмічнай з'явы. Звычайна паняцце рытму ў паэтыцы абмяжоўваецца філалагічным значэннем, адразу пераасэнсоўваецца ў «тэрмін пэўнага структурнага характару», і гэта не дае магчымасці зразумець прыроду рытмічнай з'явы.

«Хоць прырода,—прызнаецца Гётэ,—і не надзяліла мяне добрым голасам, аднак часта мне здаецца, быццам нейкі добры геній таемна нашэптвае мне штосьці рытмічнае, так што я па дарозе кожны раз пачынаю рухацца ў такт, і ў той жа час мне мроіцца нейкія слабыя гукі, якія служаць нібыта акампанементам да песні, што так ці інакш прыемна складваецца ў маёй свядомасці».

Тое ж самае адчуванне вобразаў, што нараджаецца ў душы ў выглядзе нейкай рытмічнасці, музычнасці, назірае ў сабе і вядомы балгарскі пісьменнік Яваваў, які, аднак, не любіў і не разумеў музыку і тым не менш пісаў чамусьці:

«У мяне ўсё мелодыя... Калі б я нарадзіўся не ў Чырпане, пайшоў бы па музычнай лініі і не пісаў бы вершы і прозу».

Дарэчы, і многія іншыя пісьменнікі і паэты, такія, як Бальзак, браты Ганкур, Ламарцін, Гацье, Блок, Багдановіч, якім з асаблівай сілай удалося выявіць «музыку» прыроды і творы якіх з «музычнага» боку адзначаны дзівоснай завершанасцю, не валодалі музычным слыхам.

Значыць, у дадзеным выпадку маецца на ўвазе музычнасць нейкага іншага парадку—рытмічнасць, меладычнасць, настраёвасць, звязаныя з хвалевым характарам існавання вобразнай інфармацыі ў нашай памяці, урэшце, рытмічнасць апасродкаваная, вытворная ад таго ўніверсальнага рытму, што ахоплівае ад малога да вялікага ўсе з'явы прыроды, у тым ліку і чалавека.

Для некаторых, а магчыма, нават для многіх аўтараў, лянівых да саманазіранняў, «бруенне» будучага твора ў выглядзе нейкай рытмічнасці, мелодыі здасца ледзь не выдумкай. Больш за ўсё нязгодных будзе сярод празаікаў.

«Рытм—то можа для паэтаў. Для празаікаў такія адчуванні не характэрны. Пачаткам, завязкай твора ў празаіка з'яўляецца настрой ці, гаворачы словамі Буніна, «гук», які задае тон усёй рэчы»,—даводзіцца чуць у такіх выпадках ад пісьменнікаў, хоць зусім відавочна, што рытмічнасць, мелодыя і настрой—паняцці ідэнтычныя.

Янка Брыль успамінае, што яго апавяданне «Галя» замроілася ў фантазіі пад гудзенне трактара на палетках у месячную ноч. «Слухаючы гул трактара, я мімволі думаў: а як гэта выглядала б, каб, скажам, гэты гул слухала маладзіца ці ўдава, якая кахала некалі гэтага чалавека і не выйшла за яго... Злоўлены быў, як Бунін кажа, гук. І гэта ўжо нейкай своеасаблівай музыкай, своеасаблівымі малюнкамі, пачуццямі пайшло за мною. А зімою, у студзені, я паехаў у Каралішчавічы. За тры раніцы напісаў апавяданне. Увесь час быў у стане нейкай закаханасці...»

А Кузьма Чорны, стыль ягоных твораў. Музычны гук, што з першай фразы задае тон усёй рэчы, уласцівы кожнаму яго твору. Здаецца, нічога асаблівага, звычайны вясковы побыт—і ў той жа час нейкім унутраным слыхам адчуваеш, як кожнае яго апавяданне, аповесць ці раман прасякнуты дзівоснай мелодыяй спакою зямлі, восеньскай радасцю жыцця, як гэта добра некалі падмеціў Максім Гарэцкі.

А якой суладнай рытмічнасцю і настраёвасцю пазначаны творы маладзейшых нашых празаікаў, чуйных да фразы і культуры слова—М. Стральцова, В. Адамчыка, І. Чыгрынава і іншых...

Вельмі многія празаікі прыгадваюць, што іх творы ўзнікалі з якойсьці адной, вельмі характэрнай, мілай іх сэрцу дэталі, якая надавала настрой, збірала вакол сябе, як магніт пылінкі, іншыя дэталі, факты, выцягвала іншыя вобразы, малюнкі. Гэта асабліва ўласціва для Аляксея Кулакоўскага. Так, напрыклад, узнікаў адзін з лепшых яго твораў—аповесць «Нявестка». Фантазію пісьменніка ўскалыхнуў адзін, здавалася б, радавы выпадак. Аднак услухайцеся ў меладычны лад, угледзьцеся ва ўнутраны стыль аповесці. Той настрой дабрыні, сардэчнай суладнасці, які аўтар улавіў у расказаным яму выпадку, стаў галоўным матывам, унутранай мелодыяй усяго твора. Без гэтага настрою, душэўнасці, увагі да чалавека жыццёвы матэрыял, што лёг у аснову аповесці «Нявестка», застаўся б звычайным, мала цікавым бытам.

Зрэшты можна дапусціць, што зараджэнне твора шмат у каго з пісьменнікаў праходзіць падсвядома, не застаючыся ў памяці. Для працэсаў творчасці наогул характэрна неўсвядомленасць многага з таго, што адбываецца ў гэты час у нашым уяўленні. І тое, што для даследавання мы вылучаем больш акрэсленыя саманазіранні тых аўтараў, якія працэсы гэтыя больш-менш пэўна прасочвалі, зусім не азначае, што гэта абавязковае правіла.

Найбольш паслядоўна і дэталёва працэс узнікнення рытмічнага пачатку будучага твора апісаў Эрнст Вэбер.

«Народжаны нашым уласным станам, нашымі крокамі, хуткім альбо запаволеным дыханнем ці раўнамернымі ўспрыманнямі зроку і слыху, рытм адчуваецца ўнутрана: як чуццё якога-небудзь такта, які рухаецца ад $^{2}/_{3}$ да $^{3}/_{4}$ або $^{5}/_{8}$, ці ад $^{4}/_{4}$ і $^{6}/_{4}$ да $^{9}/_{8}$, але звычайна больш трох моцных ступеняў не з'яўляецца».

Далейшае развіццё псіхалагічна-вобразнага працэсу Вэбер уяўляе наступным чынам.

Душа энергічна стрымлівае гэтыя ўнутраныя рухі: яна пачынае вагацца ў своеасаблівых узлётах і падзеннях, у прыемным рытме. Пачынаецца нейкае напяванне без сэнсу.

Аўтар не ведае, новая мелодыя ці старая, чуў ён яе дзе-небудзь і калі-небудзь ці не. Яна здаецца яму чужой і сваёй адначасова. І мімволі на дапамогу ёй прыходзяць, як аснова, гукі, склады і словы.

«З усяго гэтага,—папярэджвае аўтар,—не абавязкова ўзнікае верш. Своеасаблівы настрой можа знікнуць, а з ім рытм і мелодыя. Але яно можа даць рад, выказванне, думку, якая пачынае вагацца ў такт рытму, які ўзнікае неўсвядомлена і гучыць ва ўзыходзячай і ніспадаючай мелодыі, народжанай рытмам...»





Гэты момант Вэбер лічыць уласна прадуктыўным. Тут павінна з'явіцца ідэя. Часам ідэя прыходзіць з маланкавай хуткасцю, выкліканая якім-небудзь словам, мелодыяй, аднак іншы раз мелодыя знікае, забываецца, ды толькі знешне. На наступны дзень, праз тыдзень, магчыма, праз год, часта пры абставінах, калі яго менш за ўсё чакаюць, той своеасаблівы гук прыходзіць зноў, нас зноў ахоплівае той рытм, і на гэты раз—нездарма. Настаў час нараджэння верша. Якое-небудзь перажыванне, што было ў нас, уваходзіць у гэты рытміка-музычны настрой, і вершы пачынаюць ліцца і шумець, быццам падштурхнутыя ўнутранай сілай.

Гэты вельмі тонкі аналіз аўтарскага стану ўсё ж трэба ўспрымаць толькі як прыклад індывідуальнай творчай псіхалогіі. У розных мастакоў гэты стан, маючы штосьці агульнае, будзе сур'ёзна адрозніваццa.

Становіцца відавочным, што ля вытокаў нараджэння, на пачатку «завязвання» вобраза ляжыць штосьці непадзельнае, арганічна хвалевае, рытмічнае. Але ж якія вобразна ёмістыя, якія багатыя вобразнай інфармацыяй, якія патэнцыяльна шматмерныя гэтыя хвалі-настроі, што напачатку прыносяць толькі адчуванне агульнага плану і пачуццё «наяўнасці» рэчы.

У гэтым рытме-мелодыі ёсць зародкі гукавых, колеравых, асязальных вобразаў як і наогул многія іншыя кампаненты вобразнай тканіны твора.

Вельмі дакладныя сведчанні аб пачатковым моманце ўвасаблення задумы сустракаем мы ў Максіма Лужаніна. «Недзе глыбока,—піша ён у сваіх аўтабіяграфічных нататках «Гэтак яно і рабілася»,—жыве ўзрушэнне, першае ўражанне, часта не сабранае ў зрокавы вобраз. Яно, як сігнальны агеньчык, то ўспыхвае, то гасне, каб нарэшце перайсці ў трывалае і роўнае святло. Тады адкрываецца карціна. Для фіксацыі яе трэба слова. І яно не прыходзіць само, чакае рытмічнага штуршка, удалага сугучча, асновы, на якую наніжуцца радкі».

Костка Хрыстаў, класік балгарскай літаратуры, на пытанне, як у яго ўзнікае матыў, адказаў:

«Перш за ўсё... дзякуючы ўнутранай музыцы... Перш чым яна праясніцца, перш чым выкажацца ў словах, гэтая гукавая тканіна ўжо існуе, яна быццам нясе ў сабе і колерныя ўражанні: прыглушаныя ці больш жывыя тоны. Напрыклад, восеньскі матыў абавязкова пасля гукавых элементаў мае і колеравыя тоны, будучы яшчэ далёкім ад магчымасці быць выяўленым сродкамі славеснага мастацтва.

Гэта для мяне самы пакутлівы перыяд творчасці».

Цікава, што ў гэтай пачатковай эмацыянальнай рытмічнай плыні як бы прысутнічае і дэталь, ва ўсялякім выпадку, яна ясная для мастака.

«Гэтае апавяданне,—піша Ф. Дастаеўскі,—я збіраўся напісаць чатыры гады назад, у год смерці брата... Гэтае апавяданне я магу напісаць вельмі хутка, бо няма ніводнага радка і ніводнага слова, няяснага для мяне ў гэтым апавяданні».

Калі прасачыць за паслядоўнасцю псіхалагічнага працэсу, то ў аўтараў, у якіх найбольш выразна акрэсліваецца гэтае супрычаснае, сузіральнае бачанне, рытм-настрой неўзабаве канкрэтызуецца і праясняецца ў нейкай колеравай мелодыі, а план будучай рэчы адчуваецца як даволі выразны гукавы фон.

Густаў Флабер, ствараючы свае раманы, быў перакананы, што перадае ў кожным з іх пэўны колер. Напрыклад, у карфагенскім рамане яму хацелася выявіць штосьці пурпурнае. У «Бавары», паводле ягоных прызнанняў, ён ні пра што больш не думаў, як толькі перадаць тон, плесенную афарбоўку макрыцы...

Дарэчы, Флаберу не ва ўсім можна давяраць: як сведчаць успаміны яго сучаснікаў, вялікі празаік часам любіў імітаваць свае саманазіранні, выказваючы не зусім тое, што было ў сапраўднасці. Ён, безумоўна, думаў над ідэямі і сацыяльнай значнасцю таго, што выходзіла з-пад яго пяра. Бо ў другім выпадку на пытанне, хто такая Мадам Бавары, пісьменнік адказаў: «Гэта я сам». І прыведзенае вышэй выказванне цікава не гэтым падкрэсліваннем інтуітыўнага пачатку ў творчасці, а тым, што яно дакладна ўзнаўляе некаторыя скрытыя моманты творчай псіхалогіі, дакладна перадае суб'ектыўныя аўтарскія адчуванні творчага працэсу, пра якія многія аўтары ці не лічаць патрэбным гаварыць, ці проста гэта ў іх не фіксуецца.

Бадлер быў перакананы, што свет напоўнены загадкавымі сімваламі, якія ўказваюць у вядомых выпадках на цесную сувязь паміж пахамі, фарбамі, гукамі.

«Ёсць нейкая моцная сувязь,—піша К. Паустоўскі аб прозе І. Буніна,—паміж такімі найтанчэйшымі з'явамі, як святло, пах, гук і колер... Фарба дае пах, святло дае фарбу, а гук узнаўляе шэраг на дзіва дакладных малюнкаў. Усё гэта стварае асаблівы душэўны стан—то засяроджанасці і смутку, то лёгкасці і жыцця з яго цёплымі вятрамі, пошумам дрэў, бязмежным гулам акіяна, мілым смехам дзяцей і жанчын».

У далейшым у працэсе славеснага ўвасаблення настрой як бы распадабняецца на колеравыя, гукавыя, асязальныя, пластычныя вобразы. З другога боку, гэтая музычная хваля, якая дае разрад натхнення, «асвятляе» ўсе кладоўкі памяці і ўзнімае з нашага вопыту багаты жыццёвы матэрыял, выбірае з яго патрэбныя факты, падрабязнасці і, перапрацоўваючы, выстройвае іх у ключы ўсё той зыходзячай з глыбінь нашага «я» агульнай мелодыі-настрою. Як сведчаць шматлікія выказванні мастакоў, гэтыя вобразныя элементы ў агульным рытмічна-меладыйным радзе ўжо як быццам ёсць у «наяўнасці», іх лёгка ўзняць з мінулага, а пры адсутнасці адпаведнага вопыту іх няцяжка «рэканструяваць», прыдумаць, калі ёсць ужо агульны настраёвы фон.

А вось як апісвае паслядоўнасць «завязвання» вобраза і яго ўвасабленне ў форму Максім Танк:

«Аднекуль з'явілася мелодыя. Яна кужэльнай ніткай пацягнула за сабой вобразы-рыфмы, апошнія леглі ў верш. А ўвесь гэты абвал выклікала мелодыя забытай матчынай песні, словы якой не магу аднавіць у памяці».

Па сутнасці, арганізуючая роля рытму ў творчай фантазіі мастака падобна на вядомыя працэсы арганізацыі часцінак з хаоснага стану пад уздзеяннем вібрацыі ці музыкі.

Разуменне натхнення ў перыяд першапачатковага ўзнікнення, «завязвання» вобраза як звышправоднага, квантавага стану мозгу і ў той жа час як працэсу распадабнення настрою тлумачыць таямніцу, чаму пад час творчага экстазу так вольна творыцца, адкуль з маланкавай інтэнсіўнасцю ў светлае поле свядомасці ўсплываюць патрэбныя вобразы, дэталі, становішчы, жэсты, а словы ідуць лёгка, кладуцца дакладна і настолькі дабрэнна, што з гэтага дзіва потым у спакойным стане не надзівіцца і сам мастак.

Не выпадкова, як успамінаюць мастакі, калі да паэта прыходзіць натхненне, слова ідзе само сабой. Словы стаяць напагатове для ўнутранай мелодыі, іх трэба толькі назваць...

І тады, як дыханне з грудзей, узнікае яно, запаветнае, дзівоснае: «Я помню чудное мгновенье...» або «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»

■■■






**Сяргей КРЫВЕЦ. «ДУБОК». Вершы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972.**

# «УМЕЮ СЦЯГАМ ДАРАЖЫЦЬ...»

Першая кніга двухтомнага збору беларускіх народных песень для хору, складзенага народным артыстам Савецкага Саюза Р. Р. Шырмам, адкрываецца эпіграфам:

Спакон вякоў пяе народ,
І песні б'юць жывой крыніцай.
Мы плыні тых крыштальных вод
Спяшым з прыемнасцю напіцца...

Гэтыя словы ўзяты з верша заходнебеларускага паэта Сяргея Крыўца. Паэт пражыў нядоўгае, але плённае жыццё. Нарадзіўся ён у 1909 годзе ў вёсцы Дубна на Гродзеншчыне. Рос без бацькі. З малых гадоў спазнаў галечу, горыч сірочага хлеба. Пасвіў статак, парабкаваў, рабіў цесляром. Пазней ён напіша:

Другім будуеш камяніцы,
А сам начуеш пад парканом.
І толькі ў сне табе прысніцца
Куток утульны—ўласны дом.

Спрабаваў Крывец перайсці польска-беларускую граніцу, але няўдала.

Нягледзячы на цяжкую працу, ён актыўна ўдзельнічае ў рабоце грамадска-асветніцкіх арганізацый. Асядае ў Беластоку, дзе ім была напісана большая частка вершаў, і становіцца на шлях барацьбы супроць няспраўядлівасці.

Санацыйны рэжым панскай Польшчы душыў народныя масы. Бясконцыя падаткі, штрафы рабавалі беларускага селяніна. Не меншым быў і духоўны ўціск. Пра ўсё гэта і гаворыць Сяргей Крывец у алегарычным вершы «Дубок»:

Надарма ўсе яго стаpанні.
Праходзіць рад апошніх дзён,
Ён загаіць не можа раны.
І крыўды горкай пачуццё
Іржой лісткі яго з'ядае.
Наўкол дубка цвіце жыццё—
Дубок маўкліва памірае.

У вераснёўскіх вершах паэта моцна гучалі вольналюбівыя матывы. Адмаўленне прыгнёту, асуджэнне сацыяльнай несправядлівасці—вось у чым бачыў Крывец прызначэнне сваёй паэзіі:

Ў цяжкія дні мне выпаў лёс
Пра вас, грамадскія падонкі,
Ўнясці на гэтыя старонкі
Нашчадкам сведчанне сваё...

Аднак ліра Крыўца не толькі асуджала —яна і заклікала да барацьбы («Чаму не йду ў літаратуру», «Між разораў», «Урывак з незакончанай паэмы», «Сыплюць думкі», «Мроі катаржаніна»). Адкрытым выклікам прыгнятальнікам гучыць верш «Да нас выйдзі»:

Што ж да нас—дык нам належыць,
Ласкі мы не просім.
А чужое—прэч за межы—
Самі павыносім.

Верай у вызваленне прасякнуты многія творы паэта. І тут вялікую надзею ўскладае ён на моладзь:

З новай песняй на прасторы
Выйшаў новы маладняк.
З дымам пойдуць усе запоры,
Стане вольным к сонцу шлях.

На ўз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай беларускай Савецкай дзяржаве С. Крывец радасна адгукнуўся вершам «Упалі путы». Новыя далягляды адкрыліся перад таленавітым сялянскім хлопцам: у 1940 годзе ён стаў студэнтам педагагічнага інстытута. Радасцю засвяціліся вершы паэта, у іх прыйшлі новыя настроі і матывы:

Покуль вішня красы не асыпала,
Покуль кроў маладая дыміць,
Я люблю.
Не магу не любіць,
Бачна, доля такая мне выпала.

Пашыраецца творчы дыяпазон паэта, расце яго майстэрства. Сяргей Крывец плённа вучыцца ў Купалы, Коласа, зноў і зноў звяртаецца да народнай творчасці:

А песні, песні аб прыгоне!
Хто чуў іх раз, той не забудзе:
Здаецца, стогнуць ўжо не людзі,
Фальклор, фальклор, душа народу!

Некаторыя вершы паэта напісаны пад непасрэдным уплывам народных песень. Гэта—«З асенніх матываў»,

10*

«Расцвітае сад прыгожа». Зачын многіх вершаў («Гэй ты, маладосць», «За гарамі-гарамі», «Наша песня не дапета», «Ой ты, галубанька, дзеванька мілая»), напеўнасць іх паказваюць, наколькі арганічна і натуральна ўваходзіць паэтыка народнай песні ў творы Сяргея Крыўца.

Але прыйшла вайна...

Сарвалася лавінай жалезнаю,
Закруцілася бурай шалёнаю,
Разлілася стыхіяй бязмежнаю,
Саранчою апала зялёнаю.

Сумленне паэта-змагара прывяло Крыўца ў рады Чырвонай Арміі. Клятвай вернасці сацыялістычнай Радзіме гучаць яго апошнія вершы, надрукаваныя ў газеце «Боевые резервы» ў снежні 1944 года:

І я, блудзіўшы столькі лет
Па сцежках нашага народу,
У першы раз пабачыў свет
Пад сцягам ленінскай свабоды.
Таму умею даражыць
Я гэтым сцягам нашай волі,
І покуль толькі буду жыць,
Яго бясчэсціць не дазволю.

Усяго адзінаццаць дзён да перамогі над ворагам не дажыў паэт.

Большасць вершаў са спадчыны Сяргея Крыўца да апошняга часу не былі сабраны. І вось нарэшце гэта зроблена. Зразумела, не ўсё ўвайшло ў кніжку. Адны з вершаў засталіся проста спробай пяра, другія — не вытрымалі строгай праверкі часам. Але ўсё ж, нам здаецца, па-за старонкамі зборніка (цалкам або часткова) засталіся і такія рэчы, што заслугоўваюць таго, каб быць надрукаванымі. У першую чаргу гэта датычыць глыбока псіхалагічнай замалёўкі «Крызіс», урывак з незакончанай паэмы «Сонца, стаўшы пад абеды», верша «Аплакаў долю я сваю».

І ці можна пагадзіцца, напрыклад, з рэдакцыяй аднаго з лепшых вершаў С. Крыўца «Праз шпары крат»?

У паэта:

З нябёс далёкіх палатна
Звязда слязою прымірэння
На брук бясшэлесна ўпала.
Праз шпары крат турэмнага акна
Мяне вясна пацалавала...

У зборніку:

З нябёс далёкіх палатна
Звязда бясшэлесна апала.
Праз шпары крат турэмнага акна
Мяне вясна пацалавала...

Было б лепш, каб не было і такіх прыкрых дробязяў. Бо сустрэча з Сяргеем Крыўцом—паэтам, які сваім палымяным словам змагаўся за светлае сёння нашага народа, грамадзянінам, які аддаў жыццё абароне свабоды Радзімы,—радасная і цікавая. І за гэта глыбокую падзяку хочацца выказаць Р. Р. Шырме, які руплів сабраў і зберог спадчыну Сяргея Крыўца.

**Васіль ЛІТВІНКА.**




**С. ПАНІЗНІК. «ПАЛЯВАЯ ПОШТА». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.**

# РАНІЦА Ў ВАЙСКОВЫМ СТРАІ

Заўсёды, калі бярэш у рукі новую кнігу паэта, хочацца вярнуцца да яго папярэдніх вершаў, зноў акунуцца ў знаёмы табе паэтычны свет. Пяць гадоў назад Сяргей Панізнік, тады курсант Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча, выдаў свой першы зборнік «Кастры купалля».

У «Кастрах купалля» С. Панізнік быў надзвычай даверлівы і адкрыты. Ён бачыў у чытачу субяседніка, сябра і давяраў яму самае галоўнае і важнае.

Мае зямляне!
З вамі я жыву
на ласкавай і ветлівай планеце.
І тут я патаемна
на прыкмеце
трымаю для паэзіі паляну.

Гэтая «паляна паэзіі» дала добрыя, моцныя ўсходы. Лепшыя вершы з першай кніжкі «Беларусы... Землямі чужымі...», «Што ёсць, скажы...», «Цямнее пушча за гарой...», «Ідзем у край нязгаданых дарог...» і іншыя радавалі арганічным сплавам думкі і пачуцця, натуральнасцю інтанацый, добрым адчуваннем слова.

І вось новая кніга паэта «Палявая пошта».

Палявая пошта... палявая...
Гэта сонца поле палівае,
шлях рыпіць пякучаю жарствой.
Гэта ноч трывогу спавівае,
у чаканні тлее над зямлёй.

С. Панізнік, цяпер ужо афіцэр Савецкай Арміі, на новым, вышэйшым этапе паэтычнай і грамадзянскай сталасці вяртаецца ў вершах да сваёй галоўнай тэмы: сыноўняй адказнасці перад Бацькаўшчынай, любові да яе. Нялёгкая рамантыка салдацкай службы многае прасвятліла ў адносінах да жыцця, у характары лірычнага героя. Калі ў «Кастрах купалля» аўтарскае «я» выступала ў асноўным толькі праз лірычна-ўсхвалявае юнацкае бачанне свету ў яго шматфарбнасці,

**● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ●**

**ПАВЕРКА.** Гэта кніга аб выхаванні моладзі, аб подзвігу маладых патрыётаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Размова з чытачом пачынаецца з інтэрв'ю кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КП Беларусі, Героя Савецкага Саюза П. М. Машэрава. У адказах на пытанні журналістаў Пятро Міронавіч Машэраў паказвае вытокі патрыятызму савецкай моладзі, на пераканаўчых прыкладах раскрывае, як праявіліся патрыятычныя пачуцці моладзі Беларусі ў гады вайны і на фронце мірнай стваральнай працы.

У кнізе змешчаны артыкулы першага сакратара ЦК ЛКСМБ У. Падрэза — аб працоўным подзвігу камсамольцаў і моладзі Беларусі, маёра запасу А. Кажэўнікава — пра рэвалюцыянера-бальшавіка Іосіфа Анісімавіча Кажанкова, журналіста А. Шчарбакова — пра Героя Савецкага Саюза Мікалая Кедышку, кіраўніка падпольнай групы, якая дзейнічала ў Мінску ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Чытач знойдзе ў кнізе нямала цікавых матэрыялаў пра выхаваўчую ваенна-патрыятычную работу, якую вядуць у нашай рэспубліцы камсамольскія арганізацыі, ваенныя камісарыяты, арганізацыі ДТСААФ.

**Выдавецтва ДТСААФ. Масква, 1972 г.**

**У БАЯХ І ПАХОДАХ.** Гэты зборнік расказвае пра ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, якія першыя надзелі чырваназорныя будзёнаўкі і, не шкадуючы сіл і жыцця, змагаліся за Савецкую ўладу. Яго аўтары І. М. Антоненка, С. М. Бірукоў, В. І. Какнаеў, С. А. Красоўскі, А. Л. Кронік, А. Е. Старасотнікаў змагаліся з ворагамі рэвалюцыі на тэрыторыі нашай рэспублікі; многія з іх сустракаліся з У. І. Леніным, А. Ф. Мясніковым, М. В. Фрунзе і іншымі вядомымі дзеячамі партыі і Савецкага ўрада і цікава расказваюць пра гэта.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972. (На рускай мове).**

**ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО.** Так называецца новы зборнік вершаў Максіма Танка. Гэта ўсхваляваны паэтычны расказ пра рэвалюцыю, пра наша жыццё, пра шматгранны і шматструнны наш час. Шчодра і надзвычай шчыра дзеліцца народны паэт Беларусі з чытачамі і глыбокім роздумам, і яркім заклікам, і гнеўнай водпаведдзю ворагам, і свавольнай усмешкай. І ва ўсіх вершах — бліскучае майстэрства, глыбіня думкі, маляўнічасць паэтычных вобразаў.

Кніга прынясе кожнаму, хто яе прачытае, радасць сустрэчы з высокім святлом, якое нясуць у сабе вершы М. Танка.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972 г.**

**СНЕЖАНЬ.** Новы зборнік Пімена Панчанкі. Пяцьдзесят два вершы аб'ядноўвае высокі патрыятызм, роздум пра тое, што было ў паэтавым жыцці і засталося ў яго сэрцы. Глыбіня думкі і шчырасць пачуцця асвятляюць непаўторным святлом усё — успамін, развагу, назіранне. Невымерна цяжкі сорак першы год, гора маці, якая не можа забыць сваіх загінуўшых сыноў. Сённяшні дзень нашага жыцця, клопатны і радасны... Усё гэта выклікала ў сэрцы Пімена Панчанкі хваляванне і стала высокай грамадзянскай паэзіяй.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972 г.**

прыгажосці, дык у «Палявой пошце» на першы план усё часцей выступае публіцыстычна завостраны маналог нашага сучасніка.

Хораша раскрыты ўнутраны свет гэтага «чалавека з пярэдняга краю» ў вершы «Сэрца»: «Вялікая ў сэрца патрэба даверу... Каб неба—як сонцу! а волі—як ветру!» «Патрэба даверу»—вось асноўная думка верша, яго стрыжань.

Зборнік «Палявая пошта»—шматпланавы. Маладога паэта па-ранейшаму хвалююць самыя розныя з'явы нашага жыцця, але часцей за ўсё ён звяртаецца да армейскіх будняў. У С. Панізніка—арганічная патрэба пагаварыць з чытачом пра сапраўдную рамантыку арміі, дапамагчы яму палюбіць хлопцаў—«вандроўнікаў баявых трывог».

Ёсць у кніжцы цыкл «Раён вучэнняў».

Жыву—і неба нада мною,
Радзіма і сябры са мной...
Жыву ад бою і да бою
Неўтаймаванасцю зямной.

Радасць жыцця, шчасце яго, а побач—воінскі абавязак, усведамленне сваёй адказнасці за наш спакой—вось што жыве ў радках цыкла. Жыве, цікава ўбачанае і дакладна выказанае. Хоць, на жаль, не заўсёды. Месцамі трапляюцца радкі, залішне празаічныя, накшталт «байцу навек такая ўжо доля, каб даглядаць сваёй Радзімы поле».

«Палявая пошта», «Раён вучэнняў», «На прывале», «Сэрца»—усё гэта вершы з першага раздзела зборніка—«Цалую меч». Паэтава раніца знаходзіцца «ў вайсковым страю»—і ён услаўляе яе душой паэта і сэрцам грамадзяніна.

Два наступныя раздзелы зборніка—«Парасткі сонцаў» і «Чуйнае рэха»—расказваюць пра бацькоўскі кут, пра любоў да яго, пра маладых сучаснікаў. Тут С. Панізнік і ранейшы—па-юначаму рамантычны, і сённяшні—больш стрыманы ў выказванні сваіх пачуццяў, больш разважлівы.

Азёрнай спеўнай старанoй
па чэрвеньскім куп'і
ішлі на золку пехатой
старыя салаўі.
Свае пакінуўшы гаі
над прозалаццю вод,
ішлі старыя салаўі
барознамі на ўсход.
Ішлі, каб зведаць перагуд
і волкі пах раллі,
каб крыллямі адчуць вагу
любові да зямлі.

У зборніку шмат вершаў пра каханне. Неаднолькавыя яны па сваіх мастацкіх вартасцях, сустракаюцца сярод іх і альбомныя, але ў лепшых зноўтакі прываблівае натуральнасць інтанацый:

Давай з табою вернемся нанова
да першага нясмелага паўслова,
дзе спеліцца зажыначная мова
на сэрцамі асветленай зямлі.

Чаго ўсё-такі нестае пакуль што вершам маладога паэта?

У некаторых выпадках—яснасці, значнасці думкі. Вось прыклад:

Курганамі, па слядах падкоў
праляту, і шлях мой—некароткі
выглядзець праз млужніцу вякоў:
хамутоў не зналі коні продкаў,
не цярпелі коннікі акоў.

І думка не новая, а выказана яна вельмі блытана і прыблізна.

Сям-там паэт паўтараецца: «зацугляю здзіклага каня», «зацугляйце коней разам з намі» і г. д. Дарэчы, некаторым радкам Сяргея Панізніка нестае строгага паэтычнага густу: «Над перуны ідзе мая адвага і ападаюць бліскавіцы ніц».

Сустракаюцца ў зборніку не толькі слабыя радкі, але і слабыя вершы: «Сахалін», «Любоў не судзяць...», «Не скінь абдымак мой з плячэй...», «Сустрэча», «Мая Беларусь», «Кругі застылага рэха». Без іх зборнік толькі выйграў бы...

Ёсць старая ісціна: паэзія ўзнікае толькі тады, калі ў паэта ёсць на гэта пільная душэўная патрэба. У Сяргея Панізніка такое здараецца часта—і мы радуемся яго ўдачам. Калі так будзе заўсёды, да яго прыйдзе паэтычная сталасць. Пачакаем жа наступнай кніжкі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

● **ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ** ● **ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ** ● **ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ** ●

**СОТНІКАЎ. АБЕЛІСК.** Гэтыя дзве аповесці складаюць змест новай кнігі Васіля Быкава. Пісьменнік верны сваёй тэме — гераізму савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Аповесць «Сотнікаў» — вострасюжэтная, дынамічная — своеасаблівы гімн адданасці ідэалам і гнеўнае выкрыццё здрады. Высокі подзвіг хваравітага Сотнікава і маральнае падзенне здаравілы Рыбака паказаны дакладна і ярка.

«Абеліск» прысвечаны праблемам выхавання, праблемам адказнасці чалавека перад часам і перад людзьмі. Твор раскрывае яшчэ адну старонку гераізму савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, вучыць жывых быць вартымі загінуўшых таварышаў. Напісан ён драматычна і ярка.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972 г.**

# З усмешкай і без яе...

●

**Іспанскі пісьменнік Піа Бароха, седзячы на тэрасе, абдумваў змест будучай кнігі. Селянін, што праходзіў міма, спытаўся:**

**— Адпачываеце, дон Піа!**

**— Не, дружа, працую.**

**Пасля некалькіх дзён напружанай работы, напісаўшы дзве часткі кнігі, Піа Бароха накіраваўся ў сад. Селянін, які вяртаўся з поля, убачыўшы пісьменніка з капаніцай у руках, спытаўся:**

**— Працуеце, дон Піа!**

**— Не, дружа, адпачываю.**

●

**Аднойчы, пад каляды, перад закрыццём вучнёўскай выстаўкі Маскоўскага вучылішча жывапісу ў залу ўвайшоў стары ў кажушку і папрасіў дазволу агледзець сабраныя творы.**

**— Талстой! — пранеслася між навучэнцаў, і ўсе кінуліся за пісьменнікам.**

**Леў Мікалаевіч, пахадзіўшы, спыніўся ля адной карціны на біблейскую тэму, у духу Фартуні.**

**— Гэта што! Гэта навошта! — амаль ускрыкнуў ён.**

**Адзін з вучняў заўважыў:**

**— Чаму вам, Леў Мікалаевіч, не падабаецца карціна! У ёй багатая тэхніка.**

**— Тэхніка! А што такое тэхніка! — павярнуўся да яго Талстой.**

**Вучань не разгубіўся:**

**— Што такое тэхніка! Гэта вы, Леў Мікалаевіч, прачытайце ў «Анне Карэнінай». Там мастак Міхайлаў тлумачыць...**

**Леў Мікалаевіч весела засмяяўся:**

**— Забыўся... Даўно не чытаў...**

●

**У размове з Генрыхам Гейнэ нейкая паклонніца яго таленту ўсклікнула:**

**— Я аддаю вам мае думкі, душу і сэрца!**

**— Ахвотна прымаю, — з усмешкаю адказаў паэт. — Ад недарагіх падарункаў сорамна адмаўляцца.**

●

**Аднойчы Марк Твэн, будучы вельмі хворым, папрасіў у Мдзіяні паесці і атрымаў лыжку спажыўнага раствору. Праглынуўшы яго, ён сказаў:**

**— Вось я і пад'еў, а зараз дайце мне што-небудзь пачытаць, напрыклад, паштовую марку.**

# *Словы — Купалы, музыка — Рагоўскага*

12 лютага 1910 года ў Вільні адбылася першая пасля мінскіх спектакляў Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, якія ставіліся яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя, легальная беларуская тэатральная вечарына. Пасля вымушанага перапынку, маўчання і «падпольнай» аматарскай дзейнасці паўторнае ўзнаўленне беларускага тэатра стала фактам.

З гэтага часу паралельна з тэатрам Буйніцкага паспяхова рос і развіваўся ў Вільні аматарскі тэатральны гурток. Галоўнай атракцыяй яго сінтэтычных выступленняў напачатку быў хор, арганізаваны Алесем Бурбісам. Музычным кіраўніком быў запрошаны малады таленавіты польскі кампазітар і дырыжор Людамір-Міхал Рагоўскі.

Нарадзіўся ён 3 кастрычніка 1881 года ў Любліне. У 1906 годзе скончыў Варшаўскую кансерваторыю. Вучыўся ў З. Наскоўскага (кампазіцыя) і Е. Млынарскага (дырыжыраванне). Потым удасканальваў сваё майстэрства ў А. Нікіша ў Ляйпцыгу, а таксама павышаў адукацыю ў Парыжы, Мюнхене, Вене, Рыме.

У 1909 годзе, праз тры гады пасля заканчэння кансерваторыі, Рагоўскі прыехаў у Вільню і працаваў тут кіраўніком сімфанічнага аркестра ў Віленскім польскім музычным таварыстве «Лютня». Ён не збіраўся заставацца ў Вільні надоўга, бо меў на мэце толькі пазнаёміцца з песнямі тутэйшага люду і ўвогуле з беларускім народным меласам. Таму ўдзел ягоны ў тэатральнай вечарыне, а потым і праца ў беларускім хоры не былі выпадковасцю. Працуючы ў польскай «Лютні», Рагоўскі мог быць добра матэрыяльна забяспечаным чалавекам. Беларусы ж, якія з цяжкасцю ўтрымлівалі нават свае выдавецтвы, нічога падобнага абяцаць не маглі. У дадатак эндэкі і іншыя польскія шавіністы за такое «супрацоўніцтва» спрабавалі наладзіць кампазітару абструкцыю і аб'явілі яму байкот. Тым не менш Рагоўскі з жарам узяўся за працу. Ён запісваў ад сялян песні і гарманізаваў іх для хору.

Першым яго вядомым творам у беларускай музыцы была мелодыя песні да верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» Выдатна выкананая 12 лютага 1910 года, яна мела такі поспех, што надоўга потым стала неафіцыйным беларускім гімнам. Нават «абструкцыяністы» — эндэкі вымушаны былі прызнаць поспех твора Рагоўскага і Купалы. «Першы раз чуў «гімн беларускі», у музыцы п. Рагоўскага, — пісаў рэцэнзент «Goniec Wileńskiego», — і прызнаюся, што атрымаў ашаламляльнае ўражанне».

На першы ў Вільні этнаграфічны вечар народаў краю (22 лютага 1910 года) беларусы прабіваліся з цяжкасцю. Былі прадстаўлены палякі, яўрэі, рускія, літоўцы і нават украінцы, а пра беларусаў «забыліся». Дзеячы з віленскай філіі «Императорского русского музыкального общества» — арганізатары вечара — выступілі катэгарычна супраць удзелу беларусаў. Дапамог тады беларускім артыстам сваімі стараннямі і аўтарытэтам В. Ратасэп — прафесар музычнай школы. Фін па нацыянальнасці, ён прыхільна ставіўся да беларускага руху — аддаваў памяшканне сваёй школы для рэпетыцый беларускага хору, пазней удзельнічаў у працы музычнай секцыі Віленскага беларускага музычна-драматычнага гуртка і быў абраны кандыдатам рады старшын гуртка.

Калі беларускія артысты праходзілі на сцэну, нехта ў зале выключыў святло. Гэта была работа «казённых» людзей. Але вось «паднялася завеса, — піша Алесь Бурбіс, — і велічна загрымелі словы Янкі Купалы: «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы!» І ўся набітая паўнюсенькая зала ўстала... А песня грымела далей...»

Такі быў плён тае працы, у якую і малады польскі кампазітар уклаў частку сваёй душы. Смешнай і недарэчнай здавалася валтузня казённых філераў, польскіх шавіністаў і рознай «вучонай» молі, якая, бачыце, ніколі не чула, хто такія беларусы, калі ўжо шырокім крокам ступаў на палітычную і тэатральную сцэну народ, заяўляючы пра сябе на ўвесь голас.

Звычайна «беларускім гімнам» пачыналася большасць выступленняў беларускага хору ў Вільні, а таксама ў тэатры Буйніцкага і ў самадзейных гуртках.

Зімовы тэатральны сезон канчаўся ў Вільні 30 красавіка. Лета 1910 года Рагоўскі выкарыстоўвае для збору і запісу беларускіх народных песень. Вынікам яго вандроўкі па Беларусі быў ужо вялікі музычны твор — «Беларуская сюіта». Яна пабудавана на аснове народных беларускіх мелодый і прынцыпах старабеларускай народнай музыкалогіі.

У пачатку восені Рагоўскі выканаў сюіту на фартэпіяна для сваіх сяброў і знаёмых. Як піша «Kurjer Litewski», гэты новы твор «зрабіў на слухачоў магутнае ўражанне».

Распісаная для вялікага аркестра, «Беларуская сюіта» (ксераграфічная копія партытуры захоўваецца ў архіве сектара музыкі ІМЭФ Акадэміі навук БССР — **З. П.**) упершыню павінна была прагучэць у Львове на з'ездзе польскіх кампазітараў, які адкрыўся 10 (23) кастрычніка 1910 года і быў дастасаваны да юбілею Шапэна. Рагоўскі — дэлегат з'езду — чытае там свой рэферат. Аднак сюіта выканана, відаць, не была. Ва ўсякім разе, паведамленняў у прэсе пра яе мы не знаходзім.

Прэм'ера сюіты адбылася ў Вільні 12 (25) лістапада 1910 года на трэцім сімфанічным канцэрце ў вялікай зале клуба Палескай чыгункі. Білетаў не хапіла. Зала была перапоўнена. Людзі стаялі ў праходах.

На канцэрце выконваліся творы Пятра Чайкоўскага, Рыхарда Вагнера. Першы раз у Вільні выступала вядомая ў Варшаве спявачка, былая салістка Міланскага опернага тэатра «Ла Скала» К. Петрашэўская (мецца-сапрана). І ўсё ж віленскія польскія газеты ў адзін голас адзначалі, што «найбольшую зацікаўленасць, аднак, выклікала другая частка праграмы, прадстаўленая «Беларускай сюітай», апошнім творам Л.-М. Рагоўскага, створаным з музычных матываў тутэйшага люду».

Малады Рагоўскі не толькі кіраваў беларускім хорам у Віленскім беларускім музычна-драматычным гуртку, не толькі збіраў і гарманізаваў беларускія песні для хору, але і жыва цікавіўся беларускім культурным рухам, мастацтвам і гісторыяй беларускага народа. Ён быў блізка знаёмы з нашаніўцамі Ядвігіным Ш., Аляксандрам Уласавым, а таксама з Ігнатам Буйніцкім, з краязнаўцам і гісторыкам, вялікім аматарам тэатра Андрэем Сніткам і іншымі. У мінскім доме апошняга кампазітар бываў у гасцях, удзельнічаў у «сямейных» музычных і літаратурна-тэатральных вечарынах.

Людамір Рагоўскі, пастанавіўшы пазнаёміцца з беларускім народным меласам, умеў не толькі браць, але і ўдзячна аддаваць назад спагаднаму народу. У 1911 годзе ён выдаў «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў», які стаў укладам яго ў беларускую культуру.

Віленскі беларускі хор да таго часу значна вырас творча, заваяваў шырокую папулярнасць. Апошні раз кампазітар кіраваў ім 6 лютага 1911 года на сумесным спектаклі-канцэрце Віленскага беларускага музычна-драматычнага гуртка і тэатра Буйніцкага. Потым ён пакінуў Вільню назаўсёды і выехаў у Парыж. З гэтага часу і аж да 1926 года Рагоўскі выступаў як дырыжор у многіх гарадах Еўропы — Парыжы, Бруселі, Ніццы, Монтэ-Карла, Варшаве, Празе, Бялградзе. З 1926 года і да смерці (1954) ён пастаянна жыў у Дуброўніку (Сербія).

За сваё даволі доўгае творчае жыццё Л. Рагоўскі напісаў яшчэ шэсць сімфоній (1921—1949 гг.), оперы «Тамара» (1918), «Каралевіч Марка» (1930), балет «Казка» (1922), сімфанічную сюіту «Willafranca» (1919), творы для скрыпкі з аркестрам, сімфанічныя паэмы, камерныя творы і фартэпіянныя п'есы, а таксама шмат вакальных твораў і іншыя рэчы.

У творчасці сваёй апошнім часам ён быў пад уплывам так званага музычнага імпрэсіянізму. У якой ступені беларускі перыяд яго музычнай дзейнасці адбіваўся на яго творах і ў гэты час, сказаць цяжка без грунтоўнага знаёмства і аналізу яго твораў. Але што такі ўплыў быў, прызнаваў сам кампазітар.

Беларусы ацанілі тую шчырую долю спагады, падтрымкі і дапамогі, якую ахвяраваў для іх у цяжкі для нашага мастацтва час прадстаўнік братняга польскага народа Людамір-Міхал Рагоўскі. У 20-я гады, калі Рагоўскі захварэў на сухоты і апынуўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы, у адзіноце, урад Беларускай Савецкай Рэспублікі выдаў кампазітару грашовую дапамогу.

Беларускія народныя песні, запісаныя і гарманізаваныя Рагоўскім, «Гімн беларускі», «Беларуская сюіта» — гісторыя музыкі нашай. Але яна не можа быць мёртвай. Бо вось яна перад вачыма: «паднялася завеса — і велічна загрымелі словы Янкі Купалы: «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы!» І ўся набітая паўнюсенькая зала ўстала... А песня грымела далей»...

Такое не забываецца.

**Зянон ПАЗНЯК.**

# ТАЙНЫЯ СЦЕЖКІ Ў НАВУКУ

У канцы XIX—пачатку XX стагоддзяў уся Беларусь была пакрыта сеткай тайных школ. У канцылярыі губернатараў, Віленскай вучэбнай акругі, губеранскіх дырэкцый народных вучылішчаў з усіх канцоў Беларусі няспынна паступалі звесткі аб гэтых школах. Вучылішчныя інспектары, паліцэйскія чыны і іншыя афіцыйныя асобы мясцовых улад былі абавязаны выяўляць і закрываць іх. У канцы 90-х гадоў у барацьбу супроць тайных школ уключыўся і ўрад. З красавіка 1892 года царом былі зацверджаны «Часовыя правілы аб спагнаннях за тайнае навучанне ў губернях Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай і Валынскай», згодна з якімі грашоваму штрафу ў размеры да 300 рублёў і арышту да трох месяцаў падвяргаліся ўсе асобы, звязаныя з існаваннем тайных школ (настаўнікі, бацькі вучняў, уласнікі памяшканняў, у якіх размяшчаліся школы).

Што ж уяўлялі сабой тайныя школы, чаму самадзяржаўе заняло ў адносінах да іх такую непрымірымую пазіцыю, чаму «Часовыя правілы...» распаўсюджваліся не на ўсю краіну, а толькі на беларускія, літоўскія і частку ўкраінскіх губерняў?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, неабходна коратка звярнуцца да тагачаснага становішча ў галіне народнай асветы ў Беларусі.

У Беларусі напярэдадні рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, як і на працягу ўсёй другой паловы XIX стагоддзя, ахоп навучаннем дзяцей школьнага ўзросту быў у два разы ніжэйшы, чым у сярэднім па Расіі. Напрыклад, у 1905—1906 навучальным годзе ў Магілёўскай губерні, як дакладваў 26 кастрычніка 1905 года папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі магілёўскі дырэктар народных вучылішчаў, звыш сямі тысяч дзяцей не змаглі трапіць у пачатковыя вучылішчы міністэрства народнай асветы. А ў Мінскай губерні на 1 красавіка 1904 года, нават па афіцыйных звестках, было не ахоплена навучаннем каля двухсот тысяч дзяцей школьнага ўзросту. І гэта пры ўмове, калі школьным лічыўся ўзрост ад 8 да 11 гадоў. Між тым у Беларусі, у сувязі з развіццём прамысловасці і звязаных з ёю капіталістычных адносін, прага да адукацыі расла не менш хутка, чым у цэнтральных раёнах Расіі. Не маючы магчымасці вучыць сваіх дзяцей у казённай школе, бацькі адшуквалі іншыя шляхі іх навучання, у тым ліку і шлях стварэння тайных школ. Яны дамаўляліся паміж сабой, знаходзілі за даступную плату настаўніка, і школа пачынала працу. Часцей за ўсё памяшканнем для школы была хата аднаго з бацькоў ці хаты ўсіх па чарзе. У адных населеных пунктах была адна школа, у іншых—некалькі, у залежнасці ад таго, колькі збіралася дзяцей і колькі знаходзілася настаўнікаў.

Тайныя школы былі надзвычай разнастайнымі па характары сваёй дзейнасці, па сваім палітычным напрамку, па змесце і якасці навучання. Залежала гэта ад шматлікіх фактараў: ад палітычных поглядаў бацькоў вучняў, іх нацыянальнасці, узроўню агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі настаўнікаў.

Царскае самадзяржаўе праследавала тайныя школы не толькі таму, што баялася росту нацыянальнай самасвядомасці беларускага, украінскага, польскага, літоўскага і іншых народаў імперыі, іх імкнення вучыць сваіх дзяцей на роднай мове. Ганеннямі супраць тайных школ царызм спадзяваўся перашкодзіць развіццю рэвалюцыйнага руху на ўскраінах Расіі. Самадзяржаўе баялася, што гэтыя школы, якія не паддаваліся ніякаму кантролю з боку ўлад, могуць быць выкарыстаны ў мэтах рэвалюцыйнай прапаганды.

Страх гэты, трэба сказаць, быў не беспадстаўны. Настаўнікамі такіх школ былі звычайна прагрэсіўна настроеныя маладыя людзі, знаёмыя з рэвалюцыйнай літаратурай,—навучэнцы розных вучэбных устаноў, якіх выключылі за ўдзел у вучнёўскіх выступленнях 1905—1906 гадоў. Нярэдка настаўнікамі тайных школ станавіліся і актыўныя ўдзельнікі рэвалюцыі. У большасці ж настаўнікамі былі выпускнікі народных вучылішчаў. Гэта былі падлеткі і юнакі, якія пасля сканчэння вучылішча яшчэ не знайшлі для сябе сталай працы.

Пытанні аб змесце навучання, пераліку прадметаў, выбары падручнікаў, кніг для чытання вырашаліся бацькамі. Часам у гэтым праяўлялася сялянская незадаволенасць афіцыйным царкоўна-прыходскім навучаннем. Яркім прыкладам такой незадаволенасці можа быць «прыгавор» Крывіцкай сельскай абшчыны Старобінскай воласці ад 30 жніўня 1906 года. У гэтым дакуменце сяляне пісалі, што іх мясцовая «царкоўна-прыходская школа, у сувязі са зваротам у ёй галоўнай увагі на выкладанне закона божага, царкоўна-славянскай мовы і бессэнсоўным пісьмовым практыкаванням па-славянску, якія школдзяць астатнім прадметам», іх не задавальняе. Яны патрабавалі адкрыцця замест царкоўна-прыходскай школы двухкласнага вучылішча міністэрства народнай асветы.

У некаторых вучылішчах вучні аб'яўлялі забастоўкі з патрабаваннем адмяніць вывучэнне ў школе катэхізіса. Такія патрабаванні і імкненні падтрымлівалі часта настаўнікі, напрыклад, настаўнік Коханаўскага двухкласнага вучылішча Антонаў, які называў закон божы непатрэбным прадметам. І калі патрабаванні насельніцтва аб адкрыцці свецкіх вучылішчаў не задавальняліся, большасць вучняў з царкоўна-прыходскіх школ пераходзіла ў тайныя школы. Не дзіўна, што тайныя школы, за рэдкім выключэннем, ігнаравалі рэлігійнае выхаванне.

Тайныя беларускія і беларуска-рускія школы процідзейнічалі таксама і русіфікатарскай палітыцы самадзяржаўя. Улады адводзілі школе адну з галоўных роляў у ажыццяўленні гэтай палітыкі. У школах усіх ступеняў беларуская мова не толькі не была моваі навучання, але і не выкладалася як прадмет. Больш таго, вучням забаранялася ўжываць родную мову ў гутарцы паміж сабой і пасля заняткаў. У тайных жа беларускіх і беларуска-рускіх школах беларуская мова была мовай навучання. Аднак навучанне на роднай мове ўскладнялася з-за недахопу дапаможнікаў і кніг. Таму нярэдка карысталіся рускімі кнігамі, пры гэтым шырока прыцягваючы для гутарак і тлумачэнняў родную мову. Вывучэнне рускай мовы, азнаямленне дзяцей з творамі рускай літаратуры насіла тут іншы характар, чым у казённых школах. У тайных беларускіх і беларуска-рускіх школах блізкасць лексічнага і граматычнага ладу беларускай і рускай моваў выступала як блізкасць, абумоўленая непарыўнымі братэрскімі сувязямі двух народаў, маючых агульны лёс і агульную будучыню. У творах перадавых рускіх пісьменнікаў дзеці знаходзілі ідэі і думкі, якія хвалявалі і іх бацькоў. Яны ўспрымалі вольналюбівы дух рускай літаратуры, любоў рускіх пісьменнікаў да ўсіх прыгнечаных народаў. Такім чынам, тайныя беларускія і беларуска-рускія школы прапагандавалі нянавісць не да рускага народа і яго культуры, як гэта сцвярджалі царскія чыноўнікі, а да царскага самадзяржаўя, якое прыгнятала і рускі, і беларускі народы.

Зусім іншы характар у тайных школах мела сацыяльна-палітычная мэтанакіраванасць навучання. У той час, як казённыя школы ўсіх тыпаў і ведамстваў ставілі сваёй галоўнай мэтай выхаванне дзяцей у духу пакорнасці ўладам, тайныя школы выхоўвалі ў дзяцей крытычны светапогляд. Настаўнікі гэтых школ па сваім разуменні падбіралі кнігі, падручнікі і тэксты, даступныя дзіцячаму разуменню, дзіцячай псіхалогіі. Настаўнікі актыўна садзейнічалі замацаванню ў свядомасці вучняў свабодалюбівых ідэй, і пад іх уплывам у вучняў паступова складвалася і ўзмацнялася нянавісць да самадзяржаўя, якое адмаўляла народу ва ўсіх асноўных правах, у тым ліку і ў праве на адукацыю. Асабліва ўзрастала гэтая нянавісць пасля кожнага паліцэйскага налёту на вёску з мэтай выяўлення і закрыцця тайнай школы.

Свабодны ад казёншчыны характар тайных школ не мог не рабіць жыватворнага ўздзеяння і на характар адносін паміж настаўнікамі і вучнямі. Знікала неабходнасць прымусу, пакаранняў, складвалася і расла атмасфера свядомага імкнення да найлепшага засваення ведаў. У гэтых адносінах тайныя школы далёка апярэдзілі не толькі царкоўна-прыходскія, у якіх панавалі біццё і знявага, але і міністэрскія, так званыя «свецкія» вучылішчы.

Важнае значэнне тайных беларускіх і беларуска-рускіх школ заключаецца не толькі ў тым, што яны садзейнічалі распаўсюджванню адукацыі сярод насельніцтва і прыцягвалі ўвагу шырокіх народных мас да пытанняў народнай асветы і нацыянальнай палітыкі самадзяржаўя. Тайныя школы, па сутнасці, былі першым у сусветнай практыцы масавым вопытам аддзялення царквы ад школы, першай сур'ёзнай спробай безрэлігійнага выхавання падрастаючых пакаленняў. Гэтая акалічнасць непараўнальна ўзвышае тайную школу не толькі над афіцыйнай рускай, але і над буржуазнай школай увогуле, якая не дапускала і думкі аб безрэлігійным выхаванні. Тайныя школы садзейнічалі росту палітычнай і рэвалюцыйнай свядомасці народных мас, фарміраванню ў іх разумення неабходнасці звяржэння самадзяржаўя як адзіна магчымага шляху да вырашэння не толькі пытанняў народнай асветы, але і іншых сацыяльных і грамадска-палітычных пытанняў.

**Міхаіл МЯЦЕЛЬСКІ,**
**старшы выкладчык БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

# ПРЫСТУПКІ ШАХМАТНАГА МАЙСТЭРСТВА

Балельшчыкі ўсяго свету праблемай нумар адзін лічаць рост маладога пакалення шахматных майстроў. Да нядаўняга часу—ва ўсякім выпадку, у нашай краіне—гросмайстарскі «клан» выглядаў амаль непрыступным. І праблема змены пакаленняў не выдавала такой вострай. Сапраўды, маючы такіх майстроў, як Б. Спаскі, Т. Петрасян, В. Карчной, П. Керас, М. Бацвіннік, В. Смыслоў, М. Таль і іншыя, можна было гарантаваць, што абарона подступаў да тытула чэмпіёна свету—надзейная.

Але сучаснае шахматнае жыццё многае змяніла. На шахматным гарызонце ўзыходзіць цэлы шэраг новых «зорак». Паўстае толькі пытанне: якой яны велічыні?

У нашай краіне вызначыўся авангард маладога пакалення гросмайстраў. Гэта, перш за ўсе, А. Карпаў—студэнт Ленінградскага ўніверсітэта, В. Балашоў, які толькі што скончыў шахматнае аддзяленне інстытута фізкультуры і спорту, В. Тукмакоў, служачы Савецкай Арміі. Гэтыя шахматысты з'яўляюцца цяпер самымі сур'ёзнымі канкурэнтамі нашых славутых гросмайстраў. Усталявалася адносная раўнавага: ветэраны далёка яшчэ не страцілі сваіх бліскучых пазіцый, маладыя ж актыўнічаюць у барацьбе за высокія дасягненні.

Відавочны прагрэс і венгерскіх шахматыстаў. Тлумачыцца ён у першую чаргу ўдалым спалучэннем вопыту сталых майстроў і энергіі маладых. Побач з ветэранамі Л. Саба, Г. Бурца і адным з сучасных шахматных «асаў» Л. Порцішам на міжнародную шахматную арэну выйшлі і заваявалі ўсеагульнае прызнанне маладыя міжнародныя майстры З. Рыблі, А. Адар'ян, В. Сакс.

Далёка не ва ўсіх шахматных краінах мы знойдзем патрэбную гармонію маладога і старэйшага пакаленняў. А між тым нельга чакаць прагрэсу шахматнага майстэрства без клопату пра рост змены. На жаль, праблема маладых, як і раней, вострая ў Беларусі, дзе пасля 1965—66 гадоў так і не з'явілася новай хвалі сапраўдных шахматных талентаў.

Нярэдка задаеш сабе пытанне: чаму падчас рана сыходзяць з арэны славутыя майстры? Думаецца, справа тут не ва ўзросце, а перш за ўсё ў адставанні ад новых тэндэнцый шахматнага стылю. Працей кажучы, шахматыст прызвычайваецца да вядомага, ужо ўсталяванага мыслення і не можа засвоіць новую, больш дасканалую і складаную тэндэнцыю шахматнага прагрэсу.

Як відаць, «клопатаў» з моладдзю старэйшаму пакаленню хапае і на «ўнутранай» і на міжнароднай шахматнай арэне. Аднак ёсць свае клопаты і ў маладога пакалення. Па якім шляху яму належыць пайсці, а галоўнае, як пераняць самае каштоўнае ад сваіх «бацькоў»? Ёсць жа свае таямніцы ў такіх славутых майстроў шахмат, як М. Бацвіннік, П. Керас, В. Смыслоў і інш. І цяжка сказаць, ці змогуць пераўзысці іх шахматысты, што ідуць ім на змену, калі не скарыстаюць усё тое каштоўнае, што створана ветэранамі. Бацвіннік стварыў школу класічных пазіцыйных партый; Таль парушыў гэтую тэндэнцыю імкненнем да «неарамантызму» з ахвярай і камбінацыяй; Петрасян узмацніў увагу да абароны і да асаблівай прафілактыкі; Фішар як бы спрацпіў сучасную стратэгію, зрабіў прастору прынцыпам сваёй гульні.

Праўда, заўважым, што эпігоны заўсёды ўпускаюць з-пад увагі найтанчэйшую аздобу славутых узораў, захоўваючы часам толькі самую грубую схему іх старэння. Няма сумнення ў бліскучым таленце Фішара. Аднак ёсць небяспека, што пераймание яго стылю можа прывесці да прымітывізму ў шахматным мысленні.

І тут здаецца найболей верагодным, што дастойным прэтэндэнтам новага чэмпіёна свету, акрамя апрабіраваных майстроў, можа стаць нейкі наватар шахматнага стылю. Пакуль гэтыя шахматысты ва ўзросце ад 20 да 25 гадоў адточваюць сваё шахматнае майстэрства. Тут і Карпаў, і Рыблі, і апошні чэмпіён свету сярод юнакоў швейцарац А. Хуг, і швед О. Андэрсен, і пуэртарыканец Х. Каплан, і бразілец Э. Мекінг, і іншыя. Нехта з іх, відаць, і стане будучым прэтэндэнтам на сусветную шахматную карону. І задача кожнага з гэтых шахматыстаў у тым, каб, па-першае, засвоіць усё лепшае, што створана старэйшым пакаленнем, па-другое, каб на аснове гэтага развіць сваю арыгінальную і самабытную творчасць.

Аднак пакуль яшчэ ў поўнай форме ветэраны, і было б памылкай дачасна спісваць іх з рахунку ў барацьбе за першынство свету. Наперадзе—захапляючая барацьба.





# VIII МЕМАРЫЯЛ ЧЫГОРЫНА

Восьмы па ліку мемарыяльны міжнародны турнір памяці выдатнага рускага шахматыста М. І. Чыгорына, які праходзіў у Кіславодску, быў вельмі моцны па складзе ігракоў, аб чым сведчыць яго высокі «рэйцінг» — 2504, што адпавядае XI класу ФІДЭ. Норма гросмайстарскага бала раўнялася 8 ачкам, а норма пацвярджэння звання міжнароднага майстра і атрымання бала склала шэсць ачкоў.

Турнір прайшоў у напружанай барацьбе. Пераканаўчую перамогу атрымаў гросмайстар Л. Палугаеўскі, які набраў 11 ачкоў з 14 магчымых. Адзіным канкурэнтам Палугаеўскага быў гросмайстар Л. Штэйн: ён вельмі роўна правёў увесь турнір, аказаўся адзіным удзельнікам, які не меў паражэнняў, і з дзесяццю ачкамі заняў другое месца. Далей месцы размеркаваліся наступным чынам: Я. Гелер (СССР) — 9 ачкоў, Б. Гургенідзе, В. Цяшкоўскі (СССР) і В. Унцыкер (ФРГ) — 8 ачкоў, А. Суэцін — 7 ачкоў, Ю. Анікаеў — 6,5 ачка, Р. Нешметдзінаў, Р. Холмаў (усе з СССР) і А. Хенінгс (ГДР) — 6 ачкоў, Ю. Козма (Чэхаславакія) —5,5 ачка, В. Зільберштэйн (СССР) і К. Лангевег (Галандыя) — 5 ачкоў, О. Якабсен (Данія) — 4 ачкі.

Вось адна з партый, характэрная для творчасці пераможцы турніра.

**Палугаеўскі—Якабсен,** англійскі пачатак: 1. c4 Кf6, 2. Кc3 e6, 3. Кf3 Cb4, 4. Фc2 c5, 5. a3 Ca5, 6. g3 Кc6, 7. Cg2 0—0, 8. 0—0 C : c3(?), 9. Ф : c3 Фe7, 10. d4 d6, 11. dc dc, 12. Кe5!

Падкрэслівае дэбютную перавагу белых. Чорным вельмі цяжка пазбавіцца ад ціску белых па дыяганалі h1—a8 і завяршыць развіццё свайго ферзевага фланга. Далейшая стратэгія белых — выдатны прыклад «удушэння» чорных на ферзевым фланзе.

12. ...Кd4, 13. Лe1 Кd7, 14. Cf4 f6, 15. К : d7 C : d7, 16. C : b7 Лae8, 17. Ce3 Лeb8, 18. Cg2 Лb3, 19. Фa5 e5, 20. Ф : a7 Фd6, 21. C : d4!

Так лягчэй за ўсё ліквідуецца напружанне, а матэрыяльная перавага белых хутка вырашае зыход.

21. ...ed, 22. Cd5+ Крh8, 23. Лad1 Cg4 (Больш упартае 23. ...Л : b2), 24. Лd2 h5, 25. e3 d3, 26. f3 Cd7, 27. Лed1 Cf5, 28. e4 Ch3, 29. Л : d3 Л : b2, 30. Cf7!

Заключны тактычны ўдар!

30. ... Фe5, 31. Лd5!, і чорныя здаліся.

Неяк вяла пачаўшы турнір, на фінішы прыкметна разыграўся Я. Гелер. Наступная партыя, сыграная ў перадапошнім туры, была вельмі важнай у барацьбе за трэцяе месца.

**Гелер — Суэцін,** абарона Беноні: 1. c4 d6, 2. d4 Cg7, 3. Кc3 c5, 4. d5 d6, 5. e4 Кf6, 6. Кf3 0—0, 7. Ce2 e6, 8. 0—0 Лe8?!, 9. Кd2?!

Звычайным тут быў бы працяг: 9. de C : e6, 10. Cf4. Цяпер пачынаецца барацьба за «разрадку напружання» ў цэнтры.

9. ...Кa6, 10. Лe1 Кc7, 11. Cf1 Лb8, 12. a4 b6, 13. h3 a6, 14. Кf3 cd, 15. cd?!

Гэта вядзе да абвастрэння гульні. Пасля 15. ed Л : e1, 16. Ф : e1 шанцы бакоў былі б роўныя.

15. ...b5, 16. e5?! de, 17. d6 Кe6, 18. ab Кd4, 19. ba Ф : d6, 20. Cg5 Лa8?

Непрыкметны, але істотны пралік. Правільна было б 20. ...h6!, 21. C : f6 Ф : f6 з добрай гульнёю ў чорных.

21. Кb5! Фb6, 22. Кb : d4 ed, 23. C : f6 Л : e1, 24. Ф : e1 C : f6, 25. Фe8+ (25. Фe4 парыравалася шляхам 25. ...Фa7!) Крg7, 26. Cc4 Фc7, 27. Кe1?

Правільна 27. Кd2!, і чорныя мелі магчымасць перахапіць ініцыятыву.

27. ...Cb7?

Недаравальны пралік! Пасля 27. ...Ca6, 28. Ф : a8 C : c4 пра ўроўніванне павінны былі б думаць белыя.

28. Фb5 Cc8, 29. Кd3 Ce7, 30. Фa5 Фd6, 31. Фb5 Лa7, 32. b3 Cd7, 33. Фa5 Cf5, 34. Фe1!

Перавага белых відавочная. Фігуры чорных скаваныя аддаленай праходной белых на «a6».

34. ...C : d3, 35. C : d3 Cd8, 36. Фe4 Cc7, 37. g3 Cb6, 38. Лe1 Лc7, 39. Лe2 Ca7, 40. Кр g2 h5?

Рашаючае паслабленне. Цяпер гульня хутка вырашаецца.

41. h4 Крf6, 42. Фf3+ Крg7, 43. Лe8 Лe7? (Неабходна было 43. ...c4!), 44. C : g6! c4, 45. C : h5 Л : e8, 46. Ф : f7+ Крh6, 47. Ф : e8 Фf6, 48. g4, і чорныя здаліся.

**Аляксей СУЭЦІН,**
**міжнародны гросмайстар.**

# ДЗЕ? ШТО? ЯК?

## ШКЛО ГУБЛЯЕ КРОХКАСЦЬ

Хоць чалавек навучыўся атрымліваць шкло пяць з паловай тысяч гадоў назад, але яно заўсёды заставалася крохкім, і толькі ў наш век людзі навучыліся вырабляць шкло, якое не трэскаецца ад моцнай гарачыні і не разбіваецца ад удару.

Супрацоўнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук у Ленінградзе распрацавалі спосаб атрымання яшчэ больш трывалага шкла. Звычайнае шкло праходзіць спачатку тэрма-фізічную апрацоўку плавікавай кіслатой. Затым на паверхню шкла наносяць ахоўнае пакрыццё. Такое шкло не разбіваецца, нават калі на яго скінуць дзесяцікілаграмовую гіру з двухметровай вышыні.

У недалёкім будучым у якасці будаўнічага матэрыялу будуць прымяняць пустацелую шкляную цэглу — яна трывалая і не выветрываецца, а таксама не мае патрэбы ў афарбоўцы і тынкоўцы.

## ХТО ЛЕПШ БАЧЫЦЬ?

Вочы ў жывёл пабудаваны па-рознаму, нібы аптычныя прыборы розных сістэм. У адных, як, напрыклад, у рыб, якія жывуць на вялікіх глыбінях, яны зусім простыя — служаць толькі для таго, каб адрозніваць святло ад цемры. У другіх — вочы складаныя. Зрок у рыб, якія жывуць ля самай паверхні вады, амаль гэткі ж, як у большасці сухапутных жывёл. Каб злавіць здабычу і ў час паспець схавацца ад ворага, яны павінны мець добры зрок. Вочы марскога сабачкі маюць па дзве зрэнкі. У рыбы-чатырохвочкі кожнае вока складаецца з дзвюх частак — падводнай і надводнай, таму яна выдатна бачыць і ў вадзе і пад вадой. У нашых рэчках лепш за ўсіх бачыць зубасты шчупак.

Незвычайныя вочы ў хамелеона — яны змешчаны на доўгіх сцяблінках, таму ён можа імі рухаць і глядзець уперад, назад, уверх і ўніз.

Птушкі, як і ўсе іншыя жывёлы, маюць не аднолькавы зрок. Горш за ўсіх бачаць хатнія птушкі. Гусь можа ўбачыць іншую птушку за 120 метраў, талерку з кормам — за 35 метраў, а курыца заўважыць корм не больш як за 5—6 метраў. Востры зрок у драпежных птушак. Нездарма паляўнічыя прыманьваюць сокалаў саракушамі. Гэтая птушка раней за паляўнічага заўважае сокала і пачынае непакоіцца. Сокал бачыць здабычу за кіламетр, а грыф — за 2—3 кіламетры. У вальдшнепа вочы размешчаны бліжэй да патыліцы, а ў чаплі «вынесены» ўперад і ўніз — ёй так зручней шукаць корм.

## АТАМНЫ ГАДЗІННІК

Сэрца звычайнага механічнага гадзінніка — маятнік. Ён вызначае ход гадзінніка. Ад таго, які маятнік — карацейшы ці даўжэйшы,— залежыць перыяд яго ваганняў, а гэта значыць, і хуткасць вярчэння стрэлак — гадзіннік будзе спяшацца ці адставаць.

Між іншым, для некаторых навуковых даследаванняў, асабліва для астранамічных, патрэбны гадзіннік, які можа вымяраць час з «агрэхамі» не больш мільённых доляў секунды.

Яшчэ дваццаць гадоў назад з'явіўся гадзіннік, у якім ролю маятніка выконваў радыёспектраскоп (у ім наглядалася спектральная лінія аміяку). «Агрэхі» гэтага гадзінніка, пабудаванага Лайонам у ЗША, не перавышалі адной мільённай долі секунды. Пазней быў пабудаваны больш дасканалы гадзіннік, з «агрэхамі» менш адной стамільённай секунды.

А нядаўна ўдалося стварыць атамны гадзіннік з «агрэхам» не звыш адной дзесяцімільярднай секунды. Такі гадзіннік за тысячу гадоў адстане ўсяго на адну секунду. Ход атамнага гадзінніка вызначаецца частатой спектральнай лініі атама цэзію.

На міжнароднай выстаўцы ў Японіі ў 1970 годзе новы атамны гадзіннік быў устаноўлены на 19-метровай вежы. Ён стаў цэнтрам сістэмы дакладнага часу на выстаўцы. На іншых гадзінніках, размешчаных у розных месцах тэрыторыі выстаўкі,— стрэлкі іх пераводзяцца з дапамогай ультракароткіх хвалевых сігналаў, якія паступаюць з цэнтральнага гадзінніка,— можна ўбачыць дні тыдня і месяцы года.

## МЯЖА, ЯКАЯ «КІПІЦЬ»

Нядаўна ў Бельгіі ў порце Антверпен для прадухілення забруджвання нафтай устаноўлены арыгінальнай канструкцыі ачышчальнік. На дне гавані пракладзена жалезная труба з невялікімі адтулінамі. У трубу падаецца сціснутае паветра, якое, вырываючыся з адтулін, узнімаецца на паверхню і прымушае ваду «кіпець». Пухіркі паветра ствараюць «кіпячую мяжу», якая можа ўтрымаць ад расцякання даволі тоўсты пласт нафты. Новае збудаванне, папярэджваючы забруджванне вады, у той жа час не перашкаджае суднаходству — катэры, баржы, цеплаходы праходзяць такую мяжу без перашкоды.

Сабраў Барыс РОЗЕН.





● *Мікола Вяршынін*

## Прыстасаваўся

Бацька малады каляску вёз,
А у ёй ляжаў... бялізны воз.
— Дзеці самі ўжо даўно ступаюць,
Мне ж у пральні ўсе чаргу ўступаюць.





## Хітрыкі абібока

На рабоце сонны будзе,
Менш зрабіць — задума ўся,
Калі ж соннага разбудзяць,
Кажа: — Я задумаўся!

Мал. **С. Волкава**

# нашы аўтары

●

**БЕЛІЖЭНКА Барыс** нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Промыслы на Віцебшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Настаўнічаў, працаваў загадчыкам райана. Цяпер—у Віцебскім абкоме КПБ.

●

**ТАРАСЮК Любоў** нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Пінкавічы на Піншчыне. Вучыцца на філфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ЛОЙКА Алег** нарадзіўся ў 1931 годзе ў г. Слоніме. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Аўтар зборнікаў паэзіі «На юначым шляху», «Задуменныя пералескі», «Дарогі і летуценні», «Блакітнае азерца», «Каб не плакалі кані», «Дзівасіл».
Доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ІПАТАВА Вольга** нарадзілася ў 1945 годзе ў мястэчку Мір. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.
Аўтар зборніка вершаў «Раніца». Працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

●

**ГОЛУБ Юрка** нарадзіўся ў 1947 годзе ў Зельвенскім раёне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе на Гродзенскай студыі тэлебачання.
Аўтар зборніка вершаў «Гром на зялёнае голле».

●

**КОУЗЕЛЕУ Мікалай** нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Прахараўка Крычаўскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута. Працуе ў рэдакцыі крычаўскай раённай газеты.

●

**ГРАЧАНІКАУ Анатоль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Шарпілаўка на Гомельшчыне. Пасля заканчэння Гомельскага інстытута чыгуначнага транспарту працаваў на камсамольскай рабоце. Цяпер—намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Магістраль», «Круглая плошча».

●

**ЗАРЫЦКІ Аляксей** нарадзіўся ў 1911 годзе ў гарадскім пасёлку Хоцімск. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Скончыў Маскоўскі інстытут замежных моваў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Дняпроўскае рэха», «Арлiная крыніца», «Світанскія сады», «Вершы і паэмы», «Залатое дно», «Вяртанне на зямлю», зборніка апавяданняў на рускай мове «Вересковый мед».

●

**СЕМАШКЕВІЧ Рыгор** нарадзіўся ў 1945 годзе ў вёсцы Дамашы на Маладзечаншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна.
Кандыдат філалагічных навук. Аўтар зборніка паэзіі «Леснічоўка».

●

**СКУРКО Іосіф** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна. Скончыў філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў апараце Савета Міністраў БССР.

●

**ГУЦАЛА Яўген,** украінскі пісьменнік, нарадзіўся ў 1937 годзе ў Вінніцкай вобласці. Скончыў Нежынскі педагагічны інстытут. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. Цяпер—рэдактар выдавецтва «Радянський письменник».
Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцяў «Людзі сярод людзей», «Хусцінка зялёнага шоўку», «Мёртвая зона», «Роднае вогнішча», «Вясковыя настаўнікі», «Школьны хлеб» і інш.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 3**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕУСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 08561. Здадзена ў набор 31/І-73 г. Падпісана да друку 27/ІІ-73 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 17254 экз. Зак. 74. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі праспект., 79.**




**Д. ПАПОЎ. Верачка.** (Шамот).